МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

УСТАНОВА АДУКАЦЫІ
«БАРАНАВІЦКІ ДЗЯРЖАЎНЫ ЎНІВЕРСІТЭТ»

В. І. КРЫВУЦЬ

# БАРАЦЬБА ЗА МАЛАДОЕ ПАКАЛЕННЕ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ І ПРАЎРАДАВЫ МАЛАДЗЁЖНЫ РУХ (1926—1939 гг.)

**Манаграфія**

Рэкамендавана да друку
рэдакцыйна-выдавецкім саветам універсітэта

Баранавічы
РВА БарДУ
2013

УДК 37:930(476)(035.3)
ББК 74:63.3(4Беи)я93
К85

А ў т а р
*В. І. Крывуць*

Р э ц э н з е н т ы:
*А. А. Каваленя*, доктар гістарычных навук, прафесар;
*А.У. Літвінскі,* кандыдат гістарычных навук

**Крывуць, В. І.**
К85 **Барацьба за маладое пакаленне Заходняй Беларусі і праўрадавы маладзёжны рух (1926—1939 гг.)** [Тэкст] : манагр. / В. І. Крывуць. — Баранавічы : БарДУ, 2013. — с. — 100 экз. — ISBN 978-985-498-537-4.

Навуковая праца прысвечана праблеме маладзёжнай палітыкі польскіх улад на тэрыторыі заходнебеларускага рэгіёна ў міжваенны перыяд і месцу праўрадавых аб'яднанняў моладзі ў яе ажыццяўленні. Раскрываюцца ідэалогія праўрадавага маладзёжнага руху і яго канкурэнтаў, а таксама асноўныя накірункі дзейнасці кіруючых колаў 2-й Рэчы Паспалітай і падначаленых ім маладзёжных арганізацый сярод маладога пакалення Заходняй Беларусі.

Разлічана на вучоных, выкладчыкаў, студэнтаў і ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

**УДК 37:930(476)(035.3)**
**ББК 74:63.3(4Беи)я93**



**ISBN 978-985-498-537-4**

## Змест

Спіс умоўных скарачэнняў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
*Уводзіны*

Г л а в а 1 Гістарыяграфія і крыніцы па тэме даследавання . . . . . . . . . . .

Г л а в а 2 Канцэпцыя і асноўныя накірункі «санацыйнай» маладзёжнай палітыкі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2.1 Становішча заходнебеларускай моладзі . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2.2 Выхаваўчая канцэпцыя «санацыі» і яе эвалюцыя . . . . . . . . . . . .
2.3 Асноўныя накірункі маладзёжнай палітыкі польскіх улад у міжваенны перыяд . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
2.4 Барацьба вакол акадэмічнай аўтаноміі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Г л а в а 3 Праўрадавы маладзёжны рух: ідэалогія і структура . . . . . . . .
3.1 Прававыя асновы дзейнасці маладзёжных саюзаў . . . . . . . . . . .
3.2 Стралецкі саюз «Стралец» . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3.3 Саюзы вясковай і гарадской моладзі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3.4 Арганізацыі школьнай моладзі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3.5 Праўрадавыя студэнцкія аб'яднанні . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
3.6 Саюз маладой Польшчы і Служба маладых ЛНА . . . . . . . . . . . .

Г л а в а 4 Канкурэнты «санацыі»: неўрадавыя маладзёжныя рухі . . . . .
4.1 Арганізацыі левай і дэмакратычнай арыентацыі . . . . . . . . . . . . .
4.2 Клерыкальныя маладзёжныя аб'яднанні . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4.3 Арганізацыі польскай нацыяналістычнай моладзі . . . . . . . . . . .
4.4 Сіяністкія маладзёжныя арганізацыі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
4.5 Беларускі нацыянальны маладзёжны рух . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Г л а в а 5 «Санацыя» і яе праціўнікі ў барацьбе за моладзь Заходняй Беларусі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5.1 Стварэнне праўрадавага маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5.2 Дзейнасць «санацыйных» маладзёжных арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5.3 Радыкалізацыя маладога пакалення і барацьба «санацыі» з яе праявамі ў маладзёжным руху . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5.4 Узаемаадносіны «санацыі» з клерыкальнымі маладзёжнымі саюзамі . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
5.5 «Санацыйны» рэжым і маладзёжныя арганізацыі нацыянальных меншасцей 2-й РП . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Заключэнне . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Спіс умоўных скарачэнняў . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Спіс выкарыстаных крыніц . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Рэзюмэ . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Резюме . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

## СПІС УМОЎНЫХ СКАРАЧЭННЯЎ

| | |
|---|---|
| АБСА | — аб’яднанне беларускіх студэнцкіх арганізацый |
| АК | — акруговы камітэт |
| АКАМ | — аб’яднанне каталіцкай акадэмічнай моладзі «Адраджэнне» |
| АКМ | — арганізацыя «Акадэмічная кансерватыўная моладзь» |
| АМП | — аб’яднанне польскай моладзі |
| АНМ | — арганізацыя нацыянальнай моладзі |
| АПАХК | — аб’яднанне польскіх акадэмічных хрысціянскіх карпарацый |
| АПМ | — арганізацыя працуючай моладзі |
| АСМ | — аб’яднанне сіндыкалісцкай моладзі |
| ББСУ | — Беспартыйны блок супрацоўніцтва з урадам |
| БД | — «Братняя дапамога» |
| БІГіК | — Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры |
| БНА | — Беларускае нацыянальнае аб’яднанне |
| БСКТ | — Беларускае студэнцкае краязнаўчае таварыства |
| БРСГ | — Беларуская сялянска-работніцкая грамада |
| БСС | — Беларускі студэнцкі саюз |
| БССР | — Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка |
| БСТ | — Беларускае студэнцкае таварыства імя Ф. Скарыны |
| БХД | — Беларуская хрысціянская дэмакратыя |
| ВНУ | — вышэйшая навучальная ўстанова |
| ВП | — ваенная падрыхтоўка |
| ДАБВ | — Дзяржаўны архіў Брэсцкай вобласці |
| ДД | — «Дзяржаўная думка» |
| КАЖМ | — каталіцкае аб’яднанне жаночай моладзі |
| КАММ | — каталіцкае аб’яднанне мужчынскай моладзі |
| КАП | — Корпус аховы памежжа |
| КІМ | — Камуністычны Інтэрнацыянал моладзі |
| КК | — каардынацыйны камітэт |
| КСМП | — Камуністычны саюз моладзі Польшчы |
| КСМЗБ | — Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі |
| КПЗБ | — Камуністычная партыя Заходняй Беларусі |
| КПП | — Камуністычная партыя Польшчы |
| ЛМ | — Легіён маладых |
| ЛМ-Ф | — Легіён маладых-Фракцыя |
| ЛНА | — Лагер нацыянальнага аб’яднання |
| ЛПМ | — Легіён польскай моладзі |
| МА ТУР | — маладзёжная арганізацыя ТУР |
| МУС | — Міністэрства ўнутраных спраў |
| НААМ | — Нацыянальнае аб’яднанне акадэмічнай моладзі |
| НАРБ | — Нацыянальны архіў Рэспублікі Беларусь |
| НСПАМ | — Нацыянальны саюз польскай акадэмічнай моладзі |
| ПАНМ | — Польская акадэмічная народная моладзь |
| ПВ | — аб’яднанне «Перадавая варта» |
| ПВА | — Польская вайсковая арганізацыя |

| | |
|---|---|
| ПНР | — Польская народная рэспубліка |
| ППС | — Польская сацыялістычная партыя |
| ПЦ | — партыя «Паалей Цыён» (Poalej Zion) |
| РК | — раённы камітэт |
| РП | — Рэч Паспалітая |
| СГД | — арганізацыя «Студэнцкае грамадскае дзеянне» |
| СЛ | — партыя «Сторонніцтво людовэ» (Stronnictwo Ludowe) |
| СМ | — служба маладых ЛНА |
| СМП | — саюз маладой Польшчы |
| СМВ | — саюз маладой вёскі |
| СНМ | — саюз народнай моладзі |
| СНСМ | — саюз незалежнай сацыялістычнай моладзі |
| СП | — сельскагаспадарчая падрыхтоўка |
| СПАК | — саюз польскіх акадэмічных карпарацый |
| СПДМ | — саюз польскай дэмакратычнай моладзі |
| СПМ | — саюз польскай моладзі |
| СПС | — саюз прафесійных саюзаў |
| СПХ | — саюз польскага харцарства |
| СРСА | — саюз рабочых спартыўных аб’яднанняў |
| ССЛ «Фронт» | — антыфашысцкая арганізацыя «Саюз студэнцкай лявіцы “Фронт”» |
| ССМ РП «Віцы» | — саюз сельскай моладзі РП «Віцы» |
| ССМ «Сеў» | — саюз сельскай моладзі «Сеў» |
| ССН | — саюз студэнтаў-народнікаў імя Ф. Багушэвіча |
| СССР | — Саюз Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік |
| ТБШ | — Таварыства беларускай школы |
| ТПБ | — Таварыства прыяцеляў беларусазнаўства |
| ТУР | — Таварыства рабочага ўніверсітэта |
| УМ | — «Усяпольская моладзь» |
| УСБ | — універсітэт імя С. Баторыя ў Вільні |
| ФВ | — фізічнае выхаванне |
| ФПАК | — Федэрацыя польскіх акадэмічных карпарацый |
| ЦК | — Цэнтральны Камітэт |
| ЦКК | — Цэнтральны каардынацыйны Камітэт |
| ЦК КПБ | — Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі Беларусі |
| ЦК КП(б)Б | — Цэнтральны камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі |
| ЦССГ | — Цэнтральны саюз сельскагаспадарчых гурткоў |
| ЦССМ | — Цэнтральны саюз сельскай моладзі |
| ЧХ ТУР | — чырвонае харцарства ТУР |
| ШПН | — школа палітычных навук у Вільні |

# УВОДЗІНЫ

Вывучэнне ўдзелу моладзі ў грамадска-гістарычнай практыцы, высвятленне месца і ролі маладзёжных арганізацый у жыцці грамадства будуць заўсёды захоўваць навуковую і практычную актуальнасць. Моладзь з'яўляецца важнай сацыяльна-дэмаграфічнай групай грамадскай структуры. Таму маладое пакаленне становіцца аб'ектам уздзеяння і ўплываў з боку «старэйшага» грамадства, што ў першую чаргу адносіцца да яго пануючых колаў. Улады так ці інакш імкнуцца рэалізоўваць пэўную маладзёжную палітыку, нават калі на афіцыйным узроўні яна і не дэкларуецца адкрыта. Адна з галоўных задач гэтай палітыкі — падрыхтаваць моладзь да ўступлення ў «дарослае» жыццё, сфарміраваць у яе якасці, неабходныя для таго, каб стаць суб'ектам актыўнай палітычнай, эканамічнай і культурнай дзейнасці на карысць існуючых дзяржавы і грамадства. Пры гэтым пануючай палітычнай групоўцы даводзіцца весці сапраўдную «вайну за душы» маладога пакалення са сваімі палітычнымі праціўнікамі, якія таксама імкнуцца распаўсюдзіць свой уплыў на пэўную частку моладзі,ператварыць яе ў свой рэзерв і апору і выкарыстаць у сваіх мэтах, у першую чаргу ў барацьбе за ўладу.

У дадзенай сітуацыі вялікае значэнне набываюць праўрадавыя маладзёжныя арганізацыі і аб'яднанні, якія становяцца своеасаблівым інструментам правядзення афіцыйнай маладзёжнай палітыкі і саюзнікам улад у іх барацьбе за маладое пакаленне. Такім чынам праўрадавы маладзёжны рух ператвараецца ў неад'емную частку грамадска-палітычнага жыцця, садзейнічае сацыялізацыі моладзі. Зразумела, што спецыфіка дадзеных працэсаў залежыць ад шматлікіх фактараў — асаблівасцяў існуючага сацыяльна-эканамічнага ладу, развіцця палітычнага жыцця, сітуацыі ў культурнай, рэлігійнай і нацыянальнай сферах. Акрамя таго, трэба ўлічваць і становішча ўнутры самога маладзёжнага асяроддзя — яго сацыяльную і нацыянальную структуру, адукацыйны і культурны ўзровень. Менавіта з гэтага вельмі часта вынікаюць асаблівасці развіцця і дзейнасці маладзёжнага руху, як праўрадавага, так і апазіцыйнага. Тым не менш неабходна яшчэ раз падкрэсліць, што барацьба за маладое пакаленне так ці інакш заўсёды будзе з'яўляецца важным фактарам грамадска-палітычнага жыцця. Усё гэта ў поўнай меры адносіцца і да сітуацыі, якая склалася на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд.

Як вядома, у выніку польска-савецкай вайны і Рыжскага мірнага дагавора ад 18 сакавіка 1921 г. беларускія землі былі падзелены. Былая Гродзенская губерня, а таксама значная частка Мінскай і Віленскай губерняў адыйшлі да адроджанай польскай дзяржавы, 2-й Рэчы Паспалітай (далей — 2-й РП). Гэтыя тэрыторыі

атрымалі неафіцыйную назву «Заходняя Беларусь» і ўвайшлі ў склад чатырох польскіх ваяводстваў: Палескага, Навагрудскага, Віленскага і Беластоцкага. Агульная плошча рэгіёна складала каля 110 тыс. км$^2$, на якіх на верасень 1939 г. пражывала каля 5 млн чалавек [60, с. 233].

Заходняя Беларусь фактычна з’яўлялася аграрна-сыравінным прыдаткам польскай дзяржавы, якая ў міжваенны час сама зусім не адносілася да вядучых індустрыяльных дзяржаў. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, у 1931 г. 61% насельніцтва Польшчы працаваў у сельскай гаспадарцы, 19,2% — у прамысловасці, 5,6% — у гандлі і абслугоўванні, 3,6% — на транспарце, астатнія 10,6% насельніцтва працавалі ў іншых сферах народнай гаспадаркі. Што да ўсходніх зямель 2-й РП, то там у аграрным сектары было занята 75,6% насельніцтва рэгіёна, а на прамысловасць прыходзілася толькі 9,7%. Пры гэтым своеасаблівым «рэкардсменам» было Навагрудскае ваяводства, дзе сельскай гаспадаркай займаліся 83,1% насельніцтва, а ў прамысловасці працавала 7,1% ад усяго насельніцтва ваяводства [247, с. 9]. Удзельная ж вага прамысловасці Заходняй Беларусі ва ўсёй індустрыяльнай вытворчасці Польшчы была 3%, а колькасць рабочых — 5% ад усіх рабочых краіны. Гэта пры тым, что заходнебеларускія ваяводствы складалі 29% ад усёй тагачаснай тэрыторыі польскай дзяржавы [54, с. 206].

Пры гэтым узровень тэхнічнай узброенасці і ураджайнасць сельскай гаспадаркі Заходняй Беларусі былі ніжэйшымі, чым у непасрэдна польскіх ваяводствах. Так, калі ў 1936 г. сярэдняя ўраджайнасць бульбы па ўсёй Польшчы складала 118 цэнтнераў з гектара, то ва ўсходніх ваяводствах — 110. У Віленскім ваяводстве — наогул толькі 92 цэнтнеры з гектара [247, с. 13]. Але дзеля аб’ектыўнасці неабходна адзначыць, што нават гэты ўзровень пераўзыходзіў сярэднюю ўраджайнасць бульбы ў Савецкім Саюзе — 80,1 цэнтнера з гектара [161, с. 105].

Таксама неабходна падкрэсліць, што значнае месца ў аграрнай структуры чатырох заходнебеларускіх ваяводстваў займала памешчыцкае землеўладанне. У Палескім ваяводстве памешчыкі валодалі 50,8% зямельнай плошчы, у Навагрудскім — 35,1%, у Віленскім — 32%, у Беластоцкім — 18,1% [76, с. 175]. У выніку гэта вяло да малазямелля і перанаселенасці вёскі, што ў пачатку 1930-х гг. склала 700 тыс. чалавек, ці 50% ад усіх працаздольных [60, с. 235]. У той жа час толькі трэць сялянскіх гаспадарак кармілася са сваёй зямлі. Сяляне вымушаны былі наймацца на лесараспрацоўкі,ісці ў батракі, выпраўляцца ў эміграцыю. У 1925—1938 гг. з Заходняй Беларусі ў іншыя краіны выехала больш за 78 тыс. чалавек [102, с. 277].

Да таго ж зямельнае пытанне абвастралася ўрадавай палітыкай па насаджэнню асадніцтва. У адпаведнасці з законам ад 20 снежня 1920 г. каля 10 тыс. асаднікаў, былых салдат і афіцэраў польскай арміі, атрымалі на тэрыторыі Заходняй Беларусі на ільготных умовах зямельныя надзелы плошчай ад 15 да 45 гектараў. Пры гэтым на сялянскі двор прыходзілася ў сярэднім 7 гектараў зямлі, 55 тыс. гаспадарак валодалі надзелам, меншым за 1 гектар, а каля 90 тыс. батракоў наогул не мелі зямлі [59, с. 197].

Незадаволенасць сельскага насельніцтва таксама выклікалі аграрныя рэформы, якія праводзіліся польскімі ўладамі, і даволі жорсткая падатковая палітыка.

Тым не менш нельга лічыць, што становішча ў сельскай гаспадарцы Заходняй Беларусі было цалкам катастрафічным. Вядома, што ў перадваенныя гады эканамічнага ўздыму (1937—1938) Віленскае, Навагрудскае і Палескае ваяводствы дасягнулі па ўраджайнасці збожжавых культур і бульбы ўзроўню Францыі. За гэты ж час ураджайнасць асноўных сельскагаспадарчых культур перавысіла ўраджайнасць у ЗША, але значна саступала ўраджайнасці ў Чэхаславакіі і Германіі [61, с. 358]. Акрамя таго, сельская гаспадарка Заходняй Беларусі і мясцовае сялянства не зведалі прымусовай калектывізацыі і раскулачвання, якія адбываліся ў гэты час у БССР.

Што да прамысловасці Заходняй Беларусі, то яна была цесна звязана з сельскай гаспадаркай і ў міжваенны перыяд перажывала не самыя лепшыя часы. Так, напрыклад, да 1935 г. колькасць прамысловых рабочых у параўнанні з 1913 г. скарацілася на 40%. Вялікай праблемай стала беспрацоўе, што асабліва праявілася у час сусветнага эканамічнага крызісу 1929—1933 гг. Лічыцца, што ў сярэднім на аднаго працуючага прыходзілася два беспрацоўныя. Узровень заработкаў у прамысловасці быў ніжэйшым, чым у сярэднім па Польшчы. Напрыклад, варшаўскі рабочы дрэваапрацоўчай прамысловасці атрымліваў за гадзіну працы ў сярэднім 0,78 злотага, а такі ж рабочы ў Навагрудку — 0,31 злотага [59, с. 197].

Вельмі складанай была і сітуацыя ў нацыянальна-культурнай сферы. Згодна з VII артыкулам Рыжскага мірнага дагавора, Польшча абяцала даць «асобам рускай, украінскай і беларускай нацыянальнасці, якія знаходзяцца ў Польшчы, на аснове раўнапраўя, усе правы, якія забяспечваюць свабоднае развіццё культуры, мовы і выкананне рэлігійных абрадаў». У тым жа артыкуле было заяўлена, што «асобы рускай, украінскай і беларускай нацыянальнасці ў Польшчы маюць права, у межах унутранага заканадаўства, развіваць сваю родную мову, арганізоўваць і падтрымліваць свае школы, развіваць культуру і арганізоўваць у гэтых мэтах таварыствы і саюзы» [97, с. 625—626]. Гэтыя палажэнні пераклікаліся і з абавязкамі, якія прымала на сябе польская дзяржава згодна з т. зв. Малым версальскім дагаворам. У ім польскія ўлады таксама гарантавалі свабоднае развіццё мовы і культуры нацыянальных меншасцей, іх права на стварэнне дабрачынных, рэлігійных ці грамадскіх інстытутаў, школ і іншых выхаваўчых устаноў. Польшча абяцала і дзяржаўную падтрымку адукацыі нацыянальных меншасцей [307, с. 1 038—1 039].

Таксама трэба адзначыць, што літаральна напярэдадні заключэння Рыжскага мірнага дагавора, 17 сакавіка 1921 г., у Польшчы была прынята Канстытуцыя, асобныя артыкулы якой таксама прысвячаліся правам нацыянальных меншасцей. Польская рэспубліка гарантавала на сваёй тэрыторыі ахову жыцця, свабоды і маёмасці усім, незалежна ад паходжання, нацыянальнасці, мовы, расы ці рэлігіі. Усе грамадзяне абвяшчаліся роўнымі перад законам [174, с. 650]. Згодна з сакавіцкай Канстытуцыяй, кожны грамадзянін меў права на захаванне сваёй нацыянальнасці і падтрымку сваёй мовы і нацыянальных асаблівасцей. Абяцалася, што «асобныя дзяржаўныя законы забяспечаць нацыянальным меншасцям у Польскай дзяржаве поўнае і свабоднае развіццё іх нацыянальных асаблівасцей пры дапамозе аўтаномных саюзаў меншасцей публічна-прававога характару ў межах усеагульнага самакіравання». Артыкул 110 Канстытуцыі наогул амаль даслоўна паўтараў палажэнні Рыжскага і Версальскага дагавораў: «Польскія

грамадзяне, якія належаць да нацыянальных, рэлігійных ці моўных меншасцяў, маюць роўныя з іншымі грамадзянамі правы па стварэнню, нагляду і кіраўніцтву за свой уласны кошт дабрачынных, рэлігійных і грамадскіх установаў, школ і іншых выхаваўчых установаў, а таксама права на свабоднае ўжыванне ў іх сваёй мовы і выкананне правілаў сваёй рэлігіі» [174, с. 653].

Такім чынам, з фармальнага пункту гледжання, правы нацыянальных меншасцяў 2-й РП, у тым ліку і беларусаў, былі забяспечаны. У сапраўднасці ж справы складваліся інакш, чым гэта было замацавана на паперы.

Фактычна польскія ўлады праводзілі палітыку мэтанакіраванай паланізацыі беларускага насельніцтва. Пад канец міжваеннага перыяду маладое пакаленне беларусаў было пазбаўлена адукацыі на роднай мове.

Яшчэ ў снежні 1929 г. віленскі ваявода У. Рачкевіч заяўляў пра тое, што імкненне беларусаў да нацыянальнай школы з’яўляецца небяспечным [35, арк. 45]. Такое стаўленне захоўвалася да самага пачатку Другой сусветнай вайны. Навагрудскі ваявода А. Корвін-Крукоўскі ў 1937/38 навучальным годзе рэкамендаваў ажыццявіць поўную ліквідацыю беларускіх школ і замену іх польскімі [61, с. 375].

У выніку палітыкі польскіх улад на працягу 1930-х гг. актыўна скарачаліся нешматлікія беларускамоўныя і ўтраквістычныя (двухмоўныя) школы. Так, у 1934/35 навучальным годзе існавала 16 беларускамоўных школ, праз два гады — 8, а ў 1937/38 навучальным годзе яны наогул перасталі існаваць. У 1936/37 навучальным годзе мелася 13 утраквістычных школ (1 566 вучняў), у наступным годзе — 5 (766 вучняў). Акрамя таго, у 44 школах з польскай мовай навучання беларуская мова выкладалася як асобны прадмет для 8 200 вучняў [192, с. 113]. Такім чынам, ёсць усе падставы сцвярджаць, што беларуская школа на тэрыторыі Заходняй Беларусі перастала існаваць.

Пры гэтым неабходна адзначыць, што існуючых польскіх школ таксама не хапала. На працягу ўсяго міжваеннага перыяду на землях Заходняй Беларусі захоўваўся вельмі высокі працэнт непісьменнага насельніцтва. Так, згодна з афіцыйнай інфармацыяй, па ўсёй Польшчы ў 1931 г. сярод насельніцтва ва ўзросце ад 10 год і вышэй непісьменнымі лічыліся 23,1%. Адначасова на ўсходніх землях 2-й РП гэты паказчык дасягаў 34%. Калі ж браць асобныя ваяводствы, то найбольшая колькасць непісьменнага насельніцтва прыпадала на Палескае ваяводства — 48,4%. У гэтых адносінах яно было «лідарам». Што да Навагрудскага ваяводства, то там налічвалася 34,9% непісьменных ва ўзросце ад 10 гадоў і вышэй, у Віленскім ваяводстве — 29,1% [247, с. 9].

Беларускія культурна-асветніцкія арганізацыі, якія маглі б у нейкай ступені палепшыць сітуацыю з асветай беларускага насельніцтва, падвяргаліся рэпрэсіям і нарэшце былі ліквідаваны ў другой палове 1930-х гг. Адбывалася скарачэнне колькасці легальнай беларускамоўнай прэсы: з 23 газет і часопісаў у 1927 г. да 8 у 1939 г. [60, с. 237]. Акрамя таго, уладамі праводзілася выразная дыскрымінацыйная палітыка ў адносінах да беларусаў. Іх не бралі на працу ў некаторых галінах гаспадаркі, такіх, як сувязь, транспарт, дзяржаўная служба [76, с. 174].

Парушэнне нацыянальных правоў было цесна звязана з развіццём агульнай сітуацыі ў палітычным жыцці польскай дзяржавы. У маі 1926 г. у краіне адбыўся

дзяржаўны пераварот пад кіраўніцтвам Ю. Пілсудскага. Быў усталяваны т. зв. санацыйны рэжым («санацыя»). Фармальна захоўвалася дэмакратычна-парламенцкая сістэма, але на самой справе гэта быў дыктатарскі рэжым, які яго праціўнікі называлі «скрытай дыктатурай» ці «дыктатурай за шырмай». Іншы раз гэты рэжым параўноўвалі з фашысцкай дыктатурай у Італіі, але гэта не зусім так. Дарэчы, сам Ю. Пілсудскі сцвярджаў, што яго сістэма не мае нічога супольнага з фашызмам. «Санацыйны» рэжым можна аднесці да аўтарытарных рэжымаў, вельмі распаўсюджаных у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе ў міжваенны перыяд. Пасля мая 1926 г. у Польшчы захавалася шматпартыйная сістэма (чаго проста не магло быць пры таталітарным, фашысцкім рэжыме), але дзейнасць асобных партый абмяжоўвалася. Захоўваліся таксама Сейм і Сенат, але парламент страчваў сваё рэальнае значэнне. Паступова новая ўлада падпарадкавала судовую сістэму. Таксама быў уведзены новы закон аб прэсе, які значна абмяжоўваў свабоду слова, але не ліквідаваў яе цалкам [124, с. 163].

Канчаткова рэжым «санацыі» быў замацаваны Канстытуцыяй 1935 г. Яна ўзмацніла паўнамоцтвы прэзідэнта, ператварыўшы 2-ю РП з парламенцкай у прэзідэнцкую рэспубліку. Парламент ператвараўся ў дарадчы орган пры прэзідэнце. Новая Канстытуцыя фактычна дазваляла кіруючай «санацыйнай» групоўцы перманентна захоўваць уладу ў сваіх руках. Адначасова было ўведзена новае выбарчае заканадаўства, якое значна абмяжоўвала выбарчыя правы грамадзян [124, с. 168]. Напрыклад, узроставы цэнз падымаўся да 25 гадоў, у выніку чаго выбарчага права пазбавіліся каля 10% выбаршчыкаў. Гэта былі паўналетнія грамадзяне 2-й РП, якія скончылі школу, і мужчыны, што адслужылі ў польскім войску [107, с. 226].

Рэжым «санацыі» праводзіў жорсткую барацьбу супраць апазіцыі, як правай, так і левай. Гэта ў сваю чаргу вяло да згортвання палітычных свабод і ўзмацнення рэпрэсій. Так, напрыклад, у 1927 г. была забаронена Беларуская сялянска-работніцкая грамада (далей — БСРГ), легальная рэвалюцыйна-дэмакратычная арганізацыя. У 1930 г. такі ж лёс напаткаў арганізацыю «Змаганне», якая спрабавала працягваць справу БСРГ. У пачатку 1930-х гг. польскія ўлады таксама разграмілі т. зв. Цэнтралеў — аб’яднанне шэрагу легальных польскіх партый, якія імкнуліся весці паламенцкімі сродкамі барацьбу супраць «санацыі».

У верасні 1932 г. быў уведзены новы крымінальны кодэкс, які прадугледжваў жорсткія пакаранні за палітычныя злачынствы. Напрыклад, за спробу гвалтоўнай змены дзяржаўнага ладу прадугледжвалася ад дзесяці год турмы да пажыццёвага зняволення [186, с. 33].

Для характарыстыкі размаху палітычных рэпрэсій на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў час яе знаходжання пад польскай акупацыяй можна прывесці статыстычны матэрыял, сабраны савецкімі даследчыкамі. Вядома, што да 1923 г. на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў дзейнічала шэсць акруговых судоў — Віленскі, Гродзенскі, Навагрудскі, Пінскі, Беластоцкі і Сувалкскі. Потым да іх далучыліся філіял Пінскага акруговага суда ў Брэсце і філіял Віленскага акруговага суда ў Лідзе [70, с. 13]. Штогод яны разглядалі справы ў сярэднім каля 130 чалавек, асуджаных па палітычных матывах. Прыкладна такая ж лічба палітычных асуджаных прыходзілася ў 1905—1913 гг. на суды Віленскай судовай палаты, якая ахоплівала тэрыторыю ўсёй Літвы і большую частку сучаснай

Беларусі. Усяго ж на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў за камуністычную дзейнасць было асуджана каля 10 тыс. чалавек. Толькі ў турмах Заходняй Беларусі ў 1930-я гг. утрымлівалася ад 2 да 3 тыс. палітычных зняволенных. З 1934 да лета 1939 г. праз канцлагер у Бярозе-Картузскай прайшло прыкладна 3 тыс. вязняў [70, с. 161].

Вядома, што польскія ўлады правялі на тэрыторыі Заходняй Беларусі 456 палітычных працэсаў. На іх у якасці падсудных праходзіла 2 562 чалавекі. У сярэднім на адну справу прыходзілася пяць—шэсць абвінавачваемых. Сярод прыцягнутых да суда 9% складалі жанчыны. Сярэдні ўзрост падсудных — 21—25 гадоў. Па свайму сацыяльнаму становішчу 24,2% складалі рабочыя і рамеснікі, 68,5% — сяляне, 4,8% — служачыя, 1,1% — навучэнцы. Беларусамі з'яўляліся 75% абвінавачваемых. Што да прысудаў, то 80% асуджаных былі пазбаўлены волі, у тым ліку 28% — на тэрмін ад 3 да 5 гадоў, а 22% — звыш 5 гадоў. Аднак неабходна адзначыць, што на 456 палітычных працэсах 17,5% абвінавачваемых было апраўдана, у адносінах да 0,3% падсудных справа была спынена. Таксама абаронцам на палітычных працэсах неаднаразова ўдавалася зніжаць тэрмін пакарання пасля звароту ў вышэйшыя судовыя інстанцыі [70, с. 166—167]. Такім чынам, сітуацыя з палітычнымі рэпрэсіямі пры аўтарытарным «санацыйным» рэжыме была больш мяккай, калі параўноваць яе з таталітарнымі рэаліямі ў тагачаснай БССР.

Праводзячы маштабныя рэпрэсіі супраць сваіх палітычных апанентаў, улады адначасова імкнуліся аб'яднаць вакол сябе па магчымасці найбольш шырокія колы грамадства. Дзеля гэтага прыкладалася шмат намаганняў па актывізацыі дзейнасці шматлікіх праўрадавых грамадскіх саюзаў і аб'яднанняў, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Менавіта ў такіх складаных умовах ішла барацьба за маладое пакаленне, якую вялі польскія ўлады і падначаленыя ім маладзёжныя арганізацыі. Пры гэтым трэба адзначыць, што «санацыі» давялося супрацьстаяць даволі шырокаму фронту сапернікаў, паколькі перацягнуць моладзь на свой бок імкнуліся шматлікія легальныя і нелегальныя палітычныя арганізацыі. Сітуацыя ўскладнялася яшчэ і тым, што сам кіруючы лагер быў даволі неаднародным.

Асвятленне вышэйназванай барацьбы, якая ператварылася ў неад'емную частку грамадска-палітычнага жыцця як усёй 2-й РП, так і яе заходнебеларускіх ваяводстваў, з'яўляецца тэмай дадзенага даследавання. Выбар тэмы тлумачыцца тым, што яна не знайшла адпаведнага адлюстравання ў айчыннай гістарыяграфіі. Некаторыя моманты дадзенай праблемы закраналіся ў нашых папярэдніх публікацыях, прысвечаных урадавай маладзёжнай палітыцы і маладзёжным арганізацыям Заходняй Беларусі [72]. Аднак як асноўныя накірункі афіцыйнай маладзёжнай палітыкі, так і ўдзел у яе ажыццяўленні праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў і саюзаў патрабуюць больш падрабязнага вывучэння.

Тэма рэалізацыі ўрадавай маладзёжнай палітыкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі з'яўляецца актуальнай у сённяшніх умовах. Гэта дазволіць не толькі даць больш аб'ектыўную карціну грамадска-палітычнага жыцця рэгіёна ў міжваенны перыяд, але будзе мець практычную каштоўнасць ў якасці прыкладу непасрэднага ажыццяўлення ідэйна-выхаваўчай працы сярод маладога пакалення.

# Г Л А В А 1
# ГІСТАРЫЯГРАФІЯ і КРЫНІЦЫ ПА ТЭМЕ ДАСЛЕДАВАННЯ

Праблема барацьбы за палітычны ўплыў на маладое пакаленне і развіцця маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд знайшла пэўнае адлюстраванне ў айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Што да развіцця менавіта дзейнасці праўрадавых маладзёжных арганізацый і іх ролі ў ажыццяўленні афіцыйнай маладзёжнай палітыкі польскіх улад, то гэты аспект не знайшоў належнага асвятлення. У дадзенай главе мы зробім спробу навуковага аналізу дасягненняў айчынных і замежных гісторыкаў па акрэсленай праблеме і вызначэння асноўных тэндэнцый даследчай практыкі ў перыяд з 30-х гг. XX ст. і да нашых дзён.

Першыя публікацыі, у якіх закраналіся пытанні развіцця маладзёжнага руху Заходняй Беларусі і дзейнасці «санацыйнага» рэжыма ў маладзёжным асяроддзі, з'явіліся яшчэ ў 1930-я гг. Напрыклад, у брашуры П. І. Гарбацэвіча «Полёнізацыя Заходняй Беларусі» [57] утрымліваўся даволі цікавы матэрыял пра ўдзел праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў у ажыццяўленні паланізатарскай палітыкі афіцыйных улад на тэрыторыі «ўсходніх крэсаў» 2-й РП.

Сярод найбольш значных публікацый неабходна адзначыць зборнік «Палітычныя партыі Польшчы, Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны», выдадзены ў Мінску ў 1935 г. [94]. Галоўная ўвага ў ім надавалася, зразумела, дзейнасці асноўных палітычных партый польскай дзяржавы, але ўсё ж некаторае асвятленне атрымала і тэма маладзёжных саюзаў. Адзін з раздзелаў зборніка быў спецыяльна прысвечаны Беспартыйнаму блоку супрацоўніцтва з урадам (далей — ББСУ), «санацыйнай» групоўцы, якая ў той час кіравала 2-й РП. У сувязі з гэтым закраналіся і пытанні дзейнасці звязаных з ім маладзёжных арганізацый — стралецкага саюза «Стралец» (Związek Strzelecki «Strzelec»), Легіёна маладых (далей

— ЛМ Legion Młodych — Związek Pracy dla Państwa ), Саюза сельскай моладзі «Сеў» (далей — ССМ «Сеў»). Была дадзена кароткая характарыстыка асноўных накірункаў дзейнасці гэтых саюзаў, аналізаваліся іх ідэйныя пастулаты, сацыяльны склад, а таксама ступень іх уплыву на моладзь. Асабліва адзначалася, што ў шэрагу гэтых арганізацый у першай палове 1930-х гг. адбываўся працэс радыкалізацыі, назіраўся рост сімпатый да рэвалюцыйнага руху. Аднак неабходна браць пад увагу, што зборнік быў напісаны з пазіцый ваяўнічай камуністычнай ідэалогіі і тэндэнцый таго часу, калі ўсе некамуністычныя арганізацыі трактаваліся як варожыя. Праўрадавыя ж арганізацыі наогул называліся фашысцкімі, як і сам «санацыйны» рэжым. Гэта не зусім адпавядала рэчаіснасці, што зніжала навуковую каштоўнасць змешчаных у зборніку артыкулаў.

Сур'ёзны ўплыў на вывучэнне не толькі маладзёжнага руху і маладзёжнай палітыкі, але і ўсяго грамадска-палітычнага жыцця Заходняй Беларусі аказалі палітычныя рэаліі другой паловы 1930-х гг. Справа ў тым, што пасля таго як былі распушчаны камуністычныя партыі Польшчы і Заходняй Беларусі, сур'ёзныя навуковыя даследаванні прыпыніліся.

Неабходна адзначыць, што пэўныя напрацоўкі па праблеме меліся і ў польскіх даследчыкаў даваеннага часу. Адной з першых прац па гісторыі польскіх маладзёжных саюзаў з'яўлялася даследаванне І. Касмоўскай, выдадзенае ў 1924 г. [175]. У ім разглядаецца эвалюцыя гэтых арганізацый, пачынаючы яшчэ з XIX ст. Шмат інфармацыі пра генэзіс стралецкага саюза «Стралец», адной з самых вядомых праўрадавых арганізацый міжваеннай Польшчы, утрымліваецца ў працы В. Ліпіньскага, прысвечанай барацьбе за аднаўленне незалежнасці польскай дзяржавы [182].

Але гэтыя працы ўсё ж такі асвятляюць хутчэй генэзіс маладзёжнага руху, а не яго стан у міжваенны перыяд. Таму больш каштоўнымі з'яўляюцца працы даследчыкаў, якія вывучалі сучасныя для іх грамадска-палітычныя працэсы. Маладзёжны рух разглядаўся імі як частка грамадска-палітычнага жыцця 2-й РП. Даследуючы дзейнасць сучасных палітычных партый, яны даволі падрабязна вывучалі іх працу ў маладзёжным асяроддзі. У дадзеным кантэксце можна адзначыць шэраг даведнікаў, выдадзеных у міжваенны перыяд. Гэта працы А. Селімоўскага

«Польскія легальныя палітычныя партыі. Папулярны нарыс» [251] і А. Прушкоўскага «Грамадскі праваднік» [232]. Так, у кнізе А. Селімоўскага пры характарыстыцы эвалюцыі і праграмных тэзісаў «санацыйнага» ББСУ падкрэліваецца, што ён імкнецца распаўсюдзіць свой уплыў на маладое пакаленне. Падрабязна ідэалогія праўрадавых арганізацый разглядаецца ў працы А. Прушкоўскага. Асобныя главы яго кнігі спецыяльна прысвячаюцца студэнцкім «ідэйна-выхаваўчым» арганізацыям, а таксама аб’яднанням школьнай, вясковай і рабочай моладзі.

Таксама заслугоўвае ўвагі шэраг прац, прысвечаных票 становішчу моладзі ў 2-й РП. У першую чаргу трэба адзначыць даследаванне Я. Халасінскага «Маладое пакаленне сялян» [115], падрыхтаванае Дзяржаўным інстытутам культуры вёскі. Акрамя ўсяго іншага, у ім разглядаюцца і некаторыя аспекты дзейнасці польскіх улад сярод вясковага маладога пакалення, а таксама дзейнасць праўрадавых саюзаў сельскай моладзі, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Падобнай тэматыцы прысвечаны і зборнік «Выхаванцы сельскагаспадарчых школ Віленскай школьнай акругі аб сваёй працы, жыцці і імкненнях» [324], выдадзены пад рэдакцыяй С. Лукасевіча. Цікавы статыстычны матэрыял таксама ўтрымліваецца ў зборніку «Моладзь імкнецца да працы» [201].

У пасляваенны перыяд пачаўся новы этап у вывучэнні гісторыі Заходняй Беларусі. Айчынная гістарыяграфія асноўную ўвагу надавала аналізу дзейнасці Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі (далей — КПЗБ) і Камуністычнага саюза моладзі Заходняй Беларусі (далей — КСМЗБ). Праблема дзейнасці ўлад і праўрадавых маладзёжных арганізацый калі і закраналася, то толькі ў кантэксце іх барацьбы з камуністычным рухам. Так, напрыклад, у навукова-папулярнай публікацыі былога камсамольскага лідара С. Анісава «Крутымі шляхамі. Запіскі камсамольскага работніка-падпольшчыка» [51] асвятляецца не толькі развіццё камуністычнага маладзёжнага руху ў рэгіёне, але і барацьба КСМЗБ за маладое пакаленне з іншымі маладзёжнымі саюзамі. Пры гэтым усе праціўнікі камсамола ацэньваюцца як варожыя арганізацыі, якія не далі нічога пазітыўнага заходнебеларускай моладзі.

Для вывучэння праблемы пэўную цікавасць уяўляюць зборнікі дакументаў і ўспамінаў удзельнікаў рэвалюцыйнага і нацыянальна-

вызваленчага руху. Іх публікацыя пачалася яшчэ ў 1950-х гг. Так, у 1958 г. убачыла свет выданне «У суровыя гады падполля» [100], у 1966 г. у Вільнюсе быў надрукаваны зборнік «Вільнюскае падполле» [56]. Багаты матэрыял утрымліваецца ў зборніку дакументаў і матэрыялаў «Рэвалюцыйны авангард працоўнай моладзі Заходняй Беларусі (1921–1939)» [96], які змяшчае дакументы з архіва тагачаснага Інстытута гісторыі партыі пры Цэнтральным камітэце Камуністычнай партыі Беларусі (далей — ЦК КПБ), дзяржаўных архіваў Брэсцкай і Гродзенскай абл. Апублікаваныя матэрыялы даюць агульнае ўяўленне аб развіцці маладзёжнага камуністычнага руху, адным з аспектаў дзейнасці якога было супрацьстаянне польскім уладам і праўрадавым маладзёжным саюзам.

Трэба прызнаць, што ў айчыннай гістарыяграфіі савецкага перыяду вялікая ўвага надавалася вывучэнню КСМЗБ. Дзейнасць іншых маладзёжных арганізацый замоўчвалася ці ацэньвалася адмоўна. Праблема ж афіцыйнай маладзёжнай палітыкі і дзейнасці праўрадавых саюзаў моладзі заставалася без увагі.

Больш падрабязна гэтая тэма вывучалася ў польскай пасляваеннай гістарыяграфіі. Так, напрыклад, выхаваўчая канцэпцыя кіруючага лагера — «дзяржаўнае выхаванне» — была прааналізавана ў працы В. Кулешы «Ідэйна-палітычныя канцэпцыі кіруючага лагера Польшчы ў 1926—1935 гг.» [177]. Гэтай праблематыцы прысвечана і публікацыя К. Бартніцкай у часопісе «Працы па гісторыі асветы» [110]. Пытанні «дзяржаўнага выхавання» таксама закраналіся ў навуковых працах па гісторыі адукацыі Польшчы. Асаблівую цікавасць у гэтых адносінах уяўляе публікацыя С. Маўэрсберга, прысвечаная развіццю школ для нацыянальных меншасцей у Польшчы ў 1918—1939 гг. [192]. Неабходна адзначыць і працу Ф. Арашкевіча «Сярэдняя агульнаадукацыйная школа ў Польшчы ў 1918—1939 гг.» [109]. Усе пералічаныя аўтары падрабязна характарызуюць асноўныя этапы фарміравання і развіцця канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», яе асноўныя ідэі, станоўчыя і адмоўныя моманты.

У працах польскіх гісторыкаў вывучаліся таксама канкрэтныя накірункі маладзёжнай палітыкі «санацыі» і ўдзел у іх рэалізацыі праўрадавых маладзёжных арганізацый. Так, праблеме ўдзелу арміі ў рэалізацыі маладзёжнай палітыкі, а таксама дзейнасці

ваенізаваных саюзаў у асяроддзі вясковай моладзі прысвечаны некалькі раздзелаў кнігі Я. Одземкоўскага «Вёска і армія ў ІІ Рэчы Паспалітай» [212]. У гэтай працы вельмі падрабязна асвятляюцца асноўныя задачы і шляхі рэалізацыі ваеннай падрыхтоўкі моладзі ў міжваеннай польскай дзяржаве, удзел у гэтым працэсе армейскіх структур, адносіны маладога пакалення да арміі. Таксама ў кнізе Я. Одземкоўскага знайшлі адлюстраванне асаблівасці маладзёжнай палітыкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Аўтар адзначае, што на крэсах армейскія структуры і праўрадавыя ваенізаваныя аб’яднанні займаліся не толькі павышэннем абараназдольнасці дзяржавы, але і вялі актыўную паланізатарскую дзейнасць, што выклікала супраціўленне мясцовага насельніцтва.

Таксама ў польскай пасляваеннай гістарыяграфіі знайшоў адлюстраванне і другі важны накірунак маладзёжнай палітыкі кіруючых колаў 2-й РП — сельскагаспадарчая падрыхтоўка маладога пакалення. Найбольшую цікавасць уяўляе праца Т. Вечорэка, прысвечаная гісторыі сельскагаспадарчай адукацыі ў Польшчы [316]. Аўтар падрабязна спыняецца на прычынах узнікнення і развіцця сістэмы сельскагаспадарчых конкурсаў, якія сталі асновай земляробчай адукацыі вясковай моладзі ў міжваенны перыяд. Па меркаванні Т. Вечорэка, сістэма сельскагаспадарчай падрыхтоўкі прынесла значныя вынікі і эфектыўна дапаўняла існаваўшую дзяржаўную сістэму сельскагаспадарчай адукацыі.

Пры аналізе польскай пасляваеннай гістарыяграфіі неабходна адзначыць і шэраг прац, непасрэдна прысвечаных пытанням дзейнасці маладзёжных арганізацый, у тым ліку і праўрадавых саюзаў і аб’яднанняў.

У 1971 г. пад рэдакцыяй Ч. Казлоўскага быў выдадзены «Слоўнік маладзёжных арганізацый Польшчы 1918—1970 гг.» [263]. У дадзенай працы былі прадстаўлены фактычна ўсе агульнапольскія і рэгіянальныя маладзёжныя арганізацыі. Пры гэтым вялікая ўвага надавалася найбольш буйным «санацыйным» арганізацыям, якія дзейнічалі і на тэрыторыі Заходняй Беларусі — стралецкаму саюзу «Стралец» (Związek Strzelecki «Strzelec»), ССМ «Сеў», Саюзу маладой вёскі (Związek Młodej Wsi) (далей — СМВ), Саюзу польскай дэмакратычнай моладзі (Związek Polskiej Młodzieży Demokratycznej) (далей — СПДМ), ЛМ. У выданні падаюцца звесткі пра гісторыю гэтых маладзёжных саюзаў,

аналізуюцца іх праграмы. Названая праца мае каштоўнасць у якасці даведачнага выдання. Але, на наш погляд, у ёй прысутнічае пераацэнка ўплыву левых арганізацый і груп на моладзь і вельмі адмоўнае стаўленне да іх палітычных праціўнікаў. Тым не менш выданне дапамагае прасачыць агульныя тэндэнцыі развіцця маладзёжнага руху ў Польшчы ў міжваенны перыяд.

Больш падрабязна маладзёжны рух асвятляецца ў працы Б. Хіллебрандта «Польскія маладзёжныя арганізацыі ў XIX і XX стагоддзях: нарыс гісторыі» [149]. Аўтар вызначыў асноўныя ідэйныя плыні, якія аказвалі найбольшы ўплыў на маладое пакаленне. Разам з клерыкальным, нацыяналістычным, сацыялістычным і камуністычным накірункамі ён падрабязна аналізуе ідэалогію і дзейнасць праўрадавага маладзёжнага руху.

Інтарэс уяўляюць працы польскіх аўтараў, якія вывучалі праблему ўдзелу студэнцкай моладзі ў грамадска-палітычным жыцці. Так, у працы Я. Філіпайціса «Студэнцкая лявіца ў Вільні» [137] асвятляецца працэс стварэння і дзейнасці легальнай антыфашысцкай студэнцкай арганізацыі «Фронт». Аўтар аналізуе становішча ў Віленскім універсітэце і паказвае радыкалізацыю мясцовага студэнцтва, у тым ліку і членаў праўрадавых саюзаў.

Асноўныя плыні ў студэнцкім асяроддзі, іх эвалюцыю прасачыў у сваёй манаграфіі «Студэнцкі палітычны рух у Польшчы 1932—1939 гг.» А. Пільх [224]. Каштоўнасць гэтай працы ў тым, што ў ёй падрабязна асвятляецца студэнцкае жыццё ў Вільні. Таксама важнай крыніцай па гісторыі віленскага студэнцкага руху з’яўляюцца мемуары А. Ендрыхоўскай «Зігзагам і папросту», прысвечаныя стварэнню і дзейнасці пракамуністычнай арганізацыі «Фронт» [158].

Такім чынам, польская гістарыяграфія часоў Польскай народнай рэспублікі (далей — ПНР) назапасіла значны вопыт па вывучэнню дзейнасці «санацыйнага» рэжыму і яго маладзёжных арганізацый у барацьбе за ўплыў на маладое пакаленне. Аднак выкарыстанне марксісцкай метадалогіі не дазваляла ёй усебакова і аб’ектыўна разгледзець праблему.

Аналіз айчыннай гістарыяграфіі канца XX — пачатку XXI ст. паказвае, што гэты час характарызуецца зніжэннем цікавасці да вывучэння гісторыі заходнебеларускага маладзёжнага руху. Тым не менш у апошні час выйшаў шэраг публікацый, прысвечаных

дзейнасці беларускіх студэнцкіх арганізацый. У першую чаргу неабходна назваць артыкулы А. Мастыкі [81] і У. Серпухава [98]. У 2012 г. была апублікавана праца У. Ляхоўскага «Ад гоманаўцаў да гайсакаў», адзін з раздзелаў якой прысвечаны менавіта беларускаму нацыянальна-дэмакратычнаму маладзёжнаму руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі [77].

У сучаснай польскай гістарыяграфіі цікавасць да маладзёжнай палітыкі і дзейнасці «санацыйных» аб’яднанняў моладзі захоўваецца. Шмат увагі надаецца вывучэнню выхаваўчых канцэпцый «санацыі» і дзейнасці яе стваральнікаў. Так, у 2008 г. была выдадзена манаграфія З. Осіньскага «Януш Енджэевіч — пілсудчык і рэфарматар адукацыі» [217]. Яна прысвечана аднаму са стваральнікаў і рэалізатараў «дзяржаўнага выхавання». У тым ліку закранаецца і тэма яго ўдзелу ў стварэнні праўрадавага маладзёжнага руху.

Развіццё і рэалізацыю канцэпцыі падрыхтоўкі насельніцтва да вайны ва ўмовах міжваеннай польскай дзяржавы вывучае ў сваёй манаграфіі Я. Кенсік [165]. Аўтар падрабязна характарызуе дзейнасць як дзяржаўных структур, так і грамадскіх арганізацый. Асабліва шмат увагі ў даследаванні надаецца ваеннай падрыхтоўцы маладога пакалення. Я. Кенсік таксама аналізуе і тую працу, якую вялі армія і маладзёжныя саюзы ў сферы грамадзянскага выхавання. Праблема ваеннай падрыхтоўкі моладзі, асабліва ўзаемадзеянне ў гэтай сферы армейскіх структур і сістэмы адукацыі, таксама знайшла адлюстраванне ў манаграфіі М. Ябланоўскага «Перад пагрозай вайны. Армія і эканоміка Другой Рэчы Паспалітай у 1935—1939 гг.» [153].

Таксама неабходна адзначыць шэраг публікацый З. Тамчонак, прысвечаных дзейнасці праўрадавых маладзёжных арганізацый вясковай моладзі на тэрыторыі паўночна-ўсходніх ваяводстваў 2-й РП [302; 303]. Дзейнасць некаторых «санацыйных» маладзёжных аб’яднанняў на тэрыторыі Беласточчыны асвятляецца ў артыкулах Г. Маецкага [189—191].

Вялікую цікавасць уяўляе доктарская праца К. Вайса, у якой аўтар даволі падрабязна аналізуе дзейнасць адной з самых вядомых маладзёжных арганізацый міжваеннай Польшчы — Саюза польскага харцарства (Związek Harcerstwa Polskiego) (далей — СПХ) [314]. Іншай «санацыйнай» школьнай арганізацыі —

Перадавой стражы Straż Przednia (далей — ПВ) — прысвечаны артыкул В. Мушынскага [205]. Ён жа аналізуе і такую асаблівую з'яву міжваеннага польскага студэнцкага руху, як карпарацыі [204].

Існуе і шэраг іншых сур'ёзных даследаванняў польскіх гісторыкаў, прысвечаных тым ці іншым аспектам «санацыйнай» маладзёжнай палітыкі і развіцця праўрадавага маладзёжнага руху. Тым не менш асноўная іх маса прысвечана, зразумела, непасрэдна польскім землям 2-й РП і рэдка закранае заходнебеларускую праблематыку. Акрамя таго, аўтары не заўсёды аб'ектыўна падыходзяць да ацэнкі дзейнасці «санацыйнага» рэжыму. Так, калі ў часы ПНР ён характарызаваўся адмоўна, то зараз можна назіраць своеасаблівую яго апалагізацыю. Напрыклад, у кнізе Я. Стоўбняк-Смакаржэўскай «Крэсовае вайсковае асадніцтва» [288], прысвечанай у тым ліку і дзейнасці асаднікаў і іх арганізацый у ажыццяўленні выхаваўчай палітыкі «санацыйнага» ўраду, гэтая дзейнасць ацэньваецца даволі некрытычна.

Такім чынам, можна прызнаць, што сучасная польская гістарыяграфія назапасіла шэраг сур'ёзных напрацовак у сферы вывучэння маладзёжнай праблематыкі часоў 2-й РП. Усе яны былі ўлічаны ў нашым даследаванні. Акрамя таго, аўтар імкнуўся выкарыстаць дакументальныя матэрыялы і крыніцы, каб кампенсаваць некаторыя прабелы, якія існуюць у айчыннай і замежнай гістарыяграфіі.

Вялікая колькасць дакументальных матэрыялаў, прысвечаных маладзёжнай палітыцы польскіх улад і «санацыйных» маладзёжных арганізацый, утрымліваецца ў архівах Рэспублікі Беларусь. Перш за ўсё гэта фонд 242 п. Нацыянальнага архіва Рэспублікі Беларусь, у якім захоўваюцца дакументы прадстаўніцтва КПЗБ пры ЦК КП(б)Б. Зразумела, што асноўная маса гэтых дакументаў асвятляе дзейнасць кампартыі і камсамола. Тым не менш камсамольскія і партыйныя дакументы, асабліва справаздачы акруговых і раённых камітэтаў, дазваляюць атрымаць уяўленне і пра дзейнасць праўрадавых маладзёжных саюзаў, з якімі вёў жорсткую барацьбу камуністычны рух.

Таксама былі выкарыстаны дакументы Дзяржаўнага архіва Брэсцкай вобл. Матэрыялы, прысвечаныя дзейнасці польскіх улад у галіне маладзёжнай палітыкі і працы праўрадавых маладзёжных арганізацый на тэрыторыі Палескага ваяводства, утрымліваюцца ў

фондах Палескага ваяводскага ўпраўлення, Папячыцельства Брэсцкай школьнай акругі, Камандавання акругі корпуса № 9.

Важнай першакрыніцай звестак аб маладзёжнай палітыцы польскіх улад з'яўляюцца афіцыйныя зборнікі законаў і распараджэнняў, якія выдаваліся цэнтральнымі і ваяводскімі органамі ўлады, «Урадавыя дзённікі». Вялікую цікавасць таксама ўяўляюць публікацыі некаторых ваяводскіх аддзяленняў агульнапольскіх маладзёжных саюзаў. Напрыклад, асаблівасці ідэйна-выхаваўчай працы праўрадавых арганізацый раскрывае «Праграма для ўзроставых выхаваўчых груп у аддзелах Стралецкага саюза ў сферы грамадзянскага выхавання», якая была выдадзена ў Брэсце ў 1937 г. [230].

Неабходна таксама звярнуць увагу на матэрыялы цэнтральнай і рэгіянальнай прэсы 2-й РП. На старонках часопісаў і газет публікавалася шмат інфармацыі, якая дазваляе скласці ўяўленне пра дзейнасць праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў. Сталыя рубрыкі, прысвечаныя стралецкаму саюзу, СМ «Сеў» і іншым арганізацыям існавалі ў газетах «Кур'ер Віленьскі», «Глос зямлі Беластоцкай», «Рольнік Навагрудскі».

Яшчэ адной важнай крыніцай з'яўляюцца «аднаднеўкі», якія выдаваліся ваяводскімі структурамі розных маладзёжных аб'яднанняў. Найбольшую актыўнасць у гэтым накірунку дэманстравалі ЛМ і СПХ, матэрыялы «аднадневак» якіх шырока выкарыстоўваюцца ў дадзеным даследаванні. Адначасова гэтыя выданні дазваляюць прасачыць і працэсы радыкалізацыі, якія адбываліся ў «санацыйных» ідэйна-выхаваўчых аб'яднаннях.

Таксама неабходна адзначыць, што пры стварэнні дадзенай манаграфіі аўтарам быў выкарыстаны шэраг матэрыялаў з Інтэрнэту. У першую чаргу гэта дакументы па гісторыі карпаранцкіх арганізацый і дзейнасці сіяніскіх саюзаў моладзі.

Усе вышэйпералічаныя першакрыніцы і дакументальныя матэрыялы ў значнай меры дапаўняюць напрацоўкі айчыннай і польскай гістарыяграфіі і дазваляюць больш аб'ектыўна і грунтоўна вывучыць тыя складаныя працэсы, якія адбываліся ў сферы барацьбы за ўплыў на маладое пакаленне і развіцці маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Г Л А В А 2
# КАНЦЭПЦЫЯ і АСНОЎНЫЯ НАКІРУНКІ «САНАЦЫЙНАЙ» МАЛАДЗЁЖНАЙ ПАЛІТЫКІ

## 2.1 Становішча заходнебеларускай моладзі

Моладзь з’яўлялася аб’ектам пільнай увагі з боку кіруючых колаў міжваеннай польскай дзяржавы, асабліва пачынаючы з сярэдзіны 1920-х гг. Можна прызнаць, што маладзёжная палітыка была неад’емнай часткай унутрыпалітычнай дзейнасці «санацыі». Адной з прычын гэтага было тое, што само грамадства 2-й РП з’яўлялася даволі маладым, моладзь ва ўзросце 15—24 гадоў складала значную яго частку (табл. 1).

Такім чынам, згодна з вышэйпрыведзенымі лічбамі, на працягу 1921—1936 гг. колькасць моладзі ў адносінах да ўсяго насельніцтва вагалася ад 21,7 да 16,7%.

Калі казаць непасрэдна пра Заходнюю Беларусь, то, згодна з тымі ж дадзенымі даваенных польскіх даследчыкаў, на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў у 1931 г. пражывалі 1 120,1 тыс. чалавек ва ўзросце 15—24 гадоў [201, с. 16—17]. Гэта складала пятую частку ўсяго насельніцтва рэгіёна. Пры гэтым тут, у адрозненне ад астатняй тэрыторыі польскай дзяржавы, у сувязі з ростам нараджальнасці назіраўся і колькасны рост маладога пакалення. Па разліках польскіх дэмографаў, к 1940 г. усходнія ваяводствы маглі стаць самым маладым рэгіёнам краіны.

Як і большасць ўсяго насельніцтва ўсходніх ваяводстваў міжваеннай польскай дзяржавы, значная частка заходнебеларускай

Т а б л і ц а 1 — Моладзь у структуры насельніцтва 2-й РП [201, с. 11]

У млн чалавек

| Паказчык | 1921 г. | 1931 г. | 1936 г. |
|---|---|---|---|
| Усё насельніцтва | 27,22 | 32,11 | 34,30 |
| 15—19-гадовыя | 3,32 | 3,05 | 2,75 |
| 20—24-гадовыя | 2,59 | 3,40 | 2,99 |
| Уся моладзь | 5,91 | 6,45 | 5,74 |

моладзі пражывала ў сельскай мясцовасці. Заходняя Беларусь, як ужо адзначалася, была аграрным рэгіёнам. Таму працэнт сельскай моладзі тут быў самым высокім у параўнанні з дадзеным паказчыкам у астатняй 2-й РП. У гарадах Заходняй Беларусі ў снежні 1931 г. жыло толькі 160 тыс. чалалавек, ці 14,34% ад усёй моладзі рэгіёна. Для параўнання: у цэнтральных ваяводствах жыло 34,4% мясцовай моладзі, на захадзе 2-й РП — 35,5%, а ў сярэднім па ўсей краіне — 28,4% [201, с. 18].

Але нават і нешматлікая заходнебеларуская гарадская моладзь пражывала ў спецыфічных умовах. Справа у тым, што ў 1931 г. толькі 8 заходнебеларускіх гарадоў мелі насельніцтва больш за 20 тыс. чалавек. Самымі вялікімі былі Вільня (196 тыс.), Беласток (91 тыс.), Брэст (51 тыс.), Гродна (50 тыс.). У Пінску жыло 32 тыс. чалавек, Ломжы — 25 тыс., Баранавічах — 23 тыс., Сувалках — 22 тыс. чалавек [161, с. 98].

Як ужо адзначалася вышэй, заходнебеларускае сялянства пакутавала ад малазямелля і беспрацоўя. У першую чаргу гэта хвалявала сельскую моладзь. Даволі яскрава дадзеная сітуацыя і яе наступствы для маладога пакалення характарызаваліся на старонках «Беларускай крыніцы», газеты Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (далей — БХД)[1]: «...А людзі штогод прыбываюць. Штогод прыбываюць тысячы новых грамадзян, якія спрабуюць заводзіць асобную гаспадарку і закладаць сям'ю, але вонкавыя абставіны стаяць ім на перашкодзе.

Ужо цяпер даецца заўважыць, што сама вёска, асабліва моладзь, адчувае гэтакі ненармальны стан рэчаў. Яна кідаецца на ўсе бакі, каб нейдзе зарабіць грош і каб навучыцца нейкага рамясла, або іншага фаху.

Але усё дарэмна...

Аказваецца, што заклікі да фахавай навукі і працы — напрасныя. Майстры не бяруць да сябе новых людзей нават дарма, бо самі сядзяць бяз працы, а ўрэшце, за кожнага працаўніка ці вучня трэба плаціць падатак у Касу Хворых.

Гэтакім чынам, сілы моладзі не выкарыстоўваюцца і яна сядзіць бяз працы, дэмаралізуючыся і трацячы веру ў лепшую долю. Не

[1] Тут і далей цытаты з беларускамоўнай прэсы даюцца з захаваннем арыгінальнай арфаграфіі.

патрэбна яна і на ральлі, якая дзеліцца без канца, у выніку чаго большасьць гаспадарак прымае карлаватыя разьмеры і абыходзіцца мінімальную колькасьцю працоўных рук... З сумам трэба прызнаць, што з кожным годам пагаршаючы гаспадарчы стан нашай вёскі стварае надатны грунт для бальшавізму...» [91, с. 1].

Зямельная цесната, перанаселенасць вёскі вялі не толькі да росту сацыяльнай напружанасці ў вёсцы і пашырэння радыкальных, пракамуністычных настрояў. Складаная эканамічная сітуацыя ў аграрным сектары мела і шматлікія іншыя вынікі, якія, на жаль, звычайна застаюцца па-за ўвагай айчыннай гістарыяграфіі. Напрыклад, той жа аўтар «Беларускай крыніцы» казаў пра сваеасаблівы канфлікт пакаленняў, руйнаванне традыцыйных патрыярхальных сямейных адносін у заходнебеларускай вёсцы: «Зямлі мала, даходаў яшчэ меней, а расходы вялікія. Кожны сябра сялянскае сям'і, атрымліваючы на сваю долю вельмі малую частку даходу з гаспадаркі, — лічыць сябе пакрыўджаным, не разумеючы той агульнай прычыны, якая прыводзіць да галіты.

Пры гэткіх абставінах адносіны паміж бацькамі і дзецьмі прынялі, сапраўды, пагражаючы характар і, калі жыцьцё ня зменіцца на лепшае, то сучаснаму сямейнаму ладу нашага сялянства пагражае паважная небясьпека.

Бацькі ў большасьці выпадкаў выкарыстоўваюць, як паўнаўласныя гаспадары, свае праўныя прывілеі і распараджаюцца гаспадаркаю, ня лічычыся з інтарэсамі сваіх дарослых дзяцей...

З другога боку, — дзеці, працуючы на бацькоўскай гаспадарцы, ня маюць прад сабой будучыні і бачаць, што ім няма куды падзецца.

У гэткім жыцьці дзеці бацькоў ня толькі не шануюць, але крыўдзяць і жадаюць хутчэйшай іхняй сьмерці.

Сапраўды, як гэта ні жудасна, а справы на вёсцы ўлажыліся ў такі спосаб, што толькі смерць бацькоў разьвязвае дзецям рукі і яны пачынаюць тады самастойнае гаспадараваньня, пазбыўшыся апекі і няпэўнасьці за сваю будучыню...

Дэмаралізацыя, як вынік паглыбляючагася бядоцтва і анархіі ў лоне сям'і, можа прыняць такія разьмеры, якім трудна будзе даць раду. Асабліва трэба дбаць аб лёс нашай моладзі, каторая падрастае ў ненармальных абставінах...» [92, с. 2].

«Дэмаралізацыя» моладзі закранала не толькі сямейныя адносіны. На старонках тагачаснай заходнебеларускай прэсы паўстае даволі сумная карціна, вельмі далёкая ад распаўсюджаных зараз ідэалізаваных уяўленняў пра высокамаральнае жыццё беларускай вёскі «за польскім часам».

Напрыклад, адзначалася, што адной з вострых сацыяльных праблем моладзі станавілася п’янства: «Разам з беднатой і галітой нашае вёскі перазмерна шырыцца зьдзічэньне і сапсутасьць моладзі. Моладзь, шукаючы пацехі ў сваім шэрым і цяжкім жыцьці, сьпіваецца атрутай-дэнатуратам, продаж якога даступны кожнаму. Сьпіваючыся губіць здароўе, марнуе апошні дабытак і ідзе на злачыны. Нажовыя расправы і зладзейства — з’явішчы на вёсках ня рэдкія і ў большасьці выпадкаў ёсьць вынікам дзеяньня “чортавага зельля”, якое, дарэчы будзе сказана, нехта шчодраю рукою дастаўляе нам у самыя глухія вёскі» [88, с. 2].

Даволі напружаным было і крымінагеннае становішча ў вёсцы, таксама пэўным чынам звязанае з цяжкай эканамічнай сітуацыяй. Як адзначаў баранавіцкі карэспандэнт «Беларускай крыніцы», «справа ў тым, што нават на “дармавыя” гульні патрэбны грошы, бо трэба і лепш адзецца, купіць лепшых папіросаў, і мець пару залатовак на выпіўку, бо на кожных танцах буфэт на месцы... А скуль узяць гэтыя залатоўкі? Найгорш тое, што зарабіць няма дзе, бацькі таксама ня маюць адкуль узяць, дык моладзь сама дастае, дзе папала і як папала, ад сваіх і чужых.

Вось у гэтым і будзе трагедыя нашай моладзі! А маючы зьвіхнутае сумленьне і жывучы гульнёй і выпіўкай, моладзь ня чуе ніякой перашкоды на дарозе зла і ідзе ёй з заплюшчанымі вачыма» [52, с. 1].

Яшчэ адной праявай «дэмаралізацыі» маладога пакалення было стаўленне да рэлігіі, дакладней, абыякавыя ці нават варожыя адносіны да царквы, як каталіцкай, так і праваслаўнай. Беларускія нацыянал-дэмакраты звязвалі гэта з недахопамі ўрадавай маладзёжнай палітыкі і камуністычнай антырэлігійнай прапагандай: «Дзякуючы адсутнасці рацыянальна пастаўленага грамадзскага выхаваньня моладзь наша псуецца маральна, у выніку чаго ў застрашваючы спосаб на вёсках пашыраецца хуліганства, кражы і ўсялякія іншыя злачыны. Прапаганда бязбожнікаў таксама дае свае вынікі.

Моладзь амаль зусім ня ходзіць у царкву і касьцёл і наагул не выяўляе ніякага зацікаўленьня да пытаньняў маральнага характару.Усё часьцей здараюцца выпадкі чынных выступленьняў проці хрысьціянскага духавенства, маючыя выразна хуліганскі характар і бязумоўна кіраваныя падземнымі, камуністычнымі сіламі» [93, с. 3]. Аднак наўрад ці гэтыя працэсы можна тлумачыць толькі нейкім знешнім ўплывам. Няма сумнення, што мелі месца і больш глыбокія прычыны такога становішча. Вельмі цяжка чакаць «зацікаўленьня да пытаньняў маральнага характару», калі існуе рэальная пагроза галечы. Таксама трэба адзначыць і тое, што царкоўныя колы, асабліва праваслаўныя, не заўсёды былі здольныя ўлічваць маладзёжную спецыфіку, каб прыцягнуць пад свой уплыў маладых прыхаджан.

У сувязі з цяжкім эканамічным становішчам працэсы маргіналізацыі распаўсюджваліся і на гарадскую моладзь, якая вельмі цярпела ад наступстваў беспрацоўя. Вядома, што многія маладыя гараджане не мелі магчымасці нават пачаць сваю працоўную кар’еру. Акрамя ўсяго іншага, такую моладзь і не рэгістравалі ў якасці беспрацоўных, паколькі на дзяржаўны ўлік ставіліся толькі тыя, хто ўжо меў раней працу, а потым страціў яе.

Працоўная моладзь таксама была закранута эканамічным крызісам. Зразумела, што ва ўмовах «вялікай дэпрэсіі» першымі кандыдатамі на звальненне з’яўляліся маладыя малакваліфікаваныя рабочыя. Згодна са статыстыкай, якую прыводзіла ў сваіх дакументах Польская сацыялістычная партыя (далей — ППС), у крызісныя часы па ўсёй Польшчы назіралася сталае скарачэнне колькасці маладых рабочых. Так, калі ў 1931 г. на кожныя 100 працуючых у прамысловасці прыпадала 4,4 маладых рабочых, то ў 1932 г. гэтая лічба зменшылася да 3,6, а ў 1936 г. нават да 2,7 [228].

Не лепшым было і становішча сярод маладой інтэлігенцыі, прадстаўнікоў т. зв. вольных прафесій. Атрыманне вышэйшай адукацыі зусім не гарантавала атрыманне працоўнага месца. Тыя ж дакументы ППС сведчылі, што, напрыклад, у 1937 г. ва ўсёй краіне мелася 2 тыс. маладых аплікантаў, кандыдатаў на судзейскія пасады. Пры гэтым штогод у Польшчы прызначалася 70 новых суддзяў. Такім чынам, аплікант вымушаны быў чакаць прызначэння на пасаду ў сярэднім каля 14 гадоў [228].

Неабходна адзначыць, што складаная эканамічная сітуацыя адмоўна адбівалася не толькі на маральным стане маладога пакалення. Не лепшым быў і стан фізічнага здароўя заходнебеларускай моладзі, а гэта, у сваю чаргу, маглоператварацца ў праблему дзяржаўнага ўзроўню. Напрыклад, вядома, што занепакоенасць арэмейскіх структур выклікаў нізкі ўзровень гігіены на вёсцы і звязаны з гэтым дрэнны стан здароўя прызыўнікоў. Асабліва трывожныя звесткі прыходзілі з усходніх ваяводстваў. У некаторых вёсках з пяці юнакоў толькі адзін мог атрымаць «катэгорыю здароўя А» (прыдатны да страявой службы ў мірны час). Вёскі ва ўласна польскіх землях пераўзыходзілі беларускія і ўкраінскія з пункту гледжання гігіены і стану здароўя прызыўнікоў, там колькасць прыдатных да службы юнакоў часам дасягала нават 50%. Вёска, у якой 60% прызыўнікоў былі прыдатнымі да службы, лічылася ўзорнай.

Дрэннае харчаванне разам з няведаннем правіл гігіены выклікалі рост захворванняў, асабліва сярод беларусаў і ўкраінцаў. Найбольш распаўсюджанымі былі туберкулёз і трахома (хвароба вачэй). Так, у 1933 г. на трахому хварэла больш за 10% прызыўнікоў у Віленскім, Палескім і Навагрудскім ваяводствах. Высокім быў працэнт вызвалення ад службы па прычыне дрэннага стану зубоў — да 9%.

Такое становішча захоўвалася да канца 1930-х гг. У 1937 г. урачэбныя камісіі працягвалі заяўляць пра вялікую колькасць непрыдатных прызыўнікоў. Сярод прычын гэтага называліся няведанне правілаў гігіены, адсутнасць дактароў, высокі кошт лекаў і медыцынскіх паслуг. Яшчэ адна прычына — неразвітая сетка бальніц на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Напрыклад, калі ў 1938 г. у Варшаве на 10 тыс. жыхароў даводзілася 61 ложка-месца, у Сілезіі — 71, у Познанскім ваяводстве — 40, то ў Віленскім ваяводстве — 17, а ў Палескім — наогул толькі 3 [212, с. 13—15].

Для больш дакладнай і падрабязнай характарыстыкі становішча заходнебеларускай моладзі неабходна закрануць і такое даволі складанае і заблытанае пытанне, як нацыянальны склад маладога пакалення. Калі верыць афіцыйным дадзеным польскага перапісу 1931 г., то ў Віленскім, Навагрудскім і Палескім ваяводствах сваёй роднай мовай польскую назвалі 42,5% насельніцтва, а беларускую — 22,5% [87, с. 221]. У абсалютных лічбах гэта 1 483 211 палякаў і 719 339 беларусаў адпаведна. Акрамя таго, на ўсёй тэрыторыі

Заходняй Беларусі, асабліва ў гарадах, значную частку насельніцтва складалі яўрэі. Самы высокі працэнт іх быў у Брэсцкім (14,9%) і Пінскім (11,2%) паветах [279, с. 132].

Аднак дадзеныя, якія прыводзіць перапіс 1931 г., неабходна разглядаць крытычна. Нават у сакрэтным даследаванні, якое было падрыхтавана спецыяльна для Інстытута вывучэння нацыянальных спраў у 1939 г., адзначалася, што вынікі перапісу 1931 г. у пытанні роднай мовы «выяўляюць адносныя неадпаведнасці для амаль 50% раёнаў» [279, с. 129]. Акрамя слабай нацыянальнай самасвядомасці насельніцтва, на гэта паўплывала, на думку аўтара даследавання, тое, што пытанні перапісу былі для большасці жыхароў незразумелымі. Таксама адзначалася, што многія перапісчыкі не мелі адпаведнай падрыхтоўкі, не разумелі сэнсу паняцця «родная мова» і таму кваліфікавалі родную мову па сваім меркаванні. Вельмі часта рубрыка «родная мова» свядома запаўнялася не на месцы, а на сядзібе перапіснай камісіі ці ў гміне. Напрыклад, у даследаванні прыводзіўся выпадак у гміне Казлоўшчына Слонімскага павета. Там мясцовая настаўніца, якая праводзіла перапіс, падала такі высокі працэнт «палякаў-праваслаўных», што нават гмінныя ўлады пачалі пратэставаць, сцвярджаючы, што «памылка з’яўляецца празмерна яскравай». Тым больш, што на тэрыторыі гміны пражывала насельніцтва, якое было «абыякава ці нават варожа настроена ў адносінах да польскай дзяржаўнасці» [279, с. 129]. Як бачым, нават прадстаўнікі ўлад неафіцыйна лічылі перапіс 1931 г. недакладным.

Польскія ўлады ішлі і на свядомы падман, калі палякамі запісваліся беларусы-каталікі. Таксама, выкарыстоўваючы нізкую нацыянальную самасвядомасць часткі беларусаў, больш за 700 тыс. чалавек, у асноўным на тэрыторыі Палескага ваяводства, былі аб’яўлены «тутэйшымі», якія лічыліся своеасаблівай этнічнай групай польскага насельніцтва.

Польскі перапіс насельніцтва 1931 г. аспрэчваецца ў сучаснай айчыннай гістарыяграфіі. Называюцца розныя лічбы адносна колькасці беларускага насельніцтва ўсходніх ваяводстваў 2-й РП. Найбольш верагоднымі можна прызнаць звесткі, якія былі прыведзены ў «Нарысах гісторыі Беларусі» ў сярэдзіне 90-х гг. XX ст.: на тэрыторыі Віленскага, Навагрудскага і Палескага ваяводстваў беларусы складалі 67% насельніцтва, палякаў было не

42,5%, а 12—13%, украінцаў жыло 5—6%, яўрэяў — каля 9%, рускіх — 2%, літоўцаў — 3% [87, с. 221]. Некаторыя навукоўцы лічаць, што тут у 1931 г. з 4 млн 600 тыс. чалавек беларусы складалі 65%, а палякі — 15% [61, с. 371].

У любым выпадку можна лічыць, што беларусы складалі значную большасць насельніцтва Заходняй Беларусі. Адпаведна можна сцвярджаць, што і беларуская моладзь складала большасць сярод сваіх равеснікаў. Асабліва калі мець на ўвазе, што беларусы жылі ў асноўным ў вёсцы, дзе ў сем'ях дзяцей было звычайна больш, чым у гарадах.

Для разумення становішча маладога пакалення Заходняй Беларусі нельга абмінуць і сітуацыю, якая склалася ў галіне адукацыі. Як ужо адзначалася вышэй, у рэгіёне быў самы высокі працэнт непісьменных у польскай міжваеннай дзяржаве. Галоўнай прычынай такога стану рэчаў быў недахоп фінансавых сродкаў на будаўніцтва школ. Пры гэтым, як і ў іншых выпадках, становішча з будаўніцтвам новых школ ва ўсходніх ваяводствах 2-й РП было горшым, чым у сярэднім па краіне. Калі ў сярэднім па краіне на 100 км$^2$ прыходзілася 7,3 школы, то ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах гэтая лічба складала толькі 5,4, а ў Палескім ваяводстве — 3,4 [55, с. 98].

Акрамя таго, што значная колькасць дзяцей не ахоплівалася школьным навучаннем, у міжваеннай Польшчы развіваліся ў асноўным школы ніжэйшай ступені. Справа ў тым, што, згодна з законам 1932 г. «Аб упарадкаванні школьніцтва», школа падзялялася на тры ступені: да першай, ніжэйшай, ступені адносіліся школы з I—IV класамі, да другой ступені — з I—VI класамі і да трэцяй ступені — з I—VII класамі. Сярэдняя школа засноўвалася на школе другой ступені, пасля якой ішлі чатырохгадовая гімназія і двухгадовы ліцэй. Такім чынам, поўны курс агульнаадукацыйнай падрыхтоўкі, які даваў права на паступленне ў вышэйшыя навучальныя ўстановы (далей — ВНУ), працягваўся 12 гадоў. У 2-й РП 47% вучняў, якія пражывалі ў сельскай мясцовасці, наведвалі школы першай ступені (I—IV класы), дзе і заканчвалася іх навучанне. У 1937 г. толькі 16,5% дзяцей ва ўзросце 13—14 гадоў скончылі сямігадовую школу, што на ўсю краіну склала 34 тыс. вучняў [66, с. 111].

У Палескім ваяводстве ў 1939 г. з 1 075 усеагульных школ 811 (75,5%) з’яўляліся школамі першай ступені, 170 (15,8%) — другой ступені і толькі 94 (8,7%) школы адносіліся да трэцяй ступені [55, с. 99]. Для параўнання: у этнічна польскіх ваяводствах да 1930-х гг. школы першай ступені складалі 72,4% ад усёй колькасці ўсеагульных школ, школы другой ступені — 17,5%, а школы трэцяй ступені — 10,1% [66, с. 111].

Не лепшым было і становішча ў галіне сярэдняй адукацыі. Адбывалася скарачэнне колькасці вучняў у гімназіях і колькасці саміх гімназій. Усяго на тэрыторыі Заходняй Беларусі колькасць гімназій скарацілася з 85 (17 800 вучняў) у 1927/28 навучальным годзе да 54 (15 900 вучняў) у 1938 г. [87, с. 222].

У сувязі з гэтым неабходна звярнуць увагу і на нацыянальны склад вучняў сярэдняй школы 2-й РП. Напрыклад, можна прывесці афіцыйныя звесткі за 1934/35 навучальны год па Навагрудскім ваяводстве (табл. 2).

Т а б л і ц а 2 — Родная мова вучняў гімназій [211, с. 119]

| Тып гімназіі | Колькасць вучняў | Родная мова | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | польская | беларуская | яўрэйская | іншыя |
| Дзяржаўныя | 1 893 | 1 223 | 125 | 420 | 125 |
| Прыватныя | 619 | 185 | 15 | 398 | 21 |
| Усяго:<br>чалавек<br>% | <br>2 512<br>100,0 | <br>1 408<br>56,1 | <br>140<br>5,5 | <br>818<br>32,6 | <br>146<br>5,8 |

Як бачна, нацыянальны склад вучняў не адпавядаў нацыянальнаму складу насельніцтва рэгіёна. Беларусы, якія складалі большасць гэтага насельніцтва, у гімназіях былі прадстаўлены ў мізэрнай колькасці. Афіцыйныя крыніцы тлумачылі гэта тым, што большасць вучняў сярэдняй школы складаюць гарадскія жыхары, а беларусы, як вядома, у асноўным пражывалі ў вёсцы.

Гэта, а менавіта беднасць заходнебеларускай вёскі, рабіла сярэднюю школу недасягальнай для большасці вучняў. Кошт навучання ў гімназіі быў даволі высокі. Вядома, напрыклад, што

ў 1931/32 навучальным годзе ўступная плата ў дзяржаўнай гімназіі складала 223 злотыя. Для параўнання — карова на рынку каштавала каля 100—200 злотых [55, с. 74]. Яшчэ большай была плата ў прыватных сярэдніх школах — ад 500 да 1 000 і нават больш злотых у год. Акрамя таго, існавала дадатковая плата за здачу экзаменаў, бланкі пасведчанняў і інш. Іншагароднія вучні павінны былі плаціць за жыллё і харчаванне. Трэба адзначыць, што цалкам ад аплаты за навучанне ў дзяржаўнай сярэдняй школе маглі вызваляцца толькі незаможныя вучні-выдатнікі, пры гэтым прадугледжвалася, што лічба такіх вучняў не павінна перавышаць 10% ад усёй колькасці вучняў дадзенай школы. Адначасова ад аплаты часткова вызваляліся дзеці дзяржаўных чыноўнікаў і прафесійных вайскоўцаў, у выключных выпадках — дзеці з незаможных сем'яў. Дзецям чыноўнікаў і вайскоўцаў дзяржаўныя ўлады ў 1928/29—1931/32 навучальных гадах давалі магчымасць вучыцца ў прыватных сярэдніх школах пры ўмове, што ў дадзенай мясцовасці не было дзяржаўных гімназій ці не было месцаў у гэтых школах. У гэтым выпадку ім кампенсаваліся ўсе выдаткі, звязаныя з вучобай [109, с. 183].

Як ужо адзначалася вышэй, польскія ўлады да канца 1930-х гг. фактычна ліквідавалі беларускае школьніцтва на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў 2-й РП. Існуючыя дзяржаўныя ўсеагульныя школы і гімназіі былі ператвораны ў інструмент паланізацыі мясцовай моладзі і ўзмацнення польскага ўплыву на ўскраінах польскай дзяржавы. Так, у 1937 г. на нарадзе ваявод і камандуючых ваенных акруг навагрудскі ваявода А. Корвін-Крукоўскі адкрыта заяўляў: «У школе патрэбна рабіць пэўны ціск у накірунку апрацоўкі беларусаў. Часта гэта будзе гвалтоўна, але мэта з'яўляецца вялікай... Школа — гэта тое, што стварае польскасць. Лозунг пра апалітычнасць школы — гэта нейкая недарэчнасць. На крэсах школа павінна быць палітычнай, гэта зброя, якая выкарыстоўваецца палітычнай адміністрацыяй» [197, с. 104].

У выніку рэалізацыі адпаведна распрацаваных адукацыйных і выхаваўчых праграм у школе склалася сітуацыя, якую выразна характарызуюць словы аднаго вучня-беларуса: «На працягу ўсяго навучання ва ўсеагульнай школе я наогул нічога не пачуў пра сваю вёску, пра культуру і творчасць народа, ад крыві і косці якога мы

паходзім. Ніхто ні слова не паведаміў ні пра гісторыю беларускай нацыі, ні пра яе літаратуру» [192, с. 113].

Цяжкае эканамічнае становішча рабіла недасягальнай для заходнебеларускай моладзі і вышэйшую адукацыю. Плата за навучанне была проста непад'ёмнай. Дэпутат польскага Сейма ад ППС С. Дзюбуа ў час парламенцкіх дэбатаў 21 лютага 1933 г. заяўляў, што ў той крызісны час, калі агульныя заробкі ў Польшчы скараціліся на 50%, плата за навучанне ў ВНУ павялічылася больш, чым на 100%. Так, плата за год навучання на юрыдычным факультэце вырасла са 106 да 270 злотых. Калі студэнт не выплачваў належную суму своечасова, то на яго накладаўся штраф — 40 злотых. Павялічылася і плата за экзамен — з 5 да 10 злотых [134].

У такіх умовах сярод студэнтаў універсітэта імя С. Баторыя (далей — УСБ) у Вільні беларусы складалі мізэрны працэнт (табл. 3).

Што да апошняга перадваеннага навучальнага года (1938/39), то яго афіцыйныя крыніцы прыводзілі толькі дадзеныя пра веравызнанне студэнтаў УСБ. Згодна з імі, сярод студэнтаў і вольных слухачоў універсітэта было 2 205 католікаў, 17 грэка-католікаў, 50 пратэстантаў, 409 праваслаўных, 438 іудзеяў, 7 стараабрадцаў, 15 мусульман і 7 караімаў [236, с. 237]. Цяжка высветліць, колькі канкрэтна было сярод іх беларусаў, але наўрад ці колькасць студэнтаў-беларусаў значна змянілася ў параўнанні з папярэднімі гадамі.

Невялікая колькасць студэнтаў-беларусаў таксама вучылася і ў іншых ВНУ 2-й РП. Што да Вільні, то трэба адзначыць, што тут, акрамя УСБ, у міжваенны перыяд дзейнічала яшчэ адна ВНУ, якая мела вельмі спецыфічны характар і пра якую амаль не згадваецца ў айчыннай гістарыяграфіі. З 1930 г. пры Навукова-даследчым інстытуце Усходняй Еўропы існавала школа палітычных навук (далей — ШПН), якая мела «няпоўныя правы ВНУ». Яна давала сваім слухачам вышэйшую адукацыю і рыхтавала іх да «будучай працы, у першую чаргу на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў у дзяржаўнай адміністрацыі, фінансах, мясцовым і гаспадарчым самакіраванні, спецыяльным школьніцтве, кааператывах і грамадскіх арга-нізацыях, а таксама да працы, якая вынікае з дзяржаўнага суісна-вання Рэчы Паспалітай з Савецкай Расіяй і Балтыйскімі дзяржавамі ў палітычнай (консульскія адносіны),

Т а б л і ц а 3 — Нацыянальны склад студэнтаў УСБ [231, 235, 254—258]

| Навучальны год | Нацыянальнасць | | | | | | | Агульная колькасць студэнтаў |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | палякі | літоўцы | беларусы | немцы | рускія | яўрэі | іншыя | |
| 1919/20 | 472 | 6 | 5 | 2 | 6 | 53 | 3 | 547 |
| 1920/21 | 647 | 4 | 19 | 3 | 7 | 103 | 5 | 788 |
| 1921/22 | 1 349 | 7 | 49 | 7 | 17 | 297 | 9 | 1 735 |
| 1922/23 | 1 777 | 16 | 48 | 4 | 24 | 317 | 16 | 2 202 |
| 1923/24 | 1 778 | 12 | 36 | 3 | 21 | 350 | 9 | 2 209 |
| 1924/25 | 1 802 | 14 | 30 | 3 | 27 | 356 | 6 | 2 238 |
| 1925/26 | 1 995 | 15 | 26 | 3 | 47 | 417 | 3 | 2 506 |
| 1926/27 | 2 121 | 22 | 21 | 2 | 69 | 556 | 15 | 2 806 |
| 1927/28 | 2 042 | 32 | 32 | 2 | 72 | 694 | 23 | 2 897 |
| 1928/29 | 2 031 | 42 | 53 | 4 | 57 | 853 | 43 | 3 083 |
| 1929/30 | 2 171 | 50 | 55 | 9 | 111 | 891 | 49 | 3 336 |
| 1930/31 | 2 231 | 70 | 55 | 6 | 150 | 985 | 54 | 3 551 |
| 1931/32 | 2 292 | 97 | 85 | 7 | 170 | 1 111 | 65 | 3 827 |
| 1932/33 | 2 246 | 97 | 79 | 8 | 206 | 1 180 | 63 | 3 879 |
| 1933/34 | 2 285 | 101 | 93 | 13 | — | 1 063 | 285 | 3 840 |
| 1934/35 | 2 285 | 110 | 79 | 11 | 150 | 785 | 122 | 3 542 |
| 1935/36 | 2 156 | 105 | 92 | 70 | 165 | 605 | 43 | 3 236 |
| 1936/37 | 2 272 | 105 | 94 | 11 | 220 | 636 | 44 | 3 382 |
| 1937/38 | 2 234 | 85 | 94 | 12 | 210 | 415 | 31 | 3 081 |

*Заўвага*. Звесткі аб колькасці студэнтаў рускай нацыянальнасці за 1933/34 навучальны год адсутнічаюць.

гаспадарчай і культурнай сферах» [293, с. 3]. Фактычна, дадзеная навучальная ўстанова ажыццяўляла падрыхтоўку будучых і дзеючых чыноўнікаў польскай акупацыйнай адміністрацыі. Пра гэта сведчыў і склад яе слухачоў. Так, у 1933 г. сярод 236 слухачоў ШПН было 15 студэнтаў УСБ, 27 вайскоўцаў, 51 чыноўнік, 25 настаўнікаў, 25 «работнікаў разумовай працы», 93 асобы без

прафесіі. Нацыянальны склад — 199 палякаў, 17 рускіх, 6 яўрэяў, 8 беларусаў, 3 літоўцы і 3 украінцы [292, с. 7].

Неабходна адзначыць і тое, што некаторая колькасць беларусаў атрымлівала вышэйшую адукацыю за межамі Польшчы — у Чэхаславакіі, урад якой штогод выдаткоўваў пэўныя сумы на стыпендыю для моладзі з Беларусі [76, с. 175].

Вышэй ужо адзначалася, што сярод заходнебеларускай моладзі назіраліся праявы антырэлігійных настрояў. Тым не менш, узровень рэлігійнасці насельніцтва заставаўся даволі высокімі, што ўплывала і на становішча маладога пакалення рэгіёна.

У сувязі з гэтым таксама трэба ўлічваць і шматканфесійнасць насельніцтва. На жаль, у нас няма магчымасці прывесці дакладную статыстыку адносна канфесійнага складу маладога пакалення Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд. Але можна згадзіцца з тым, што ён прыкладна супадаў з лічбамі, якія адносіліся да ўсяго насельніцтва паўночна-ўсходніх ваяводстваў 2-й РП (табл. 4).

У міжваеннай польскай дзяржаве заканадаўча гарантавалася адсутнасць якой-небудзь дыскрымінацыі па рэлігійнай прыкмеце. Але, з другога боку, Канстытуцыя Польшчы 1921 г. прызнавала прымат каталіцтва і абʼяўляла, што каталіцкая вера зʼяўлялася першай сярод роўных. «Санацыйная» Канстытуцыя 1935 г. паўтарала гэтыя палажэнні. Акрамя таго, паміж 2-й РП і Ватыканам быў падпісаны канкардат, які рэгуляваў адносіны паміж дзяржавай і каталіцкім касцёлам на асновах аўтаноміі і супрацоўніцтва. У выніку каталіцкая царква ў міжваеннай польскай дзяржаве займала дамінуючае становішча [104, с. 32—33]. Такім чынам, маладыя католікі таксама ставіліся быццам бы ў прывілеяванае становішча ў параўнанні з равеснікамі іншых веравызнанняў, што, у сваю чаргу, вяло да датковай напружанасці і яшчэ больш ускладняла сітуацыю ў маладзёжным асяроддзі рэгіёна.

Спецыфіка становішча моладзі Заходняй Беларусі ўплывала і на спецыфіку развіцця маладзёжнага руху, на яго палітызаванасць і радыкалізацыю. Разнародная структура моладзі, нявырашанасць шматлікіх сацыяльных, эканамічных і нацыянальных праблем вялі да таго, што ў міжваенны час за ўплыў на маладое пакаленне змагаліся шматлікія палітычныя партыі і групоўкі, якія прадстаўлялі ўвесь палітычны спектр 2-й РП — ад крайне правых польскіх нацыяналістаў да левäрадыкальных камуністаў. Таксама ў

Т а б л і ц а 4 — Дадзеныя польскай статыстыкі аб канфесійным складзе паўночна-ўсходніх ваяводстваў у 1930-я годы [104, с. 31—32]

| Канфесійны склад | Колькасць | Канфесійны склад | Колькасць |
|---|---|---|---|
| *Беластоцкае ваяводства* | | *Навагрудскае ваяводства* | |
| УСЯГО, тыс. чалавек | 1 674 | УСЯГО, тыс. чалавек | 1 081 |
| З іх, %:<br>католікі | 58,6 | З іх, %:<br>католікі | 39,5 |
| праваслаўныя | 16,1 | праваслаўныя | 51,2 |
| іўдзеі | 14,7 | іўдзеі | 9,0 |
| іншыя | 1,6 | іншыя | 0,3 |
| *Віленскае ваяводства* | | *Палескае ваяводства* | |
| УСЯГО, тыс. чалавек | 1 275 | УСЯГО, тыс. чалавек | 1 164 |
| З іх, %:<br>католікі | 61,2 | З іх, %:<br>католікі | 7,8 |
| праваслаўныя | 26,8 | праваслаўныя | 79,2 |
| іўдзеі | 9,4 | іўдзеі | 12,6 |
| іншыя | 2,6 | іншыя | 0,4 |

маладзёжным асяроддзі вялі сваю працу нацыянальныя арганізацыі — яўрэйскія, беларускія, літоўскія. Вялікую актыўнасць праяўляў і Рымска-каталіцкі касцёл. Больш падрабязна гэтая «барацьба за душы» маладога пакалення будзе паказана ніжэй, пры аналізе ўзаемаадносін польскіх улад і праўрадавага маладзёжнага руху са сваімі праціўнікамі ў ходзе рэалізацыі асноўных накірункаў афіцыйнай маладзёжнай палітыкі.

Тут неабходна толькі адзначыць, што пры ажыццяўленні гэтай палітыкі кіруючым колам польскай дзяржавы і іх маладзёжным арганізацыям прыходзілася ўлічваць не толькі існаваўшыя сацыяльна-эканамічныя, дэмаграфічныя, нацыянальна-культурныя і канфесійныя адносіны, але і сур’ёзную канкурэнцыю з боку сваіх палітычных праціўнікаў. Наколькі гэта ўдавалася рабіць у тэорыі і на практыцы, мы паспрабуем паказаць у далейшым.

## 2.2 Выхаваўчая канцэпцыя «санацыі» і яе эвалюцыя

Моладзь, якая складала значную частку грамадства 2-й РП, не магла заставацца па-за ўвагай кіруючых колаў дзяржавы. Паставіўшы перад сабой мэту аздараўлення ўсіх сфер жыцця грамадства, ідэолагі «санацыі» павінны былі ўлічваць і сферу выхавання маладога пакалення, распрацоўваць і ажыццяўляць мэтанакіраваную маладзёжную палітыку. Сам тэрмін «маладзёжная палітыка» не выкарыстоўваўся, але гэта не значыць, што не існавала з'явы, якую ён азначаў. На працягу свайго існавання «санацыйны» рэжым надаваў вельмі сур'ёзную ўвагу працы з моладдзю і праблемам яе выхавання. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, заява віцэ-маршалка Сейма В. Макоўскага ў 1934 г., калі ён падкрэсліў у сваёй прамове, што выхаванне грамадзяніна з'яўляецца мэтай дзяржавы і яе абавязкам [177, с. 210].

Тэарэтычнай асновай афіцыйнай маладзёжнай палітыкі стала канцэпцыя «дзяржаўнага выхавання», якая дэкларавала як асноўныя выхаваўчыя ідэалы «санацыі», так і шляхі іх рэалізацыі.

Першапачаткова дадзеная канцэпцыя ўзнікла ў якасці процівагі «нацыянальнаму выхаванню», ідэі якога былі сфармуляваны прадстаўнікамі польскай партыі нацыянальных дэмакратаў (эндэкаў) і дамінавалі ў сферы афіцыйнай маладёжнай палітыкі 2-й РП да 1926 г. Для дадзенай канцэпцыі было характэрна разуменне нацыі як вышэйшай маральнай і грамадскай вартасці [155, с. 42]. Лічылася, што галоўнай мэтай выхаваўчай дзейнасці павінна стаць фарміраванне ў моладзі рыс, неабходных для нацыі [265, с. 55]. Што да канкрэтных патрабаванняў, то павінны былі выхоўвацца такія якасці, як вялікія гістарычныя памкненні, моцнае пачуццё нацыянальнага гонару, клопат пра захаванне нацыянальнай самастойнасці, нацыянальная салідарнасць, паслушэнства перад законам [155, с. 42]. Зразумела, на ўвазе мелася польская нацыя, што выклікала супраціўленне ў шматнацыянальнай 2-й РП.

Палітычныя праціўнікі эндэкаў, прыхільнікі Ю. Пілсудскага, востра крытыкавалі «нацыянальнае выхаванне». Яны ставілі на першы план сваёй ідэалогіі дзяржаву і яе інтарэсы. Менавіта дзяржава, на іх думку, з'ўлялася вышэйшай каштоўнасцю для ўсіх грамадзян, і толькі дзяржаўная арганізацыя магла забяспечыць

поўнае развіццё асобы. Галоўным лозунгам «санацыйнай» канцэпцыі, якая пачала фарміравацца яшчэ да мая 1926 г., было «выхаванне чалавека волі і дзеяння, чалавека калектыўнай працы і думкі» [109, с. 184].

Ідэолагі «санацыі» абвінавачвалі прыхільнікаў «нацыянальнага выхавання» ў тым, што яны карысталіся катэгорыямі часоў няволі і не змаглі вызначыць і гарманізаваць намаганні выхавання з мэтамі і патрэбамі ўласнай незалежнай дзяржавы [109, с. 184]. Пілсудчыкі заяўлялі, што атаясамліванне выхавання толькі з «нацыянальным выхаваннем» павінна быць «раз і назаўсёды выдалена з выхаваўчай сферы як шкодны накірунак, які падрывае будынак польскай дзяржаўнасці» [139, с. 616].

Зацікаўленасць праблемамі выхавання моладзі будучыя «санатары» праяўлялі яшчэ да мая 1926 г., калі адбыўся дзяржаўны пераварот пад кіраўніцтвам Ю. Пілсудскага. Напрыклад, у снежні 1925 г. было заяўлена, што ў моладзі патрэбна абудзіць пачуццё любві да дзяржавы і Айчыны, гонару за прыналежнасць да дзяржавы і нацыі, сфарміраваць пачуццё адказнасці ў адносінах да дзяржавы, грамадства і нацыі [234, с. 85].

Прадстаўнікі «санацыі» разумелі, што, каб замацаваць свой рэжым, неабходна праводзіць адпаведную выхаваўчую палітыку. Ужо пасля перавароту, у 1926 г., адзін з «санацыйных» публіцыстаў, Г. Лінц, заявіў, што ўслед за ваеннай рэвалюцыяй павінна адбыцца рэвалюцыя выхавання. Без другой рэвалюцыі першая ў сваіх наступствах была б вельмі павярхоўнай [110, с. 75]. Сутнасць такой рэвалюцыі ўдакладніў у адной са сваіх прамоў палкоўнік В. Славек, кіраўнік створанага перад парламенцкімі выбарамі 1928 г. «санацыйнага» ББСУ і лідар т. зв. групы палкоўнікаў. Сярод задач ББСУ ён называў выпрацоўку ахвярнасці ў імя дзяржавы, выхаванне ў грамадстве свядомасці і перакanання ў тым, што дзяржава з'яўляецца ўсеагульным дабром, якое пераадольвае ўсялякія партыкулярныя адрозненні, а таксама вызначае прынцыпы калектыўнай маральнасці і дзяржаўніцкія заахвочванні да дзеяння [234, с. 86]. Той жа В. Славек адзначаў, што выхаванне павінна натхняць усё грамадства на нязломнае жаданне да сумеснай працы на карысць дзяржавы [109, с. 184].

Афіцыйна лозунг выхавання ў дзяржаўным духу ўпершыню з'явіўся ў 1927 г. у статуце выхаваўчай працы для сярэдніх

агульнаадукацыйных і прафесійных школ і настаўніцкіх семінарый у выглядзе наступнай фармулёўкі: «галоўнай задачай кожнай школы павінна быць выхаванне маладога пакалення фізічна і маральна здаровымі, дзяржаўнатворчымі грамадзянамі» [248, с. 47].

Практычная рэалізацыя «дзяржаўнага выхавання» пачалася на рубяжы 1920—1930-х гг. Адным з вядучых тэарэтыкаў і творцаў яго быў міністр адукацыі С. Чэрвіньскі. У ліпені 1929 г. ён выступіў з праграмнай прамовай «Аб выхаваўчым ідэале польскай школы», у якой вызначыў мэты і задачы «дзяржаўнага выхавання». Па меркаванні С. Чэрвіньскага, выхаваўчым ідэалам павінен быў стаць тып грамадзяніна-дзяржаўніка, які б адначасова быў і байцом, і працаўніком. Адроджанай польскай дзяржаве патрабаваўся грамадзянін, які б «мужнай паўсядзённай працай, а пры неабходнасці і свяшчэнным запалам барацьбы даказваў свой актыўны, шчыры патрыятызм» [177, с. 208].

Асноўнымі рысамі гэтага ўзорнага грамадзяніна павінны былі стаць: «жыццёвая актыўнасць», моцная воля, энергічнасць, вера ва ўласныя сілы, здольнасць да працы, дынамізм, настойлівасць, дысцыплінаванасць, лаяльнасць і ахвярнасць ў адносінах да дзяржавы. Гэтая мадэль павінна была адносіцца да ўсяго грамадства, незалежна ад нацыянальнасці [248, с. 48]. Акрамя таго, як удакладняў міністр у адным са сваіх пазнейшых газетных артыкулаў, выхаванне павінна было сфарміраваць у навучэнцаў такую пазіцыю, якая б настройвала іх да «да службы дзяржаве, а не да жыцця за кошт дзяржавы» [123, с. 67].

Яшчэ адным актыўным прыхільнікам і правадніком ідэй «дзяржаўнага выхавання» быў Я. Енджэ́віч, пераемнік С. Чэрвіньскага. Гэта быў відны польскі палітык «санацыйнага» лагера. Ён ваяваў у Польскіх легіёнах у час Першай сусветнай вайны, з’яўляўся бліжэйшым паплечнікам Ю. Пілсудскага, у 1918 г. быў яго ад’ютантам. Пасля мая 1926 г. Я. Енджэ́віч быў прызначаны ў цэнтральны апарат дзяржаўнай адміністрацыі, з сакавіка 1928 г. абраны дэпутатам Сейма ад ББСУ, з’яўляўся адным з уплывовых лідараў «групы палкоўнікаў». У 1930 г. удзельнічаў у арганізацыі ў Вільні Навукова-даследчага інстытута па вывучэнні Усходняй Еўропы і ШПН (на працягу года быў яе дырэктарам). Са жніўня 1931 г. па люты 1934 г. узначальваў Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы.

Менавіта па яго ініцыятыве прымаліся законы аб школьнай рэформе і вышэйшых навучальных установах, якія выклікалі неадназначную рэакцыю. З мая 1932 г. па май 1934 г. адначасова быў прэм'ер-міністрам. Пасля смерці Ю. Пілсудскага (май 1935 г.) Я. Енджэ́віч адыйшоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці. З верасня 1939 г. знаходзіўся ў эміграцыі, памёр у Лондане ў 1951 г. [216, с. 250—254]. Як бачна з гэтай кароткай біяграфіі, Я. Енджэ́віч меў вялікія магчымасці для практычнай рэалізацыі выхаваўчых канцэпцый «санацыі».

Але першапачаткова пад яго кіраўніцтвам была праведзена вялікая тэарэтычная праца. Цэнтрам яе стала група «Зромб», старшынёй праўлення якой з'яўляўся Я. Енджэ́віч. Два з дзевяці акруговых аддзелаў гэтага аб'яднання існавалі ў Брэсце і Вільні. Арганізацыя мела элітарны характар. Да яе належалі настаўнікі сярэдніх школ, выкладчыкі некаторых універсітэтаў, «санацыйныя» тэарэтыкі выхавання і чыноўнікі сістэмы адукацыі. Галоўнай іх задачай быў кантакт з моладдзю праз арганізацыю лекцый і грамадскай працы. Другім важным накірункам працы былі зносіны з бацькамі, таксама праз лекцыі, курсы і выдавецкую дзейнасць. Асноўнай мэтай гэтых кантактаў было фарміраванне поглядаў моладзі і бацькоў згодна з прынцыпамі «дзяржаўнага выхавання». Планавалася ўвесці моладзь у грамадскае жыццё, пашыраць педагагічныя веды сярод бацькоў, умацаваць супрацоўніцтва школы і сям'і. Сучасныя польскія даследчыкі адзначаюць, што некаторыя ячэйкі, акрамя асветніцка-выхаваўчай дзейнасці, актыўна ўключаліся ў непасрэдна палітычную дзейнасць. Так, напрыклад, адбывалася у Вільні. Вядома, што восенню 1930 г. выкладчыкі УСБ ў Вільні, якія падпісалі пратэст супраць арышту паслоў апазіцыйнага «Цэнтралева», падвяргаліся ціску з боку членаў мясцовага аддзялення «Зромба», таксама выкладчыкаў УСБ, з мэтай адклікання гэтых подпісаў. Віленская арганізацыя «Зромба» карысталася падтрымкай Я. Енджэ́віча ў час яго знаходжання на пасадах міністра асветы і кіраўніка ўрада і стала «адным з нешматлікіх бастыёнаў пілсудчыкаў у вышэйшых навучальных установах» [217, с. 117—118].

У сваёй першай праграмнай дэкларацыі ад 1929 г. група «Зромб» заяўляла, што яна з'яўляецца выразнікам ідэалогіі лагера Ю. Пілсудскага і падтрымлівае дзяржаўны выхаваўчы накірунак;

выхаваўчыя праблемы разглядае ў сувязі з грамадскім жыццём; супрацоўнічае з урадам Ю. Пілсудскага і Міністэрствам рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы [217, с. 116—117].

Друкаваным органам «Зромба» стаў аднайменны часопіс, у якім быў апублікаваны шэраг праграмных артыкулаў Я. Енджэе́віча, прысвечаных праблемам выхавання. У адным з першых артыкулаў ён адзначаў неабходнасць пашырэння выхаваўчых уздзеянняў не толькі на дзяцей і моладзь, але і на дарослых. Такі погляд вынікаў з наступнага факту: аўтар, з’яўляючыся «санацыйным» ідэолагам, падзяляў перакананне аб дзяржаве як суб’екце, што фарміруе публічнае жыццё праз выхаванне цэлых грамадскіх груп [217, с. 119].

Таксама неабходна адзначыць, што Я. Енджэе́віч быў рашучым праціўнікам выхаваўчых уздзеянняў палітычных партый і царквы. Ён лічыў, што сапраўдная мэта іх дзейнасці — атрыманне падтрымкі ў барацьбе за свае «зямныя» інтарэсы. Рымска-каталіцкі касцёл абвінавачваўся ў выкарыстанні амбона ў якасці «паспяховага сродка выбарчай агітацыі», а таксама ў пашырэнні нацыяналізму, антысемітызму і антыпілсудчыкаўскай агітацыі. Афіцыйная выхаваўчая мадэль, сцвярджаў Я. Енджэе́віч, павінна стаяць вышэй выхаваўчых ідэалаў, якія прапагандуюцца царквой і асобнымі палітычнымі партыямі [217, с. 120—121].

У іншым артыкуле Я. Енджэе́віч адзначаў, што «дзяржаўнае выхаванне» імкнецца фарміраваць людзей здольных і жадаючых прымаць свядомы ўдзел у працы арганізаванага ў дзяржаву грамадства. Выхаваны грамадзянін павінен удзельнічаць у павышэнні ўзроўню матэрыяльнай культуры, ва ўдасканаленні грамадскіх адносін, у стварэнні духоўных каштоўнасцей у дзяржаве, якая разглядаецца як агульнае і найвышэйшае дабро [159, с. 315—316]. Ён таксама звяртаў увагу на неабходнасць усведамлення таго, што «дзяржава — гэта не толькі законная ўлада, абаронца і апякун, але таксама і калектыўнае намаганне, калектыўная праца, калектыўны абавязак грамадства» [159, с. 317]. Выступаючы ў лютым 1932 г. у Сейме, міністр Я. Енджэе́віч адзначыў, што «дзяржаўнае выхаванне з’яўляецца грамадзянскім выхаваннем, паколькі ставіць перад сабою мэту падрыхтаваць грамадзяніна, які глыбока ўсведамляе свае абавязкі, з якіх і выцякаюць яго правы. Яно з’яўляецца грамадзянскім і таму, што вучыць падпарадкоўваць свае інтарэсы інтарэсам агульным,

сцвярджае, што існуюць вышэйшыя каштоўнасці, што інтарэсы калектыву вышэй індывідуальных» [216, с. 266].

«Дзяржаўнае выхаванне» разумелася даволі шырока і павінна было ахопліваць як школу, так і пазашкольную моладзь. «Санацыйныя» ідэолагі звычайна называлі і характарызавалі тры асноўныя кампаненты сваёй канцэпцыі выхавання. Па-першае, гэта нацыянальнае выхаванне, мэтай якога было абуджэнне любві да сваёй нацыі і глыбокае знаёмства з яе гісторыяй і культурай. Паколькі польская міжваенная дзяржава была шматнацыянальнай, прызнавалася, што для кожнага з яе народаў нацыянальнае выхаванне будзе розным, але ўсе не палякі ў польскай дзяржаве павінны былі выхоўвацца пад уплывам польскай культуры. Другі кампанент — грамадскае выхаванне, падрыхтоўка асобы да жыцця ў грамадстве, фарміраванне ў асобы рыс «грамадскага працаўніка». Грамадскае выхаванне павінна было стаяць над інтарэсамі асобных класаў ці партый. Трэцім элементам было маральнае выхаванне асобы. Пры гэтым сцвярджалася, што ідэал добрага грамадзяніна з'яўляецца сінонімам маральнага чалавека. Рэлігійнае выхаванне пры гэтым лічылася асабістай справай кожнага, але яно не супярэчыла лініі «дзяржаўнага выхавання» [139, с. 615—618].

Важным элементам «дзяржаўнага выхавання» стаў культ асобы Ю. Пілсудскага. Гэты культ быў неад'емнай часткай «санацыйнай» мадэлі выхавання, стваральнікі якой нават лічылі маршала прыкладам выхаваценя. Так, А. Скварчыньскі, адзін з вядучых «санацыйных» ідэолагаў, адзначаў на старонках часопіса «Зромп»: «Пілсудскі не з'яўляецца ні тэарэтыкам, які вылушчвае паняцці насуперак жыцця, ні дактрынёрам, што шукае мёртвыя прынцыпы. Ён менавіта выхавацель. Ён, як ніхто іншы, бачыць і чуе жыццё і яго законы» [261, с. 14].

Міністр адукацыі К. Світальскі лічыў, што ўвядзенне ў выхаваўчую практыку культу асобы Ю. Пілсудскага з'яўляецца адным з прыярытэтаў. Яго пераемнікі былі цалкам з ім згодны і актыўна насаджалі гэты культ.

Гэта выклікала незадаволенасць палітычных апанентаў «санацыі», у першую чаргу эндэкаў. Яны абвінавачвалі прыхільнікаў «дзяржаўнага выхавання» ў тым, што ў пошуках новых метадаў яны жадаюць абаперці выхаванне на бясспрэчна палітычных пастулатах, а менавіта на выхаванні не проста добрага

дзяржаўніка, а прыхільніка ўрада. Таксама эндэкі лічылі крыўдным для дзіцячай душы, калі ў ёй прышчапляецца тое, што ідэалам з’яўляецца не вялікая нацыя, а вялікі чалавек, які лічыцца героем (на ўвазе меўся Ю. Пілсудскі) [324, с. 1].

На гэта С. Чэрвіньскі заяўляў, што толькі сляпая ад палітычнай нянавісці партыйнасць можа патрабаваць выкрасліць з праграмы грамадзянскага выхавання асобу, «якая дзякуючы сваёй ахвярнай службе дзяржаве стала лепшым сімвалам і прыкладам». Таксама ён сцвярджаў, што немагчыма выхоўваць моладзь на прыкладзе чужых герояў і замоўчваць фігуру «самага вялікага героя нашай уласнай вызваленчай вайны» [122, с. 78].

Наступны міністр, Я. Енджэéвіч, таксама ў час дэбатаў ў Сейме, заявіў: «Наш суд аб гісторыі аднаўлення нашай незалежнасці вызначаны; у тых падзеях мы добра адрозніваем людзей, якія не шкадавалі свайго жыцця і крыві, людзей дзеяння, рашэння, барацьбы і адказнасці і людзей баязлівасці, пагаднення, і будзем — напэўна будзем пашыраць культ адных і пагарду да другіх. І ўлічваючы, што асоба маршала Пілсудскага з’яўляецца жывым сімвалам таго ўзнёслага, таго, што ёсць адным з самых найпрыгажэйшых выхаваўчых узораў у нашай традыцыі, польская школа павінна пашыраць і культываваць любоў і павагу да яго» [119, с. 307]. Трэба адзначыць, што гэты культ сапраўды актыўна пашыраўся і насаджаўся да верасня 1939 г.

Напрыклад, у школьных праграмах і падручніках па гісторыі асоба Ю. Пілсудскага актыўна выстаўлялася ў якасці асабістага ўзору для кожнага грамадзяніна польскай дзяржавы. Асабліва падкрэслівалася, што ён адыграў рашаючую ролю ў аднаўленні незалежнасці Польшчы. У праграме для ўсеагульнай школы першай ступені навучання абавязковымі тэмамі былі наступныя: «Ю. Пілсудскі — начальнік адроджанай польскай дзяржавы» і «Пераход улады ў адроджанай польскай дзяржаве да Ю. Пілсудскага»; у праграме для школы другой ступені — «11 лістапада, пераход улады да Ю. Пілсудскага» і «З барацьбы за вызваленне частак дзяржавы, начальнік дзяржавы і Галоўнакамандуючы Ю. Пілсудскі»; у праграме школы трэцяй ступені — «Начальнік дзяржавы Ю. Пілсудскі» [260, с. 31]. Праграмы таксама рэкамендавалі, каб ў выпадку вывучэння

гісторыі войнаў за ўсталяванне межаў 2-й РП асоба маршала паказвалася «манаграфічна» [119, с. 313].

Такім чынам, асвятляючы ход польска-савецкай вайны, аўтары падручнікаў пры кожным зручным выпадку праслаўлялі асобу польскага дыктатара. Стваралася ўражанне, што іншых военачальнікаў быццам бы і не існавала, а Ю. Пілсудскі сам кіраваў усімі ваеннымі дзеяннямі. Гэта быў яскравы прыклад ажыццяўлення пастулатаў «дзяржаўнага выхавання», у якім моцны акцэнт рабіўся на падкрэсліванне значэння выдатных гістарычных асоб у жыцці дзяржавы, увасабленнем якой лічыўся маршал Ю. Пілсудскі [260, с. 33].

Кіраўніцтва сістэмы адукацыі заходнебеларускіх ваяводстваў таксама не засталося ў баку ад пашырэння культу Ю. Пілсудскага. Так, у Віленскай школьнай акрузе было наладжана выданне спецыяльных дыдактычных дапаможнікаў для настаўнікаў усеагульных школ, прысвечаных сувязям маршала з «усходнімі крэсамі». У іх падкрэсліваліся «глыбока асабістыя, сыноўскія» адносіны маршала з роднай Віленшчынай. Уяўленне пра змест гэтых дапаможнікаў можна атрымаць з урыўка, у якім даецца саладжавае апісанне адносін мясцовага насельніцтва са сваім земляком, які «ахвотна размаўляў з сялянамі, якія, што цікава, былі нашмат смялейшымі ў адносінах з Ім, чым яго самае бліжэйшае атачэнне. Люд Віленскай зямлі моцна верыў у апеку і ўсемагутнасць маршалка. Усё, што лічылася несправядлівасцю ці крыўдай, зараз жа атрымлівала каментар: “Мусіць маршал Пілсудскі аб гэтым не ведае, бо каб ведаў, то такога б не было”» [131, с. 18].

Культ Ю. Пілсудскага не абмяжоўваўся толькі непасрэдна школьнымі заняткамі. Важнай часткай школьнага жыцця і дзейнасці розных праўрадавых маладзёжных арганізацый было святкаванне 19 сакавіка імянін маршала Ю. Пілсудскага. З 1931 г. гэты дзень быў аб’яўлены вольным ад заняткаў ва ўсіх установах адукацыі 2-й РП. Рэалізоўваўся лозунг «Імяніны маршала — вольны дзень у вольнай Польшчы». Нагодай да дэманстрацыі вернападданніцкіх пачуццяў у адносінах да дыктатара з’яўляліся і іншыя святы — Дзень незалежнасці, гадавіна бітвы пад Варшавай, юбілеі нацыянальна-вызваленчых паўстанняў [119, с. 317].

Спецыфічнай формай культу асобы Ю. Пілсудскага стала наданне яго імя ўстановам адукацыі. У другой палове 1930-х гг. гэтая акцыя пачала набываць выразна спекулятыўныя формы. Міністэрства адукацыі актыўна падтрымлівала праекты масавага будаўніцтва школ імя Ю. Пілсудскага ў паўночна-ўсходніх ваяводствах 2-й РП. Так, план будаўніцтва ў Палескім ваяводстве «100 школ — помнікаў Ю. Пілсудскаму» атрымаў у якасці дадатковага фінансавання 1 млн 600 тыс. злотых [119, с. 322].

Цікава, што ў некаторых выпадках культ асобы Ю. Пілсудскага ў 2-й РП мог набываць формы, яўна запазычаныя ў свайго ўсходняга суседа — сталінскага СССР. Існавала нават прапанова перайменаваць Віленшчыну ў Зямлю Пілсудскага, а саму Вільню — ў Зюк (па аднаму з падпольных псеўданімаў Ю. Пілсудскага часоў барацьбы за незалежнасць Польшчы). Але гэтая прапанова ўсё ж не была рэалізавана [299, с. 80].

Паколькі польская дзяржава ў міжваенны перыяд з'яўлялася шматнацыянальнай, то ідэолагі «дзяржаўнага выхавання» павінны былі ўлічваць гэта. Афіцыйна была абвешчана «дзяржаўная асіміляцыя» ў процівагу «нацыянальнай асіміляцыі», якая праводзілася да мая 1926 г. Яна была сфармулявана на аснове двух прынцыпаў. Па-першае, Польшча, развіваючы сваю нацыянальную польскую культуру, не жадае пазбаўляць магчымасці развіцця сваёй культуры іншыя народы, якія жывуць на тэрыторыі польскай дзяржавы. Па-другое, Польшча павінна і імкнецца аб'яднаць усе народы, што насяляюць дзяржаву, для сумеснага вырашэння тых задач, якія, незалежна ад роднай мовы і культуры народа, ствараюць супольнасць не нацыянальна, а дзяржаўна польскую [335, с. 43]. Міністр С. Чэрвіньскі заяўляў, што грамадскае выхаванне павінна праводзіцца такім чынам, каб «кожны ўкраінец, яўрэй ці немец, які нарадзіўся і жыве ў Польшчы, перш чым стаць сумленным працаўніком на глебе свайго асяроддзя, адчуваў і разумеў, што павінен быць, перш за ўсё, дастойным грамадзянінам найяснейшай Рэчы Паспалітай» [234, с. 87]. Паказальна, што пра беларусаў міністр нават не згадаў.

Афіцыйна, напрыклад у школьных праграмах, улічвалася праблема нацыянальных меншасцей. Падкрэслівалася, што культурныя дасягненні асобных рэгіёнаў і меншасцей з'яўляюцца часткай агульнапольскай культуры. Непольская моладзь праз

вывучэнне гісторыі Польшчы і звязанай з ёю гісторыі ўласнага народа павінна была зжыцца з польскай культурай і паважаць яе, умацаваць пачуццё дзяржаўнай прыналежнасці і грамадзянскай адказнасці ў адносінах да дзяржавы. Пры гэтым звярталася ўвага на тое, што адраджэнне польскай дзяржаўнасці стала адначасова адраджэннем жыцця нацыянальных меншасцей. У школьнай праграме адзначалася: «Польская дзяржава не толькі юрыдычна, але і гістарычна з'яўляецца маці для нацыянальных меншасцей, якія пражываюць у ёй, і адсюль вынікаюць тыя моцныя сувязі дзяржаўнай прыналежнасці, якія аб'ядноўваюць усіх грамадзян, і іх адказнасць перад дзяржавай, у якой яны павінны згодна, незалежна ад нацыянальнасці і веры, разам жыць і працаваць» [192, с. 208].

Аднак рэчаіснасць была далёкай ад планаў стваральнікаў канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання». Ужо пры абмеркаванні яе ў сейме прадстаўнікі нацыянальных меншасцей выступілі супраць яе рэалізацыі. Яны адзначалі, што «дзяржаўнае выхаванне» фактычна вядзе да забароны нацыянальнага выхавання непольскай моладзі і служыць польскаму нацыяналізму. Міністр С. Чэрвіньскі заявіў у адказ, што згоды можна дасягнуць толькі на платформе выхавання моладзі ў актыўна лаяльных адносінах да дзяржавы: «Альбо — альбо... Альбо сумленна прагнеце магчымасці спакойнага культурнага жыцця ў межах польскай дзяржавы, альбо жадаеце вайны. Трэцяга не дадзена!» [122, с. 80—81].

Такім чынам, да сярэдзіны 1930-х гг. кіруючы лагер выпрацаваў уласную цэласную канцэпцыю выхавання маладога пакалення. У адпаведнасці з меркаваннем польскіх даследчыкаў, яна грунтавалася на трох асноўных прынцыпах:

1) стварэнне пазітыўнага ўзору грамадзяніна-дзяржаўніка;

2) прызнанне таго, што дзяржава мае права навязваць грамадзянам сваю ўласную выхаваўчую канцэпцыю;

3) толькі дзяржаўная ўлада, абвяшчаючы прымат сваіх інтарэсаў, мае права на выхаваўчую дзейнасць, і толькі дзяржава з'яўляецца адзінай сілай, здольнай выразіць і гарантаваць перавагу ўсеагульных інтарэсаў над інтарэсамі партыкулярнымі і індывідуальнымі, партыі ж не маюць ніякага права ўплываць на выхаванне і рэалізацыю выхаваўчага ідэалу [177, с. 211—212].

Пасля смерці Ю. Пілсудскага ў 1935 г. «санацыйны» лагер захаваў сваю ўладу, але ўнутры яго адбылася т. зв. дэкампазіцыя,

што паўплывала і на палітыку ў галіне выхавання. «Санацыя» пасля смерці свайго стваральніка і правадыра раскалолася на тры групоўкі. Першая, «замкавая», аб'ядналася вакол прэзідэнта І. Масьціцкага і займала адносна памяркоўную пазіцыю. Другую ўзначаліў Генеральны інспектар узброеных сіл, генерал, у далейшым маршал, Э. Рыдз-Сміглы. Яе прадстаўнікі выступалі за ўсталяванне больш аўтарытарнага рэжыму. Трэцяй групоўкай з'яўлялася «група палкоўнікаў» на чале з В. Славекам. У яе, як гэта ўжо адзначалася вышэй, уваходзіў і адзін са стваральнікаў і рэалізатараў канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», кіраўнік «Зромба» Я. Енджэе́віч. Апошняя групоўка вельмі хутка была адхілена ад улады. Урад В. Славека пайшоў у адстаўку, а ББСУ быў распушчаны.

Пад уплывам смерці маршала Ю. Пілсудскага «Зромп» выдаў у 1936 г. сваю другую ідэйную дэкларацыю. У ёй абвяшчалася, што «Зромп» аб'ядноўвае супольныя намаганні сваіх членаў у сферы развіцця культуры нацыі, перш за ўсё ў выхаваўчай працы; у змесце выхавання группа абапіраецца на новую канстытуцыю, якую разглядае як палітычную спадчыну Ю. Пілсудскага; імкнецца да абуджэння пачуцця адказнасці ў дзяржаўных і абаронных пытаннях, робячы націск у школьных праграмах і падручніках на ролю войска і культ Ю. Пілсудскага; арганізуе выхаванне грамадства ў духу грамадзянскай годнасці, павагі да закона, працы і чалавека працы; імкнецца прывіваць здольнасці да сумленнай калектыўнай працы і ахвярнасці, якая вядзе да гераізму; удзельнічае ў рэформе адукацыі ў адпаведнасці з законамі 1932 і 1933 гг. [217, с. 117].

Аднак дадзеная праграма не была рэалізавана ў сувязі з тым, што «група палкоўнікаў» была адхілена ад улады. Перастала існаваць і група «Зромп».

Перш чым разглядаць далейшую эвалюцыю «дзяржаўнага выхавання», неабходна закрануць і агульную эвалюцыю «санацыйнай» ідэалогіі, у якой пасля 1935 г. адбыліся значныя, у нечым нават прынцыповыя змены. Сучасныя польскія даследчыкі адзначаюць, што ў 1926—1935 гг. пілсудчыкі аднагалосна заяўлялі аб неабходнасці падпарадкавання інтарэсаў нацыі інтарэсам дзяржавы. Абвяшчаўся тэзіс прымата дзяржавы над нацыяй. Для яго абгрунтавання выкарыстоўваліся розныя аргументы: дзяржава

арганізоўвае нацыю і з'яўляецца неабходнай умовай для яе развіцця; дзяржава робіць нацыю суб'ектам гісторыі і г. д. Лічыцца, што ў той перыяд пілсудчыкі адмаўлялі нацыяналістычныя погляды, якія яны лічылі шкоднымі для інтарэсаў 2-й РП. Такім чынам, на думку польскіх гісторыкаў, «санацыйныя» ідэолагі надавалі патрыятызму антынацыяна-лістычную формулу. У 1935—1939 гг. пілсудчыкі адкінулі тэзіс пра аднабаковае падпарадкаванне нацыі дзяржаве, прапаноўвалася іх «пазітыўная ўзаемазалежнасць». Яны змянілі само азначэнне нацыі. Калі раней яе разглядалі як палітычную супольнасць, то пасля 1935 г. нацыю лічылі ўжо этнічна-культурным аб'яднаннем. «Санацыйны» лагер пачаў выступаць за атаясамліванне дзяржаўных і нацыянальных інтарэсаў пры захаванні асобных сфер дзейнасці і мэтаў. За польскай нацыяй прызнавалася роля стваральніцы і абаронцы Рэчы Паспалітай. Таксама «санацыйнымі» ідэолагамі прызнавалася пазітыўнае значэнне для дзяржавы тых нацыяналістычных поглядаў, якія павышаюць яе бяспеку [219, с. 62].

Адначасова «санацыйны» лагер пачаў стварэнне новага блоку замест распушчанага ББСУ. Наладжваліся сувязі з нацыяналістамі. Частка кіраўнікоў «санацыі» з групоўкі Э. Рыдз-Сміглага пачала адкрыта заяўляць аб неабходнасці ідэйнага сінтэзу абодвух лагераў і ўтварэння новай арганізацыі. 21 лютага 1937 г. палкоўнік А. Коц, адзін з бліжэйшых паплечнікаў Э. Рыдз-Сміглага, абвясціў пра стварэнне лагера нацыянальнага аб'яднання — Oboz Zjednoczenia Narodowego, (далей — ЛНА). Ідэйна-палітычная дэкларацыя ЛНА абвяшчала нормай палітычнага жыцця, асновай ладу і парадку ў дзяржаве Канстытуцыю 1935 г. Другім важнейшым элементам дзяржаўнага жыцця была названа армія. Абарончая сіла дзяржавы, якая напрамую вынікала з добра арганізаванага і кіруемага ўнутранага жыцця з'яўлялася, на думку аўтараў дэкларацыі, найбольш кардынальнай ідэяй, вакол якой грамадства павінна аб'яднацца, забыўшыся на дэмаралізуючыя спрэчкі, асабістыя крыўды і старыя рахункі. Гэта гарантуе Айчыне спакойнае развіццё і ўпэўненасць у будучыні. Згодна з дэкларацыяй ЛНА і ў адпаведнасці з «санацыйнай» традыцыяй, дзяржава лічылася адзінай правільнай і здаровай формай існавання нацыі, бо менавіта яна дае нацыі «тэхніку моцы і арганізацыю вечнага развіцця». Новым момантам для «санацыйнага» лагера было тое, што

дэкларацыя ўпершыню адкрыта і выразна гаварыла пра цесную духоўную сувязь польскай нацыі з каталіцкім касцёлам і неабходнасць атачыць касцёл належнай апекай. У адносінах да іншых канфесій 2-й РП дэкларавалася «традыцыйная польская рэлігійная талерантнасць» [127, с. 9—11].

«Санацыйныя» ідэолагі катэгарычна адмаўлялі камуністычную дактрыну. Камунізм у сваіх прынцыпах, мэтах і метадах абвяшчаўся чужым для польскага духу — «камуністычная Польшча перастала б быць Польшчай». Вырашаць гаспадарчыя і грамадскія праблемы меркавалася зыходзячы з вядучай ідэі ЛНА — абаронча й сілы і магутнасці дзяржавы. Захоўваючы прынцып прыватнай уласнасці, аўтары дэкларацыі настойвалі на тым, што дзяржава ўсё ж такі мае права ўмешвацца ў гаспадарчае жыццё. Асаблівым кантролем прапанавалася атачыць тыя галіны прамысловасці, якія маюць непасрэднае дачыненне да абароназдольнасці краіны. Таксама клопатам дзяржавы павінна было стаць забяспячэнне працай насельніцтва, каб даць яму «такім чынам дасягнуць поўнай грамадзянскай вартасці». Дзяржава павінна была лічыцца адзіным фактарам, які закліканы рэгуляваць узаемныя адносіны паміж асобнымі слаямі грамадства [127, с. 12—14].

Адной з важнейшых і складанейшых прызнавалася праблема вёскі. Каб вывесці яе з крызісу, прапаноўваўся самы шырокі спектр сродкаў: павелічэнне сялянскага землеўладання, камасацыя і меліярацыя, павышэнне земляробчай культуры, арганізацыя крэдытавання, пашырэнне асветы і грамадзянскае выхаванне вясковага насельніцтва. Для ліквідацыі беспрацоўя ў гарадах прапаноўвалася падтрымліваць развіццё польскай прамысловасці, рамяства і гандлю. Адначасова гэта павінна было ўзмацніць і гаспадарчую магутнасць дзяржавы. Польская культура праз навуку і мастацтва павінна была стаць «паказчыкам нацыянальнага генія» [127, с. 14—17].

Дырэктывай у адносінах да нацыянальных меншасцей дэкларацыя ЛНА абвяшчала «брацкае грамадзянскае сужыццё на той зямлі, за якую на працягу стагоддзяў мы пралівалі кроў». Але ў адносінах да яўрэйскай нацыянальнай меншасці дэкларавалася асобная пазіцыя. З аднаго боку, асуджаліся гвалтоўныя антысеміцкія выступленні, але з другога — прызнаваліся зразумелымі «інстынкт культурнай самаабароны і імкненне

польскага грамадства да гаспадарчай самастойнасці». Такім чынам, антысемітызм у эканамічнай і культурнай сферах лічыўся дапушчальным [127, с. 17—18].

Галоўны лозунг ЛНА — «Моцныя, згуртаваныя, гатовыя». Ён заклікаў да пераадольвання ўсіх ідэйна-палітычных падзелаў перад знешняй пагрозай [317, с. 59]. У першую чаргу пачалося пераадольванне падзелаў паміж «санацыяй» і эндэкамі.

Новыя ідэалагічныя пастулаты адбіліся і на правядзенні афіцыйнай маладзёжнай палітыкі. Так, у сакавіку 1938 г. пры ЛНА была створана служба маладых (Służba Młodych) (далей — СМ). Яна павінна была стаць федэрацыяй праўрадавых маладзёжных аб’яднанняў і саюзаў, якія, захоўваючы сваю арганізацыйную самастойнасць, стаялі на грунце ідэйнай дэкларацыі ЛНА [157, с. 201].

Таксама лічыцца, што менавіта пасля ўтварэння ЛНА быў атрыманы імпульс да сінтэзу «дзяржаўнага» і «нацыянальнага» выхаванняў. Пад уплывам ідэалогіі новага «санацыйнага» блоку паглыблялася тэндэнцыя да аб’яднання грамадскага, рэлігійнага, нацыянальнага і «дзяржаўнага» выхавання [318, с. 106—107]. Як адзначаюць польскія даследчыкі, выхаваўчая палітыка, якая праводзілася да 1935 г., стала падвяргацца крытыцы не толькі з боку апазіцыі эндэкаў, але і некаторых «санатараў». Так, напрыклад, кіраўніцтва Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы сцвярджала, што ў працэсе выхавання вельмі мала ўвагі звярталася на польскія нацыянальныя і каталіцкія каштоўнасці. Адначасова пачалася інфільтрацыя элементаў «нацыянальнага выхавання» ў змест «дзяржаўнага выхавання» [317, с. 60].

Гэты працэс быў цесна звязаны з дзейнасцю новага міністра асветы В. Свентаслаўскага. Менавіта пры ім адбыўся адыход ад некаторых традыцыйных ідэалагічных прынцыпаў пілсудчыкаў і прайшла мадыфікацыя канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», сутнасць якой, як ужо адзначалася, была ў перайманні «санацыйнымі» выхавацелямі некаторых нацыяналістычных і каталіцкіх выхаваўчых ідэй.

Міністр В. Свентаслаўскі заяўляў, што «няма дзяржаўнага выхавання без уліку асноў нацыянальнага выхавання і рэлігійна-маральных каштоўнасцей». У сваіх прамовах ён рабіў моцны акцэнт на неабходнасці выхавання і развіцця любві да Айчыны,

патрыятызму, ахвярнасці, фізічнай сілы, дысцыпліны, маральнай загартаванасці. Таксама ён лічыў, што выхаванне моладзі не можа быць звязана з актуальнай палітыкай і яе лозунгамі. Яно павінна абапірацца на каштоўнасці польскай і агульначалавечай культуры, на вялікія дасягненні хрысціянскай этыкі. Гэта была т. зв. салідарыстычная выхаваўчая праграма, блізкая да «нацыянальнага выхавання». З'яўленне яе, на думку польскіх гісторыкаў, тлумачылася нарастаннем знешняй пагрозы з боку гітлераўскай Германіі і СССР [259, с. 37].

Менавіта знешняя пагроза паўплывала на тое, што ў другой палове 1930-х гг. у выхаванні моладзі пачаў рабіцца ўсё большы акцэнт на ўтварэнне «мілітарысцкага стану свядомасці». Размова ішла пра «фарміраванне нацыянальнага інстынкту самазахавання», што азначала гатоўнасць да абароны нацыянальнай і дзяржаўнай незалежнасці. Па меркаванні міністра В. Свентаслаўскага, гэта трэба было рабіць праз псіхічнае ўзмацненне грамадства, і таму неабходна было звярнуць асаблівую ўвагу на фарміраванне адвагі, самастойнасці мыслення, волі і загартаванасці духу выхаванцаў. Таксама падкрэслівалася неабходнасць салідарнасці ўсяго грамадства. Зразумела, што міністр меў на ўвазе ў першую чаргу дзейнасць падначаленай яму сістэмы адукацыі, але вышэйназваныя патрабаванні ў поўнай меры адносіліся і да ўсёй маладзёжнай палітыкі польскіх улад.

На адным з пасяджэнняў В. Свентаслаўскі заяўляў: «Перад фактам усеагульных узбраенняў, якія праводзяцца ўсімі дзяржавамі, наша моладзь павінна ўсведамляць тое, што не толькі ад сталасці грамадства, але і ад яго гарачага патрыятызму і псіхічнай і фізічнай гатоўнасці залежыць незалежнае існаванне Рэчы Паспалітай... Польшча, акрамя ўзбраенняў і тэхнічнага развіцця, патрабуе псіхічнага пераўзбраення грамадства. Павінна ўсталявацца ўсеагульнае перакананне, што ва ўмовах сусветнай сітуацыі ўсе ўнутраныя спрэчкі становяцца малымі і перастаюць існаваць перад праблемамі бяспекі дзяржавы» [153, с. 226].

У гэты час назіраўся ўсё большы ўплыў Войска Польскага на ўрадавую маладзёжную палітыку і ўдзел ў яе рэалізацыі.

У студзені 1937 г. ваенны міністр выдаў распараджэнне аб узаемадзеянні камандуючых ваеннымі акругамі са школьнымі кураратамі. Аналагічнае распараджэнне для куратараў школьных

акруг аб супрацоўніцтве з ваеннымі ўладамі выдаў міністр адукацыі. Гэтыя рашэнні непасрэдна мелі адносіны і да заходнебеларусіх ваяводстваў. Абодва міністры падкрэслівалі, што ў інтарэсах бяспекі і абароназдольнасці дзяржавы неабходна ўмацаванне польскага фактару на памежных і нацыянальна змешаных землях. Для гэтага і патрэбна было цеснае супрацоўніцтва сістэмы адукацыі і Войска Польскага.

Армейскія структуры павінны былі ўзгадняць з адпаведнымі школьнымі ўладамі ўсе асветна-выхаваўчыя акцыі, якія праводзіліся ў самой арміі і ў ваенізаваных арганізацыях моладзі, а таксама пачынанні ў галіне ўзмацнення і ўзбраення псіхікі грамадства. Акрамя таго, ваенныя мелі права накіроўваць школьным уладам пажаданні ў справе пашырэння асветніцкіх акцый на асабліва важных тэрыторыях, а таксама пажаданні аб замяшчэнні пасад настаўнікаў адпаведнымі асобамі [153, с. 228].

У адной са сваіх справаздач ваеннае кіраўніцтва так ацэньвала актыўнасць афіцэрскага корпуса ў маладзёжным асяроддзі: «Сам факт з’яўлення афіцэра ў школах, у грамадскіх арганізацыях, удзел у сходах, у школьных педагагічных саветах, прысутнасць ваеннага мундзіра і ваеннай падрыхтоўкі ў розных мясцовых справах, у святкаваннях і мерапрыемствах тых арганізацый шмат значыла і мела дачыненне да папулярызацыі армейскай ідэі і ваенных спраў» [287, с. 44].

Праявай «мілітарызацыі» стала і тое, што вясной і летам 1937 г. ішла актыўная праца над зменамі ў школьных праграмах. Згодна з новай палітыкай рабіўся акцэнт на фарміраванне адпаведнага ідэйнага ўзроўню моладзі праз выпрацоўку ў вучняў любві да Радзімы ва ўсіх яе праявах. Таксама рэкамендавалася фарміраваць павагу да дзяржаўных інстытутаў і асоб, якія прадстаўляюць гэтыя інстытуты [153, с. 229].

10 верасня 1937 г. выйшла пастанова, згодна з якой падрыхтоўка школьнай моладзі да абароны аб’яўлялася асноўным пытаннем выхаваўчай і дыдактычнай працы школы. Школа павінна была звяртаць увагу на ўсе фактары, якія маюць дачыненне да «фарміравання моцных характараў, выпрацоўкі пачуцця адказнасці за асабістую і калектыўную працу, да развіцця і ўмацавання салдацкіх вартасцей, а асабліва любві да Радзімы, пачуцця гонару, стараннасці і волі да перамогі». Праз падрыхтоўку школьнай

моладзі да абароны краіны планавалася выхоўваць свядомых, актыўных, мужных і дысцыплінаваных грамадзян [106, с. 796].

Прапаноўвалася пры выкладанні асобных прадметаў рабіць акцэнт на тыя элементы, якія маюць сувязь з абароназдольнасцю краіны. Напрыклад, у час урокаў геаграфіі рэкамендавалася выкладаць элементы тапаграфіі, на занятках па фізіцы і хіміі вывучалася праца рухавікоў унутранага згарання, радыёпрыёмнікаў, элементы супрацьхімічнай і супрацьпаветранай абароны [153, с. 228]. На занятках па гісторыі рэкамендавалася на канкрэтных прыкладах паказваць, «як помсціла за сябе палітычная слабасць, якая выцякае з неразумення неабходнасці абароны». Таксама на гэтых уроках вучні павінны былі знаёміцца з гісторыяй арміі Рэчы Паспалітай. Для юнакоў гэтыя веды павінны былі адыграць ролю «пачатковай прафесійнай адукацыі будучага афіцэра польскай арміі» [113, с. 812—813].

Асабліва падкрэслівалася роля працы па падрыхтоўцы да абароны краіны менавіта на нацыянальных ускраінах 2-й РП. Пры гэтым на ўвазе мелася не толькі падрыхтоўка да непасрэдна ўзброеных дзеянняў. У адным з артыкулаў, прысвечаных гэтай праблеме, адзначалася: «Кожная асоба і кожная арганізацыя нашай нацыянальнай супольнасці, пачынаючы з самага ніжэйшага ўзроўню, гэта значыць з сям'і, павінна выканаць важную ролю, ствараючы, асабліва на “крэсах”, пункты абароны супраць распаўсюджвання чужых уплываў, чужых светапоглядаў... чужых агентур. Гэта магчыма толькі тады, калі прытрымлівацца высокіх этычных вартасцяў, галоўным чынам глыбока зразумелага ідэалізму, і суправаджаць іх павінна пачуццё нацыянальнага гонару і годнасці» [106, с. 804].

Ацэньваючы «санацыйную» выхаваўчую канцэпцыю і яе рэалізацыю пры правядзенні маладзёжнай палітыкі, неабходна адзначыць, што яе эвалюцыя прайшла некалькі этапаў. Сучасныя польскія даследчыкі, аналізуючы развіццё «санацыйнай» выхаваўчай ідэалогіі ў сістэме адукацыі, звычайна прыводзяць наступную перыядызацыю:

1926—1928 гг. — невялікая зацікаўленасць справамі выхавання па прычыне канцэнтрацыі на праблеме стабілізацыі ўлады;

1928—1933 — час «выхаваўчага наступлення санацыі», фарміраванне выхаваўчай ідэалогіі і правядзенне рэформы ў сістэме адукацыі;

1934—1937 — рэалізацыя школьнай рэформы і тэарэтычных пастулатаў, спыненне тэарэтычнай працы і некаторы адыход ад «дзяржаўнага выхавання»;

1937—1939 — паўторная актывізацыя «санацыі» ў справах выхавання пад лозунгам ваеннага выхавання [248, с. 33].

З некаторымі дапушчэннямі дадзеную перыядызацыю магчыма аднесці і да ўсёй маладзёжнай палітыкі правячых колаў 2-й РП пасля 1926 г. Канцэпцыя, паводле якой яна праводзілася, мела шэраг станоўчых рыс, у першую чаргу сувязь з жыццём і практычную накіраванасць. Яна ставіла перад сабой мэту выхаваць у моладзі моцную волю, дынамізм, дысцыплінаванасць, здольнасць да ахвярнасці і гераізму. Але пазітыўныя рысы «дзяржаўнага выхавання» былі падпарадкаваны прагматычным мэтам кіруючых колаў Польшчы, якія імкнуліся перацягнуць на свой бок маладое пакаленне дзяржавы. «Санацыя», якая атаясамлівала сябе з дзяржавай, фактычна навязвала грамадству свае выхаваўчыя ідэалы. Адмоўным бокам «санацыйнай» выхаваўчай канцэпцыі было і тое, што ў выніку свайго развіцця, асабліва з сярэдзіны 1930-х гг., яна фактычна пераняла метады і ідэі эндэцкага «нацыянальнага выхавання». У выніку гэтыя дзве канцэпцыі адрозніваліся толькі тэрміналогіяй і традыцыямі, а не зместам. Яны сталі сродкам паланізацыі нацыянальных меншасцей. Фактычна ставілася мэта выхаваць не проста добрага грамадзяніна польскай дзяржавы, а грамадзяніна-паляка. На тэрыторыі Заходняй Беларусі, у адрозненне ад непасрэдна польскіх ваяводстваў 2-й РП, гэта толькі перашкаджала эфектыўнай рэалізацыі ўрадавай маладзёжнай палітыкі.

## 2.3 Асноўныя накірункі маладзёжнай палітыкі польскіх улад у міжваенны перыяд

Як ужо адзначалася, канцэпцыя «дзяржаўнага выхавання» была накіравана на фарміраванне грамадзяніна-дзяржаўніка, байца і працаўніка ў адной асобе. У сувязі з гэтым кіруючы рэжым 2-й РП

рабіў акцэнт на рэалізацыі шэрагу накірункаў сваёй маладзёжнай палітыкі. Адным з галоўных сярод іх стала ваенная падрыхтоўка (далей — ВП) маладога пакалення.

Трэба адразу падкрэсліць, што дадзены накірунак займаў значнае месца ў маладзёжнай палітыцы кіруючых колаў усіх дзяржаў міжваеннай Еўропы. Вопыт Першай сусветнай вайны паказаў, што вайна перастала быць справай вузкай ваеннай эліты і арміі. Так, Р. Старжыньскі, маёр польскага Генеральнага штаба, заяўляў на старонках часопіса «Белона», органа Вайсковага навукова-даследчага інстытута: «Толькі сусветная вайна... паказала, што нават лепшая кадравая сістэма, якая абапіраецца на ўсеагульны воінскі абавязак, і наймацнейшая ўзброеная сіла не ў стане выконваць усе задачы, якія ставіць на парадак дня сучасная вайна. Выявілася, што весці вайну павінны не толькі ўзброеныя сілы асобных дзяржаў, але і ўсё грамадства, уся нацыя» [280, с. 43]. Яшчэ адзін польскі ваенны тэарэтык, А. Водзінскі, дадаваў: «Пераможна з татальнай вайны выйдзе не тая нацыя, якая мае моцныя арміі на франтах і толькі на іх ускладае надзею, а нацыя, якая валодае ўнутранай сталасцю, духоўнай сілай і, што самае галоўнае, кожны член якой валодае ваеннай падрыхтоўкай» [165, с. 14]. Такім чынам, да будучай вайны павінны быць падрыхтаваны ўсё грамадства, уся нацыя. Менавіта гэтая ідэя і стала асновай канцэпцыі «нацыі пад зброяй», якая шырока ажыццяўлялася ў краінах Еўропы ў міжваенны перыяд для ВП насельніцтва.

Акрамя вопыту Першай сусветнай вайны, вайсковыя колы 2-й РП пры падрыхтоўцы да магчымага ўзброенага канфлікту ўлічвалі геапалітычнае і фінансавае становішча сваёй дзяржавы. Той жа маёр Р. Старжыньскі адзначаў: «Маючы на захадзе Германію з 60-мільённым насельніцтвам, на ўсходзе Расію з яе 120 мільёнамі жыхароў, мы будзем мець справу са шматмільённымі арміямі, якім будзем не ў стане супрацьпаставіць роўную па сіле рэгулярную армію... Паколькі бюджэтныя магчымасці ніколі не дазволяць утрымліваць моцную рэгулярную армію, мы павінны шукаць іншыя шляхі» [280, с. 59].

Непасрэдная рэалізацыя праграм ВП насельніцтва, перш за ўсё моладзі, у даваеннай Еўропе праводзілася згодна з дзвюма мадэлямі. Сутнасць першай была ў тым, што армія амаль цалкам брала на сябе задачу падрыхтоўкі грамадства да вайны. У чыстым

выглядзе гэтая сістэма цэнтралізаванай усеагульнай дапрызыўнай падрыхтоўкі была рэалізавана ў таталітарных дзяржавах — нацысцкай Германіі і Савецкім Саюзе. Для другой мадэлі была характэрна дэцэнтралізацыя навучання. Згодна з ёю, у руках ваенных заставаліся толькі агульнае кіраўніцтва і кантроль, а непасрэдная рэалізацыя праграм даручалася грамадскім, у першую чаргу маладзёжным, арганізацыям і школе. Навучанне будавалася на прынцыпе дабраахвотнасці. Заняткі праводзіліся як ваеннымі, так і грамадзянскімі спецыялістамі [165, с. 21—22].

Польшча арыентавалася на другую мадэль і пачала ажыццяўляць яе яшчэ з першай паловы 1920-х гадоў. ВП павінна была ахапіць «усю ваенна-падрыхтоўчую працу за межамі сталай арміі, дыферэнцыруючы яе ў залежнасці ад узросту і полу, ад стратэгічнага становішча краю і, нарэшце, ад этнаграфічнага складу і дзяржаўнага пачуцця грамадзян» [165, с. 26]. Праграма ВП уключала тры накірункі дзейнасці: грамадзянскае выхаванне, фізічную падыхтоўку і ваеннае навучанне.

Як ужо адзначалася вышэй, ВП у 2-й РП праводзілі грамадскія арганізацыі і школа. Што да першых, то 8 чэрвеня 1921 г. ваеннае міністэрства выдала спецыяльную «Часовую інструкцыю ў справе адносін ваенных улад да вайскова-выхаваўчых арганізацый». Згодна з ёю, права праводзіць ВП атрымалі стралецкі саюз «Стралец», СПХ, «Сокал», Саюз паўстанцаў і ваяроў, Саюз паўстанцаў Верхняй Сілезіі, Аб’яднанне польскай моладзі (Stowarzyszenie Młodzieży Polskiej) (далей — АПМ), ССМ, Саюз асаднікаў, Добраахвотная пажарная стража [326, с. 25].

Першапачаткова грамадскія арганізацыі ўцягнулі ў ВП невялікую частку маладога пакалення. Таму ў снежні 1922 г. было выдадзена сумеснае распараджэнне міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы і міністра ваенных спраў аб арганізацыі ВП у сярэдніх і прафесійных школах. Для падрыхтоўкі школьнай моладзі да ваеннай службы ўводзіліся добраахвотныя заняткі па ВП. Іх задачай было «фарміраванне ў моладзі ўменняў і рыс, якія развіваюць сілу і характар будучага грамадзяніна Айчыны, дазваляюць яму выконваць вайсковы абавязак у кароткі тэрмін і атрымаць воінскае званне ў больш хуткі час» [242, с. 2].

Для гэтага ў школах ствараліся школьныя атрады ВП. У атрад мог уступіць кожны школьнік, які дасягнуў 16 год і меў адпаведны

медыцынскі дазвол. Заняткамі атрадаў кіраваў інструктар. Гэта мог быць афіцэр, афіцэр-рэзервіст ці цывільны чалавек, настаўнік дадзенай школы. Кіраўнік атрада павінен быў весці заняткі на аснове праграм, распрацаваных сумесна міністэрствамі асветы і ваенных спраў. Кіраўнік атрада падпарадкоўваўся школьным уладам і ўваходзіў у склад педагагічнага савета школы [242, с. 3].

Праграма распадалася на два курсы (ступені). Першая ступень адпавядала праграмам навучання радавога пяхоты, другая — праграме навучання падафіцэра пяхоты. У тэхнічных і прафесійных навучальных установах дадаткова ствараўся курс навучання радавых спецыяльных войскаў. Курсы ВП таксама ўключалі заняткі ў летніх лагерах.

Школьная ВП прадугледжвала правядзенне штотыднёва трох-чатырох заняткаў у школьным памяшканні, аднаго палявога занятка, адной лекцыі па асобным ваенным прадметам. Згодна з распараджэннем, ваенныя веды ўключаліся таксама і ў праграму такіх прадметаў, як фізіка, хімія, гісторыя, геаграфія. Напрыклад, у час урокаў гісторыі паведамлялі «некаторыя звесткі з гісторыі войнаў і ўзброеных сіл з націскам на іх выхаваўчы бок з падкрэсліваннем моманту ахвярнасці і гераізму» [242, с. 3].

Вучні, якія наведалі $\frac{2}{3}$ усіх заняткаў, дапускаліся да экзамену. Экзаменацыйная камісія павінна была складацца з прадстаўнікоў школьных і вайсковых улад. У выпадку паспяховай здачы экзамену вучні атрымлівалі адпаведную ступень ВП [242, с. 4].

Школьныя атрады ВП з’явіліся і пачалі сваю працу ў 1923/24 навучальным годзе.

Армейскія колы ў асноўным былі незадаволены развіццём ВП моладзі, у першую чаргу — хаосам і «палітызацыяй» у грамадскіх арганізацыях ВП. Падпалкоўнік В. Кілінскі характарызаваў сітуацыю напярэдадні 1926 г. наступным чынам: «Для ваеннай падрыхтоўкі арганізуецца хто пажадае і як пажадае, а асобныя партыі ствараюць нейкія ўласныя абмундзіраваныя паспалітыя рушэнні. Арганізацыі, якія быццам бы служаць адной ідэі, уступаюць ва ўзаемную барацьбу, і ў гэтай барацьбе знікае сам сэнс ваеннай падрыхтоўкі і ядро спорту. Для кантрабанды палітычных патрэб у акцыю фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі ўплятаецца трэці матыў, матыў так званай асветніцкай

працы, дакладней — палітычны матыў. У выніку можна было б павялічваць існуючыя аб’яднанні бясконца. Гэта разнастайныя саюзы былых удзельнікаў барацьбы за незалежнасць, саюзы моладзі сельскай, каталіцкай, былых ваенных, маладых піянераў, спартыўныя саюзы, жаночыя арганізацыі, рабочыя і гэтак далей. Хаос неверагодны» [167, с. 118].

У першай палове 1920-х гг. акцыя ВП не змагла дасягнуць значных поспехаў і набыць масавы характар. Прадстаўнік польскага Генеральнага штаба палкоўнік Ф. Влад прызнаваў, што ВП у 1925 г. ахоплівала толькі 7% прызыўнікоў без уліку школьнікаў. Пры гэтым толькі 9% членаў арганізацый ВП паходзілі з усходніх ваяводстваў 2-й РП [165, с. 42].

Сітуацыя ў справе ВП пачала мяняцца пасля майскага перавароту 1926 г. Узброеныя сілы атрымалі большыя, чым раней, магчымасці ўплыву на ўсе бакі жыцця грамадства, у тым ліку і на маладзёжную палітыку, часткай якой з’яўлялася акцыя ВП. Ваенныя колы бралі ў свае рукі кіраўніцтва ўсімі пытаннямі, звязанымі з падрыхтоўкай грамадства на выпадак вайны, што давала надзею на актывізацыю гэтай дзейнасці.

Адмовы ад канцэпцыі «нацыі пад зброяй» не адбылося. Вялікую ролю тут адыграла асабістая пазіцыя Ю. Пілсудскага. Як адзначаюць польскія даследчыкі, з самага пачатку знаходжання на чале ўлады ён разумеў неабходнасць адпаведнага фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі моладзі, салдат абавязковай службы і рэзервістаў. Так, 15 снежня 1926 г. у прамове на пасяджэнні бюджэтнай камісіі Сейма маршал падкрэсліў пажаданасць развіцця працы ВП. Згодна з яго меркаваннем, галоўную ролю тут павінны былі адыгрываць школа, армія і інстытуты, якія знаходзяцца пад кантролем дзяржавы. Дапаможныя функцыі адводзіліся мясцоваму самакіраванню, грамадскім і спартыўным арганізацыям. Асаблівую ўвагу маршал Ю. Пілсудскі надаваў прынцыпу добраахвотнасці ВП [154, с. 108].

У студзені 1927 г. па ініцыятыве Ю. Пілсудскага было створана Дзяржаўнае ўпраўленне фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі (далей — Дзяржаўнае ўпраўленне ФВ і ВП). Гэта стала асновай для стварэння новага кіруючага і прапагандысцкага апарату акцыі ВП [162, с. 6]. Адначасова прадугледжвалася стварэнне ваяводскіх камітэтаў ФВ і ВП, задачай якіх была каардынацыя і падтрымка

дзейнасці дзяржапарата, органаў самакіравання і грамадскіх арганізацый у сферы ваеннай падрыхтоўкі і фізічнага выхавання. У склад ваяводскіх камітэтаў павінны былі ўваходзіць ваявода, камандуючы ваеннай акругай і куратар школьнай акругі (ці іх прадстаўнікі). Яшчэ чатырох членаў ваяводскага камітэту прызначаў ваенны міністр. Пры неабходнасці ствараліся гарадскія і павятовыя камітэты, якія падпарадкоўваліся ваяводскаму камітэту [246, с. 82—84].

Сферай дзейнасці Дзяржаўнага ўпраўлення ФВ і ВП з'яўлялася: складанне дырэктыў па правядзенню ФВ і ВП, прадстаўленне зацікаўленым міністрам прапаноў па пытанням ФВ і ВП, ажыццяўленне нагляду над інстытутамі і арганізацыямі ВП, прадстаўленне прапаноў па дзяржаўнаму бюджэту ў галіне ФВ і ВП, экспертыза рашэнняў Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы і Міністэрства ўнутраных спраў (далей — МУС) у сферы ФВ і ВП, складанне дырэктыў для ваяводскіх камітэтаў, выданне перыёдыкі і кніг [240, с. 164—166].

Адначасова ў ваенных акругах ствараліся акруговыя ўпраўленні ФВ і ВП. Ніжэй, на ўзроўні палка, стаялі абвадовыя камендатуры і, нарэшце, павятовыя камендатуры ФВ і ВП. Менавіта каменданты апошніх адказвалі за правядзенне заняткаў у школьных атрадах ВП і ўзаемадзеянне з грамадскімі арганізацыямі [165, с. 75].

Да канца 1927 г. былі арганізаваны ваяводскія камітэты, а да канца 1928 г. — каардынуючыя структуры ФВ і ВП на ніжэйшым ўзроўні. Гэта садзейнічала актывізацыі ВП моладзі як у грамадскіх арганізацыях, так і ў школе.

З 1931 г. заняткі ў школьных атрадах ВП сталі абавязковымі для ўсіх юнакоў тых школ, дзе існавалі такія атрады. Камендантам школьнага атрада павінен быў быць афіцэр, павятовы камендант ВП. Заняткі праводзілі афіцэры і падафіцэры абавязковай службы. Педагагічнае кіраўніцтва атрадам даручалася аднаму са школьных настаўнікаў, які павінен быў быць афіцэрам рэзерва. Распрацоўка праграмы навучання ўскладалася на Дзяржаўнае ўпраўленне ФВ і ВП. Школьная дырэкцыя і настаўнікі павінны былі ўзяць пад апеку працу і патрэбы атрада, прапагандаваць ідэі ВП сярод бацькоў, пры іх дапамозе арганізоўваць матэрыяльную падтрымку атрада ВП [332, с. 86—91].

У 1931 г. была праведзена рэгламентацыя ў сферы грамадскіх аб’яднанняў, якія мелі права займацца ВП. Такімі арганізацыямі прызнаваліся стралецкі саюз «Стралец», СПХ і ССМ. Іншыя, праўда, таксама маглі займацца ваенізаваным навучаннем, але іх дзейнасць не каардынавалася і не фінансавалася праз Дзяржаўнае упраўленне ФВ і ВП [165, с. 87]. Гэта было зроблена як для дасягнення «апалітычнасці» ВП, так і для павышэння эфектыўнасці кіраўніцтва яе дзейнасцю.

На рубяжы 1920—1930-х гг. адбыўся пэўны зрух у масавасці ВП. Так, па дадзеных польскіх даследчыкаў, калі ў 1929 г. ВП прайшлі 57,7% прызыўнікоў і рэзервістаў, то ў 1930 г. гэтая лічба склала 71,5%. На тэрыторыі Заходняй Беларусі гэты паказчык быў нават вышэйшым: у акрузе № 3 «Гродна» ВП прайшлі адпаведна 64,8 (1929 г.) і 82,2% (1930 г.), а ў акрузе № 9 «Брэст» — 55,5 (1929 г.) і 79,3% (1930 г.) [165, с. 96].

Вялікі ўплыў на развіццё і масавасць ВП аказвала сістэма льгот. Канчаткова яна аформілася ў 1930-х гг. Згодна з распараджэннем міністра ваенных спраў ад 29 чэрвеня 1935 г., прызыўнік, які меў пасведчанне аб заканчэнні другой ступені ВП, карыстаўся шэрагам ільгот пры адбыванні абавязковай службы: права на звальненне ў час першых трох месяцаў службы, права на першачарговае накіраванне ў падафіцэрскую школу, паскоранае прадстаўленне да звання капрала, права на водпуск на другім годзе службы. Таксама на 4—6 тыдняў скарачаўся і сам тэрмін абавязковай службы [241, с. 912—914].

Акрамя льгот, вялікая ўвага надавалася і маральнаму фактару. У сувязі з гэтым сумесна з непасрэдна ваенным навучаннем вялася вялікая праца па грамадзянскаму і патрыятычнаму выхаванню. Кіруючыя колы 2-й РП лічылі, што маральная падрыхтоўка з’яўляецца неабходным элементам гатоўнасці грамадства да вайны [162, с. 6].

У другой палове 1930-х гг. у сувязі з фарміраваннем «мілітарысцкага стану свядомасці» адбылася чарговая рэарганізацыя ВП у школе. У 1937 г. было вырашана, што падрыхтоўка школьнай моладзі да абароны краіны будзе ажыццяўляцца толькі ў школе і выключна праз школу. Сама ВП дзялілася на агульную падрыхтоўку да абароны краіны і непасрэдна ВП (для дзяўчат — падрыхтоўку да дапаможнай

вайсковай службы). Агульная падрыхтоўка да абароны краіны рэалізоўвалася на працягу ўсёй выхаваўчай і дыдактычнай працы школы. ВП ператваралася ў абавязковы школьны прадмет для ўсіх вучняў, пачынаючы з 15 гадоў. Функцыі камендантаў школьных атрадаў ВП цяпер выконвалі выключна настаўнікі, а не афіцэры, як раней [333, с. 439—440]. Па меркаванні польскіх даследчыкаў, гэта было выклікана тым, што ў сувязі з пераўзбраеннем Войска Польскага павялічылася неабходнасць у прафесійных афіцэрскіх кадрах. Таму ваеннае кіраўніцтва аддавала перавагу выкарыстанню прафесійных ваенных у лінейных частках [165, с. 117].

У канцы 1930-х гг. кампанія па падрыхтоўцы маладога пакалення да абароны краіны закранула і вышэйшую школу. Па распараджэнні Савета міністраў 27 кастрычніка 1937 г. была створана акадэмічная легія [330, с. 722]. Яе мэтай, акрамя непасрэднага навучання студэнтаў, стала выхаванне і прапаганда «высакароднага польскага мілітарызму» [162, с. 16].

Падобная прапаганда атрымала шырокае распаўсюджванне і была часткай маладзёжнай палітыкі кіруючых колаў. «Санацыя» лічыла, што неабходна выхоўваць грамадства ў духу абарончага мілітарызму. Планавалася ахапіць гэтай прапагандай каля 85% грамадзян 2-й РП, у першую чаргу маладое пакаленне ва ўзросце ад 10 да 21 года. У сувязі з гэтым у ВП прыярытэт стаў надавацца грамадзянскаму выхаванню. У дырэктывах па ФВ і ВП на 1936/37 навучальны год адзначалася: «Незалежна ад ваенных задач, у якасці найбольш актуальнага вылучаецца пытанне грамадзянскага выхавання і прапаганды лозунгаў нацыянальнай абароны як падрыхтоўка моладзі да выканання задач па абароне краіны» [162, с. 11].

Ініцыятарам прапагандысцкай акцыі была армія. У маі 1936 г. на базе Ваеннага навукова-асветніцкага інстытута быў створаны Цэнтральны каардынацыйны камітэт (далей — ЦКК). Пазней узніклі каардынацыйныя камітэты (далей — КК) пры ваенных акругах Войска Польскага (у Брэсце — у студзені 1937 г., у Гродне — у лістападзе 1937 г.). Мэтай КК было павышэнне паспяховасці намаганняў грамадства ў справе ваеннай падрыхтаванасці дзяржавы, у тым ліку і ў прапагандысцкай сферы [162, с. 14].

У склад ЦКК увайшлі прадстаўнікі Ваеннага навукова-асветніцкага інстытута, Дзяржаўнага ўпраўлення ФВ і ВП,

а таксама дэлегаты шэрагу грамадскіх арганізацый, у тым ліку стралецкага саюза «Стралец» і СПХ. У далейшым з КК супрацоўнічалі і такія арганізацыі, як СМВ і Саюз асаднікаў. Асноўным аб’ектам дзейнасці КК павінны былі стаць арганізацыі ВП, якія падпарадкоўваліся Дзяржаўнаму ўпраўленню ФВ і ВП.

На пасяджэннях ЦКК займаліся ў першую чаргу пытаннямі грамадзянскага выхавання і дзяржаўнай прапаганды. У канцы лістапада 1936 г. у рамках камітэта з’явілася секцыя грамадзянскага выхавання. Менавіта яна займалася распрацоўкай праграм грамадзянскага выхавання і культурна-асветніцкай дзейнасці для грамадскіх арганізацый [165, с. 126—127]. Спецыяльна для актывізацыі працы ў маладзёжным асяроддзі ў структуры КК існавала маладзёжная камісія [162, с. 16].

Важным накірункам працы КК стала арганізацыя барацьбы супраць камуністычнага руху і пацыфісцкіх тэндэнцый. Лічылася, што яны вядуць да дэзінтэграцыі і духоўнага раззбраення грамадства [165, с. 128]. У адным з дакументаў ЦКК адзначалася, што ў аспекце каардынацыі грамадскай працы на карысць абароны на ўсходзе першачарговую небяспеку ўяўляе камунізм, які «імкнецца ўварвацца ў наша жыццё пад рознымі абліччамі». З ім «неабходна змагацца ўсімі сродкамі, так як ён не мае ў нас іншай мэты, акрамя як падрыву дзяржавы і новага падпарадкавання Расіі». Таксама ў сферу дзейнасці КК уваходзіла падтрыманне польскага ўплыву, якое неабходна было ўзгадняць з паляпшэннем адносін да нацыянальных меншасцей, каб не адвярнуць іх ад дзяржавы [162, с. 16].

Аднак вынікі дзейнасці КК у маладзёжным асяроддзі былі даволі сціплымі. Так, у канцы 1938 г. ваеннае міністэрства было незадаволена тым, што ў армію трапляе шмат моладзі, якая знаходзіцца пад чужым ідэйным і маральным уплывам. Гэта было выклікана недахопам фінансавых сродкаў і інструктарскіх кадраў. Таксама паўплывалі і супярэчнасці ўнутры саміх пілсудчыкаў: КК уступілі ў канкурэнцыю з ЛНА [162, с. 17].

Такім чынам, у 2-й РП вялася значная праца па ВП маладога пакалення ў межах канцэпцыі «нацыі пад зброяй», мэтамі якой было павышэнне абароназдольнасці дзяржавы і патрыятычнае выхаванне маладога пакалення. Акцыя ВП актывізавалася ў перыяд кіравання «санацыі», якая імкнулася аб’яднаць грамадства ў імя

абароны краіны. У яе рэалізацыі ўдзельнічалі як дзяржаўныя структуры (армія і школа), так і шматлікія грамадскія аб'яднанні. Неабходна адзначыць, што намаганні ўлад і грамадства не здолелі ў далейшым прадухіліць ліквідацыю польскай дзяржаўнасці. Аднак яны мелі значны ўплыў на моладзь, які неабходна па-рознаму ацэньваць на этнічна польскіх тэрыторыях 2-й РП і на яе ўсходніх ускраінах.

Яшчэ адной часткай афіцыйнай маладзёжнай палітыкі была падрыхтоўка маладога пакалення да працоўнай дзейнасці. Адным з галоўных яе накірункаў з'явілася сельскагаспадарчая падрыхтоўка (далей — СП), якая была масавай формай земляробчай асветы пазашкольнай моладзі. Асаблівую важнасць гэтаму накірунку надавала тое, што абсалютная большасць моладзь 2-й РП жыла ў сельскай мясцовасці.

Як ужо было адзначана вышэй, лічылася, што сельскагаспадарчая вытворчасць 2-й РП знаходзілася на нізкім узроўні, была адсталай у тэхнічным і арганізацыйным плане. Адной з прычын гэтага, па меркаванні тагачасных польскіх улад, было слабае пашырэнне агратэхнічных ведаў.

Спробы знайсці выйсце з дадзенай сітуацыі рабіліся кіруючымі коламі польскай дзяржавы з першых гадоў існавання. Так, яшчэ ў ліпені 1920 г. па ініцыятыве сялянскіх партый быў прыняты закон «Аб народных сельскагаспадарчых школах». Згодна з ім гэтыя школы павінны былі весці падрыхтоўку «прафесійна самастойных сельскіх гаспадароў і грамадзян краіны, якія разумеюць свае абавязкі» [311, с. 237].

Закон прадугледжваў удзел як дзяржавы, так і грамадства ў правядзенні сельскагаспадарчага навучання. У сувязі з гэтым школы дзяліліся на публічныя і прыватныя. Публічныя народныя сельскагаспадарчыя школы ўтрымліваліся дзяржавай ці павятовым самакіраваннем. Прыватныя школы ствараліся грамадскімі арганізацыямі або прыватнымі асобамі. Нагляд над усімі тыпамі народных сельскагаспадарчых школ ажыццяўляла Міністэрства сельскай гаспадаркі [311, с. 237].

Планавалася, што ў кожным павеце будзе як мінімум дзве публічныя сельскагаспадарчыя школы — мужчынская і жаночая. У адпаведнасці з законам курс навучання павінен быў працягвацца не менш 11 месяцаў і складацца з тэарэтычных і практычных

заняткаў. У школы прымаліся юнакі (з 16 гадоў) і дзяўчаты (з 14 гадоў). Кандыдаты павінны былі скончыць перад гэтым усеагульную школу [311, с. 238].

План стварэння школ быў разлічаны на 20 гадоў, планавалася, што ў кожным павеце да 1940 г. будуць існаваць дзве народныя сельскагаспадарчыя школы.

Неабходна адзначыць, што з самага пачатку сістэма народных сельскагаспадарчых школ мела шэраг недахопаў. Напрыклад, праграма навучання была занадта вялікай, каб за 11 месяцаў яе засвоіць. Так, на агульнаадукацыйныя прадметы ў мужчынскай школе адводзілася 522 гадзіны, а на спецыяльныя — 579; у жаночай школе —605 і 567 гадзін адпаведна. Акрамя таго, вучні павінны былі падтрымліваць парадак у інтэрнаце, працаваць на падсобнай гаспадарцы і ў сталовай. Засвоіць увесь прадугледжаны матэрыял было вельмі цяжка, асабліва калі ўлічваць нізкі ўзровень агульнай падрыхтоўкі вучняў [316, с. 141].

Яшчэ адным недахопам быў высокі кошт утрымання школы, паколькі даводзілася ўтрымліваць інтэрнат, падсобную гаспадарку, аплочваць працу настаўнікаў.

На момант выдання закона ў 2-й РП ужо існавалі 52 такія школы (1 182 вучні). Да 1931 г. іх колькасць павялічылася да 128 (5 238 вучняў). Але ў сувязі з эканамічным крызісам гэты рост спыніўся. Асноўную масу складалі школы, створаныя мясцовым самакіраваннем, — 68,3% мужчынскіх і 52,5% жаночых. Прыватнымі з'яўляліся 15,2% мужчынскіх і 32,5% жаночых школ, дзяржаўнымі — 16,5% мужчынскіх і 15% жаночых. Пры гэтым дзяржаўныя школы ствараліся ў асноўным на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны [316, с. 140]. Гэта было выклікана як нізкім узроўнем сельскай гаспадаркі, так і тым, што там пражывала беднае насельніцтва, а грамадскія структуры былі даволі слабымі.

У ліпені 1932 г. народныя сельскагаспадарчыя школы былі падпарадкаваны Міністэрству рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Былі зроблены спробы правесці іх рэарганізацыю. Развіццё сеткі школ адбывалася без усялякага плана. Школы з'яўляліся толькі ў тых паветах, дзе для гэтага былі ўмовы. Як адзначаюць польскія даследчыкі, найбольш цяжкім было становішча ва ўсходніх ваяводствах 2-й РП [316, с. 149].

Да 1939 г. колькасць сельскагаспадарчых школ дасягнула 173 (95 мужчынскіх і 78 жаночых). Калі улічваць, што да 1940 г. планавалася стварыць як мінімум 482 школы, то неабходна прызнаць, што закон 1920 г. не быў рэалізаваны. Але нават пры самых лепшых умовах народныя сельскагаспадарчыя школы змаглі б ахапіць толькі 10% вясковай моладзі [316, с. 182]. Гэта было зразумела ўжо ў 1920-х гг. Таму пачаліся пошукі іншага рашэння праблемы пашырэння сельскагаспадарчай асветы.

Натуральным выйсцем бачылася ўкараненне пазашкольнай аграрна-асветніцкай працы. З'явілася ідэя разгарнуць на базе маладзёжных арганізацый планавую і сістэматычную працу ў сферы пазашкольнай прафесійнай асветы ў выглядзе сельскагаспадарчых конкурсаў.

Першы праект правядзення такіх конкурсаў быў прапанаваны ў чэрвені 1925 г. Цэнтральным саюзам сельскай моладзі (далей — ЦССМ). У пачатку 1926 г. сельскагаспадарчыя конкурсы адбыліся ў асобных паветах. Міністэрства сельскай гаспадаркі прызнала гэтую дзейнасць мэтазгоднай для павышэння земляробчай культуры. Быў створаны спецыяльны распарадчы орган, які б кіраваў падобнай дзейнасцю іншых маладзёжных арганізацый. У 1928 г. кіраўніком сельскагаспадарчай асветніцкай працы ўсіх маладзёжных арганізацый стаў прафесар Юзэф Мікулоўскі-Паморскі. Менавіта ён увёў тэрмін «сельскагаспадарчая падрыхтоўка» адносна конкурсаў. З 1928 г. СП стала важнай часткай вясковага маладзёжнага руху. Да канца міжваеннага перыяду колькасць юнакоў і дзяўчат, якія атрымлівалі веды ў калектывах СП, дасягнула 100 тыс. чалавек, прыкладна столькі, колькі гаспадарак штогод пераймала маладое пакаленне земляробаў [316, с. 185].

Звычайна ў адзін калектыў СП, арганізаваны пры якой-небудзь маладзёжнай арганізацыі, аб'ядноўваліся да 15 хлопцаў і дзяўчат ва ўзросце 15—20 гадоў. Калектыў абіраў тэму для сваёй працы ў галіне земляробства ці жывёлагадоўлі. Прафесійную дапамогу калектывам СП аказвалі інструктары сельскагаспадарчых арганізацый. У верасні і кастрычніку звычайна праходзілі выставы калектываў СП. Лепшыя з іх атрымлівалі ўзнагароды, у тым ліку стыпендыі для вучобы ў сельскагаспадарчых школах. Праца СП была разлічана на тры гады, ці тры ступені. Згодна з правіламі,

першы год калектыў займаўся земляробствам, другі — жывёлагадоўляй, трэці — усёй гаспадаркай. Лічылася, што тры ступені СП павінны даць усебаковую падрыхтоўку для працы ў сельскай гаспадарцы [151, с. 544].

У міжваенны перыяд СП была адзінай формай сельскагаспадарчай асветы, якая стварала патэнцыяльныя магчымасці для шырокага распаўсюджвання прафесійных ведаў сярод сялянства. Узровень сельскагаспадарчых ведаў сведчыў, што СП была паўнавартасным дапаўненнем сельскагаспадарчых школ. Пры гэтым яна забяспечвала падрыхтоўку значнай колькасці моладзі за невялікі кошт. Штогадовы кошт навучання аднаго ўдзельніка СП складаў прыкладна 30 злотых, у той час як кошт навучання ў сельскагаспадарчай школе быў у 20—30 разоў вышэйшым [316, с. 186].

Неабходна адзначыць, што ўлады, як і ў выпадку з правядзеннем ВП, разумелі неабходнасць каардынацыі намаганняў у сферы працы з маладымі вяскоўцамі. Але неадкладныя палітычныя і эканамічныя праблемы перашкаджалі «санацыі» вырашыць гэтае пытанне. Толькі ў пачатку 1932 г. адбылося стварэнне Цэнтральнага камітэта па справах сельскай моладзі. Ён быў арганізаваны па ініцыятыве чыноўнікаў Міністэрства сельскай гаспадаркі, Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы і МУС для «гарманізацыі» іх дзейнасці ў сферы сельскагаспадарчага навучання, грамадскага выхавання, асветы — накірункаў, якія вялі да «павышэння гаспадарчага, грамадскага і культурнага ўзроўня жыцця вёскі». Разам з прадстаўнікамі ўрада, дэлегатам Дзяржаўнага ўпраўлення ФВ і ВП, спецыялістамі па земляробству ў склад камітэта ўвайшлі і прадстаўнікі асобных саюзаў сельскай моладзі. На месцах меліся ваяводскія і павятовыя філіялы камітэта. Задачамі дадзенай структуры з’яўляліся: распрацоўка новых метадаў у галіне культурна-асветніцкай дзейнасці, грамадзянскага выхавання, ваеннай падрыхтоўкі; падрыхтоўка адпаведных спецыялістаў; выдавецкая дзейнасць; рацыянальнае размеркаванне фінансавых сродкаў [232, с. 74—75]. Менавіта Цэнтральны камітэт па справах сельскай моладзі ажыццяўляў вярхоўнае кіраўніцтва акцыяй СП. У другой палове 1930-х гг. падобныя функцыі павінен быў выконваць Камітэт па

справах культуры вёскі, які быў створаны ў верасні 1936 г. загадам Савета міністраў [156, с. 154].

Таксама неабходна адзначыць, што шэраг мерапрыемстваў быў праведзены «санацыйным» рэжымам у сферы барацьбы з маладзёжным беспрацоўем. Як ужо адзначалася вышэй, праблема беспрацоўя стаяла даволі востра. На гарадскіх біржах працы было зарэгістравана ўсяго некалькі тысяч маладых беспрацоўных, але гэтыя дадзеныя не адпавядалі рэчаіснасці. У большасці выпадкаў моладзь не магла зарэгістравацца, таму што не мела ніякага працоўнага стажу [132, с. 215].

Праблему занятасці моладзі спрабавалі вырашыць пры дапамозе «лагераў працы». Гэтая практыка была падобнай на практыку заходніх краін, дзе беспрацоўныя ўдзельнічалі ў грамадскіх работах. У «лагерах працы» 6 гадзін у суткі юнакі выконвалі грамадскую работу, 2 гадзіны прысвячалася навучанню, практычным курсам, ВП. Акрамя таго, маладыя людзі атрымлівалі невялікую плату. Улады лічылі, што «галоўным пры правядзенні акцыі занятасці павінна стаць выхаванне і прафесійная падрыхтоўка да будучага самастойнага жыцця» [132, с. 225—226].

Першапачаткова ўсёй гэтай акцыяй кіравала спецыяльнае бюро занятасці моладзі пры Фондзе працы. Пры гэтым у барацьбе з беспрацоўем актыўна ўдзельнічалі не толькі дзяржаўныя структуры, але і грамадскія арганізацыі, у тым ліку і маладзёжныя саюзы. У першую чаргу гэта адносілася да падрыхтоўкі кіраўніцтва і інструктараў для «лагераў працы». Гэтаму пытанню надавалася асаблівая ўвага, паколькі шматлікія недахопы ў дзейнасці лагераў для маладых беспрацоўных тлумачыліся менавіта адсутнасцю належнага адбору кіраўніцтва.

У 1935 г. міністр грамадскай апекі Губіцкі заяўляў, што акцыяй «лагераў працы» ахоплена 20 тыс. чалавек — да 80% беспрацоўнай моладзі, якая ў асноўным займалася будаўніцтвам дарог і меліярацыяй. Пры гэтым міністр адзначаў «зніжэнне ўзроўню моладзі», яе «сапсаванасць». Менавіта з гэтым ён звязваў факты незахавання субардынацыі ў лагерах і нават напады на іх кіраўнікоў. Адначасова ён указваў і на падрыўны ўплыў, накіраваны на зрыў акцыі «лагераў працы» [43, арк. 246—247].

Нягледзячы на існаванне напружанага становішча ў «лагерах працы», улады імкнуліся захаваць іх. Сакрэтная справаздача

аддзела бяспекі МУС (сакавік 1936 г.) прызнавала факты «шматлікіх і сур'ёзных авантур і нават злачынстваў» і тлумачыла іх схільнасцю моладзі да рызыкі і адмоўным уплывам крызісу і беспрацоўя, аднак выказвалася за захаванне юнацкіх лагераў у якасці выхаваўчых цэнтраў [132, с. 226].

З мэтай вырашэння праблемы ўлады перадалі «лагеры працы» пад кіраўніцтва ваенных. У сувязі з гэтым у верасні 1936 г. быў выдадзены спецыяльны дэкрэт прэзідэнта 2-й РП «Аб службе працы моладзі». Маладзёжныя «лагеры працы»ператвараліся ў юнацкія атрады працы. Яны павінны былі несці так званую працоўную службу моладзі, якая была аб'яўлена ганаровай службай нацыі і дзяржаве і заключалася ў «выкананні фізічнай працы на патрэбы абароназдольнасці дзяржавы ці яе эканамічных інтарэсаў». Юнацкія атрады працы таксама забяспечвалі падрыхтоўку моладзі да ваеннай службы і набыццё прафесіі, грамадзянскае выхаванне і агульнае развіццё [129, с. 1 173]. Такім чынам, асноўныя функцыі ранейшых «лагераў працы» захоўваліся.

Юнацкія атрады працы падпарадкоўваліся ваеннаму міністру. Для гэтага пры ім ствараўся савет службы працы, у які ўваходзілі прадстаўнікі міністэрстваў ваенных спраў, грамадскай апекі, унутраных спраў, сельскай гаспадаркі і аграрных рэформ, прамысловасці і гандлю, рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Савет быў дарадчым органам па пытаннях адукацыйнай і выхаваўчай праграмы юнацкіх лагераў працы.

Атрады ўзначальвалі каменданты, якія прызначаліся ваенным міністрам з ліку афіцэраў. Кіруючы, інструктарскі і адміністрацыйны персанал складаўся з салдат абавязковай службы, а таксама з цывільных функцыянераў. Матэрыяльнае забяспячэнне атрадаў даручалася Фонду працы і Міністэрству ваенных спраў.

Згодна з прэзідэнцкім дэкрэтам, у атрады маглі запісваць беспрацоўную моладзь абодвух палоў ва ўзросце 18—20 гадоў. Служба працы працягвалася 2 гады. На гэты час члены атрадаў атрымлівалі жыллё, абмундзіраванне і забяспячэнне па нормах, прызначаных ваенным міністэрствам па ўзгадненні з міністрам грамадскай апекі. У залежнасці ад умоў, поспехаў на службе і ў навучанні члены атрадаў атрымлівалі службовае званне, адпаведнае іх кваліфікацыі.

Дэкрэт прадугледжваў і сістэму льгот. Юнакі, якія знаходзіліся ў атрадзе як мінімум 12 месяцаў, атрымлівалі магчымасць карыстацца ільготамі пры праходжанні абавязковай ваеннай службы. Члены атрадаў мелі права на медыцынскую дапамогу, як салдаты абавязковай службы. У выпадку страты працаздольнасці, інваліднасці ці смерці служба ў атрадзе разглядалася як абавязковая ваенная служба [129, с. 1174].

Як ужо адзначалася, у «лагерах працы» была даволі напружаная сітуацыя з дысцыплінай. Дэкрэт улічыў гэты момант. За парушэнне дысцыпліны прадугледжваўся шэраг пакаранняў: вымова, пазачарговы нарад, забарона пакідаць атрад на тэрмін да 14 дзён, арышт да 3 сутак, паніжэнне ў званні, адлічэнне з юнацкага атрада працы [129, с. 1174].

У 1936 г. колькасць юнацкіх атрадаў працы дасягнула 11 тыс. чалавек, размеркаваных па 18 батальёнах. Маладыя беспрацоўныя прыцягваліся да вырашэння задач па умацаванні абароназдольнасці польскай дзяржавы. Так, акрамя будаўніцтва дарог, рэгулявання і асушэння рэк, чым раней займаліся і «лагеры працы», члены юнацкіх атрадаў удзельнічалі ў будаўніцтве і рамонце розных ваенных збудаванняў [330, с. 722].

Як было заяўлена ў адным з прапагандысцкіх матэрыялаў, «моладзь юнацкіх атрадаў працы — авангард арміі працы, які будзе пракладваць шлях да лепшай будучыні... Юнакі сумесным намаганнем маладых рук пабудуюць фундамент моцнага будынку Польскай дзяржавы і ў ганаровай службе працы падрыхтуюць да барацьбы за існаванне, павялічаць шэрагі годных і творчых грамадзян краіны» [136, с. 379].

Такім чынам, «санацыйны» рэжым правёў шэраг мерапрыемстваў і па вырашэнні праблемы працоўнай занятасці маладога пакалення. Але, зразумела, праблема маладзёжнага беспрацоўя і яе наступстваў не магла быць вырашана толькі юнацкімі атрадамі працы. Улады пры дапамозе гэтых структур не толькі змагаліся з беспрацоўем, але і спрабавалі рэалізаваць такія кампаненты сваёй маладзёжнай палітыкі, як грамадзянскае выхаванне і ВП.

## 2.4 Барацьба вакол акадэмічнай аўтаноміі

Характарызуючы асноўныя накірункі маладзёжнай палітыкі «санацыі», неабходна закрануць і мерапрыемствы, якія кіруючы рэжым 2-й РП праводзіў у студэнцкім асяроддзі і на тэрыторыі вышэйшай школы. Найбольш значным з гэтых мерапрыемстваў стала барацьба ўлад за абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі, якая мела вялікі ўплыў на развіццё маладзёжнага руху, у першую чаргу, зразумела, студэнцкага.

Справа ў тым, што ў першыя гады існавання незалежнай польскай дзяржавы былі створаны ўмовы для існавання даволі шырокай акадэмічнай аўтаноміі. Яна дзейнічала згодна з законам аб вышэйшых школах ад 13 ліпеня 1920 г.

Акрамя ўсяго іншага, гэты закон рэгуляваў і пытанні дзейнасці студэнцкіх арганізацый (артыкулы 99—105). Пры гэтым улічваліся даўнія традыцыі польскага студэнцкага руху, які ўзнік і аформіўся яшчэ да адраджэння польскай дзяржавы.

Закон дазваляў студэнтам ствараць студэнцкія саюзы і карпарацыі ў кожным універсітэце. Статут аб'яднання зацвярджаўся ўніверсітэцкім сенатам. Пры гэтым студэнцкія арганізацыі не мелі права абвяшчаць якія-небудзь палітычныя мэты. Правадзейнымі членамі студэнцкіх аб'яднанняў маглі быць толькі самі студэнты і выкладчыкі. Але трэба адзначыць, што былыя студэнты маглі быць членамі карпарацый, а паколькі існаваў яшчэ і інстытут ганаровых членаў, то былыя студэнты маглі ўдзельнічаць і ў працы іншых студэнцкіх аб'яднанняў, хоць пра гэта напрамую ў законе і не было сказана.

Закон дазваляў і стварэннне міжуніверсітэцкіх студэнцкіх аб'яднанняў, нагляд над якімі ажыцяўляўся Міністэрствам рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Пра нагляд з боку міністэрскіх улад над саюзамі, якія дзейнічалі на тэрыторыі асобных універсітэтаў, нічога не гаварылася. Апека над імі была замацавана за рэктарам і ўніверсітэцкім сенатам. Яна не была строга рэгламентавана, і фактычна студэнцкія арганізацыі карысталіся даволі шырокай самастойнасцю.

Самастойнасць узмацнялася і тым, што акадэмічныя аб'яднанні не падпадалі пад агульныя паліцэйскія распараджэнні, якія прымаліся адносна аб'яднанняў і сходаў. Правам наглядаць за

такімі сходамі карысталіся толькі ўніверсітэцкія ўлады, якія пасылалі свайго прадстаўніка на студэнцкія мітынгі. Але закон адзначаў, што студэнцкія сходы павінны разглядаць толькі пытанні, якія маюць адносіны да ўніверсітэцкага жыцця [312, с. 276—277].

Такія ж самыя ўмовы дзейнасці студэнцкіх аб’яднанняў прадугледжвалі і статуты асобных універсітэтаў 2-й РП, напрыклад ВУСБ [285, с. 35—36].

Неабходна таксама адзначыць, што закон значна абмяжоўваў магчымасці службаў бяспекі ўмешвацца ва ўніверсітэцкая жыццё. У ім адзначалася, што паліцыя можа ўвайсці на ўніверсітэцкую тэрыторыю толькі ў выключных выпадках [319, с. 10].

Дадзены закон дзейнічаў да пачатку 1930-х гг. За гэты час універсітэты былі апанаваны палітычнымі праціўнікамі «санацыі», у першую чаргу польскімі нацыяналістамі, якія дамінавалі ў студэнцкіх арганізацыях і карпарацыях.

Разумеючы, што ён страчвае кантроль над вышэйшай школай і ўплыў на студэнцкую моладзь і маладую інтэлігенцыю, «санацыйны» рэжым вымушаны быў пайсці на абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі і правядзенне рэформы вышэйшай школы.

Лічыцца, што падставай для рэформы паслужылі антысеміцкія студэнцкія выступленні, якія пачаліся ў лістападзе 1931 г. у Варшаве, а потым распаўсюдзіліся і на іншыя ўніверсітэцкія цэнтры, у тым ліку і на Вільню. Гэтыя падзеі выразна паказалі, што дзяржаўныя ўлады практычна не маюць ніякіх магчымасцей для супакаення студэнтаў і пакарання правадыроў хваляванняў. Перашкодай была менавіта аўтаномія ўніверсітэтаў, якая не дазваляла паліцыі з’яўляцца на іх тэрыторыі без дазволу рэктара, а кіраўніцтву сістэмы адукацыі — пакараць вінаватых. Пры гэтым некаторыя рэктары і прафесары нават абаранялі удзельнікаў студэнцкіх хваляванняў [216, с. 182].

Па ініцыятыве міністра Я. Енджэ́віча быў узяты курс на абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі. У сакавіку 1933 г. быў выдадзены новы закон аб вышэйшай школе. Ён дазваляў кіраўніцтву сістэмы адукацыі актыўна ўмешвацца ва ўнутраныя справы вышэйшых навучальных устаноў. Так, калі раней дысцыплінарную ўладу над студэнтамі ажыццяўлялі рэктар і ўніверсітэцкі сенат, то згодна з новым законам стваралася

дысцыплінарная камісія пры міністры. Таксама пашыраліся і паўнамоцтвы паліцыі ў адносінах да ўніверсітэтаў. Акрамя таго, што паліцыю мог выклікаць рэктар, новы закон адзначаў, што «органы бяспекі могуць па ўласнай ініцыятыве ўступіць на тэрыторыю, якая падпарадкоўваецца ўладзе рэктара, калі нельга іншым шляхам пазбегнуць небяспекі, якая пагражае жыццю ці здароўю людзей, ці папярэдзіць цяжкую шкоду для грамадскай маёмасці» [319, с. 9—10].

18 сакавіка 1933 г. быў прыняты закон, які дазваляў міністэрству ўмешвацца ў размеркаванне паміж студэнтамі дзяржаўных стыпендый. Міністр рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы меў права распараджацца 20% стыпендыяльнага фонду, а астатняя частка грошай размяркоўвалася з яго дазволу. Раней гэтым займаліся самі ўніверсітэцкія ўлады [216, с. 183].

Абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі знайшло адлюстраванне і ў распараджэнні міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы пра студэнцкія аб’яднанні, якое ўступіла ў дзеянне ў красавіку 1933 г. Гэты дакумент даволі строга рэгламентаваў стварэнне і дзейнасць студэнцкіх саюзаў у параўнанні з нормамі, якія былі замацаваны ў законе 1920 г.

Згодна з распараджэннем, студэнцкія аб’яднанні маглі стварацца толькі на тэрыторыі адной навучальнай установы. Студэнцкае аб’яднанне не магло быць членам іншага аб’яднання ці арганізацыі без дазволу міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Строга рэгламентаваліся тып, характар і сфера дзейнасці дазволеных студэнцкіх аб’яднанняў. Гэта маглі быць арганізацыі самадапамогі, навуковыя, спартыўныя, нацыянальныя, ідэйна-выхаваўчыя, культурна-таварыскія аб’яднанні. Міністр меў права надаць студэнцкім арганізацыям правы юрыдычнай асобы, што ў сваю чаргу давала права валодаць і распараджацца рухомай і нерухомай маёмасцю, атрымліваць падарункі і дапамогу, заключаць пагадненні [243, с. 156].

Новае рапараджэнне даволі падрабязна рэгламентавала працэдуру стварэння студэнцкіх арганізацый, чаго не было ў законе 1920 г. Была ўстаноўлена мінімальная колькасць заснавальнікаў студэнцкага аб’яднання. Для арганізацыі самадапамогі — мінімум 50 чалавек, для іншых тыпаў арганізацый — 20. Таксама падрабязна агаворваліся патрабаванні да статута арганізацыі, у якім

абавязкова ўказваліся назва арганізацыі (яна павінна была выразна адрозніваца ад назваў іншых аб’яднанняў, якія дзейнічалі ў дадзеным універсітэце); адрас; мэта і метады дзейнасці аб’яднання; правілы ўступлення і выключэння членаў, іх правы і абавязкі; фонды арганізацыі і спосаб збору членскіх узносаў; кіраўніцтва арганізацыі (агульны сход, праўленне, рэвізійная камісія), працэдура яго выбараў і сфера кампетэнцыі; спосаб знешняга прадстаўніцтва; спосаб зменаў у статуце; умовы і спосаб роспуску арганізацыі [243, с. 157].

Як і раней, статут зацвярджаўся ўніверсітэцкім сенатам. Ён мог адмовіць у рэгістрацыі, калі статут не адпавядаў вышэйназваным патрабаванням альбо «калі існаванне аб’яднання з пункту гледжання яго мэты, структуры ці дзейнасці не адпавядае агульным прававым прадпісанням і можа выклікаць пагрозу бяспецы, публічнаму парадку і школьнай дысцыпліне, ці, нарэшце, з’яўленне новага аб’яднання не прынясе карысці ні для моладзі, ні для школы». Адначасова міністр атрымліваў магчымасць выступаць у якасці пасрэдніка, да якога заснавальнікі аб’яднання маглі звярнуцца ў выпадку адмовы ў рэгістрацыі [243, с. 157].

Згодна з новым распараджэннем, уводзіўся прынцып прапарцыянальнасці пры выбарах кіраўніцтва студэнцкіх арганізацый, у якіх налічвалася больш за 200 членаў. Гэта дазваляла «санацыі» правесці сваіх прыхільнікаў на кіруючыя пасады агульнастудэнцкіх арганізацый узаемадапамогі, якія раней былі апанаваны апазіцыйнымі польскімі нацыяналістамі. Акрамя таго, выбары ў студэнцкіх арганізацыях былі пастаўлены пад кантроль рэктара, а кіраўніком выбарчай камісіі станавіўся куратар аб’яднання з ліку выкладчыкаў ВНУ [243, с. 158].

Новым момантам стала ўвядзенне вярхоўнага нагляду і апекі над студэнцкімі аб’яднаннямі з боку міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Непасрэдны нагляд і апеку над імі ажыццяўляў універсітэцкі сенат праз куратара, абранага з ліку выкладчыкаў па рашэнні рэктара. Куратар падпарадкоўваўся непасрэдна рэктару. Праўленне студэнцкага аб’яднання было абавязана інфармаваць куратара пра кожны сход свайго аб’яднання за 48 гадзін да яго правядзення і прадстаўляць яму парадак дня гэтага пасяджэння. Агульныя сходы павінны былі праводзіцца пры абавязковай прысутнасці куратара. Куратар меў права:

удзельнічаць ва ўсіх пасяджэннях студэнцкага аб'яднання; адмяняць рашэнні схода, калі яны, па яго меркаванні, супярэчылі статуту аб'яднання ці прававым нормам; распускаць сход, «калі пры яго скліканні не выконваліся дзеючыя прадпісанні альбо калі ход паседжання набывае характар, які супярэчыць акадэмічнай дысцыпліне ці публічнаму парадку». Усе выступленні аб'яднання ўнутры ўніверсітэта патрабавалі дазволу куратара, выступленні за межамі ВНУ — дазволу рэктара [243, с. 160].

Таксама студэнцкія саюзы былі пастаўлены пад строгі фінансавы кантроль з боку міністэрства і ўніверсітэцкага кіраўніцтва. Студэнцкія аб'яднанні павінны былі прадстаўляць рэктару справаздачы не толькі аб сваёй дзейнасці, але і аб стане «фінансавай гаспадаркі аб'яднання» [243, с. 161].

Акрамя кантролю, рэктар атрымліваў шырокія магчымасці для дысцыплінарнага ўздзеяння на студэнцкія аб'яднанні свайго ВНУ. Універсітэцкае кіраўніцтва мела права прыпыніць дзейнасць студэнцкага саюза ці нават распусціць яго. Гэта магло адбыцца ў выпадку парушэння новага распараджэння міністра аб студэнцкіх арганізацыях, невыканання распараджэнняў кантралюючых органаў (міністра, рэктара, універсітэцкага сената, куратара), а таксама пры ажыццяўленні супрацьзаконнай дзейнасці. Прычынай роспуску магло стаць і тое, што аб'яднанне на працягу справаздачнага года не ажыццяўляла якой-небудзь дзейнасці, прадугледжанай яго статутам. Правам прыпыніць дзейнасць саюзаў і распусціць іх мог скарыстацца і міністр. У выключных выпадках прыпыніць дзейнасць студэнцкага аб'яднання меў магчымасць нават куратар [243, с. 162].

Згодна з новым распараджэннем, студэнцкія аб'яднанні павінны былі змяніць свае статуты ў адпаведнасці з новымі патрабаваннямі да канца лістапада 1933 г. У адваротным выпадку яны падлягалі роспуску з 1 снежня 1933 г. Да гэтага часу павінна была адбыцца і рэарганізацыя міжуніверсітэцкіх аб'яднанняў. Акадэмічныя аб'яднанні, якія з'яўляліся членамі іншых аб'яднанняў і саюзаў, павінны былі пакінуць іх да чэрвеня 1933 г. [243, с. 163].

Новыя распараджэнні выклікалі хвалю незадаволенасці сярод студэнтаў. У многіх ВНУ адбыліся студэнцкія хваляванні і забастоўкі. Тым не менш новае заканадаўства ўступіла ў дзеянне. У сувязі з гэтым пратэстныя акцыі працягваліся. З восені 1935 г.

яны актывізаваліся ва ўсіх універсітэтах. Студэнты знайшлі падтрымку і з боку часткі выкладчыкаў. З’езды рэктараў (верасень 1936 г., красавік 1937 г.) заявілі аб неабходнасці ўнясення зменаў у заканадаўства аб вышэйшай школе, паколькі студэнцкія хваляванні робяць немагчымым правядзенне заняткаў. У выніку ў 1937 г. заканадаўства зноў памянялі, што прывяло да частковага вяртання акадэмічнай аўтаноміі [224, с. 143].

Менавіта на гэта было накіравана і новае распараджэнне міністра рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы аб студэнцкіх аб’яднаннях ад 14 кастрычніка 1937 г. Галоўнай зменай было частковае вяртанне магчымасці стварэння міжуніверсітэцкіх студэнцкіх аб’яднанняў [244, с. 485].

Другім важным момантам была адмена прапарцыянальнасці пры выбарах кіраўніцтва студэнцкіх аб’яднанняў. У новым распараджэнні было сказана толькі пра пажаданасць удзелу прадстаўнікоў меншасці ў кіруючых і кантрольных органах аб’яднанняў узаемадапамогі. Не так строга, як у распараджэнні 1933 г., рэгламентаваліся і самі выбары кіраўніцтва студэнцкіх арганізацый. У новым заканадаўчым акце толькі упаміналася пра тое, што ўніверсітэцкае кіраўніцтва павінна мець магчымасць ажыццяўляць належны кантроль над выбарамі кіраўніцтва аб’яднанняў [244, с. 485].

Трэцім прынцыповым момантам была адмена вярхоўнага нагляду і апекі над студэнцкімі аб’яднаннямі з боку міністэрства. Захоўваліся толькі апека і нагляд рэктара і ўніверсітэцкага сената, не адмяняліся таксама і шырокія паўнамоцтвы куратараў. Фінансавы кантроль дзейнасці студэнцкіх арганізацый ажыццяўляўся рэктарам. Міністр толькі атрымліваў ад рэктара справаздачу аб дзейнасці акадэмічных саюзаў на тэрыторыі яго ўніверсітэта [244, с. 487—488].

Як бачым, змены насілі даволі сур’ёзны характар. Дзякуючы ім, польскія нацыяналісты атрымлівалі магчымасць аднавіць свае пазіцыі ў студэнцкім асяроддзі. Неабходна адзначыць, што гэта адбывалася ў перыяд, калі галоўны ініцыятар рэформы вышэйшай школы, Я. Енджэе́віч, ужо адышоў ад актыўнай палітычнай дзейнасці, а новае кіраўніцтва сістэмы адукацыі, як і новы «санацыйны» блок (ЛНА), узяло курс на збліжэнне са сваімі правымі палітычнымі апанентамі.

Такім чынам, «санацыя» не дасягнула значных поспехаў у справе ўмацавання сваіх уплываў у студэнцкім асяроддзі. Спробы абмежавання акадэмічнай аўтаноміі мелі вельмі непапулярны характар, яны сустракалі супраціўленне з боку як студэнтаў, так і кіраўніцтва ВНУ. Можна прызнаць, што гэты накірунак «санацыйнай» маладзёжнай палітыкі быў самым безвыніковым і нават правальным.

Г Л А В А 3
# ПРАЎРАДАВЫ МАЛАДЗЁЖНЫ РУХ: ІДЭАЛОГІЯ і СТРУКТУРА

## 3.1 Прававыя асновы дзейнасці маладзёжных саюзаў

Як ужо адзначалася, вялікую ролю ў ажыццяўленні афіцыйнай маладзёжнай палітыкі адыгрывалі шматлікія маладзёжныя саюзы, якія імкнуліся ўключыць у «працу на карысць дзяржавы» шырокія масы моладзі. Кожнае з гэтых аб’яднанняў мела свае спецыфічныя мэты і канкрэтныя задачы, арганізацыйныя прынцыпы і метады працы. Але ўсе яны карысталіся сур’ёзнай падтрымкай з боку «санацыі». Менавіта структуры ББСУ і ЛНА імкнуліся выпрацаваць агульную праграму працы і скаардынаваць дзеянні шматлікіх праўрадавых саюзаў і арганізацый.

Патранаж улад не толькі вызначаў галоўныя накірункі дзейнасці праўрадавых арганізацый, якія фармальна з’яўляліся самастойнымі, апалітычнымі і мелі сваё ўласнае кіраўніцтва, але і забяспечваў ім сур’ёзную матэрыяльна-фінансавую і метадалагічную падтрымку, колькасны рост і «клімат найбольшага спрыяння» ў грамадска-палітычным жыцці краіны, у тым ліку і на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў 2-й РП.

Адначасова «санацыя» пры правядзенні сваёй маладзёжнай палітыкі павінна была ўлічваць існаванне і шматлікіх апазіцыйных маладзёжных аб’яднанняў. Яны прадстаўлялі фактычна ўвесь палітычны спектр міжваеннай польскай дзяржавы і з’яўляліся сур’ёзнымі канкурэнтамі «санацыйных» улад і праўладных саюзаў у барацьбе за ўплывы на маладое пакаленне. Без асвятлення гэтай канкурэнцыі немагчыма скласці дакладнае ўяўленне пра дзейнасць «санацыі» ў маладзёжным асяроддзі.

Але перш чым пераходзіць да непасрэднай характарыстыкі структуры і ідэалогіі маладзёжнага руху на тэрыторыі міжваеннай Польшчы і яе паўночна-ўсходніх ваяводстваў, неабходна даць характарыстыку прававой сітуацыі, у якой развівалася дзейнасць грамадскіх, у тым ліку і маладзёжных, аб’яднанняў.

Першым прававым актам, які рэгуляваў пытанні дзейнасці грамадскіх арганізацый, стаў «Дэкрэт аб аб’яднаннях». Ён быў выдадзены 3 студзеня 1919 г. у сувязі з «неабходнасцю неадкладнага ўрэгулявання справы рэгістрацыі аб’яднанняў і саюзаў». Згодна з дэкрэтам, рэгістрацыяй грамадскіх арганізацый павінна было займацца МУС, якое вяло рэестр аб’яднанняў і саюзаў. Заявы аб уключэнні ў гэты рэестр маглі падавацца ці непасрэдна ў МУС, ці ў мясцовыя органы дзяржаўнай адміністрацыі, якія ўжо самі неадкладна перапраўлялі гэтыя заявы ў міністэрства. Міністр унутраных спраў па сваім рашэнні мог перадаць мясцовым органам права на рэгістрацыю грамадскіх аб’яднанняў [128].

У далейшым працэдура рэгістрацыі была спрошчана. Згодна з распараджэннем міністра ўнутраных спраў (люты 1920 г.), рэгістрацыя аб’яднанняў, сядзіба якіх знаходзілася на тэрыторыі ваяводстваў, што раней уваходзілі ў склад Расійскай імперыі, перадавалася ваяводам. Аб’яднанні і саюзы, цэнтральныя сядзібы якіх знаходзіліся ў Варшаве, па-ранейшаму рэгістраваліся непасрэдна ў МУС. Заява аб жаданні стварыць аб’яднанне і прашэнне аб уключэнні ў дзяржаўны рэестр складаліся ў старраствах, адкуль перадаваліся ў ваяводства. У кожным ваяводстве былі абавязаны весці рэестр аб’яднанняў. Аб рэгістрацыі грамадскага аб’яднання ці саюза ўлады павінны былі паведамляць у «Дзённіку ваяводскім». Калі ваявода адмаўляў у рэгістрацыі, зацікаўленыя асобы мелі права звяртацца да міністра ўнутраных спраў [239, с. 328—329].

Дадзеныя дэкрэт і распараджэнне дзейнічалі да пачатку 1930-х гг. Акрамя таго, права грамадзян 2-й РП на стварэнне аб’яднанняў гарантавалася асноўнымі законамі краіны. Так, артыкул 108 Канстытуцыі 1921 г. заяўляў: «Грамадзяне маюць права на кааліцыі, сходы і стварэнне аб’яднанняў і саюзаў. Выкананне гэтых правоў акрэсліваюць законы» [174, с. 653]. Праўда, трэба адзначыць, што на той момант гэтых законаў у распрацаваным выглядзе яшчэ не існавала. Польскія ўлады карысталіся некаторымі прадпісаннямі яшчэ царскіх часоў, а таксама дэкрэтам 1919 г. і звязанымі з ім пастановамі МУС.

«Санацыйная» Канстытуцыя 1935 г. сцвярджала, што дзяржава забяспечвае грамадзянам «магчымасць развіцця іх асабістых

вартасцяў, а таксама свабоду сумлення, слова і аб'яднанняў». Пры гэтым падкрэслівалася, што мяжой гэтых свабод з'яўляецца ўсеагульная карысць [310, с. 497].

Непасрэдна на заканадаўства адносна грамадскіх аб'яднанняў «санацыя», якая імкнулася ўсталяваць сваё дамінаванне ў грамадскім жыцці, звярнула сваю ўвагу даволі позна. Толькі 27 кастрычніка 1932 г. выйшла спецыяльнае распараджэнне Прэзідэнта Рэчы Паспалітай, т. зв. закон пра аб'яднанні. Менавіта на аснове гэтага распараджэння рэгуляваўся «праўны быт аб'яднанняў як добраахвотных, трывалых асацыяцый, што маюць непрыбытковыя мэты» [245, с. 1947].

Да такіх асацыяцый адносіліся і шматлікія маладзёжныя арганізацыі і саюзы, дзейнасць якіх таксама ўлічвалася ў распараджэнні Прэзідэнта РП.

Згодна з распараджэннем, польскія грамадзяне мелі права ствараць аб'яднанні, мэты, структура і дзейнасць якіх не супярэчыць закону і не пагражае публічным бяспецы, пакою ці парадку. Гэтым правам маглі карыстацца асобы ва ўзросце 18 год і вышэй. Школьная моладзь, за выключэннем моладзі вышэйшых школ, не мела права ўваходзіць у «дарослыя» грамадскія аб'яднанні. Праўда, для «сваіх» арганізацый, як гэта будзе паказана ніжэй, рабіліся выключэнні. Пад дзейнасць дадзенага закона не падпадалі манаскія ордэны і духоўныя кангрэгацыі, перадвыбарныя камітэты, прафесійныя саюзы, студэнцкія саюзы, кааператывы, аб'яднанні прадпрымальнікаў. Што да пазашкольнай моладзі ва ўзросце ад 14 да 18 гадоў, то яна магла ўступаць у аб'яднанні са згоды сваіх законных апякуноў, але не мела права ўдзельнічаць у прыняцці рашэнняў і карыстацца выбарчымі правамі [245, с. 1947—1948].

Закон забараняў прымушаць да ўступлення ў аб'яднанне, а таксама абмяжоўваць выхад з яго. Таксама забаранялася стварэнне аб'яднанняў, якія выкарыстоўваюць прынцып безумоўнага падпарадкавання кіраўніцтву арганізацыі. Нельга было аб'ядноўвацца з палітычнымі мэтамі ў арганізацыі, якія займаліся фізічнай падрыхтоўкай і спортам [245, с. 1947].

Закон выдзяляў тры катэгорыі аб'яднанняў: звычайныя, зарэгістраваныя і аб'яднанні «вышэйшай карыснасці».

Заява аб жаданні стварэння звычайнага аб'яднання падавалася як мінімум трыма зацікаўленымі асобамі на разгляд павятовым адміністрацыйным уладам, якія з'яўляліся непасрэдным кантрольным органам. У заяве неабходна было паведаміць: назву аб'яднання, яго мэты і сродкі дзейнасці; тэрыторыю дзейнасці і месца знаходжання сядзібы; імёны заснавальнікаў; спосаб фарміравання кіраўніцтва; спосаб ўступлення і выхаду з арганізацыі; спосаб роспуску аб'яднання. Калі на працягу чатырох тыдняў ад моманту звароту улады не забаранялі ствараць аб'яднанне ці не рабілі заўваг адносна яго стварэння, аб'яднанне магло пачынаць сваю дзейнасць. Закон прадугледжваў, што ўлады павінны належным чынам матываваць сваё рашэнне аб забароне стварэння аб'яднання, калі яго існаванне супярэчыць закону ці пагражае грамадскай бяспецы [245, с. 1948].

Артыкулы 15 і 16 закона прадугледжвалі, што непасрэдная кантрольная ўлада — павятовая адміністрацыя — мела права патрабаваць ад праўлення арганізацыі копіі пратаколаў пасяджэнняў і прынятых рашэнняў, а таксама правяраць усе дакументы арганізацыі, якія знаходзіліся ў яе памяшканні. Калі дзейнасць аб'яднання парушала закон, не адпавядала прынятаму статуту ці пагражала грамадскай бяспецы, кантрольныя улады, у залежнасці ад абставін, маглі вынесці папярэджанне, патрабаваць ліквідаваць у пэўны тэрмін парушэнні ці прыпыніць дзейнасць аб'яднання, а потым распусціць яго. Рашэнне аб роспуску грамадскага аб'яднання павінна было выконвацца неадкладна [245, с. 1948].

Звычайныя аб'яднанні не мелі права ствараць свае аддзелы, арганізоўвацца ў аб'яднаныя саюзы, прымаць у свой склад юрыдычных асоб, карыстацца публічнымі ахвяраваннямі альбо дапамогай з боку дзяржавы ці грамадскіх інстытутаў. Шляхам стварэння звычайных аб'яднанняў не маглі стварацца саюзы аб'яднанняў [245, с. 1949].

Зарэгістраванае аб'яднанне мела правы юрыдычнай асобы. Для яго стварэння патрабавалася як мінімум 15 асоб. Яны павінны былі звяртацца пры пасрэдніцтве павятовых улад (непасрэднай кантрольнай улады) да ваяводскай адміністрацыі (рэгістрацыйнай улады). Да пісьмовай заявы неабходна было прыкласці чатыры экзэмпляры статута, у якім абавязкова указваліся: назва

аб’яднання (яна павінна была выразна адрозніватца ад назваў іншых аб’яднанняў, зарэгістраваных у ваяводстве); тэрыторыя дзейнасці і сядзіба; мэта таварыства і сродкі дзейнасці; спосаб уступлення і выхаду з аб’яднання яго членаў, а таксама іх правы і абавязкі; спосаб збору членскіх узносаў; кіраўніцтва аб’яднання (праўленне, агульны сход, рэвізійная камісія і г. д.), спосаб яго фарміравання і паўнамоцтвы; спосаб знешняга прадстаўніцтва; спосаб вырашэння ўнутраных канфліктаў; спосаб змены статута; маёмасныя правы аб’яднання; умовы ці спосаб роспуску аб’яднання. Калі ствараемая арганізацыя планавала ўступіць у сувязь з іншымі аб’яднаннямі ці знаходзіцца пад іх ідэйным уплывам, гэта таксама павінна было быць адлюстравана ў яе статуце [245, с. 1949].

Ваяводская адміністрацыя (рэгістрацыйная ўлада) павінна была матываваць адмову ў рэгістрацыі, калі існаванне аб’яднання не адпавядала законам ці пагражала грамадскай бяспецы. Калі ўлады не мелі заўваг, то аб’яднанне заносілася ў рэестр аб’яднанняў. Акрамя таго, аб факце рэгістрацыі паведамлялася ў афіцыйным «Маніторы польскім». З моманту ўнясення ў рэестр аб’яднанне набывала юрыдычныя правы [245, с. 1949].

Павятовыя ўлады адносна зарэгістраваных аб’яднанняў мелі тыя ж кантрольныя правы, што і адносна звычайных аб’яднанняў, як гэта было адлюстравана ў 15 і 16 артыкулах. Кіраўніцтва зарэгістраванага аб’яднання павінна было таксама рэгулярна прадстаўляць непасрэднай кантрольнай уладзе пісьмовыя справаздачы. Рашэнне пра роспуск зарэгістраванага аб’яднання прымала рэгістрацыйная ўлада — ваяводская адміністрацыя. Зарэгістраванае аб’яднанне магло быць распушчана ўладамі не толькі за супрацьзаконную дзейнасць ці працу, якая не адпавядала статуту, але і ў выпадку, калі яно фактычна пераставала існаваць ці «яго існаванне стала беспрадметным» [245, с. 1950].

Змены ў статуце зарэгістраванага аб’яднання адбываліся згодна з тымі ж правіламі, з якімі праходзіла і яго стварэнне. Калі аб’яднанне па нейкіх прычынах не мела працаздольнага праўлення, рэгістрацыйныя ўлады прызначалі куратара, які павінен быў выконваць кіруючыя функцыі да таго часу, пакуль не будзе абрана праўленне ці не прынята рашэнне аб роспуску аб’яднання [245, с. 1950].

Згодна з законам, найвышэйшым органам аб'яднання прызнаваўся агульны сход. Склікаць яго павінна было праўленне аб'яднання, калі гэтага жадала пэўная колькасць членаў арганізацыі [245, с. 1950].

Права ствараць аддзелы аб'яднання надавалася толькі тым арганізацыям, чый статут гэта спецыяльна прадугледжваў. Кіраўніцтва аддзела, які планавалася стварыць, павінна было паведаміць пра яго стварэнне павятовым уладам. Артыкулы 15 і 16 закона прымяняліся і да аддзелаў зарэгістраваных аб'яднанняў [245, с. 1951].

Саюзы аб'яднанняў ці іншых юрыдычных асоб маглі ствараццa на ўмовах, аналагічных умовам стварэння зарэгістраваных аб'яднанняў. Для стварэння саюза было дастаткова ўдзелу трох аб'яднанняў ці юрыдычных асоб.

Аб'яднанні, якія мелі права карыстацца фінансавай дапамогай з боку грамадскасці, дзяржавы альбо публічных інстытутаў, падлягалі асабліва пільнаму кантролю з боку ўлад. Яны былі абавязаны паведамляць непасрэдным кантрольным уладам пра тэрмін, месца і прычыну кожнага свайго агульнага сходу, а таксама пра пасяджэнні свайго праўлення, калі гэта мела адносіны да іх фондаў. Улады маглі накіроўваць на сход свайго прадстаўніка, які меў права голасу, мог правяраць гаспадарку аб'яднання і мэтазгоднасць яго расходаў. У выпадку пастаянных парушэнняў ваяводскія ўлады маглі пазбавіць аб'яднанне права карыстацца публічнымі дарамі ці дапамогай [245, с. 1951].

Трэцяй катэгорыяй аб'яднанняў, як ужо адзначалася, былі аб'яднанні «вышэйшай карыснасці». Такімі лічыліся арганізацыі, «развіццё якіх з'яўляецца асабліва карысным для дзяржаўных ці грамадскіх інтарэсаў Рэчы Паспалітай» [245, с. 1951]. Зразумела, што ў гэтую катэгорыю «санацыя» залічвала саюзы і аб'яднані, якія знаходзіліся пад яе ўплывам.

Рашэнне аб прызнанні арганізацыі аб'яднаннем «вышэйшай карыснасці» прымалася шляхам распараджэння Савета міністраў, зробленага па прапанове міністра ўнутраных спраў у згодзе з зацікаўленымі міністрамі.

Прызнанне суправаджалася наданнем арганізацыі адпаведнага статута, які дэталёва рэгуляваў яе становішча. Пасля гэтага аб'яднанне атрымлівала правы юрыдычнай асобы, яно магло без

абмежаванняў і спецыяльнага дазволу атрымліваць дапамогу, набываць рухомую і нерухомую маёмасць [245, с. 1951].

Міністр унутраных спраў і міністр фінансаў мелі права надаваць аб'яднанням «вышэйшай карыснасці» асаблівыя льготы і палёгкі пры падаткаабкладанні і дзяржаўных ці камунальных плацяжах. Абмежаванні ўдзелу ў аб'яднаннях непаўналетніх не адносіліся да аб'яднанняў «вышэйшай карыснасці», калі статут самой арганізацыі не прадугледжваў іншых варыянтаў. Школьная моладзь магла ўдзельнічаць у аб'яднаннях «вышэйшай карыснасці» толькі ў аддзелах, якія ствараліся пры школах і знаходзіліся пад кантролем школьных улад [245, с. 1952].

Статус «вышэйшай карыснасці» мог даваць аб'яднанню манапольнае права на дзейнасць у якой-небудзь сферы на тэрыторыі ўсёй дзяржавы ці яе часткі. У гэтым выпадку іншыя арганізацыі не маглі працаваць у гэтай сферы. Надзор над такімі аб'яднаннямі ажыццяўляў міністр унутраных спраў, які прызначаў спецыяльнага дэлегата [245, с. 1952].

Калі аб'яднанне «вышэйшай карыснасці» не выконвала сваіх задач, надзорная ўлада магла прыпыніць паўнамоцтвы яго праўлення і прызначыць прымусовае кіраўніцтва да таго часу, пакуль не будзе абрана новае праўленне. У выключных выпадках, калі гэта прадугледжваў статут ці патрабавалі дзяржаўныя інтарэсы, аб'яднанне магло быць падпарадкавана дзяржаўным уладам. Калі страчваўся сэнс існавання аб'яднання, міністр унутраных спраў у пагадненні з зацікаўленымі міністрамі прымаў рашэнне аб яго роспуску [245, с. 1952].

Закон прадугледжваў і адміністрацыйную адказнасць за невыкананне патрабаваняў кантрольных улад — грашовы штраф у памеры да 500 злотых [245, с. 1952].

Дадзенае заканадаўства рэгулявала дзейнасць у тым ліку і маладзёжных арганізацый да канца існавання 2-й РП. Яно ставіла грамадскія аб'яднанні пад пільны кантроль павятовай і ваяводскай адміністрацыі. З другога боку, дзякуючы існаванню катэгорыі «вышэйшай карыснасці», «санацыйны» рэжым атрымаў легальную магчымасць падтрымліваць «свае» арганізацыі, хаця ён гэта адкрыта практыкаваў і да таго часу, як быў прыняты закон 1932 г.

## 3.2 Стралецкі саюз «Стралец»

Адной з найбольш масавых і актыўных «санацыйных» арганізацый быў стралецкі саюз «Стралец». Трэба адзначыць, што фармальна ён не лічыўся маладзёжным аб'яднаннем і афіцыйна называўся грамадска-ваеннай арганізацыяй. Але, паколькі ён ахопліваў сваім уплывам у асноўным вясковых і гарадскіх юнакоў, яго з поўным правам можна аднесці менавіта да маладзёжных праўрадавых арганізацый.

Традыцыі гэтай арганізацыі ўзыходзілі яшчэ да перыяду напярэдадні Першай сусветнай вайны і былі цесна звязаны з дзейнасцю будучага лідара «санацыі» і яго паплечнікаў. У 1908 г. улады Аўстра-Венгерскай імперыі далі дазвол на стварэнне польскіх ваенізаваных арганізацый. У 1910 г. па ініцыятыве нелегальнага «Саюза актыўнай барацьбы», польскай тайнай ваеннай арганізацыі, кіраўніком якой з'яўляўся Ю. Пілсудскі, былі створаны легальныя параміліртарныя саюзы: стралецкі саюз у Львове і таварыства «Стралец» у Кракаве. Згодна са статутам, задачамі стралецкіх аб'яднанняў былі арганізацыя спартыўных і гімнастычных заняткаў, выхаванне мужнасці і дысцыпліны сваіх членаў. Аднак фактычна галоўная мэта — падрыхтоўка і пачатак паўстання на польскіх землях, якія ўваходзілі ў склад Расійскай імперыі [326, с. 15].

У 1912 г. была створана Галоўная камендатура стралецкіх саюзаў, на чале з камендантам Ю. Пілсудскім. Камендатуры падпарадкоўваліся стралецкія арганізацыі, якія легальна дзейнічалі на тэрыторыі аўстрыйскай Галіцыі, і нелегальныя ваенізаваныя арганізацыі на польскіх землях, якія належалі Германіі і Расійскай імперыі. Членамі стралецкіх саюзаў былі прадстаўнікі ўсіх слаёў грамадства і палітычных партый (за выключэннем Сацыял-дэмакратыі Каралеўства Польскага і Літвы). Асабліва важную ролю ў развіцці «Стральца» ў той час адыгралі студэнты Ягелонскага ўніверсітэта ў Кракаве. У маі 1913 г. Галоўная камендатура была ліквідавана, і яе функцыі пераняў вайсковы аддзел Часовай камісіі аб'яднаных незалежніцкіх партый (Komisja Tymczasowa Skonfederowanych Stronnictw Niepodległościowych). Ваенным камендантам камісіі стаў Ю. Пілсудскі. Акрамя яго, кіруючыя пасады ў «Стральцы» займалі і іншыя будучыя дзеячы

«санацыі» — К. Саснкоўскі, Э. Рыдз-Сміглы, В. Славек. На момант пачатку Першай сусветнай вайны стралецкі саюз налічваў 6 449 падрыхтаваных стральцоў [182, с. 20—23]. З пачаткам ваенных дзеянняў парамілітарныя саюзы сталі асновай ваяваўшых на баку Траістага саюза Польскіх легіёнаў і канспірацыйнай Польскай вайсковай арганізацыі (далей — ПВА), якія адыгралі важную ролю ў адраджэнні польскай дзяржаўнасці [86, с. 166—167].

Аднаўленне дзейнасці «Стральца» пачалося ў жніўні 1919 г. па ініцыятыве былых легіянераў і членаў ПВА і са згоды тагачаснага Начальніка дзяржавы Ю. Пілсудскага. 7 лістапада 1919 г. МУС у паразуменні з Міністэрствам ваенных спраў зарэгістравала стралецкі саюз «Стралец». Ужо ў ліпені 1920 г. каля 10 тыс. членаў арганізацыі прынялі ўдзел у польска-савецкай вайне. Стральцы ваявалі ў шэрагах Войска Польскага, дыверсійнага «Саюза абаронцаў Айчыны» і грамадзянскай міліцыі [329, с. 49].

Асновай дзейнасці «Стральца» ў міжваенны перыяд з’яўляліся тры рэдакцыі яго статута (1919 г., 1922 г., 1932 г.).

Згодна са статутам 1919 г., задачай стралецкага саюза было «абуджэнне і загартоўка ў сваіх членаў нацыянальнага духа, дысцыпліны, маральнай і фізічнай актыўнасці, а таксама распаўсюджванне ваенных ведаў». Галоўнымі накірункамі дзейнасці статут называў арганізацыю для сваіх членаў і моладзі ваенных заняткаў, збораў, спаборніцтваў, стралковых конкурсаў, экскурсій, лагераў і інструктарскіх курсаў [326, с. 18].

Статут 1922 г. сцвярджаў, што задачай арганізацыі з’яўляецца «агульнае памнажэнне нацыянальных сіл праз выпрацоўку ў сваіх членаў дысцыпліны, маральнай і фізічнай актыўнасці, грамадзянскага духа грамадскай працы і выхаванне сваіх членаў з ваеннага пункту гледжання». Асноўнымі формамі дзейнасці называліся: культурна-асветніцкая праца (арганізацыя лекцый, дакладаў, тэатральных паказаў, экскурсій, канцэртаў, стварэнне бібліятэк, чытальняў, выданне кніг і часопісаў), ваеннае навучанне, фізічнае выхаванне (арганізацыя спартыўных заняткаў і спаборніцтваў, правядзенне гімнастычных і спартыўных секцый), а таксама гаспадарчая дзейнасць [326, с. 19].

Статут 1932 г. ужо выразна дэманстраваў, што стралецкі саюз стаіць на глебе канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» і знаходзіцца пад уплывам «санацыйнай» ідэалогіі. У ім было заяўлена, што

задачай «Стральца» з’яўляецца «памнажэнне вартасці і сілы нацыі для развіцця дзяржаўнай моцы краіны». Гэта павінна было адбывацца праз грамадзянскае выхаванне, якое абапіраецца на дзяржаўнатворчую ідэалогію і грамадскую дысцыпліну згодна з указаннямі маршала Ю. Пілсудскага. Яно ўключала правядзенне агульнага і грамадзянскага выхавання, сельскагаспадарчую і прафесійную падрыхтоўку, арганізацыю народных дамоў, святліц (клубаў), бібліятэк, лагераў, выданне часопісаў і кніг, арганізацыю сацыяльнай апекі, правядзенне акцыі ў сферы гігіены. Яшчэ адным накірункам называлася ваеннае навучанне (правядзенне дакладаў, заняткаў, курсаў і лагераў, падрыхтоўка камендантаў і інструктараў). Трэцім накірункам працы было фізічнае выхаванне і спорт (арганізацыя спартыўных клубаў і гурткоў, курсаў, заняткаў, лагераў, удзел у міжнародных спартыўных аб’яднаннях, будаўніцтва і эксплуатацыя стадыёнаў і іншых спартыўных аб’ектаў) [326, с. 19].

Такім чынам, калі да Першай сусветнай вайны стралецкі саюз быў вайсковай арганізацыяй, якая ў першую чаргу рыхтавала сваіх членаў да ўзброенай барацьбы, то ў міжваенны перыяд галоўнай яго задачай стала выхаванне добрага грамадзяніна. Як сцвярджалася ў афіцыйным друкаваным органе арганізацыі, задачай «Стральца» было «выхаванне і навучанне салдата-грамадзяніна, гатовага ў кожную хвіліну да абароны здабытай незалежнасці, межаў дзяржавы і нашых правоў». У «Ідэйнай дэкларацыі стралецкага саюза» (1925 г.) падкрэслівалася, што сродкам да дасягнення мэты саюза можа быць толькі «калектыўнае намаганне ўсіх грамадзян згодна з лозунгам: кожны салдат — грамадзянін, кожны грамадзянін — салдат». Да выхавання грамадзяніна-салдата павінна было весці выкананне трох элементаў: абуджэння разумення таго, што кожны грамадзянін, які абараняе дзяржаву, таксама абараняе свае правы і інтарэсы; разумення таго, што адказнасць за бяспеку дзяржавы ляжыць на плячах кожнага грамадзяніна Польшчы; фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі [329, с. 33—34].

Акрамя таго, на тэрыторыі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны «Стралец» вёў значную працу ў духу «выхавання на “крэсах” свядомасці спайкі з усёй дзяржавай» [94, с. 178]. У стралецкай прэсе адзначалася, што на «ўсходніх крэсах мы

жадаем стаць распаўсюджвальнікамі польскай культуры, будзіць сімпатыі і давер да адзінай Польшчы» [63, с. 132]. Фактычна перад арганізацыяй ставілася задача паланізацыі мясцовай моладзі.

Згодна са статутам «Стральца», яго членамі маглі быць як юнакі, так і дзяўчаты. Пры гэтым існавала ўнутранае дзяленне на «выхаваўча-ўзроставыя групы»: стралецкія арляняты (з 13 да 17 гадоў), стралецкія юнакі (з 17 да 19 гадоў) і стральцы (пасля 19 гадоў), якія ў сваю чаргу дзяліліся на дапрызыўнікоў і рэзервістаў [230, с. 8]. Крыніцы сведчаць, што ў асноўным стралецкі саюз «Стралец» аб'ядноўваў мужчынскую дапрызыўную моладзь ва ўзросце ад 18 да 21 года [263, с. 174].

Стралецкі саюз меў грамадска-ваенную накіраванасць. Грамадскі характар яму надавалі ажыццяўленне грамадзянскага выхавання, прынцып добраахвотнасці ўступлення, частковая выбарнасць кіраўніцтва і яго адказнасць перад радавымі членамі стралецкага саюза, прынцып самафінансавання — «даваць, а не браць у дзяржавы». Ваенныя рысы выяўляліся ў рэалізацыі праграмы ваеннай падрыхтоўкі. Дваістасць назіралася і ў сістэме кіравання, якая складалася з двух элементаў: «грамадскага», што абіралася, было неаплочваемым і называлася праўленнем, і «ваеннага», якое прызначалася, аплочвалася і называлася камендатурай [232, с. 83].

Ваенны характар «Стральца» падкрэсліваўся і тым, што ў ім існавала сістэма званняў, паралельная званням у Войску Польскім (табл. 5).

Тэрытарыяльная структура «Стральца» супадала з дыслакацыяй ваенных акруг Войска Польскага. У Заходняй Беларусі існавалі дзве акругі стралецкага саюза — № 3 «Гродна» і № 9 «Палеская». Яны адпавядалі 3-й і 9-й акругам польскай арміі са штабамі ў Гродне і Брэсце. Акруга «Гродна» падзялялася на падакругі з цэнтрамі ў Беластоку, Вільні, Гродне і Маладзечне. Акруга «Палеская» мела падакругі «Навагрудак» і «Брэст». Падакругі дзяліліся на паветы і гміны. У паветах ствараліся павятовыя камендатуры саюза. На чале іх стаялі спецыяльна прызначаныя афіцэры. У гмінах «Стралец» узначальвалі гмінныя каменданты. Звычайна гэтыя пасады займалі таксама афіцэры. У выключных выпадках камендантамі з'яўляліся чыноўнікі, якія прайшлі вайсковую службу

Т а б л і ц а 5 — Званні ў Войску Польскім і стралецкім саюзе «Стралец» [176, с. 508—513]

| Войска Польскае | Стралецкі саюз «Стралец» |
|---|---|
| Брыгадны генерал | Галоўны камендант стралецкага саюза |
| Палкоўнік | Інспектар стралецкага саюза |
| Падпалкоўнік | Акруговы стралецкага саюза |
| Маёр | Падакруговы стралецкага саюза |
| Капітан | Павятовы стралецкага саюза |
| Паручнік | Старшы кампанійны стралецкага саюза |
| Падпаручнік | Кампанійны стралецкага саюза<br>Падхарунжы стралецкага саюза |
| Старшы сержант<br>Старшы вахмістр (у кавалерыі) | Старшы сержант стралецкага саюза |
| Сержант<br>Вахмістр (у кавалерыі) | Сержант стралецкага саюза |
| Плутановы | Дружыновы стралецкага саюза |
| Капрал | Секцыйны стралецкага саюза |
| Старшы стралок<br>Старшы ўлан (у кавалерыі) | Старшы стралец |
| Стралок<br>Улан (у кавалерыі) | Стралец |

і мелі званне не ніжэй унтэр-афіцэра. Акруга была разлічана на корпус «Стральца», падакруга — на дывізію ці батальён, павет — на батальён ці полк, гміна — на роту. Арганізацыйнай адзінкай быў атрад, які ахопліваў моладзь адной ці некалькіх вёсак [43, арк. 106—107].

Органамі ўлады ў стралецкім саюзе на ўсіх узроўнях былі: агульныя сходы і з'езды дэлегатаў, Вярхоўны савет, праўленні, рэвізійныя камісіі, стралецкія суды. Ніжэйшы ўзровень кіраўніцтва падпарадкоўваўся кантролю вышэйшых уладных структур. Уся дзейнасць вярхоўных улад «Стральца» падпарадкоўвалася Міністэрству ваенных спраў [202, с. 93].

З'езды дэлегатаў і агульныя сходы маглі быць звычайнымі і надзвычайнымі. Звычайныя адбываліся раз у год, надзвычайныя

ў любы тэрмін па рашэнні праўлення, па даручэнні вышэйшых улад, па прапанове рэвізійнай камісіі ці па загаду каменданта. Да кампетэнцыі з'езда адносіліся: разгляд і зацвярджэнне справаздач Вярхоўнага савета, Галоўнага праўлення, рэвізійнай камісіі, а таксама справаздач стралецкага суда; зацвярджэнне бюджэта саюза; прыняцце змен у статуце арганізацыі; выбары Галоўнага старшыні, рэвізійнай камісіі і стралецкага суда; прыняцце інструкцый для кіраўніцтва саюза; разгляд і прыняцце прапаноў кіраўніцтва саюза, акруг і асобных дэлегатаў; рашэнні адносна фінансаў саюза і членскіх узносаў, а таксама набыцця і продажу нерухомай маёмасці; рашэнні аб прыцягненні да судовай адказнасці кіраўніцтва саюза ці асобных яго членаў; наданне ганаровага членства; роспуск і ліквідацыя аб'яднання.

Вярхоўны савет кіраваў арганізацыяй і ажыццяўляў кантроль над працай Галоўнага праўлення, падтрымліваў сувязь з Галоўнай рэвізійнай камісіяй і Галоўным стралецкім судом. У склад савета ўваходзілі члены Галоўнага праўлення, інспектары, старшыні і каменданты акруг і падакруг. На чале савета звычайна стаяў страшыня Галоўнага праўлення. У савеце дзейнічалі тры камісіі: статутная, гаспадарчая і па бягучых справах. Савет збіраўся па патрэбе, але не радзей як раз у год. Яго склікаў старшыня па рашэнні Галоўнага праўлення, просьбе рэвізійнай камісіі ці загаду Галоўнага каменданта [202, с. 94].

Галоўнае праўленне складалася з 10 членаў, якія выбіраліся агульным з'ездам дэлегатаў звычайнай большасцю галасоў. Праўленні акруг, падакруг, паветаў і атрадаў у сваёй арганізацыі будаваліся па ўзору Галоўнага праўлення. Да кампетэнцыі праўленняў усіх узроўняў адносілася: выкананне рашэнняў з'езду дэлегатаў; кіраванне ўсімі справамі аб'яднання на сваім узроўні; скліканне з'езду дэлегатаў; кантроль над выкананнем статута, прадпісанняў і загадаў; стварэнне матэрыяльных умоў для развіцця арганізацыі; распараджэнне маёмасцю і фондамі і вядзенне справаводства; кантроль за праўленнямі ніжэйшага ўзроўню; складанне справаздач і прадстаўленне агульнага плану будучай працы для вышэйшага кіраўніцтва; прыём і выключэнне членаў; на ўзроўні акругі і вышэй — стварэнне і роспуск атрадаў і адпаведных праўленняў, іх рэгістрацыя; нагляд за ідэйным бокам працы і жыцця, арганізацыйнай і выхаваўчай дысцыплінай членаў,

правядзенне прапаганды ідэалогіі стралецкага саюза на сваёй тэрыторыі; стварэнне спецыяльных камісій; удзел у агульнаграмадскай дзейнасці, «асабліва ў арганізацыйным, грамадзянскім, грамадскім і прафесійным выхаванні членаў»; забяспячэнне матэрыяльных сродкаў і маральнай апекі над працай падпарадкаваных ім жаночых атрадаў [202, с. 95].

Для выканання рашэнняў і распараджэнняў на цэнтральным узроўні існавала Бюро Галоўнага праўлення, задачай якога была тэхнічная падрыхтоўка матэрыялаў, звязаных з дзейнасцю праўлення. Таксама існаваў і шэраг камісій, якія з’яўляліся дапаможнымі органамі ў адпаведных сферах. Сталымі камісіямі былі: савет грамадзянскага выхавання, камісія фізічнага выхавання, грамадская камісія, статутная камісія, акадэмічная камісія, фінансава-гаспадарчая камісія, рэдакцыйны камітэт.

На ўсіх арганізацыйных узроўнях стралецкага саюза дзейнічалі рэвізійныя камісіі. У іх абавязкі ўваходзілі нагляд і кантроль над справаводствам, фінансавай і матэрыяльнай гаспадаркай праўлення адпаведнага ўзроўню. Таксама рэвізійная камісія мела права кантраляваць усе кіруючыя органы і арганізацыйныя адзінкі ніжэйшага ўзроўню [202, с. 96].

Пры ўсіх праўленнях існавалі таксама стралецкія суды. Яны павінны былі разглядаць канфлікты паміж членамі арганізацыі, а таксама ўсе выпадкі парушэнняў «прынцыпаў этыкі і гонару членаў стралецкага саюза» [202, с. 96].

Усе вышэйпералічаныя органы прадстаўлялі «грамадскі» элемент. Што да «ваеннага» элемента, то найвышэйшай у арганізацыйнай іерархіі была Галоўная камендатура, на чале якой стаяў Галоўны камендант стралецкага саюза. Яго прызначаў міністр ваенных спраў па прапанове дырэктара Дзяржаўнага праўлення ФВ і ВП. Таксама міністр прызначаў камендантаў ніжэйшага ўзроўню, калі лічыў неабходным знаходжанне на гэтых пасадах афіцэраў абавязковай службы. Камендантаў, якія не з’яўляліся афіцэрамі Войска Польскага, прызначаў Галоўны камендант. Задачамі камендантаў стралецкага саюза былі: правядзенне ўсёй выхаваўча-адукацыйнай працы; выкананне абавязкаў, даручаных дзяржаўнымі органамі ФВ і ВП; выкананне рашэнняў праўлення ў сферы дзяржаўнага выхавання; падрыхтоўка стралецкіх кадраў; прысваенне і пазбаўленне арганізацыйных

званняў; ажыцяўленне дысцыплінарнай улады ў адносінах да падначаленых [202, с. 97].

У задачы Галоўнай камендатуры ўваходзіла: кіраванне дзейнасцю камендатур на тэрыторыі ўсяго стралецкага саюза, выданне дырэктыў і кантроль за іх выкананнем; падрыхтоўка афіцэрскіх кадраў «Стральца»; прызначэнне на службовыя пасады; супрацоўніцтва з цэнтральнымі дзяржаўнымі і вайсковымі ўладамі, а таксама з цэнтральнымі органамі грамадскіх арганізацый; супрацоўніцтва ў распрацоўцы інструкцый для саюза; падрыхтоўка для Галоўнага праўлення справаздачы і бюджэту [202, с. 97].

У склад Галоўнай камендатуры ўваходзілі Галоўны камендант, тэрытарыяльныя інспектары, афіцэр па даручэннях, штаб працы жанчын, штаб Галоўнай камендатуры стралецкага саюза. У сваю чаргу штаб складаўся з некалькіх аддзелаў: агульна-арганізацыйнага, прапагандысцкага, грамадзянскай падрыхтоўкі, стралковага спорту. Адным з важнейшых з'яўляўся аддзел грамадзянскага выхавання, да кампетэнцыі якога адносіліся выхаванне і падрыхтоўка членаў арганізацыі, супрацоўніцтва з акцыяй прафесійнай падрыхтоўкі, ФВ і ВП. Ён рыхтаваў дырэктывы, выданні і праграмы працы ў вышэйназваных сферах [202, с. 99—100].

Галоўнымі крыніцамі для развіцця дзейнасці «Стральца» былі датацыі Галоўнай камендатуры саюза, членскія ўзносы, ахвяраванні і дапамога з боку органаў мясцовага самакіравання. Неабходна адзначыць, што загад Міністэрства ваенных спраў напрамую абавязваў не толькі армію, але і ўвесь дзяржаўны апарат ажыццяўляць апеку над арганізацыямі, якія праводзяць ВП [40, арк. 114]. Канчаткова дадзеная практыка замацавалася ў 1933 г., калі была прынята пастанова аб наданні «Стральцу» статуса арганізацыі «вышэйшай карыснасці». Фактычна было ўзаконена ўтрыманне стралецкіх арганізацый за кошт мясцовага кіравання. З гэтага моманту стралецкі саюз з'яўляўся не толькі грамадскай арганізацыяй, але і «дзяржаўнай пляцоўкай» ВП. Менавіта гэта давала членам саюза заканадаўча замацаваныя льготы (права на скарочаны тэрмін службы ў арміі, вызваленне ад падаткаў і г. д.) [32, арк. 8].

## 3.3 Саюзы вясковай і гарадской моладзі

Акрамя стралецкага саюза, адной з найбольш масавых і актыўных праўрадавых арганізацый 2-й РП у 1930-я гг. стаў ССМ «Сеў» (Związek Młodzieży Wiejskiej «Siew»). З 1934 г. гэтая арганізацыя афіцыйна стала насіць назву СМВ (Związek Młodej Wsi). Як сведчаць архіўныя крыніцы і літаратура, найбольшую актыўнасць ён праяўляў на тэрыторыі «ўсходніх крэсаў», асабліва ў Віленскім і Палескім ваяводствах [263, с. 19].

Калі параўноўваць са стралецкім саюзам, то дадзеная маладзёжная арганізацыя прайшла даволі складаную ідэйную і структурную эвалюцыю.

Як і ў выпадку са «Стральцом», першыя гурткі сельскай моладзі ўзніклі яшчэ да пачатку Першай сусветнай вайны. Пачынаючы з 1912 г., на этнічна польскіх землях дзейнічаў нелегальны саюз сельскай моладзі, па ініцыятыве якога моладзь вёсак і мястэчак пад кіраўніцтвам народных настаўнікаў, грамадскіх дзеячаў і ксяндзоў стварала так званыя юнацкія дружыны, якія вялі культурна-асветніцкую і грамадскую працу, а таксама займаліся ваеннай падрыхтоўкай мужчынскай моладзі [196, с. 4].

Пасля аднаўлення польскай дзяржавы пэўную ролю у развіцці вясковага маладзёжнага руху на заходнебеларускіх землях адыграла Таварыства стражы крэсовай, якое ставіла перад сабой мэту «абароны польскіх крэсаў» і карысталася матэрыяльнай падтрымкай польскіх улад. У праграму яго працы ўваходзіла ў тым ліку і стварэнне гурткоў ССМ. У гэтым накірунку таварыства дасягнула значных поспехаў, але падзеі польска-савецкай вайны адмоўна адбіліся на развіцці вясковага маладзёжнага руху. У далейшым інструктары таварыства наогул адмовіліся ад працы сярод вясковай моладзі, што прывяло да заняпаду большасці гурткоў [304, с. 18].

Адначасова сваю апеку над гурткамі вясковай моладзі імкнуўся распаўсюдзіць Цэнтральны саюз сельскагаспадарчых гурткоў (далей — ЦССГ). Гэта была гаспадарчая арганізацыя, якая ставіла перад сабой мэту павышэння прадукцыйнасці земляробства і абароны інтарэсаў сельскай гаспадаркі шляхам распаўсюджвання сельскагаспадарчых ведаў, арганізацыі сялян у прафесійныя саюзы і саюзы самадапамогі. Яна ўзнікла ў выніку дзяржаўнага плана

ўніфікацыі земляробчых арганізацый. Разам з сялянамі саюз аб'ядноўваў буйных зямельных уласнікаў і асаднікаў. З самага пачатку існавання ў ЦССГ быў даволі значны ўплыў пілсудчыкаў [232, с. 175].

У чэрвені 1919 г. кіраўніцтва маладзёжнай секцыі гэтай арганізацыі склікала ў Варшаве з'езд прадстаўнікоў гурткоў, на якім было прынята рашэнне аб стварэнні Цэнтральнага саюза сельскай моладзі (Centralny Związek Młodzieży Wiejskiej) (далей — ЦССМ), які стаў самастойнай секцыяй пры ЦССГ. ЦССМ даволі хутка падпарадкаваў сабе амаль увесь рух вясковай моладзі і правёў уніфікацыю форм яго дзейнасці [196, с. 4].

Галоўнай задачай арганізацыі было «выхаванне і падрыхтоўка добрых, разумных і актыўных грамадзян Польшчы». Планавалася ажыццяўляць яе праз правядзенне сходаў, лекцый і курсаў; арганізацыю бібліятэк; стварэнне аркестраў, пажарнай стражы; падрыхтоўку вечароў і свят; арганізацыю спартыўных заняткаў і ВП, а таксама аказанне матэрыяльнай дапамогі ў справе навучання здольнай моладзі. Пры гэтым адзначалася, што арганізацыя «абапіраецца на гранітны фундамент хрысціянскага вучэння, імкнецца да актыўнай яго рэалізацыі ў асабістым і калектыўным жыцці праз выкананне прынцыпаў любві і братэрства» [175, с. 147].

Статут прадугледжваў тры арганізацыйныя ўзроўні аб'яднання: гурток вясковай моладзі як самастойная секцыя пры сельскагаспадарчым гуртку; акруговы саюз сельскай моладзі як самастойная частка акруговага саюза сельскагаспадарчых гурткоў, Цэнтральны саюз сельскай моладзі як самастойная арганізацыя ЦССГ. Адзначалася, што членам гуртка мог быць хрысціянін, паляк ці полька, дасягнуўшыя 16 гадоў. Член саюза быў абавязаны «дзейнічаць згодна з патрабаваннямі хрысціянскай этыкі і гонару Польшчы», рэгулярна ўдзельнічаць у пасяджэннях арганізацыі, выконваць статут і рашэнні гуртка і падтрымліваць яго развіццё, рэгулярна выплочваць членскія ўзносы, падтрымліваць друкаваны орган саюза — часопіс «Сеў». Кожны член арганізацыі меў права голасу, права рабіць прапановы і праекты, выбіраць праўленне, рэвізійную камісію і дэлегатаў у кіраўніцтва акруговага саюза і ЦССМ, а таксама карыстацца ўсім абсталяваннем гуртка [175, с. 148—149].

Аднак неабходна адзначыць, што, акрамя ЦССМ, існавалі і іншыя арганізацыі. Так, у сакавіку 1927 г. узнік саюз народнай моладзі (Związek Młodzieży Ludowej) (далей — СНМ). Першапачаткова ён быў звязаны з Польскай народнай партыяй «Пяст» (Polskie Stronnictwo Ludowe «Piast»). Але ўжо ў 1928 г., пасля стварэння ББСУ, гэты маладзёжны саюз пачаў цесна супрацоўнічаць з «санацыяй». Па сваіх мэтах і формах дзейнасці СНМ быў блізкім да ЦССМ. Мэтай арганізацыі было аб’яўлена заахвочванне моладзі да самаадукацыйнай, грамадскай і прафесійнай працы, а таксама выхаванне дысцыплінаваных грамадзян дзяржавы, гатовых аддаць ёй свае духоўныя і фізічныя сілы. Але СНМ быў больш палітызаваным, чым іншыя арганізацыі вясковай моладзі. Ён карыстаўся актыўнай падтрымкай дзяржаўнай адміністрацыі, у тым ліку і фінансавай [302, с. 16].

Палітызацыя ЦССМ і стала прычынай яго расколу, які адбыўся ў чэрвені 1928 г. на базе адносін да рэжыму «санацыі». «Санацыйны» рэжым імкнуўся ўмацаваць свой уплыў у сельскагаспадарчых арганізацыях, у першую чаргу ў ЦССГ, часткай якога з’яўляўся і ЦССМ. Большая частка кіраўніцтва саюза, не жадаючы падпарадкоўвацца загадам «санацыі» і прагнучы весці незалежную дзейнасць, стварыла саюз сельскай моладзі Рэчы Паспалітай «Віцы» (Związek Młodzieży Wiejskiej Rzeczypospolitej “Wici”) (далей — ССМ РП «Віцы»), друкаваным органам якога стаў часопіс «Віцы». 29 чэрвеня 1928 г. на з’ездзе ЦССМ большасць дэлегатаў падтрымала гэтае рашэнне. Прыхільнікі «санацыі» з астаткаў ЦССМ утварылі ССМ «Сеў» (ад назвы свайго друкаванага выдання). Неабходна адзначыць, што на тэрыторыі Заходняй Беларусі большая частка арганізацый сельскай моладзі ў той ці іншай форме падтрымала «санацыю» [196, с. 5—6].

Да 1931 г. ССМ «Сеў» працягваў знаходзіцца ў арганізацыйным і ідэалагічным падпарадкаванні ЦССГ. Потым ён стаў самастойнай арганізацыяй, дзейнасць якой абапіралася на ўласны статут, што ў значнай меры садзейнічала ўмацаванню яго аўтарытэту і спрашчала доступ да моладзі. Аднак існаванне шматлікіх праўрадавых маладзёжных арганізацый і канкурэнцыя паміж імі аслаблялі пазіцыі «санацыі» ў асяроддзі сялянскай моладзі і перашкаджалі ажыццяўленню яе планаў. Дзеячы «санацыі» асуджалі «парцэляцыю» маладзёжнага руху ў вёсцы і лічылі

неабходным правесці яго ўніфікацыю. На іх думку, гэтая ўніфікацыя была «прадыктавана ідэалагічнай неабходнасцю, якая выцякае з фундаментальных прынцыпаў лагера Маршала Пілсудскага, накіраваных да агульнай кансалідацыі ўсіх арганізацый, якія вызнаюць ідэалогію Маршала». Пасол Сейма М. Шышко пісаў на старонках беластоцкай прэсы: «Маршал Пілсудскі, які, як уважлівы журавель, ахапіў позіркам усе сферы польскага жыцця, звярнуў значную ўвагу і на гэтую пляцоўку польскай рэчаіснасці і вылучыў лозунг аб'яднання вясковай моладзі, накіравання ўсяго маладзёжнага руху пад сцяг вялікай, дзяржаўнай Польшчы, пад якім зараз стаіць усё, што з'яўляецца добрасумленным і высакародным, усё, што ўмее дабро дзяржавы і яе будучыню паставіць над партыяй» [294, с. 3].

«Санацыйныя» колы зрабілі шэраг крокаў для аб'яднання сваіх прыхільнікаў і ліквідацыі канкурэнцыі паміж імі. Па-першае, гэтую канкурэнцыю павінен быў улагодзіць Цэнтральны камітэт па справах сельскай моладзі. Па-другое, была праведзена арганізацыйная кансалідацыя шматлікіх саюзаў сельскай моладзі. 4 верасня 1934 г. ССМ «Сеў» аб'яднаўся з шэрагам рэгіянальных арганізацый. Новае аб'яднанне стала называцца саюзам маладой вёскі. Вядучую ролю ў кіруючых структурах новага саюза адыгрывалі былыя функцыянеры ССМ «Сеў» [263, с. 19].

Афіцыйна саюз лічыўся «культурна-асветніцкай арганізацыяй», якая ставіла перад сабой мэту «павышэння духоўнага і гаспадарчага ўзроўню і грамадзянскага пачуцця сваіх членаў, узбагачэнне культуры вёскі і Рэчы Паспалітай» [114, с. 3].

Згодна з устаўнымі дакументамі, ажыццяўленне гэтага адбывалася на аснове прыцягнення членаў да ўдзелу ў рознай грамадскай дзейнасці: арганізацыі і правядзення чытанняў, дыскусій, вечароў, тэатральных спектакляў, сельскагаспадарчых курсаў і конкурсаў, будаўніцтву святліц (клубаў), стварэнню кас узаемадапамогі і да т. п. Неабходна падкрэсліць: у статуце спецыяльна агаворвалася, што «партыйна-палітычныя справы не ўваходзяць у сферу дзейнасці саюза» [114, с. 4].

Аднак ССМ «Сеў»—СМВ стаяў на пазіцыях «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання» і абраў сваім лозунгам словы «Дабро дзяржавы — найвышэйшы закон» [171, с. 463]. Саюз імкнуўся да перабудовы вёскі эвалюцыйным і прагрэсіўным

шляхам. Было заяўлена, што ССМ «Сеў» «стаіць на пазіцыі грамадскай і палітычнай дэмакратыі, якая разумелася як павышэнне культурнага ўзроўню мас і далучэнне ўсяго народа да працы для дзяржавы... лічыць, што адзінай легітымацыяй чалавека з'яўляецца праца і яго ўклад у працу па будаўніцтву Польскай дзяржавы». Выхаваўчым ідэалам з'яўляўся тып байца-працаўніка, узорам якога была асоба Ю. Пілсудскага [232, с. 62]. Такім чынам, перад саюзам ставілася мэта «выхоўваць душу маладога вясковага чалавека ў адпаведнасці з ідэйнымі прынцыпамі Правадыра Нацыі Маршала Юзэфа Пілсудскага, стварыць дасканалага грамадзяніна, які ўсведамляе свае правы і абавязкі» [272, с. 1].

Арганізацыйная дзейнасць саюза будавалася на аснове разгалінаванай, строга цэнтралізаванай структуры з цэнтрам у Варшаве. Яму падпарадкоўваліся ваяводскія саюзы: на тэрыторыі Заходняй Беларусі — Віленскі, Палескі, Навагрудскі і Беластоцкі. Ваяводскім саюзам, у сваю чаргу, падпарадкоўваліся акруговыя саюзы ў паветах, якія аб'ядноўвалі пярвічныя ячэйкі — гурткі вясковай моладзі. Вышэйшай уладай лічыўся штогадовы агульны з'езд, які тайным галасаваннем абіраў праўленне саюза. З праўлення фарміраваўся прэзідыум. На месцах ваяводскія саюзы, акруговыя сходы і сходы гурткоў адпаведным чынам фарміравалі мясцовыя кіруючыя органы. Статутнымі дакументамі прадугледжвалася не толькі строгае падпарадкаванне ніжэйшых органаў вышэйшым, але і справаздачнасць кіраўніцтва і яго штогадовая ратацыя [114, с. 6—7, 13, 17].

Калі раней у арганізацыю прымалі з 16 гадоў, то зараз членамі саюза маглі быць толькі паўналетнія грамадзяне 2-й РП, але пры гэтым дазвалялася і членства з 16 год у якасці «элеваў» (вучняў, выхаванцаў) [114, с. 4]. Як і раней, кожны член арганізацыі абавязаны быў дзейнічаць «згодна з патрабаваннямі хрысціянскай этыкі і годнасці грамадзяніна Рэчы Паспалітай», выконваць статут саюза і рашэнні яго вышэйстаячых органаў, рэгулярна наведваць сходы і плаціць членскія ўзносы (пры гэтым праўленне гуртка магло вызваліць свайго члена ад уплаты гэтых узносаў) [114, с. 16].

Стралецкі саюз «Стралец» і ССМ «Сеў»—СМВ ахoплівалі галоўным чынам вясковую моладзь. Для працы сярод гарадской рабочай і рамеснай моладзі ў 1933 г. была створана Арганізацыя працуючай моладзі (Organizacja Młodzieży Pracującej) (далей —

АПМ). У яе склад увайшоў шэраг рэгіянальных арганізацый, адной з якіх было Аб’яднанне рамеснай і прамысловай моладзі Віленскага ваяводства (Zrzeszenie Młodzieży Rzemieslniczej i Przemysłowej woj. Wileńskiego), якое ў 1933 г. налічвала толькі ў адной Вільні каля 900 чалавек [40, арк. 243].

АПМ, як і іншыя «санацыйныя» маладзёжныя аб’яднанні, лічылася апалітычнай арганізацыяй. Галоўнай яе задачай абвяшчалася распаўсюджванне апекі над маладым пакаленнем у форме супрацьдзеяння антыдзяржаўным уплывам праз выхаванне ў грамадска-дзяржаўніцкім духу. Вялікую ўвагу ў сваёй дзейнасці яна надавала дапамозе ў працаўладкаванні маладым беспрацоўным [232, с. 98].

Згодна з «Інструкцыяй Галоўнага ўпраўлення АПМ аб працы гурткоў працоўнай моладзі», асноўнай арганізацыйнай ячэйкай АПМ з’яўляўся «ачаг», які ахопліваў тэрыторыю раёна вялікага горада. На чале «ачага» стаяў кіраўнік. АПМ дзейнічала выключна ў гарадах і мела строгую іерархічную структуру. Выкананне кіруючых функцый залежала не ад «выпадковых вынікаў выбараў», а ад праходжання арганізацыйнай школы. Прэтэндэнт на кіруючую пасаду павінен быў атрымаць ступень толькі пасля адпаведнага навучання і экзаменаў [149, с. 89].

Моладзь унутры ячэйкі дзялілася на калектывы (ад 6 да 15 чалавек). Менавіта ў гэтых калектывах вялася праца, якая мела сваёй мэтай «самавыхаванне і фарміраванне характару». Калектыў узначальваў перадавік, які прызначаўся кіраўніком «ачага».

Адначасова ў «ачагу» АПМ фарміраваліся «рэалізацыйныя гурткі» (музычныя, тэатральныя, спартыўныя, рамесніцкія, харавыя і г. д.), у якія моладзь уваходзіла незалежна ад прыналежнасці да асобных калектываў. На чале гурткоў стаялі адпаведныя інструктары, якія таксама прызначаліся кіраўніком «ачага». Такім чынам, грамадска-выхаваўчая праца праводзілася ў калектывах, а адпачынак і навучанне — у гуртках.

Члены АПМ дзяліліся на кандыдатаў, удзельнікаў і рэчаісных членаў. Кандыдаты (ва ўзросце 14—21 года) прымаліся ў АПМ кіраўніком «ачага».

Інструкцыя прызнавала наступныя сродкі выхаваўчай працы: 1) клубную працу (інфармацыя, тэхнічнае забяспячэнне, бібліятэка, чытанне прэсы, клубныя вечарыны, спевы, відовішчы, краязнаўчыя

экскурсіі, гутаркі, самаадукацыя); 2) фізічнае выхаванне; 3) уладкаванне «ачага» і арганізацыю ў ім майстэрняў; 4) самадапамогу, прадастаўленне магчымасці атрымаць аплочваемую працу (стварэнне бюро пасрэдніцтва працы), аказанне матэрыяльнай дапамогі бедным, прапаганду ашчаднасці і стварэнне кас узаемадапамогі [21, арк. 1—5].

Менавіта апошні момант — дапамога ў працаўладкаванні і матэрыяльная падтрымка — забяспечвалі АПМ колькасны рост і ўплыў ва ўмовах эканамічнага крызісу. Але па меры эканамічнай стабілізацыі і выхаду краіны з крызісу ўплыў АПМ зменшыўся, а колькасць яе членаў скарацілася.

## 3.4 Арганізацыі школьнай моладзі

Свае арганізацыі дзейнічалі і сярод школьнай моладзі. Першае месца сярод іх займаў СПХ, які будаваў сваю дзейнасць на скаўцкіх прынцыпах, але з улікам польскай спецыфікі. Нават сваю назву польскія скаўты ўзялі са старапольскай мовы, у якой харцарам называлі мужнага, ініцыятыўнага і вернага рыцара. Нездарма ўзорам для харцараў быў легендарны Завішша Чорны, удзельнік Грунвальдскай бітвы. Першыя польскія скаўцкія арганізацыі з'явіліся да Першай сусветнай вайны. Сістэматычнае развіццё руху датуецца вясной 1911 г., калі ў Львове пры гімнастычным таварыстве «Сокал» быў арганізаваны першы курс скаўтынга і пачаў выдавацца часопіс «Скаўт» (Skaut) [181, с. 138]. Амаль адначасова скаўцкія дружыны з'явіліся ў Варшаве і Вільні. Нягледзячы на падзеі сусветнай і грамадзянскай войнаў, харцарскі рух працягваў развівацца і ўдзельнічаць у барацьбе за аднаўленне незалежнасці польскай дзяржавы. Так, віленскія харцары былі цесна звязаны з ПВА. У час польска-савецкай вайны на базе харцарскіх дружын Вільні быў створаны Харцарскі батальён самаабароны Вільні, які прыняў актыўны ўдзел у баях 1920 г. і стаў узорам стварэння харцарскіх вайсковых фарміраванняў для ўсёй Польшчы [233, с. 10—12].

Пасля аднаўлення польскай дзяржаўнасці ўсе харцарскія арганізацыі аб'ядналіся ў СПХ. Першапачаткова кіраўніцтва гэтага саюза знаходзілася ў руках польскіх нацыянал-дэмакратаў

і клерыкалаў. Харцарская моладзь выхоўвалася ў духу польскага нацыяналізму, прадстаўнікам нацыянальных меншасцяў 2-й РП доступ у арганізацыю быў закрыты [148, с. 55].

«Санацыйны» рэжым быў незадаволены сітуацыяй, калі «харцарства на пэўны час стала трафеем адной партыі, ідэалогія якой не выходзіць за межы адной нацыі і адной рэлігіі». Такое становішча супярэчыла канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання», прыхільнікі якога лічылі, што калі размова ідзе пра выхаванне, то «належыць гаварыць не на партыйнай, а на дзяржаўнай мове» [252, с. 224]. Таму «санацыя» імкнулася ліквідаваць засілле сваіх палітычных праціўнікаў і змяніць накіраванасць СПХ, што дазволіла б пашырыць яго грамадскую базу.

На IX агульным з'ездзе СПХ (1930 г.) міністр асветы С. Чэрвіньскі настойваў на неабходнасці большага націску на грамадскае выхаванне сярод харцараў. Пры гэтым ён патрабаваў, каб харцарскія выхавацелі імкнуліся знаходзіцца ў «як мага больш блізкім і цесным кантакце з дзяржаўнымі ўладамі, якія кіруюць грамадскім выхаваннем». Міністр заклікаў адмовіцца ад стварэння з харцарства «ціхага вострава, які нерухома ўзвышаецца над хуткай плынню сучаснага жыцця» [249, с. 87—88].

На рубяжы 1920—1930-х гг. «санацыя» змагла захапіць уладу ў СПХ. У выніку была па-новаму сфармулявана мэта арганізацыі: «Саюз мае мэтай выхаванне на прынцыпах хрысціянскай этыкі метадамі скаўтынгу чалавека, які свядома служыць Богу, Польшчы і блізкім, згодна з харцарскімі прысягай і правіламі; распаўсюджванне сярод грамадства прынцыпаў харцарскіх правіл на грамадзянскай службе і падтрыманне жывой нацыянальнай свядомасці і пачуцця дзяржаўных абавязкаў». Акрамя гэтага, асобным пунктам была легалізавана прыналежнасць да саюза нацыянальных меншасцяў. Адначасова было прынята рашэнне аб «харцарскім наступе», які прадугледжваў развіццё арганізацыі як ушыр, так і ўглыб [250, с. 172]. Такім чынам, СПХ павінен быў дзейнічаць у межах ажыццяўлення «санацыйнай» канцэпцыі «дзяржаўнага выхавання».

У далейшым статутныя мэты былі яшчэ раз удакладнены, набылі больш «дзяржаўніцкі» характар. Статут СПХ 1936 г. заяўляў, што мэтай арганізацыі з'яўляецца «падрыхтоўка моладзі да свядомай, актыўнай і ахвярнай службы на карысць Польскай

дзяржавы, заснаванай на любві да яе і салдацкай падрыхтаванасці да яе абароны, бескарыслівасці, грамадзянскай дысцыпліне і гонары» [286, с. 181].

Ідэйным патронам СПХ аб'яўляўся маршал Ю. Пілсудскі. Згадка пра Бога і хрысціянскую этыку захавалася толькі ў прысязе і харцарскіх правілах, згодна з якімі харцар павінен быў служыць Богу і Польшчы, добрасумленна выконваць свае абавязкі, трымаць слова, аказваць дапамогу блізкім, дзейнічаць па-рыцарску, любіць прыроду, быць дысцыплінаваным, чыстым у думках, словах і дзеяннях, не курыць, не ўжываць спіртных напояў і г. д.

Ажыццяўляць свае мэты СПХ павінен быў «правядзеннем выхаваўчай працы харцарскімі метадамі праз арганізацыю лагераў, гульняў і заняткаў, злётаў, гутарак і г. д., выкарыстоўваючы атрадную сістэму». Таксама прадугледжвалася правядзенне ВП у межах, устаноўленых дзяржавай, навучанне кіраўнікоў харцарскай працы, стварэнне і ўтрыманне бібліятэк, выстаў, святліц (клубаў), кас узаемадапамогі, арганізацыя выдавецкай дзейнасці, правядзенне харцарскай акцыі ў грамадстве [286, с. 182].

У СПХ існавала даволі складаная сістэма членства. Статут выдзяляў наступныя яго віды: удзельнікі, харцмістры, актывісты, старшыя харцары, супрацоўнікі і члены, якія падтрымліваюць арганізацыю. Школьнікі і моладзь ва ўзросце да 18 гадоў маглі з'яўляцца членамі арганізацыі ў якасці ўдзельнікаў, якія, у сваю чаргу, дзяліліся на харцараў (да 11 гадоў) і зухаў (малодшыя за 11 гадоў). Харцары аб'ядноўваліся ў дружыны, зухі — у грамады. Удзельнікаў прымалі ў арганізацыю з дазволу бацькоў і, калі размова ішла пра школьнікаў, з дазволу школьнага кіраўніцтва. Удзельнікі карысталіся ўстановамі СПХ, але не мелі права галасаваць [286, с. 182—183].

Дзеці і падлеткі ў СПХ, згодна са скаўцкімі прынцыпамі, павінны былі прайсці адпаведныя ступені і здаць экзамен. У зухаў для хлопчыкаў прадугледжваліся тры ступені-зорачкі, дзяўчынкі маглі атрымаць чатыры зорачкі. Для харцараў-хлопчыкаў існавалі наступныя ступені: юніёр, разведчык, бывалы, харцар-арляня, харцар 2-й РП. Для дзяўчат — добраахвотніцы, піянеркі, самарыцянкі, кіраўніцы, харцаркі 2-й РП [227, с. 133—134].

Паўналетнія харцары, якія мелі адпаведную падрыхтоўку, станавіліся харцмістрамі. Менавіта на іх ускладвалася асноўная

выхаваўчая праца з зухамі і харцарамі. Харцмістры мелі права ўдзельнічаць у выбарах СПХ і займаць у ім пасады. Функцыі, якія не былі непасрэдна звязаны з выхаваўчай працай, ажыццяўлялі актывісты (актывісткі). Яны мелі права выбіраць кіраўніцтва ўсіх узроўняў і права быць абранымі на акруговым узроўні. Старшым харцарам станавіўся выхаванец дружыны, які дасягнуў 18 гадоў ці скончыў школу. Абавязкі харцмістраў, актывістаў і старшых харцараў заключаліся ў выкананні харцарскіх правілаў, актыўным удзеле ў жыцці саюза, падтрыманні мэт і ідэалогіі СПХ, а таксама ў выплаце членскіх узносаў [286, с. 182—183].

Супрацоўнікамі СПХ былі паўналетнія грамадзяне Польшчы, якія ўдзельнічалі ў працы саюза. Яны аб'ядноўваліся ў гурткі сяброў харцараў і мелі права галасаваць на акруговых выбарах. Да членаў, якія падтрымлівалі арганізацыю, адносіліся фізічныя і юрыдычныя асобы, якія абавязваліся рэгулярна плаціць узносы. Выбарчых правоў яны не мелі [286, с. 183].

Згодна са статутам, СПХ складаўся з арганізацый харцараў, харцарак і сяброў харцараў. Арганізацыя харцараў ахоплівала харцараў і зухаў, старшых харцараў, харцмістраў, актывістаў і супрацоўнікаў, якія выконвалі кіруючыя функцыі ў харцарскай арганізацыі. Аналагічнай была арганізацыя харцарак, якая дзялілася на харугвы, а харугвы — на атрады (гуфцы). Атрад складаўся з зухаўскіх грамад, харцарскіх дружын і гурткоў старшых харцараў. Харцарская дружына звычайна ўключала чатыры аддзяленні па шэсць—дзесяць чалавек [286, с. 183].

Тэрытарыяльна саюз дзяліўся на акругі, а акругі — на абводы. Тэрыторыя абвода звычайна супадала з тэрыторыяй павета. Грамады, дружыны і гурткі, якія існавалі на тэрыторыі абвода, складалі атрад (гуфец). У сваю чаргу атрады на тэрыторыі акругі складалі харцарскую харугву [286, с. 184].

На тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд дзейнічалі Віленская, Палеская і Беластоцкая харцарскія харугвы. У лютым 1933 г. па загаду кіраўніцтва СПХ была створана спецыяльная «крэсовая» харугва харцараў, у склад якой увайшлі тэрыторыі Беластоцкай (часткова), Віленскай, Палескай, а таксама Валынскай і Львоўскай харугваў [238, с. 9].

На чале харцарскай дружыны стаяў дружыновы, атрада — гуфцовы, харугвы — камендант. На чале ўсёй арганізацыі харцараў

стаяў Начальнік харцараў. Аналагічнай была структура кіраўніцтва і жаночай харцараўскай арганізацыі [286, с. 184].

Да вышэйшых кіруючых органаў СПХ адносіліся таксама агульны з’езд, вярхоўны харцарскі савет, кіраўнік саюза, рэвізійная камісія, вярхоўны харцарскі суд [286, с. 188]. Аналагічныя органы дзейнічалі на акруговым і абвадовым узроўнях.

Статут таксама замацоўваў абавязкі СПХ ў адносінах да дзяржаўных улад. Для кантролю за гаспадарчай дзейнасцю аб’яднання міністр унутраных спраў у згодзе з міністрамі асветы і ваенных спраў прызначаў спецыяльнага дэлегата, які прысутнічаў на пасяджэннях кіруючых органаў СПХ і меў права накладаць вета на іх рашэнні. Усе выхаваўчыя праграмы саюза праходзілі папярэдняе ўзгадненне ў Міністэрстве рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы. Акрамя таго, арганізацыйныя ячэйкі саюза, якія дзейнічалі ў школах, траплялі пад кантроль школьнага кіраўніцтва [286, с. 191—192].

Яшчэ адной арганізацыяй вучнёўскай моладзі была створаная ў сакавіку 1932 г. ПВ, якая дзейнічала ў асноўным на тэрыторыі гімназій. Ініцыятарам яе стварэння з’яўляліся міністр асветы Я. Енджэ́віч і відны ідэолаг «санацыі» А. Скварчыньскі. На думку апошняга, галоўным выхаваўчым прынцыпам гэтай арганізацыі павінна было стаць «аб’яднанне ідэйна-самавыхаваўчай працы з адначасовай, хоць і нават самай сціплай, практычнай дзейнасцю» [262, с. 208].

Гэты прынцып знайшоў адлюстраванне ў ідэйнай дэкларацыі ПВ, у якой было адзначана, што галоўнай мэтай арганізацыі з’яўляецца праца для дзяржавы — дзеянне без ідэалогіі, бескарыслівае выкананне якой-небудзь важнай для грамадства працы ў інтарэсах усіх жыхароў краіны. Тая ж дэкларацыя сцвярджала, што ПВ «выхоўвае моладзь праз непасрэдную службу нацыі і дзяржаве», паколькі бачыць у гэтай службе найбольш паспяховы метад фарміравання маральных якасцей, характару і розуму сваіх членаў. Арганізацыя была адкрыта для ўсіх жадаючых, без розніцы веры, паходжання ці нацыянальнасці: «Верная традыцыям братэрскага сужыцця народаў Рэчы Паспалітай, Перадавая варта не адвяргае нікога, хто прагне ў яе шэрагах шукаць духоўнай сувязі з польскай нацыяй». Такім чынам, як і ў выпадку з іншымі праўрадавымі арганізацыямі, афіцыйнай мэтай арганізацыі было выхаванне дысцыплінаваных і адказных грамадзян Рэчы

Паспалітай, якія будуць актыўна служыць дзяржаве і перш за ўсё цаніць яе дабро, гонар і вольнасць. Аднак фактычна размова ішла пра выцясненне ўплываў польскіх нацыянал-дэмакратаў, прывіццё моладзі культу асобы Ю. Пілсудскага і вядзенне праўрадавай прапаганды [205, с. 70].

Асноўнай арганізацыйнай адзінкай ПВ з'яўляўся калектыў, які займаўся ідэйна-выхаваўчай працай. У залежнасці ад імкненняў і схільнасцяў сваіх членаў калектыў дзяліўся на гурткі, якія вялі практычную дзейнасць. Прадметам дзейнасці ПВ маглі з'яўляцца як школьныя (школьнае самакіраванне, навуковыя, літаратурныя, тэатральныя і музычныя гурткі, самадапамога), так і пазашкольныя справы [262, с. 209].

Важна адзначыць, што адным з накірункаў пазашкольнай практычнай дзейнасці ПВ была ідэйна-выхаваўчая праца ў вёсцы менавіта на тэрыторыі «крэсаў» 2-й РП, у тым ліку і ў Заходняй Беларусі [315, с. 170]. Агульныя дырэктывы дзейнасці ПВ указвалі наступныя накірункі працы: арганізацыя летніх лагераў на ўсходніх крэсах, пашырэнне межаў польскай культуры, ваенная падрыхтоўка і фізічнае выхаванне [205, с. 71].

Адначасова ПВ павінна была рыхтаваць будучых кіраўнікоў «санацыйных» арганізацый, у тым ліку і маладзёжных саюзаў. Пра членаў арганізацыі гаварылася: «Калі праз некалькі гадоў ён — малады юрыст, урач ці настаўнік — у далёкай мясцовасці распачне працу ў арганізацыі супрацьхімічнай і супрацьпаветранай абароны, "Стральцы" ці гуртку вясковай моладзі, то дзяржава будзе спакойнай за гэтую сферу грамадскага жыцця» [187, с. 410].

Арганізацыя павінна была аб'ядноўваць моладзь ва ўзросце ад 15 да 21 года. Першапачаткова акцыя па стварэнню ПВ ахапіла сярэднія школы ў вялікіх гарадах 2-й РП — Варшаве, Любліне, Львове, Познані. Аднак паступова яна дасягнула і меншых гарадоў і вясковых прафесійных школ. Характэрна, што ўжо адразу пасля стварэння ПВ кіраўнікі школ атрымалі ад міністэрства і куратараў школьных акруг цыркуляр пра неабходнасць падтрымліваць дзейнасць гэтай арганізацыі на тэрыторыі падпарадкаваных ім школ [213, с. 248].

Асобныя гурткі аб'ядноўваліся ў акругі, якія ствараліся з дазволу кіраўніцтва школьных акруг. На чале іх станавіліся прадстаўнікі старэйшага пакалення, звычайна заслужаныя

прадстаўнікі «санацыі», якія ўзначальвалі акруговую калегію вярхоўнага кіраўніцтва ПВ. Усяго існавала 12 тэрытарыяльных акруг ПВ, у тым ліку Брэсцкая і Віленская, якія адпавядалі тэрыторыям школьных акруг [205, с. 69].

Інструктарскія кадры ПВ складалі ў асноўным афіцэры-рэзервісты, чыноўнікі, студэнты і настаўнікі. Але іх роля была абмежаванай, таму што кіраўнікамі калектываў і школьных гурткоў арганізацыі выбіраліся вучні [205, с. 70].

Трэба адзначыць, что ПВ была даволі нешматлікай арганізацыяй, нягледзячы на падтрымку з боку кіраўніцтва сістэмы адукацыі 2-й РП. Калі дзяржаўная падтрымка знікла (пасля зыходу Я. Енджэе́віча з кіруючых пасад ва ўрадзе), дзейнасць ПВ прыйшла ў заняпад. Адной з прычын такога становішча была і дзейнасць улад, якія пасля 1935 г. імкнуліся да кансалідацыі грамадскай актыўнасці і падпарадкавання яе дзяржаўнай адміністрацыі, а таксама жадалі ліквідаваць арганізацыі, якія не прыносілі карысці грамадству. У 1936 г. дзейнасць ПВ атрымала не самую лепшую ацэнку. Яе абвінавачвалі ў абмежаванні сваёй дзейнасці толькі самаадукацыйнай працай і ўдзелам у школьным самакіраванні. Падымалася пытанне аб спыненні фінансавання арганізацыі, якая, да таго ж, абвінавачвалася ў памылковым накірунку выхавання. Дайшло да таго, што яе стваральнік, Я. Енджэе́віч, у час пасяджэнняў сената быў вымушаны абараняць ПВ ад гэтых абвінавачванняў і пераконваць сенатараў у неабходнасці яе далейшага існавання [217, с. 131].

Пасля 1937 г. арганізацыя з захаваннем пэўнай аўтаноміі дзейнічала у межах ЛНА. Па-ранейшаму яна праводзіла летнія лагеры, экскурсіі, акадэміі ў гонар Ю. Пілсудскага і Э. Рыдз-Сміглага, але значэнне ПВ у сферы ажыццяўлення афіцыйнай маладзёжнай палітыкі змяншалася [205, с. 74].

## 3.5 Праўрадавыя студэнцкія аб'яднанні

«Санацыйны» рэжым таксама імкнуўся распаўсюдзіць свой уплыў і на студэнцкую моладзь і маладую інтэлігенцыю. Адным са сродкаў гэтага павінны былі стаць праўрадавыя арганізацыі,

тэрыторыяй дзейнасці якіх з’яўляліся ўніверсітэты 2-й РП, у тым ліку і УСБ.

Старэйшая сярод гэтых арганізацый —СПДМ, гісторыя якой пачалася яшчэ ў XIX ст., калі ў 1886 г. быў створаны канспіратыўны Саюз польскай моладзі (Związek Młodzieży Polskiej) (далей — СПМ), у статуце якога адзначалася, што ён з’яўляецца «школай грамадзянскага выхавання» і «ачагом нацыянальнага прагрэсу». Мэтай гэтай арганізацыі было аднаўленне незалежнасці Польшчы. Дэкларавалася, што СПМ стаіць на грунце палітычнай, грамадскай і нацыянальнай справядлівасці. У пачатку XX ст. арганізацыя зблізілася з лагерам Ю. Пілсудскага і выступала супраць польскіх нацыянал-дэмакратаў (эндэкаў), якія ў той час пайшлі на супрацоўніцтва з уладамі царскай Расіі. Члены СПМ прынялі актыўны ўдзел у барацьбе за незалежнасць польскай дзяржавы, змагаючыся ў шэрагах ПВА і Польскіх легіёнаў Ю. Пілсудскага. Пасля аднаўлення польскай дзяржаўнасці саюз стаў называцца Арганізацыяй нацыянальнай моладзі (Organizacja Młodzieży Narodowej) (далей — АНМ) [130, с. 4].

АНМ імкнулася прыстасаваць сваю ідэалогію да актуальных патрэб адроджанай польскай дзяржавы. Пры гэтым праграма аб’яднання з самага пачатку ўтрымлівала шэраг радыкальных тэзісаў разам з характэрнымі для «санацыйнай» дактрыны «дзяржаўніцкімі» элементамі. Ідэолагі арганізацыі лічылі, што за межамі інтэлігенцкага асяроддзя «дзяржаўнае пачуццё» з’яўляецца вельмі слабым. Працягваючы яшчэ даваенную дыскусію з польскімі нацыяналістамі, яны падкрэслівалі, што вельмі часта дабро нацыі атаясамліваецца з рэакцыйным шавінізмам ці партыйнымі інтарэсамі. Таму перад АНМ ставілася задача «выхаваць пакаленне, якое за крытэрый сваёй дзейнасці ў імя дабра нацыі паставіць перад сабой інтарэс дзяржавы» [168, с. 109].

Трэба падкрэсліць, што ў праграме АНМ знайшло адлюстраванне і нацыянальнае пытанне, вельмі актуальнае для міжваеннай польскай дзяржавы. Арганізацыя імкнулася да «стварэння пазітыўнай праграмы супрацоўніцтва з этнаграфічнымі нацыянальнымі меншасцямі». Было заяўлена, што ўласны польскі нацыянальны інтарэс патрабуе не перашкаджаць развіццю культуры нацыянальных меншасцяў. Фактычна адвяргалася палітыка прымусовай паланізацыі, «палітыка рассякання сякерай

вузлоў, якія цяжка развязаць», паколькі «прымусовая лаяльнасць яшчэ не сведчыць пра пазітыўныя адносіны да дадзенай супольнасці» [168, с. 109].

АНМ не адмаўляла сацыяльнай барацьбы, не лічыла яе антынацыянальнай ці подлай, толькі прызнавала шкоднай яе празмернасць. У гэтай барацьбе арганізацыя імкнулася выступаць на баку «лагера працы», які нясе Польшчы новыя грамадска-грамадзянскія каштоўнасці і здольны стварыць шырокі фундамент для развіцця ўсёй польскай нацыі, а не яе асобных груп. Таму ідэолагі АНМ аб’яўлялі сябе дэмакратамі не толькі па сваіх мэтах, але і па метадах дзейнасці. Таксама яны выступалі і супраць дыктатуры асобы ці групы [168, с. 109].

Адначасова АНМ прэтэндавала на сваю поўную незалежнасць ад старэйшага пакалення: «У нашай арганізацыі няма ні пастыраў, ні авечак, ні майстроў, ні вучняў. Усе лічацца аднолькава абавязанымі да стварэння пазітыўных вартасцяў у студэнцкім асяроддзі, да самастойнай працы над фарміраваннем свайго светапогляду. Таму над намі ніхто не патрануе, не растачае сваёй бацькоўскай апекі, каб мы часам у чым-небудзь не адскочылі ад бацькоўскай праграмы, таму ніхто не ўжывае нас у якасці інструменту для актуальных палітычных выступленняў. Мы фарміруем нашы ідэйныя прынцыпы незалежна ад старэйшага пакалення, паколькі не можам дапусціць, каб нас выхоўвалі толькі ў якасці выканаўцаў» [168, с. 109—110]. Зразумела, што такая пазіцыя не магла знайсці шырокай падтрымкі сярод дзеячаў «санацыі», якія імкнуліся паставіць выхаванне маладога пакалення пад свой кантроль. Але часова, пакуль дзейнасць арганізацыі не супярэчыла планам пілсудчыкаў, яна, нягледзячы на радыкальнасць ідэалогіі, лічылася праўрадавай.

12 жніўня 1927 г. адбылося аб’яднанне АНМ з шэрагам іншых «санацыйных» студэнцкіх саюзаў. У выніку і ўзнік СПДМ. Да 1935 г. гэта была выключна студэнцкая арганізацыя, якая мела свае аддзяленні ва ўсіх універсітэцкіх цэнтрах 2-й РП. З 1935 г. СПДМ павінен быў стаць «агульнамаладзёжнай» арганізацыяй, якая б аб’ядноўвала «перадавую і нацыянальна-дзяржаўніцкую інтэлігенцкую моладзь» [130, с. 5]. Але па розных прычынах гэтага не адбылося.

СПДМ не атаясамліваў сябе з левым ці правым палітычным лагерам. Ён павінен быў стаць «ачагом прагрэсіўнага руху», мэтай якога была перабудова польскай рэчаіснасці ў кірунку грамадскай справядлівасці і дэмакратыі. Саюз актыўна развіваў культ асобы Ю. Пілсудскага, змагаўся з польскімі нацыяналістычнымі студэнцкімі арганізацыямі і выступаў з дастаткова радыкальных антыклерыкальных пазіцый. Таксама арганізацыя праводзіла актыўную выдавецкую дзейнасць.

Трэба адзначыць, што з пачаткам 1930-х гг. у СПДМ узмацніўся анарха-сіндыкалістычны накірунак. У сувязі з гэтым арганізацыя пачала цесна супрацоўнічаць з прафсаюзамі, якія аб’ядноўваліся ў праўрадавым Саюзе прафесійных саюзаў (Związek Związków Zawodowych) (далей — СПС), дзе таксама распаўсюджваліся сіндыкаліцкія тэндэнцыі. У маі 1934 г. па ініцыятыве СПДМ быў створаны Акадэмічны саюз вясковай моладзі (Akademicki Związek Młodzieży Wiejskiej), ідэалогія якога спалучала ідэі аграрызму і сіндыкалізму [345].

Паступовая радыкалізацыя знайшла сваё адлюстраванне ў ідэйных дэкларацыях СПДМ. У адной з іх было заяўлена, што арганізацыя імкнецца да цывілізацыі, якая абапіраецца на працу, а не на прывілеі. Праца павінна была стаць «адзіным паказчыкам грамадскай вартасці». Саюз лічыў, што сіндыкаліцкі лад нацыянальна адродзіць народныя масы ва ўнутраным, творчым імперыялізме працы. Пры гэтым польская інтэлігенцыя павінна была выйсці з народа, а каб стаць творчай сілай, ёй неабходна было «сарваць з сябе плёнкі сацыяльна-клерыкальнай пакорлівасці». Праграма арганізацыі прадугледжвала пераходную гаспадарчую дыктатуру, якая б ажыццяўлялася праз гаспадарчы дырэктарат прафесійных саюзаў. Таксама прадугледжваліся агульны гаспадарчы план і нават рэгуляцыя прыросту насельніцтва, калі ў гэтым узнікне патрэба [130, с. 6].

СПДМ патрабаваў кантролю над вытворчасцю з допускам рабочых да ўдзелу ў прыбытках, паступовай нацыяналізацыі вытворчасці. На месца «хаатычнай вольна-капіталістычнай гаспадаркі» павінна была прыйсці гаспадарка планавая. У галіне сельскай гаспадаркі маладыя сіндыкалісты патрабавалі правядзення грунтоўнай аграрнай рэформы і кааперацыі ў вёсцы.

Яны лічылі, што менавіта прафесійныя саюзы павінны кіраваць вытворчасцю і ажыццяўляць падзел прыбыткаў [130, с. 7].

Ідэалогія СПДМ адмаўляла парламентарызм, таму што ён не можа рэальна палепшыць становішча. Ідэолагі аб’яднання сцвярджалі, што парламенцкая барацьба ні ў якім разе не забяспечвае перамогі інтарэсаў працы. Яны лічылі, што палітыканцкія і кампрамісныя метады сацыял-ліберальных кіраўнікоў сталі галоўнай прычынай дэзарыентацыі і расколу працоўных сіл. Такую сітуацыю выкарыстоўваюць падрыўныя элементы, у выніку чаго працоўныя масы «камунізуюцца». СПДМ імкнуўся перанесці барацьбу за вызваленне мас у «гаспадарчую і прафесійную сферу». Лічылася, што ўрад павінен быў неадкладна па-над галовамі буржуазна-клерыкальна-сацыялістычных партый арганізаваць прафесійнае самакіраванне, гаспадарчы дырэктарат і фабрычныя камітэты, каб згодна з інтарэсамі дзяржавы падрыхтаваць ліквідацыю капіталістычнага ладу. Замест палітычнага парламента планавалася ўвесці прадстаўніцтва прафесій. Асноўным элементам грамадскага і гаспадарчага жыцця павінна была стаць «арганізаваная грамада вытворцаў» [130, с. 8].

СПДМ адмаўляў як фашысцкую, так і камуністычную ідэалогію, паколькі лічыў, што яны «не вырашаюць праблему крызісу і не ствараюць здаровых умоў быту для працоўных мас». Заяўлялася, што дагматычны характар камуністычнай і фашысцкай ідэалогій забівае ўнутраную свабоду чалавека, падаўляе ўсе праявы самастойнай думкі. Таксама адзначалася, што камунізм праз свае міжнародныя арганізацыі, як і фашызм, пагражае міру і незалежнасці краін, якія знаходзяцца па суседству з Савецкай Расіяй. Дэкларацыя СПДМ даводзіла, што на практыцы фашызм, гітлерызм і камунізм не вельмі адрозніваюцца [130, с. 8—9].

Як і ў дакументах АНМ, у дэкларацыі СПДМ закраналася нацыянальнае пытанне. Зноў падкрэслівалася, што «чорная грамадская рэакцыя, касмапалітычная, антыдзяржаўная буржуазія выкарыстоўвае нацыі ў якасці шырмы ў сваіх сябелюбівых інтарэсах». Падвяргалася асудджэнню і дзейнасць польскіх эндэкаў. Сапраўднай польскай нацыяй абвяшчаўся «польскі народ, селянін і рабочы, дэмакратычная, прагрэсіўная інтэлігенцыя». Менавіта на іх працу абапіраецца польская дзяржава [130, с. 9].

У справе адносін да нацыянальных меншасцяў саюз працягваў заяўляць аб імкненні да нацыянальнага супрацоўніцтва, ліквідацыі абмежаванняў у правах і развіцці нацыянальных культур. Выключэнне рабілася толькі для яўрэяў і немцаў. Для апошніх, як «ворагаў польскай дзяржавы», прапаноўвалася абмежавацца свабодай толькі асноўных культурных правоў. Вырашэннне ж яўрэйскага пытання бачылася праз стварэнне яўрэйскай дзяржавы і масавую эміграцыю [130, с. 10—11].

У рэлігійным пытанні, як ужо адзначалася вышэй, СПДМ стаяў на выразна антыклерыкальных пазіцыях, што было даволі нехарактэрным для польскага грамадства. Рэлігія аб'яўлялася асабістай справай кожнага чалавека. Яна заслугоўвала пашаны ў якасці «крыніцы ідэальных элементаў і этычнай нормы». Адначасова СПДМ асуджаў пераследаванне па рэлігійных матывах і рэлігійную варожасць. Такасама крытыкавалася выкарыстанне рэлігіі і царквы ў палітычных мэтах кансерватыўных і нацыяналістычных партый. Прапаноўваліся ўвядзенне свабоды сумлення, грамадзянскіх шлюбаў і неабавязковага вывучэння рэлігіі ў школе, адмена канкардата з Ватыканам, устанаўленне кантролю над выхаваннем у духоўных семінарыях, адхіленне кліру ад удзелу ў палітыцы. Было заяўлена, што маральным чалавекам з'яўляецца той, хто добра робіць, а не той, «хто слепа слухае і бессэнсоўна выконвае формулы» [130, с. 10].

Дэкларацыя СПДМ закранала і пытанні культуры, асветы і выхавання. Яна настойвала на неабходнасці ўсеагульнай асветы, бясплатнага навучання, свабоднага карыстання дасягненнямі цывілізацыі і культуры. У выніку павінен быў узнікнуць «вольны, творчы чалавек, які займае актыўную пазіцыю ў адносінах да рэчаіснасці» [130, с. 11].

Згодна з ідэалогіяй арганізацыі, выхаваўчым ідэалам быў чалавек з «грамадскай арыентацыяй», чалавек, які разумее, што не ў саперніцтве, а ў супрацоўніцтве знаходзіцца магчымасць для хутчэйшай рэалізацыі яго амбіцый ў выглядзе патрэб, якія пастаянна растуць. Дырэктывай СПДМ у выхаваўчай сферы аб'яўляліся ідэі грамадскага выхавання [130, с. 20].

Прадстаўнікі «санацыйнага» рэжыму, назіраючы за паступовай радыкалізацыяй СПДМ, паспрабавалі стварыць яму своеасаблівую альтэрнатыву, новую праўрадавую студэнцкую арганізацыю.

У выніку ў лютым 1930 г. узнік Легіён маладых — Арганізацыя працы для дзяржавы (далей — ЛМ). Інспіратарамі стварэння гэтага саюза сталі Я. Енджэ́євіч, В. Славек і А. Скварчыньскі. Потым яны стварылі Сеньярат ЛМ, які спачатку аказваў апеку арганізацыі, распрацоўваў яе мэты, задачы і лозунгі [263, с. 47—48]. Арганізацыя ствралася на іерархічных прынцыпах. На чале стаяў галоўны камендант, якому падпарадкоўваліся акруговыя каменданты. ЛМ павінен быў быць кузняй найбольш дысцыплінаваных пілсудчыкаўскіх кадраў і альтэрнатывай для эндэцкіх студэнцкіх арганізацый. Таксама ён разглядаўся сваімі стваральнікамі ў якасці супрацьвагі СПДМ [216, с. 128].

Першапачаткова ЛМ дзейнічаў сярод студэнтаў у якасці элітарнай арганізацыі, якая выхоўвае кіруючыя кадры для маладзёжнага руху. Як пісаў адзін з віленскіх младалегіянерскіх публіцыстаў, ён «меў задачу ажыццявіць пералом у псіхіцы польскага студэнта, якая дэгенеравала, ён меў задачу зрабіць пралом у маразме безыдэйнасці і дэмагогіі, якая глыбока ўкаранілася ў маладой акадэмічнай супольнасці» [144, с. 3].

Але пасля свайго II кангрэса (сакавік 1932 г.) ЛМ таксама звярнуў увагу на маладых рабочых і чыноўнікаў. Было заяўлена, што гэтага патрабуе польская рэчаіснасць, якой неабходны «акрэсленыя накірункі выхаваўчых і канструктыўных ідэй для ўсяго маладога пакалення незалежнай Польшчы» [144, с. 3].

Гэта прывяло да таго, што ўжо ў 1934 г. толькі 25% членаў ЛМ былі студэнтамі, астатнія 75% — не студэнцкі элемент, у асноўным маладыя чыноўнікі [232, с. 22—23]. Таксама ЛМ прасачыўся і на тэрыторыю сярэдняй школы, дзе ён фактычна кіраваў дзейнасцю ПВ.

Неабходна адзначыць, што ЛМ шмат увагі надаваў дзейнасці на тэрыторыі Заходняй Беларусі. III кангрэс арганізацыі нават прыняў рашэнне ўзяць «крэсы» пад сваю апеку [48, арк. 36]. Пры гэтым адной са сваіх галоўных задач младалегіянеры абвясцілі «ўсведамленне грамадствам каштоўнасці усходніх крэсаў для дзяржавы і стварэнне грамадзяніна, які б на кожнай пасадзе на крэсах лічыў працу ганаровым абавязкам, а не сумнай паншчынай, як гэта не раз было раней» [8, арк. 19].

Што да агульных ідэалагічных прынцыпаў арганізацыі, то ў прэамбуле «Ідэйнай дэкларацыі» ЛМ, якая выйшла ў пачатку

1930-х гг., заяўлялася аб неабходнасці перабудовы дзяржаўнага жыцця такім чынам, каб «усе дзяржаўныя сілы маглі быць належным чынам выкарыстаны». Ранейшыя формы і метады працы прызнаваліся не адпаведнымі сучасным умовам. У дакуменце асуджаецца «традыцыйны, празмерны польскі індывідуалізм» і гаворыцца пра неабходнасць падпарадкавання асобы дзяржаўным інтарэсам: «Запас здольнасцей і сіл асобы павінен быць цалкам перададзены ў распараджэнне дзяржавы і выкарыстоўвацца згодна з яе інтарэсамі» [125, с. 4].

Планавалася змяніць «свабодныя адносіны паміж дзяржавай і грамадзянінам, які трактуе дзяржаву індывідуалістычна», на цеснае арганізацыйнае аб'яднанне. Для гэтага, на думку ідэолагаў ЛМ, патрэбна было стварыць карпарацыйную дзяржаву, «якая звязвае грамадзян з сабою праз прафесійныя, гаспадарчыя і культурныя аб'яднанні». Парламенцкі лад планавалася замяніць прафесійна-гаспадарчым прадстаўніцтвам [125, с. 4].

Дзяржава, згодна з «Ідэйнай дэкларацыяй», павінна мець права ўмешвацца ў гаспадарчае жыццё. Пры гэтай умове яна атрымае магчымасць развівацца згодна са сваімі мэтамі [125, с. 4].

Паколькі ЛМ з'яўляўся маладзёжнай арганізацыяй, то яго дэкларацыя не магла абыйсці праблему выхавання маладога пакалення. Істотныя каштоўнасці дзяржаўнай культуры і пачуццё інтарэсаў дзяржавы належала прывіць моладзі шляхам «дзяржаўнага выхавання» ў школах і выхаваўчых установах. Пасля перабудовы гаспадарчага і палітычнага ладу павінна было адбыцца культурнае пераўтварэнне, якое зробіць даступным для шырокіх слаёў грамадства «здабытак чалавечай думкі» [125, с. 4].

Асноўныя ідэі дэкларацыі ЛМ былі сфармуляваны ў пятнаццаці пунктах. У першым з іх было заяўлена пра тое, што легіён лічыць сябе «спадкаемцам і пераемнікам ідэі незалежніцкага пакалення, якое пад кіраўніцтвам маршала Ю. Пілсудскага заваявала незалежнасць і адбудавала дзяржаўнасць Польшчы». Ю. Пілсудскі аб'яўляўся «сімвалам здаровага салдацкага дзеяння і ахвярнай працы для дзяржавы» і ідэйным правадыром ЛМ [125, с. 4].

Нацыя, арганізаваная на прынцыпах іерархіі і дысцыпліны, павінна была аддаваць усе свае сілы дзяржаве. Чалавек працы і салдат аб'яўляліся элітай нацыі. Праца, згодна з дэкларацыяй, была першым абавязкам грамадзяніна і адзіным «тытулам для

карыстання грамадскімі паслугамі». Адзіным дзяржаўнатворчым фактарам аб'яўляліся працоўныя слаі грамадства. Гістарычнай неабходнасцю было аб'яднанне «польскай дзяржаўнай думкі» з «польскім светам працы» [125, с. 4].

Задачай маладога пакалення ЛМ лічыў распрацоўку і правядзенне ў жыццё праграмы гаспадарчай і палітычнай перабудовы. Польская дзяржава павінна была адмовіцца ад ліберальна-гаспадарчага ладу і ператварыцца ў «дзяржаву арганізаванай працы, якая знаходзіцца пад кіраўніцтвам іерархічна арганізаванай прафесійнай эліты і вядзе сваю гаспадарку на прынцыпах планавасці» [125, с. 5]. Асновай плана павінна стаць імкненне да гаспадарчай самастойнасці. Новы гаспадарчы лад павінен быў абапірацца на кантроль дзяржавы за вытворчасцю і прымусовых прафесійных саюзах.

«Дэкларацыя» заяўляла аб гістарычнай місіі Польшчы па арганізацыі «суіснавання і супрацоўніцтва нацый», якія жывуць паміж Балтыйскім і Чорным марамі. Адначасова было заяўлена і аб тым, што абарона дзяржавы і яе межаў павінна аб'яднаць усіх грамадзян Рэчы Паспалітай. Асобным пунктам у дэкларацыі праходзіць пытанне неабходнасці замацавання Польшчы на Балтыцы і развіцця гандлёвага і ваеннага флота [125, с. 5].

Ідэолагі ЛМ у сваёй дэкларацыі асуджалі «пасевы нянавісці, якія атручваюць і разладжваюць калектыўнае жыццё, нягледзячы на тое, з якога боку яны з'явіліся». Такім чынам, ЛМ выступаў як супраць правых (эндэкаў), так і супраць левых (камуністаў) [125, с. 5].

Дэкларацыя ЛМ прызнавала прынцып свабоды сумлення пры стварэнні новага тыпу польскага грамадзяніна. Пры гэтым прызнавалася этычная вартасць рэлігійнага фактару, рэлігія лічылася крыніцай ідэальных элементаў чалавечнасці [125, с. 5].

Такім чынам, для ідэалогіі ЛМ была характэрна даволі абвостраная сацыяльная фразеалогія. Трэба адзначыць, што арганізацыя, у адрозненне ад СПДМ, прызнавала нават станоўчае значэнне некаторых грамадскіх эксперыментаў у Савецкім Саюзе: «У Саветах на самой справе ўзводзіцца новая пабудова чалавечага побыту» [40, арк. 215].

Усё гэта выклікала нараканні з боку кансерватараў. Віленскі журналіст і рэдактар газеты «Слова» С. Мацкевіч адзначаў у сваіх успамінах, што «ЛМ плаваў у фразеалогіі, якая пастаўлялася

савецкай прапагандай. За такую ж балбатню, за такія ж самыя лозунгі які-небудзь Сенька з беларускай вёскі ішоў у турму, а студэнт-младалегіянер — на абед з прэм’ерам» [188, с. 244].

Але прадстаўнікі аб’яднання не прымалі абвінавачванняў ў камунізме. Так, Я. Кетуракіс, віленскі публіцыст ЛМ, адзначаў, што бунт супраць сацыяльнай несправядлівасці і камунізм — гэта не адно і тое ж. Ён прызнаваў, што ў імкненні да «псіхічнай перабудовы грамадзяніна мы будзем часта накіроўваць яго ўвагу на тыя ж з’явы капіталістычнага ладу, якія для сваёй міжнароднай прапаганды выкарыстоўвае бальшавізм, але гэта нікому не дае права абвінавачваць нас у тым, што мы жадаем выхаваць маладога грамадзяніна ў камуністычным духу» [166, с. 4]. На самой справе арганізацыя выступала супраць усіх «міжнародных органаў, якія ставяць інтарэсы асобных класаў і груп над інтарэсамі дзяржавы ў цэлым» [232, с. 21]. Такім чынам, ЛМ супрацьстаяў як міжнароднаму капіталу, так і Камінтэрну. Таксама варожай да дзяржавы сілай лічыўся і касцёл, хоць адначасова прызнавалася вялікая этычная каштоўнасць рэлігійнага фактару.

Карыстаючыся падтрымкай высокіх заступнікаў з ліку кіруючых дзеячаў «санацыі», ЛМ першапачаткова мог не баяцца абвінавачванняў з боку кансерватараў і клерыкалаў. Але, як і ў выпадку з СПДМ, у арганізацыі пачаўся працэс радыкалізацыі. Многія яе дзеячы адкрыта выказваліся за ліквідацыю капіталістычнага ладу, за абмежаванне прыватнай уласнасці, нацыяналізацыю прамысловасці і ліквідацыю памешчыцкага землеўладання. Частка моладзі з ЛМ стала ў апазіцыю да «санацыі». Спачатку, у 1934 г., «санацыйны» рэжым утрымаў кантроль над арганізацыяй, выдаліўшы з яе найбольш радыкальных асоб. Яшчэ адным спосабам дысцыплінавання стала прытрымліванне фінансавання.

Але вельмі хутка ЛМ канчаткова страціў падтрымку з боку сваіх сеньёраў. У красавіку 1935 г. Я. Енджэе́віч, В. Славек і іншыя лідары «групы палкоўнікаў» адмовілі арганізацыі ў сваім пратэктарыце. У спецыяльным камунікаце яны заявілі, што гэта адбылося па прычыне таго, што ЛМ не выконвае свае выхаваўчыя задачы, а таксама таму, што «арганізацыйныя метады вельмі далёка адыйшлі ад устаноўленых маральных і ідэйных прынцыпаў» [217, с. 129].

Выразнай праявай таго, што «санацыйныя» студэнцкія арганізацыі сталі выходзіць з-пад апекі сваіх стваральнікаў, сталі падзеі вясны 1936 г. У красавіку гэтага года СПДМ, ЛМ і Цэнтральны аддзел моладзі ППС абвясцілі пра стварэнне арганізацыі «Саюз студэнцкай лявіцы “Фронт”» (далей — ССЛ «Фронт». Кіраўніцтва «санацыйных» маладзёжных аб’яднанняў лічыла неабходным адмовіцца ад арганізацыйных амбіцый і аб’яднаць намаганні для стварэння «форм калектыўнага жыцця, якія, гарантуючы магчымасці духоўнага і матэрыяльнага развіцця і прагрэсу, выведуць Польшчу на вяршыні сапраўднай магутнасці». У ідэйна-палітычнай платформе ствараемага аб’яднання «незалежных антыкапіталістычных арганізацый» дэклараваласся, што ліберальна-капіталістычны і фашысцка-капіталістычны лад не могуць вырашыць актуальных праблем жыцця, капіталізм перашкаджае нармальнаму развіццю грамадства. Таму працоўны народ павінен змагацца за новы лад. Было заяўлена, што «маладая польская лявіца ў саюзе з усім арганізаваным працоўным светам імкнецца да змены ладу, які з’яўляецца перашкодай для прагрэсу і ўсеагульнага дабрабыту». Вынікам барацьбы павінна было стаць стварэнне такога грамадска-палітычнага ладу, які адменіць эксплуатацыю чалавечай працы і зробіць яе грамадзянскім абавязкам. Капіталістычная гаспадарка павінна была быць заменена гаспадаркай планавай, якая будзе кіравацца інтарэсамі і патрэбамі працоўных мас. На думку аўтараў дэкларацыі, гэта «павысіць жыццёвы ўзровень людзей працы, канчаткова знішчыўшы сучасную галечу вёскі і гарадоў, і ўзмацніць гаспадарчы патэнцыял Польшчы». Канчатковай мэтай было абвешчана стварэнне бескласавага грамадства, якое будзе здольным накіраваць усе свае намаганні на дасягненне калектыўнага дабра. Лічылася, што такім чынам «паўстане не толькі новы гаспадарчы лад, але і сапраўдная і поўная свабода, найвышэйшая маральнасць вольнага чалавека і вышэйшая культура». Дэкларацыя ССЛ «Фронт» заклікала да стварэння федэрацыі ўсіх левых маладзёжных арганізацый — сялянскіх, рабочых і інтэлігенцкіх [138].

Аднак стварыць дадзеную федэрацыю не атрымалася. Галоўнай прычынай гэтага стаў раскол, які вельмі хутка адбыўся ўнутры радыкалізаваных праўрадавых арганізацый студэнцкай моладзі.

У тым жа 1935 г. большасць простых дзеячаў СПДМ з Варшавы, Кракава, Львова і Вільні выступіла супраць «санацыйнага» кіраўніцтва аб’яднання. У выніку арганізацыя распалася на СПДМ-Правіцу і СПДМ-Лявіцу. У чэрвені 1936 г. на сваім першым з’езде СПДМ-Лявіца змяніў назву на Аб’яднанне сіндыкалісцкай моладзі (Stowarzyszenie Młodzieży Syndykalistycznej) (далей — АСМ) [345].

Ідэалогія АСМ значна адыходзіла ад «санацыйнай» дактрыны. Мэтай маладых сіндыкалістаў было стварэнне «асноў новай грамадскай культуры», якая будзе грунтавацца на маральнасці працы ў межах «дзяржавы вольных вытворцаў». Для дасягнення гэтай мэты, на думку дзеячаў аб’яднання, неабходна было прайсці два этапы: цалкам ліквідаваць капіталістычную сістэму ў Польшчы і пабудаваць новы лад, які б узнікаў на абагульненні сродкаў вытворчасці. Каб гэта адбылося, неабходна аб’яднанне ўсіх працоўных класаў і перабудова псіхікі пралетарыяў. Арганізацыйнай формай пралетарскага руху павінны стаць незалежныя прафесійныя саюзы. Таму галоўным сваім саюзнікам АСМ абвяшчала СПС [320, с. 8].

У сувязі з тым, што дзяржаўныя ўлады і кіраўніцтва ўніверсітэтаў адмовіліся рэгістраваць арганізацыю маладых сіндыкалістаў, АСМ уступіла ў якасці аўтаномнага маладзёжнага аддзела ў Рабочы інстытут асветы і культуры імя С. Жэромскага (Robotniczy Instytut Oświaty i Kultury imienia S. Żeromskiego). Гэта была сіндыкалісцкая асветніцкая арганізацыя, якая ўзнікла ў 1930 г. і супрацоўнічала з СПС пры стварэнні самаадукацыйных груп, арганізацыі навучання, лагераў адпачынку, спартыўных спаборніцтваў і лекцый на розныя тэмы.

Аналагічныя падзеі адбываліся і ў ЛМ. Частка яго радыкальна настроеных членаў стварыла сваё ўласнае аб’яднанне — Легіён маладых-Фракцыя (Legion Młodych-Frakcja) (далей — ЛМ-Ф). Яны абвінавацілі вярхоўнае кіраўніцтва ў тым, што яно канчаткова парвала з лагерам дэмакратыі, запісаўшы на сваіх сцягах лозунгі фашызму і антысемітызму. У сваёй «Ідэйна-праграмнай дэкларацыі» арганізацыя выступала за неабходнасць перабудовы існуючага ладу такім чынам, каб у дзяржаўную канструкцыю былі ўведзены працуючыя класы ў якасці арганічнай фундаментальнай часткі. Менавіта працуючым класам павінна быць перададзена кіраўніцтва ўсім абагульненым гаспадарчым жыццём. Асновай

палітычнага жыцця павінны стаць «прынцыпы сапраўднай дэмакратыі». У гаспадарчай сферы ідэолагі ЛМ-Ф патрабавалі правядзення нацыяналізацыі сродкаў вытворчасці і стварэння планавай гаспадаркі, заснаванай на «бяскласавай структуры грамадства» [180, с. 8].

Што да рэшткаў СПДМ і ЛМ, якія засталіся вернымі «санацыйнаму» рэжыму, то ў снежні 1938 г. на іх аснове была створана новая арганізацыя — Легіён польскай моладзі (Legion Młodzieży Polskiej) (далей — ЛПМ). Але трэба адзначыць, што гэтае аб'яднанне не мела вялікага ўплыву ў студэнцкім асяроддзі і не здолела праявіць сябе да пачатку Другой сусветнай вайны.

Яшчэ адной праўрадавай арганізацыяй студэнцкай моладзі была група «Дзяржаўная думка» (Myśl Mocarstwowa) (далей — ДД). У адрозненне ад СПДМ і ЛМ, яна мела даволі кансерватыўную накіраванасць. Гэтае аб'яднанне ўзнікла ў 1926 г. на базе варшаўскіх структур арганізацыі манархічнай моладзі пад назвай «Акадэмічная кансерватыўная моладзь» (Akademicka Młodzież Zachowawcza) (далей — АКМ). З 1929 г. яна афіцыйна насіла назву «Дзяржаўная думка — Акадэмічная дзяржаўная моладзь» (Myśl Mocarstwowa — Akademicka Młodzież Państwowa). Заснавальнікам ДД быў Р. Пілсудскі, далёкі сваяк польскага дыктатара.

Ідэалогія ДД адмоўна ставілася да класавасці і нацыяналізму. Лічылася, што класавая барацьба знішчае дзяржаву ў выніку барацьбы капітала з працай, а нацыяналізм пагражае цэласнасці дзяржавы. ДД была праціўнікам якіх-небудзь сацыяльных эксперыментаў — прынцып прыватнай уласнасці лічыўся непарушным. Таксама для арганізацыі не быў характэрным антыклерыкалізм — каталіцкая этыка абвяшчалася вышэйшай маральнай нормай у жыцці асобы, грамадства і дзяржавы. Ідэалам дзяржаўнасці для ДД была ягелонская Польшча ад мора да мора. Абвяшчалася ідэя аб'яднання славянскіх меншасцяў у справе будаўніцтва дзяржаўнай моцы «праз удзел у развіцці гаспадаркі пры захаванні свабоды культурнага жыцця». ДД асуджала антысемітызм як неэтычную і некультурную барацьбу. Вырашэннне «яўрэйскага пытання» бачылася ў заахвочванні яўрэйскай эміграцыі ў Палесціну. Своеасаблівай рысай ідэалогіі аб'яднання быў польскі імперыялізм. Сцвярджалася, што валоданне заморскімі калоніямі з'яўляецца жыццёвай

неабходнасцю для Польшчы. Арганізацыя была колькасна невялікай, але яе ідэалогія была даволі папулярнай сярод студэнтаў 2-й РП [232, с. 27—29].

Менавіта ДД паспрабавала паставіць пад кантроль «санацыі» такія спецыфічныя студэнцкія арганізацыі, як карпарацыі. Гэта былі элітарныя аб’яднанні, якія мелі характар мужчынскіх сяброўскіх клубаў. Студэнцкія карпарацыі бяруць свой пачатак яшчэ ў сярэднявеччы. Канчаткова студэнцкія карпарацыі арганізацыйна аформіліся ў нямецкіх універсітэтах у першай палове XIX ст. Тут гэтыя арганізацыі звычайна ствараліся былымі салдатамі, удзельнікамі напалеонаўскіх войнаў, якія вярталіся да мірнага жыцця і, пачаўшы ці працягваючы вучобу ва ўніверсітэтах, імкнуліся падтрымліваць патрыятычныя і вайсковыя традыцыі, вынесеныя з арміі. У гэтых мэтах яны стварылі студэнцкія «буршэншафты», якія прымалі сімволіку былых вайсковых адзінак. Акрамя падтрымання патрыятычных традыцый, адчувальны акцэнт «буршэншафты» рабілі на развіццё сяброўскага жыцця. Напрыклад, гэта знайшло адлюстраванне ў традыцыях т. зв. піўных кватэр, дзе чытанне шматлікіх дакладаў і правядзенне інтэлектуальных дыскусій спалучалася з ужываннем вялікай колькасці алкаголю, звычайна піва. Яшчэ адной традыцыяй, якая распаўсюдзілася ў карпарацыях з XIX ст., былі дуэлі [200].

Карпарацыйны рух сярод польскіх студэнтаў таксама бярэ свой пачатак у першай палове XIX ст. Звычайна лічыцца, што традыцыі карпарацый польскага студэнцтва выводзяцца з арганізацый віленскіх філаматаў і філарэтаў. Менавіта былыя члены гэтых аб’яднанняў, пасля іх разгрому расійскімі ўладамі, стварылі 28 мая 1828 г. ва ўніверсітэце ў Дэрпце (сучасны Тарту) першую польскую карпарацыю «Палонія». Яна прыняла арганізацыйныя формы нямецкіх «буршэншафтаў», аб’яднаўшы іх з польскімі патрыятычнымі ідэаламі, ідэямі самавыхавання і ўзаемадапамогі. Ужо ў пачатку свайго існавання польскія карпаранты выразна выявілі сваю патрыятычную пазіцыю — у 1830 г. члены «Палоніі» далучыліся да нацыянальна-вызваленчага паўстання [204, с. 8].

Згодна са статутнымі дакументамі, для рэалізацыі сваіх ідэйных пастулатаў карпарацыямі выкарыстоўвалася даволі шырокае кола сродкаў. Напрыклад, фарміраванне павагі да закона адбывалася праз дакладнае выкананне добраахвотна прынятых членамі

карпарацый статутаў. Грамадская дысцыпліна, пачуццё салідарнасці і стараннасць фарміраваліся праз падпарадкаванне рашэнням большасці, дакладнае выкананне абавязкаў, рэгулярны ўдзел у сходах, сваечасовую выплату членскіх узносаў. Пачуццё гонару і прынцыпы этычнай дзейнасці павінны былі ўзнікнуць у выніку прытрымлівання ганаровых прынцыпаў, ведання ганаровага (дуэльнага) кодэксу, узгаднення сваіх дзеянняў з прынцыпамі, якія пануюць у карпарацыі. Для інтэлектуальнай дапамогі і папаўнення агульнай і прафесійнай адукацыі, асабліва ў галінах, звязаных з польскай культурай, прадугледжвалася навуковая ўзаемадапамога, чытанне рэфератаў, стварэнне бібліятэк, арганізацыя навуковых сходаў. Таксама карпарацыі ў мэтах аказання матэрыяльнай дапамогі стваралі стыпендыяльныя фонды і касы ўзаемадапамогі. Фізічнае развіццё карпарантаў забяспечвалася арганізацыяй гімнастычных залаў, падтрымкай зацікаўленасці да спорту і заняткаў фехтаваннем [283].

Кожная карпарацыя мела свой дэвіз, сцяг і герб. Знешнімі адзнакамі карпарантаў была шапка (дэкла) і шарф колераў карпарацыйнага сцягу. Таксама кожная карпарацыя мела сваю манаграму (цыркель), якая складалася з першых літар лацінскага дэвізу “Vivat, cresceat, floreat” («Жыві, стварай, квітней») і першай літары назвы карпарацыі [283].

Карпарацыя злучала сваіх членаў на ўсё жыццё. Яна магла аб’ядноўваць толькі студэнтаў адной ВНУ. Члены карпарацыі дзяліліся на актыўных і пасіўных (філістраў). Актыўныя члены ў сваю чаргу — на кандыдатаў (фуксаў) і барвяржаў (камільтонаў). Кандыдат станавіўся барвяржам пасля адбыцця кандыдацкага тэрміну (мінімум тры месяцы) і здачы экзамену. Члены карпарацый, якія скончылі вучобу, станавіліся пасіўнымі членамі — філістрамі. Таксама існаваў інстытут ганаровых філістраў, якімі маглі стаць асобы «бясспрэчнай польскасці». Трэба адзначыць, што карпарацыя не магла налічваць больш чым 100 актыўных членаў. Члены карпарацый мелі даволі шырокае кола правоў і абавязкаў. Напрыклад, кожнаму карпаранту за час свайго знаходжання ў карпарацыі належала падрыхтаваць і прачытаць мінімум адзін рэферат. Таксама ён павінен быў мінімум адзін раз у два тыдні прысутнічаць на навуковым ці ідэйна-дыскусійным сходзе сваёй

карпарацыі. Галоўным абавязкам філістраў была маральная і матэрыяльная падтрымка аб'яднання [283].

Канфлікт паміж членамі карпарацыі павінен быў разглядаць спецыяльны суд гонару. Калі канфлікт не быў вырашаны мірным шляхам, паміж карпарантамі адбывалася дуэль. Вышэйшай заканадаўчай, судовай і адміністрацыйнай інстанцыяй карпарацыі з'яўлялася кола, якое складалася з усіх барвяржаў (камільтонаў). Менавіта яно прымала новых членаў карпарацыі ці выключала іх, мела права змяняць статут аб'яднання, распараджалася яго маёмасцю. Для непасрэднага кіраўніцтва карпарацыйным жыццём кола выбірала са свайго складу прэзідыум, які звычайна складаўся са старшыні, віцэ-старшыні і сакратара. Таксама кола мела судовы, навуковы, фінансавы і іншыя аддзелы [283].

Росквіт карпарацыйнага руху прыйшоўся на міжваенны перыяд. Але большасць тагачасных карпарацый знаходзілася пад уплывам польскіх нацыяналістаў. Таму «санацыя» і спрабавала стварыць свой карпарацыйны рух. У выніку ўзнікла Федэрацыя польскіх акадэмічных карпарацый (Federacja Polskich Korporacji Akademickich) (далей — ФПАК).

Федэрацыя была заснавана 30 чэрвеня 1932 г. у Варшаве прадстаўнікамі 25 карпарацый з 5 універсітэцкіх цэнтраў. Але рашэнне аб стварэнні было прынята яшчэ годам раней, 29 верасня 1931 г. на арганізаваным па ініцыятыве ДД Кангрэсе дзяржаўнай моладзі. У ФПАК запрашаліся ўсе карпарацыі, якія сімпатызавалі Ю. Пілсудскаму. Сярод заснавальнікаў ФПАК пераважалі карпарацыі, звязаныя з ДД, але былі таксама і прыхільнікі ЛМ і «Стральца» [323].

Ідэалогія федэрацыі ў значнай меры абапіралася на ідэйна-палітычныя прынцыпы ДД. Эндэцкай канцэпцыі нацыянальнай дзяржавы супрацьпастаўлялася канцэпцыя шматнацыянальнай дзяржавы. Адначасова падтрымліваўся пастулат усталявання моцнай дзяржаўнай улады з дамінаваннем выканаўчай улады. Рэалізацыя гэтай праграмы бачылася ў праўленні лагера Ю. Пілсудскага.

Каталіцкая этыка абвяшчалася фундаментам, на якім ФПАК планавала будаваць жыццё грамадства, асобы і дзяржавы. Асноўнай ячэйкай, на якую мог абапірацца здаровы і ўстойлівы дзяржаўны арганізм, называлі сям'ю. Дзяржава лічылася

дасканалай формай, якая забяспечвае поўнае развіццё індывідуальнасці асобы і нацыі. Адначасова федэратыўныя карпарацыі адмаўлялі крайні нацыяналізм, паколькі ён узмацняў сепаратысцкія памкненні і негатыўна ўздзейнічаў на згуртаванасць дзяржавы. Таксама адмаўлялася прымусовая нацыянальная асіміляцыя. Замест яе ФПАК вылучала пастулат «культа рэальнага вывучэння славянскіх меншасцяў і моцнай іх сувязі эканамічным шляхам з дзяржавай». Як і ў выпадку з ДД, вырашэнне «яўрэйскага пытання» прапаноўвалася ажыццявіць праз культурнае адасабленне яўрэяў і падтрымку палесцінскага сіянізма. Прыватная ўласнасць прымалася за аснову грамадска-эканамічнага ладу. Адначасова лічылася, што ўсе калектывісцкія памкненні супярэчаць інтарэсам дзяржавы, паколькі яны аслабляюць грамадскія сувязі, уводзяць элементы разлажэння, абвастраюць класавую барацьбу. Прыватная ініцыятыва была аб'яўлена «маторам усялякага прагрэсу». Але яна павінна была знаходзіцца пад наглядам дзяржавы, каб не весці да эксплуатацыі. З іншага боку, дзяржава не магла прэтэндаваць на кантроль над усімі сферамі грамадскага жыцця. Пазітыўнае вырашэнне сацыяльных пытанняў федэратыўныя карпарацыі бачылі ў салідарнасці грамадства, арганізаванага ў прафесійныя саюзы, якія служаць дзяржаве. Крытэрыямі падзелу грамадскіх прыбыткаў павінны былі стаць «справядлівасць і сацыяльная любоў» [323].

У 1932—1933 гг. у федэрацыю ўваходзіла каля 30 карпарацый, у тым ліку і віленскія «Вільненсія», «Крэсовія» і «Пілсудзія». Аднак ФПАК праіснавала даволі кароткі час. У выніку рэформы заканадаўства аб студэнцкіх арганізацыях, калі было забаронена існаванне міжуніверсітэцкіх аб'яднанняў, у 1934 г. федэрацыя спыніла сваю дзейнасць. Таксама знікла каля трэцяй часткі карпарацый, якія раней уваходзілі ў яе склад [323].

Такім чынам, праўрадавыя студэнцкія арганізацыі не з'яўляліся маналітам, таму іх палітычны ўплыў на студэнцкую моладзь быў не такім вялікім, як на гэта спадзяваліся ініцыятары іх стварэння. Сітуацыю ўскладняла і тое, што ў большасці гэтых аб'яднанняў існавалі даволі радыкальныя настроі. У выніку на працягу ўсяго міжваеннага перыяду «санацыя» не здолела ліквідаваць засілля сваіх палітычных апанентаў у ВНУ.

### 3.6 Саюз маладой Польшчы і Служба маладых ЛНА

Яшчэ адной маладзёжнай арганізацыяй, якая ўзнікла па ініцыятыве і пры падтрымцы «санацыі», быў Саюз маладой Польшчы (Związek Młodej Polski) (далей — СМП). Неабходна адзначыць, што некаторыя польскія даследчыкі лічаць гэты саюз не «санацыйным», а правым нацыяналістычным [263, с. 114].

Справа ў тым, што СМП з самага пачатку знаходзіўся пад уплывам ЛНА (з-за гэтага яго нават неафіцыйна называлі «маладым» ЛНА). Як ужо адзначалася вышэй, ЛНА узяў курс на зблiжэнне з польскімі нацыяналістамі. Менавіта гэта і прывяло да таго, што ідэалогія дадзенай маладзёжнай арганізацыі мела яўны нацыяналістычны характар.

Трэба адзначыць, што ЛНА меў пэўныя праблемы з «санацыйнымі» маладзёжнымі арганізацыямі, якія ўжо існавалі. Так, напрыклад, стралецкі саюз «Стралец» спачатку падтрымаў абвяшчэнне дэкларацыі аб стварэнні ЛНА і выказаў сваю згоду ўступіць у яго склад. Але ў далейшым ён так і не далучыўся да ЛНА. ЛМ, наадварот, уступіў у ЛНА, але потым пакінуў яго [157, с. 141]. Супраць ЛНА выступаў і СМВ [157, с. 197]. Усе гэта было вынікам т. зв. дэкампазіцыі, ці расколу «санацыі».

Таму кіраўніцтва ЛНА ўзяло курс на стварэнне сваёй уласнай маладзёжнай арганізацыі. 22 чэрвеня 1937 г. выйшла спецыяльная дэкларацыя шэфа ЛНА палкоўніка А. Коца аб стварэнні СМП, які павінен быў стаць чацвёртым, маладзёжным, сектарам ЛНА (разам з гарадскім, вясковым і рабочым). З самага пачатку да яго стварэння мелі дачыненне прадстаўнікі крайне правай польскай нацыяналістычнай арганізацыі «Фаланга», якія на нейкі час нават перахапілі ў свае рукі фактычнае кіраўніцтва СМП [263, с. 114].

Уплыў польскіх нацыяналістаў знайшоў сваё адлюстраванне ў ідэйна-палітычнай дэкларацыі новай «санацыйнай» маладзёжнай арганізацыі. Было адкрыта заяўлена, што члены СМП з'яўляюцца нацыяналістамі, паколькі найвышэйшую мэту сваёй працы і барацьбы яны бачаць у велічы польскай нацыі. Дэкларацыя сцвярджала, што паміж ідэямі нацыі і дзяржавы не можа існаваць ніякай супярэчнасці: «Польская дзяржава з'яўляецца ажыццяўленнем існавання і волевыяўлення польскай нацыі, яе

псіхічнай і матэрыяльнай сілы. У дзяржаве не можа дзейнічаць нічога, што не вынікае з самай глыбокай неабходнасці і не вядзе да найвышэйшых мэтаў польскай нацыі. Аднак гэтыя мэты могуць быць рэалізаваны толькі праз сілу дзеянняў уласнай дзяржавы, праз развіццё яе моцы і згуртаванасці. Усё, што аслабляе дзяржаву, з'яўляецца шкодным для нацыі...» [338, с. 296].

Ідэолагі СМП з «Маладой Польшчы», друкаванага органа арганізацыі, заяўлялі аб сваёй ідэйнай роднасці як з «усімі нацыяналістычнымі групамі старэйшага і малодшага пакалення, што выраслі ў межах легіянерскага лагеру, дзе пераважаў нацыяналізм дзеяння, так і з тымі, што выраслі з былой нацыянальнай дэмакратыі, дзе больш увагі надавалася інтэлектуальна-дыялектычным фармулёўкам» [338, с. 297].

СМП павінен быў змагацца за «поўнае духоўнае аб'яднанне нацыі, мабілізацыю ўсіх яе творчых сіл, як гэта загадаў Вярхоўны Правадыр», якім на той момант лічыўся лідар ЛНА маршал Э. Рыдз-Сміглы. Таксама абвяшчалася барацьба за «арганізацыю нацыі ў межах моцнага дзяржаўнага ладу, што дазволіла б здабыць з яе максімум сіл для рэалізацыі гістарычнага прызначэння» [338, с. 296].

Дэкларацыя СПМ лічыла неабходным ажыццяўленне ў Польшчы вялікіх пераўтварэнняў у гаспадарча-грамадскай структуры згодна з адзіным дзяржаўным планам. Толькі такім шляхам, па меркаванні ідэолагаў арганізацыі, можна было рэалізаваць пастулат сацыяльнай справядлівасці, вырашыць праблемы, якія вынікаюць з дэмаграфічнага развіцця польскай дзяржавы [338, с. 296].

Для СПМ як «маладзёжнай» секцыі ЛНА быў характэрным яўны і нават празмерны культ асобы Э. Рыдз-Сміглага. Прадстаўнікі СМП заяўлялі: «Мы не прызнаём тых ці іншых партыйных ці групавых бажкоў. Адзіным аўтарытэтам, якому мы цалкам падпарадкоўваемся, з'яўляецца маршал Рыдз-Сміглы. Мы лічым яго не толькі правадыром арміі, але і правадыром нацыі і ўсёй польскай моладзі. Ён даў загад аб'яднацца, і мы самым цесным чынам супрацоўнічаем з гэтай акцыяй, нягледзячы на тыя ці іншыя перашкоды ці цяжкасці» [338, с. 297—298].

Ідэалогія СМП адмаўлялася ад антыклерыкальных і радыкальных лозунгаў ранейшых «санацыйных» аб'яднанняў. Наадварот, арганізацыя выступала за апеку над каталіцкім

касцёлам. Адначасова прапагандаваліся шавіністычныя, блізкія да фашызму і расізму лозунгі [263, с. 115].

Структура аб’яднання апіралася на строгую іерархію і дзялілася на секцыі (студэнцкую, вясковую і рабоча-рамесніцкую). Дарэчы, у СМП ўвайшла частка СНМ, якая раней адмовілася аб’ядноўвацца з СМВ. Гурткі СНМ атрымалі назву дружын і падпарадкоўваліся вясковай секцыі аб’яднання [302, с. 19].

Таксама пры СМП існавалі свае сілавыя структуры — ахоўныя дружыны, якія разам з польскімі нацыяналістамі ўдзельнічалі ў акцыях супраць левых арганізацый і эканамічным байкоце яўрэйскага насельніцтва [263, с. 115].

Менавіта супрацоўніцтва СМП з польскімі нацыяналістамі прывяло да выхаду ЛМ з ЛНА. Адмоўна ставіўся да «маладога» ЛНА і СПДМ [157, с. 158].

Трэба адзначыць, што СМП, не паспеўшы аформіцца, перажыў раскол. У пачатку 1938 г. змянілася кіраўніцтва ЛНА, замест палкоўніка А. Коца быў прызначаны генерал С. Скварчыньскі. Апошні выказаўся супраць супрацоўніцтва з «Фалангай», яе прыхільнікі былі выключаны з арганізацыі. У выніку СМП пакінула частка яго членаў. У арганізацыйнай прапагандзе адбыліся некаторыя змены — адмаўлялася сувязь з традыцыямі эндэкаў, аднак нацыяналістычныя і фашысцкія матывы ў ідэалогіі аб’яднання захаваліся [263, с. 115].

Каб умацаваць свой ўплыў сярод моладзі, ЛНА абвясціў аб стварэнні СМ, на чале якой быў пастаўлены маёр Э. Галінат, ён адначасова з’яўляўся і новым кіраўніком СМП.

У склад СМ увайшлі рэшткі СМП, а таксама шэраг іншых невялікіх «санацыйных» маладзёжных саюзаў. Таксама з дадзенай структурай супрацоўнічаў стралецкі саюз [226, с. 249].

Адзін з кіраўнікоў СМ, Я. Макоўскі, заяўляў, што дадзеная арганізацыя з’яўляецца першай спробай вырашэння маладзёжнай праблемы. Гэтая праблема, на яго думку, мела складаны характар. Яна уключала пытанні адносін маладога пакалення да рэчаіснасці, рэалізацыі яго ідэалаў і выкарыстання сіл моладзі пазітыўным спосабам, а таксама праблематыку нацыянальнага і дзяржаўнага выхавання [264, с. 258].

Каб вырашыць гэтую праблему, лічыў Я. Макоўскі, неабходна праводзіць акцыю аб’яднання намаганняў маладога пакалення на

грунце агульнага светапогляду значнай большасці моладзі (зразумела, што на ўвазе мелася ідэалогія ЛНА) і ў сферы канкрэтных спраў. На першы план гэтай акцыі павінны былі ставіцца выхаваўчыя мэты. Патрэбна было выхаваць пераможны тып маладога паляка, які будзе мысліць нацыяналістычнымі і салдацкімі катэгорыямі, змагацца за веліч сваёй нацыі і дзяржавы, умець падпарадкоўвацца і дзейнічаць дысцыплінавана. Наступнай задачай акцыі было «ўпрэгчы ўсе творчыя і актыўныя сілы маладога пакалення ў рытм дзяржаўнай працы». Пры гэтым зноў вылучалася традыцыйнае для «санацыі» патрабаванне апалітычнасці маладзёжнага руху. Важнай умовай акцыі адносна моладзі была неабходнасць трымання яе на адлегласці ад «якіх-небудзь палітычных гульняў». Зразумела, што выкарыстанне моладзі ў інтарэсах «санацыі» не лічылася шкодным для маладога пакалення [264, с. 258—259].

У якасці ідэйнай асновы жыцця маладога пакалення прапаноўвалася ідэя сілы і моцы польскай дзяржавы, якая абапіраецца на моцны грамадскі лад, магутную армію, сацыяльную справядлівасць і ўсебаковае развіццё польскага нацыянальнага жыцця ва ўсіх сферах. Я. Макоўскі называў такую ідэалогію «сучасным нацыяналізмам, дзяржаўным і грамадскім нацыяналізмам» [264, с. 259].

У красавіку—маі 1938 г. пад кіраўніцтвам Я. Макоўскага ў Варшаве адбыўся спецыяльны курс СМ, на якім былі сфармуляваны асновы ідэйнай дактрыны арганізацыі. Галоўным прынцыпам была абвешчана служба Польшчы, паслядоўная і планавая праца ў імя дабра Польшчы. Для яе СМ і праводзіла «духоўную мабілізацыю маладога пакалення» [226, с. 249].

Як і ў выпадку з СМП, дабрабыт Польшчы абвяшчаўся дабрабытам як дзяржавы, так і польскай нацыі. Канстытуцыя 1935 г., «палітычны запавет маршала Юзефа Пілсудскага», лічылася юрыдычным выражэннем прынцыпаў дзяржаўнага нацыяналізму [226, с. 250].

Закраналася і пытанне абароны дзяржавы. Прызнавалася, што вайна з'яўляецца найвышэйшым выпрабаваннем сіл нацыі, яна патрабуе мабілізацыі ўсіх духоўных і матэрыяльных сіл дзяржавы.

Асноўныя ідэйныя пастулаты, выказаныя на курсах СМ, супадалі з пастулатамі ідэйнай дэкларацыі ЛНА. Сацыяльныя

праблемы, падпарадкаваныя прынцыпу абароны дзяржавы, павінны былі вырашацца на аснове сацыяльнай справядлівасці. Што да праблемы нацыянальных меншасцяў, то «аўтахтонным» (славянскім) меншасцям прапаноўвалася далучэнне да польскай дзяржаўнай праграмы з адначасовым узмацненнем польскага нацыянальнага элементу на тэрыторыях са змешаным насельніцтвам. У адносінах да «яўрэйскага пытання» лічылася неабходным праводзіць планавую яўрэйскую эміграцыю разам з «паланізацыяй» культурнага і гаспадарчага жыцця і ізаляцыяй яўрэяў ад польскага насельніцтва [226, с. 252—253].

Лідары СМ і СМП неаднаразова выкладалі і свае пастулаты адносна правядзення ўрадавай маладзёжнай палітыкі. Так, пасол Сейма А. Мілеўскі, які адначасова з’яўляўся і кіраўніком СМП на тэрыторыі Палескага ваяводства, у сваёй прамове на парламенцкім пасяджэнні ў лютым 1939 г. заявіў, што галоўнай задачай сучаснага моманту з’яўляецца «абуджэнне веры ў нацыю, яе бессмяротныя каштоўнасці, яе гістарычную місію, абуджэнне актыўнай нацыяналістычнай і хрысціянскай пазіцыі». На яго думку, гэта патрабавала ўмяшальніцтва ва ўсе сферы дзяржаўнага жыцця, і ў першую чаргу ў сферу пазашкольнай асветы. Пасол лічыў, што Міністэрства рэлігійных веравызнанняў і публічнай асветы не спраўляецца з гэтым. Такім чынам, маладзёжныя кіраўнікі ЛНА з’яўляліся яшчэ большымі паланізатарамі і нацыяналістамі, чым тагачаснае кіраўніцтва сістэмы народнай адукацыі 2-й РП. А. Мілеўскі лічыў, што ўсе сродкі, якія ідуць на асветніцкія мэты з розных ведамстваў, павінны быць аб’яднаны ў адным цэнтры. Таксама выказвалася патрабаванне распрацаваць дырэктывы школьнай і пазашкольнай асветы, а выхаванню польскай моладзі павінен быў быць нададзены «яўны, выразны накірунак нацыянальна-дзяржаўнага светапогляду, заснаваны на хрысціянскай этыцы». Не абыйшлося і без культу асобы кіраўніка ЛНА Э. Рыдз-Сміглага. Як заявіў А. Мілеўскі, «паляк павінен прызнаваць толькі адзін кіруючы цэнтр — асобу правадыра нацыі, другога маршала адроджанай Польшчы». Ацэньваючы сваю арганізацыю, СМП, пасол падкрэсліў, што яна надае нацыянальны характар гаспадарчаму, культурнаму і духоўнаму жыццю, імкнецца да грамадскай працы і здаровых аграрных адносін [195, с. 8—9].

Трэба адзначыць, што канчатковай сфармуляванасці ідэалогіі СМ не адбылося, як не адбылося і канчатковага арганізацыйнага афармлення структуры дадзенага аб'яднання. Гэта было звязана як з канфліктамі ўнутры «санацыі», так і, зразумела, з пачаткам Другой сусветнай вайны. У цэлым жа дзейнасць ЛНА па стварэнню сваіх маладзёжных філіялаў можна ацаніць як праяўленне пэўнага крызісу ўрадавай маладзёжнай палітыкі.

## Г Л А В А 4
## КАНКУРЭНТЫ «САНАЦЫІ»: НЯЎРАДАВЫЯ МАЛАДЗЁЖНЫЯ РУХІ

### 4.1 Арганізацыі левай і дэмакратычнай арыентацыі

У сваёй барацьбе за ўплыў на маладое пакаленне «санацыйны» рэжым і падначаленыя яму маладзёжныя арганізацыі сутыкнуліся з канкурэнцыяй з боку шматлікіх маладзёжных аб'яднанняў і саюзаў, якія знаходзіліся пад уплывам розных апазіцыйных партый і груповак. У сувязі з гэтым неабходна даць кароткую характарыстыку самых уплывовых канкурэнтаў «санацыі» ў маладзёжным асяроддзі.

Найбольш бескампраміснную апазіцыю праўрадаваму маладзёжнаму руху складалі арганізацыі левай і дэмакратычнай арыентацыі. Яны знаходзіліся пад кіраўніцтвам ці ідэйна-палітычным уплывам камуністаў, сацыялістаў і «народнікаў» з сялянскіх партый.

Самым вядомым у айчыннай гістарыяграфіі з'яўляецца КСМЗБ. Ён меў самую радыкальную накіраванасць і займаў левы фланг антыўрадавага лагера. Нелегальны КСМЗБ быў створаны ў студзені 1924 г. па ініцыятыве ЦК КПЗБ на канферэнцыі прадстаўнікоў камсамольскіх арганізацый Вільні, Беластока, Гродна, Брэста, Пінска. Заходнебеларускі камсамол з'яўляўся часткай КСМП на правах аўтаномнай тэрытарыяльнай арганізацыі. Ён не меў уласнай праграмы і статута і ў сваёй дзейнасці кіраваўся дакументамі польскага і міжнароднага камуністычнага руху, паколькі КСМП з'яўляўся секцыяй Камуністычнага Інтэрнацыянала моладзі (далей — КІМ).

Згодна са статутам КІМ, яго мэтай была рэалізацыя задач камуністычнага руху ў барацьбе з капіталістычным ладам і імперыялістычнай вайной, за будаўніцтва сацыялістычнага грамадства і выхаванне ў гэтым духу маладых рэвалюцыянераў [263, с. 36]. Фактычна камсамольскія арганізацыі павінны былі стаць рэзервам кампартый.

Непасрэдныя задачы і мэты заходнебеларускага камсамола былі канкрэтызаваны на яго І (і адзіным) з'ездзе, які адбыўся ў 1931 г.

пад Мінскам. У Маніфесце з’езда абвяшчалася: «Мы адкрыта і смела заяўляем, што ставім сваёй задачай арганізаваць самыя шырокія масы працоўнай моладзі для непрымірых баёў супраць фашызму, для апошняга і вырашальнага боя за звяржэнне фашысцкай дыктатуры шляхам масавага ўсенароднага ўзброенага паўстання. Наша канчатковая мэта — пралетарская рэвалюцыя ва ўсёй Польшчы, якая знішчыць фашысцкі лад, рэвалюцыйна вырашыць крызіс і ўсталюе на руінах фашысцкай дыктатуры рабоча-сялянскую ўладу, дыктатуру пралетарыята, савецкую Польшчу» [96, с. 143].

Такім чынам, стратэгічныя мэты КСМЗБ супадалі з мэтамі КПЗБ. Ва ўмовах заходнебеларускіх зямель, акрамя перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі, вылучаліся патрабаванні ліквідацыі памешчыцкага землеўладання, прапаганда пралетарскага інтэрнацыяналізму, барацьба супраць знешняй палітыкі Польшчы і абарона СССР, ажыццяўленне права на самавызначэнне Заходняй Беларусі і ўз’яднанне яе з БССР [68, с. 67].

Што да апошняга патрабавання, то ў 1930-х гг. КПП і КПЗБ як яе тэрытарыяльная секцыя адмовіліся ад патрабавання абавязковага далучэння Заходняй Беларусі да БССР. Зразумела, гэта не азначала адмаўлення ад імкнення да аб’яднання беларускіх зямель. Аднак яго ўжо не звязвалі з лозунгам аб праве народаў на самавызначэнне аж да адлучэння. Апошні лозунг не адмаўляўся, але пасля падпісання савецка-польскага пагаднення аб неагрэсіі (25 ліпеня 1932 г.) і падаўжэння яго на 10 гадоў (5 мая 1934 г.) гэты лозунг абвяшчалі ўсё радзей [120, с. 95].

Праграмныя тэзісы КСМЗБ разглядаліся польскімі ўладамі як падрыўныя і антыдзяржаўныя. Таму на працягу ўсяго свайго існавання камсамол быў вымушаны дзейнічаць падпольна. Ва ўмовах нелегальнага становішча заходнебеларускі камсамол кіраваўся прынцыпамі дэмакратычнага цэнтралізму і прыняў строга цэнтралізаваную арганізацыйную структуру. На чале арганізацыі стаяў ЦК, які лічыўся вышэйшым кіруючым органам КСМЗБ паміж з’ездамі і канферэнцыямі. ЦК, як і ўвесь камсамол, працаваў пад кіраўніцтвам ЦК КПЗБ і ЦК КСМП. Ён абіраўся на канферэнцыях заходнебеларускага камсамола і складаўся з 7—9 чалавек. ЦК КСМЗБ знаходзіўся ў Вільні, але па прычыне паліцэйскіх рэпрэсій мог пераязджаць у Беласток ці Варшаву.

Наступным арганізацыйным узроўнем былі акруговыя камітэты (далей — АК) КСМЗБ. Камітэт складаўся з 7 чалавек і кіраваў камсамольскай акругай. АК абіраліся на акруговых канферэнцыях, але па прычыне частых арыштаў яны маглі стварацца і на сходах камсамольскага актыву, ЦК КСМЗБ ці АК КПЗБ. Што да колькасці акруг, то ў міжваенны час на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічала 12 АК КСМЗБ. Ужо ў 1924 г. існавалі Віленскі, Беластоцкі, Брэсцкі, Гродзенскі, Пінскі, Баранавіцка-Слонімскі і Навагрудскі АК. У 1930—1931 гг. да іх далучыліся Ваўкавыскі, Маладзечанскі, Лідскі, Пастаўска-Глыбоцкі і Свянцянска-Браслаўскі [69, с. 76].

АК КСМЗБ кіраваў працай раённых камітэтаў (далей — РК), якія складаліся з 5 чалавек. Кожнаму АК падпарадкоўвалася да 10 раённых ці гарадскіх арганізацый. Тыя, у сваю чаргу, маглі складацца з 10—12 пярвічных ячэек, у якую ўваходзіла ад 3 да 7 чалавек. На чале ячэйкі стаяла бюро ў складзе сакратара, скарбніка і тэхніка [69, с. 76].

Зразумела, што ва ўмовах нелегальнага становішча і паліцэйскіх рэпрэсій КСМЗБ не мог спаборнічаць у колькасным плане з легальнымі арганізацыямі. Сацыяльны склад КСМЗБ у цэлым адпавядаў сацыяльнаму складу заходнебеларускага насельніцтва: 80% камсамольцаў былі сялянамі, 10—12% прыходзілася на рабочую моладзь, астатнія — навучэнцы, сезонныя работнікі, батракі [69, с. 76]. Трэба адзначыць, што ў КСМЗБ даволі доўгі час вельмі мала ўвагі надавалася працы з маладой інтэлігенцыяй і студэнцтвам. Праект праграмы Камуністычнай партыі Польшчы (далей — КПП), прыняты на VI з’езде партыі, сцвярджаў, што інтэлігенцыя вырасла ў буржуазных традыцыях. «Перацягванне» яе на свой бок планавалася толькі пасля перамогі сацыялістычнай рэвалюцыі. Гэтая пазіцыя знайшла адлюстраванне ў лозунгах, абвешчаных на I з’ездзе КСМЗБ. У іх на першы план вылучаліся задачы кіраўніцтва эканамічнай барацьбой маладых рабочых, антываенная праца і праца сярод дзяцей. Што да студэнцтва, то пра яго лозунгі нават не ўспаміналі [137, с. 65].

Неабходна таксама закрануць і пытанне аб нацыянальным складзе КСМЗБ. Як вядома, камсамол з’яўляўся інтэрнацыянальнай арганізацыяй. Згодна з дадзенымі сучаснай гістарыяграфіі, 83%

членаў саюза былі беларусамі, 15—17% — яўрэямі і каля 1% — палякамі, літоўцамі і прадстаўнікамі іншых нацый [69, с. 76].

У 1938 г. Камінтэрн прыняў рашэнне распусціць КПП, а разам з ёю КПЗБ і КСМЗБ. Увесь камуністычны рух быў абвінавачаны ў супрацоўніцтве з польскай контрразведкай. Многія камсамольцы, якія знаходзіліся ў СССР, сталі ахвярамі рэпрэсій. Тым не менш гаварыць аб поўным спыненні дзейнасці камсамола Заходняй Беларусі пасля жніўня 1938 г. нельга, хаця рашэнне Камінтэрна мела значны дэмаралізуючы эфект. На месцах захавалася сетка пярвічных ячэек. Па дадзеных польскай паліцыі, камсамольцы працягвалі сваю агітацыю [96, с. 270—272].

Жыццяздольнасць камсамольскага падполля праявілася і ў верасні 1939 г., калі былыя члены КСМЗБ прынялі актыўны ўдзел у барацьбе за ўсталяванне савецкай улады на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Акрамя КСМЗБ, на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічаў шэраг легальных маладзёжных арганізацый левай арыентацыі. Гэта Таварыства рабочага ўніверсітэта (далей — ТУР), а таксама маладзёжная арганізацыя Таварыства рабочага ўніверсітэта (Organizacja Młodzieżowa Towarzystwa Uniwersitetu Robotniczego) (далей — МА ТУР), цесна звязаная з ППС. ТУР ўзнікла ў 1922 г. Яго першапачатковай мэтай было пашырэнне асветы і сацыялістычнай ідэалогіі, павышэнне класавай самасвядомасці пралетарыяту і супрацьстаянне ідэалагічнаму ўздзеянню буржуазіі на пралетарыят. 15 красавіка 1923 г. быў створаны Цэнтральны аддзел моладзі ТУР, які павінен быў каардынаваць дзейнасць маладзёжных гурткоў, што існавалі пры гэтай арганізацыі [295, с. 43]. Адносна самастойнай МА ТУР стала ў 1926 г., у тым жа годзе яна ўвайшла ў Сацыялістычны Інтэрнацыянал моладзі [263, с. 63].

На першым этапе існавання галоўнай мэтай саюза было развіццё культуры, асветы і спорту ў асяроддзі пралетарскай моладзі. К. Чапіньскі (пасол ППС у Сейме) заяўляў: «ТУР павінен быць праявай барацьбы пралетарыяту, які імкнецца да разбурэння асветніцкай манаполіі кіруючых класаў і прысваенню ўсіх каштоўных дасягненняў нацыянальнай і агульначалавечай культуры, дзе гэта патрэбна, у духу імкнення свайго класа да будучай Польскай сацыялістычнай рэспублікі» [232, с. 92—93].

Адзін з кіраўнікоў МА ТУР, С. Дзюбуа, адзначаў, што галоўнай задачай арганізацыі з'яўляецца падрыхтоўка маладых пралетарыяў да будучага жыцця і будучай барацьбы за сацыялізм. Мэтай было выхаваць рабочых дзеячаў, «якія б у кожнай сферы грамадскага жыцця, на полі палітычнай, прафесійнай, кааператыўнай працы, у самакіраванні, у бальнічных касах і іншых установах маглі з карысцю працаваць для рабочага руху» [133, с. 91].

Планавалася абудзіць сярод членаў арганізацыі «глыбокую ідэйную прыхільнасць да сацыялізму і кіраўніцы рабочага руху, гераічнай і заслужанай Польскай сацыялістычнай партыі» [133, с. 92]. Такім чына, МА ТУР павінна была стаць маладзёжным рэзервам для ППС.

Вялікая ўвага надавалася таксама фізічнаму выхаванню рабочай моладзі. Лічылася, што заняткі спортам дапамогуць моладзі развіваць пачуцці дысцыпліны, значэння калектыўнай працы, прыхільнасць да арганізацыі [133, с. 93]. Пад патранатам ППС і ТУР у 1926 г. узнік Саюз рабочых спартыўных аб'яднанняў (Związek Robotniczych Stowarzyszeń Sportowych) (далей — СРСА). У межах яго дзейнічалі шматлікія спартыўныя клубы, якія распаўсюджвалі фізічную культуру сярод пралетарскай моладзі і адначасова садзейнічалі прыцягненню яе да ўдзелу ў рабочым руху [305, с. 327].

Таксама актыўна развівалася праца з дзецьмі. Для гэтага пад кіраўніцтвам ЦК МА ТУР (з 1931 г. — аўтаномна) дзейнічала арганізацыя Чырвонага харцарства ТУР (Czerwono Harcerstwo TUR) (далее — ЧХ ТУР) [263, с. 21]. Мэтай ЧХ ТУР было «выхаванне новага пакалення свядомых людзей, моцных, здаровых, высока маральных; людзей, здольных выканаць абавязкі, якія лягуць на іх як на свядомых членаў рабочага класа». На думку дэкларацыі ЧХ ТУР, сапраўдны сацыяліст павінен быў быць здаровым, моцным, упэўненым ў сваіх сілах і ў моцы сацыялізму [232, с. 100].

На першапачатковым этапе свайго існавання ідэалогія маладых «тураўцаў» мала адрознівалася ад сацыял-рэфармісцкай ідэалогіі ППС. Сацыялісты адрозніваліся ад камуністаў тым, што былі супраць дыктатуры пралетарыяту і імкнуліся да дэмакратычнай сістэмы кіравання дзяржавай. Вылучаючы лозунг грамадскай рэвалюцыі, яны, аднак, разумелі яе не як гвалтоўны пераварот, а як

момант узяцця ўлады рабочым класам шляхам атрымання парламенцкай большасці [251, с. 100].

Тым не менш ужо с самага пачатку свайго існавання МА ТУР заяўляла, што не можа заставацца пасіўнай у адносінах да катастрафічнага эканамічнага становішча моладзі і эксплуатацыі падлеткаў. Адным з накірункаў сваёй працы яна аб’яўляла барацьбу за грамадскія і палітычныя інтарэсы маладога пакалення. Напрыклад, вылучаліся патрабаванні скарачэння вайсковай службы да 1 года. Таксама МА ТУР патрабавала распаўсюдзіць закон аб дапамозе беспрацоўным на моладзь да 18 гадоў. Яшчэ адным накірункам дзейнасці аб’яднання была барацьба за мір і супраць мілітарызму. Ворагамі «тураўскай» моладзі абвяшчаліся нацыяналізм, фашызм, клерыкалізм, манархізм і камунізм [133, с. 94—95].

У 1929 г., з пачаткам сацыяльна-эканамічнага крызісу, у ідэалогіі і практыцы МА ТУР адбываліся значныя змены. З аднаго боку, саюз пачаў рабіць большы акцэнт на абарону інтарэсаў моладзі і ўдзел у палітычнай барацьбе, з іншага — імкнуўся да большай аўтаноміі ад кіраўніцтва ППС. Нават савецкія крыніцы таго часу прызнавалі існаванне сярод маладых «тураўцаў» «значнай рэвалюцыйнай апазіцыі» [94, с. 139].

Дзейнасць апазіцыі прывяла да зменаў у ідэалогіі як ТУРа, так і ППС. Сцвярджалася неабходнасць «масавай барацьбы рабочых і сялян і пераадоленне ў масах ілюзій, што якая-небудзь сіла ў межах капіталістычнага ладу здолее выправіць іх лёс без поўнага разбурэння ўлады пануючых у дзяржаве класаў». Прызнавалася і неабходнасць часовай дыктатуры [251, с. 100].

У сярэдзіне 1930-х гг. праграма ППС, якую падтрымлівала і МА ТУР, уключала патрабаванні пашырэння правоў мясцовага самакіравання і скарачэння паўнамоцтваў адміністрацыйных улад, аддзялення царквы ад дзяржавы, права на аўтаномію для нацыянальных меншасцяў 2-й РП, нацыяналізацыі асноўных галін прамысловасці і банкаў, дзяржаўнай манаполіі на гандаль таварамі першай неабходнасці, правядзення ў вёсцы радыкальнай аграрнай рэформы [251, с. 101].

Што да структуры аб’яднання, то МА ТУР дзейнічала як федэрацыя сеткі мясцовых ячэек, якія вялі сваю працу ў залежнасці ад мясцовых умоў і патрэб рабочага асяроддзя [170, с. 104]. Яны

павінны былі працаваць ў цесным узаемадзеянні з акруговымі і гарадскімі камітэтамі ППС. На тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд дзейнічалі акруговыя камітэты ППС у Беластоку, Вільні і Пінску [305, с. 323—324].

У канцы 1935 г. на канферэнцыі варшаўскай МА ТУР было прынята рашэнне, згодна з пастановай нарады кіраўніцтва МА ТУР, аб стварэнні маладзёжнай сацыялістычнай арганізацыі, якая была б звязана з ППС толькі ў ідэалагічнай сферы [295, с. 45]. Кіраўніцтва ППС было незадаволена празмернай радыкалізацыяй сваёй маладзёжнай арганізацыі і яе імкненнем да аўтаноміі. У выніку на мяжы 1935—1936 гг. ЦК ППС прыняў рашэнне аб роспуску МА ТУР. Замест яе быў створаны цесна звязаны з партыяй Цэнтральны аддзел моладзі ППС [263, с. 17].

Неабходна адзначыць, што ППС звяртала пэўную ўвагу на студэнцкую моладзь. У выніку гэтага пад яе ўплывам знаходзіўся Саюз незалежнай сацыялістычнай моладзі (Związek Niezależnej Młodzieży Socjalistycznej) (далей — СНСМ), які меў свой філіял і ў Віленскім універсітэце. Афіцыйна гэтая арганізацыя ўзнікла ў маі 1922 г. у Варшаве, аб’яднаўшы маладых сацыялістаў, камуністаў, анархістаў і беспартыйных прыхільнікаў гэтых ідэалагічных накірункаў [295, с. 38].

Вельмі хутка ў арганізацыі адбыўся раскол, у выніку чаго яе пакінулі прыхільнікі камуністаў. СНСМ падтрымліваў цесныя кантакты з МА ТУР, а таксама спрабаваў змагацца з уплывам польскіх нацыяналістаў у ВНУ 2-й РП, выступаў у абарону акадэмічнай аўтаноміі. Як адзначаюць польскія даследчыкі, на працягу ўсяго міжваеннага перыяду гэтая арганізацыя знаходзілася на левым крыле сацыялістычнага руху, ідэолагі якога патрабавалі парваць з рэфармізмам і перайсці на рэвалюцыйныя пазіцыі. У 1934 г. было заяўлена, што «капіталістычны крызіс патрабуе гатоўнасці да рэвалюцыйнага выхаду з яго» [295, с. 40].

Яшчэ адной арганізацыяй дэмакратычнага накірунку быў ССМ РП «Віцы». Як ужо паведамлялася вышэй, ён арганізацыйна аформіўся ў 1928 г. пасля расколу ў ЦССМ. Па сваёй ідэалогіі ССМ РП «Віцы» быў блізкім да створанай у 1931 г. сялянскай партыі «Стронніцтва людове» (Stronnictwo Zudowe) (далей — СЛ) [263, с. 146].

Першапачаткова гэтая маладзёжная арганізацыя павінна была стаць федэрацыяй самастойных ваяводскіх саюзаў сельскай

моладзі. Прынцыповай мэтай абвяшчалася арганізацыя працы па павышэнню духоўнага і гаспадарчага ўзроўню сельскай моладзі і ўзбагачэнне культуры вёскі [232, с. 70].

Як бачна, на этапе стварэння мэты ССМ РП «Віцы» супадалі з афіцыйнымі мэтамі праўрадавага ССМ «Сеў». Таксама збліжала іх і абвешчаная апалітычнасць [263, с. 146]. Галоўным жа адрозненнем былі адносіны да рэжыму «санацыі». У ССМ РП «Віцы» гэтыя адносіны змяняліся ад крытычных (але не апазіцыйных) да радыкальна антыўрадавых.

Працэс радыкалізацыі саюза знайшоў адлюстраванне ў грамадска-палітычнай дэкларацыі гэтай арганізацыі (1933 г.), у якой было заяўлена, што «капіталістычны лад з'яўляецца крыніцай галечы сялян і рабочых». Абвяшчалася неабходнасць грамадскай перабудовы на прынцыпах справядлівасці і з апорай на вёску і творчыя каштоўнасці селяніна. Асновай гаспадаркі павінна была стаць каапераця і вольная праца, але ў межах эканамічнага плана. Асобна стаяў пункт аб жаночым раўнапраўі ў грамадскім жыцці [232, с. 70—71].

Асновай ідэалогіі ССМ РП «Віцы» быў абвешчаны аграрызм, што знайшло адлюстраванне ў «Грамадска-гаспадарчых прынцыпах ССМ РП», якія былі прыняты на агульным з'езде арганізацыі ў кастрычніку 1935 г. у Варшаве. У гэтай дэкларацыі было заяўлена, што капіталізм павінен быць знішчаны «салідарнымі намаганнямі свету працы вёскі і гарадоў». Улічваючы колькасць сялянства, рэпрэзентацыя ім найважнейшай сферы вытворчасці, грамадскія, дзяржаўныя і нацыянальныя якасці селяніна, пабудова новага ладу павінны былі грунтавацца на прынцыпах «сялянскай грамадска-гаспадарчай думкі, выражэннем якой з'яўляецца аграрызм, які раўнамерна ўлічвае інтарэсы і патрэбы ўсяго свету працы» [331].

Аграрызм прызнаваў прыватную ўласнасць, якая, аднак, не павінна была станавіцца сродкам эксплуатацыі чалавека чалавекам. Асновай жыцця аб'яўлялася праца, фізічная ці інтэлектуальная. Зямля, згодна з галоўнымі прынцыпамі аграрызму, павінна была перайсці ў рукі тых, хто асабіста працуе на ёй. Асновай сельскагаспадарчай вытворчасці павінна была стаць індывідуальная сямейная гаспадарка, якая «гарантуе найвышэйшую прыбытковасць і згодна аб'ядноўвае ў сабе элемент

працы і капіталу». Тэхнічныя, эканамічныя і арганізацыйныя недахопы індывідуальнай дробнай гаспадаркі належала ліквідаваць кааперацыі. Беззямельныя і малазямельныя сяляне павінны былі атрымаць надзелы за кошт нацыяналізаваных памешчыцкіх уладанняў. Перанаселенасць вёскі прапаноўвалася ліквідаваць за кошт развіцця прамысловай вытворчасці, у першую чаргу перапрацоўчай. Заводы, фабрыкі, банкі, шахты павінны былі перайсці ва ўласнасць арганізаванага грамадства (дзяржавы, мясцовага самакіравання, кааператываў) [331].

Аграрызм выступаў за больш цесную сувязь грамадства з зямлёй, што «забяспечвала здаровае і гарманічнае развіццё чалавека». Таму ССМ РП «Віцы» выступаў за неабходнасць спынення росту насельніцтва ў гарадах. Новыя прадпрыемствы прапаноўвалася ствараць ў вёсцы. Таксама працягваў дэкларавацца і прынцып планавасці гаспадаркі. Сваім саюзнікам ў барацьбе за новы грамадска-палітычны лад дэкларацыя аб'яўляла рабочы клас [331].

Характэрна, што асноўныя ідэі і тэзісы дэкларацыі ў снежні 1935 г. у сваю праграму ўключыла СЛ. Такім чынам, як і ў выпадку з МА ТУР, працэс радыкалізацыі ў маладзёжным аб'яднанні адбываўся хутчэй, чым у самой партыі.

Неабходна адзначыць, што ССМ РП «Віцы» не атрымаў вялікага ўплыву на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Перш за ўсё гэта можна растлумачыць тым, што пасля расколу ЦССМ у рэгіёне ўмацаваліся структуры ССМ «Сеў». Асобныя ячэйкі ССМ РП «Віцы» дзейнічалі толькі ў Валожынскім, Беластоцкім, Лідскім, Ашмянскім, Гродзенскім і Ваўкавыскім паветах. Іх кіруючы цэнтр знаходзіўся ў Беластоку [94, с. 212].

У вышэйшай школе ідэалогію аграрызму падтрымлівала Польская акадэмічная народная моладзь (Polska Akademicka Młodzież Ludowa) (далей — ПАНМ), створаная ў 1922 г. Гэтае аб'яднанне было нешматлікім, дзейнічала ў асноўным за межамі ўніверсітэтаў і супрацоўнічала з ССМ РП «Віцы» [130, с. 24].

Больш уплывовым і масавым аб'яднаннем дэмакратычнага накірунку на тэрыторыі Заходняй Беларусі з'яўлялася арганізацыя (Jugnt-Bund "Tsukunft", «Будучыня»). Ідэалагічна і арганізацыйна гэты саюз, створаны яшчэ ў 1919 г., быў падпарадкаваны Бунду [263, с. 146].

Бундаўскія лідары лічылі, што «для паляпшэння становішча сусветнага пралетарыяту і яго выхаду з-пад ярма капіталізму адной з галоўных задач з'яўляецца работа з пралетарскай моладдзю, якую неабходна прыцягнуць у свае рады. Таму галоўнай задачай «Цукунфта» з'яўляецца вярбоўка яўрэйскай моладзі ў рады партыі» [83, арк. 90].

Трэба адзначыць, што нейкі час «Цукунфт» з'яўляўся членам КІМ. Але ў далейшым, пасля арганізацыйнага расколу на прыхільнікаў і праціўнікаў камуністычнай ідэалогіі, III з'езд «Цукунфта» (1922 г.) пацвердзіў факт уваходжання ў склад Бунда і адмовіўся ад правядзення самастойнай палітыкі, якая б супярэчыла палітыцы гэтай партыі. Тыя, хто не згадзіўся з гэтым рашэннем, выйшлі з арганізацыі і далучыліся да заходнебеларускіх камуністаў [83, арк. 90].

Такім чынам, «Цукунфт» знаходзіўся на сацыял-дэмакратычных пазіцыях, вылучаючы лозунг барацьбы за сацыялізм. Для гэтага маладзёжнага аб'яднання характэрным было патрабаванне культурнай, палітычнай і эканамічнай аўтаноміі для яўрэйскага насельніцтва. Адначасова ён выступаў супраць ідэй сіянізму — лічылася, што стварэнне яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне не вырашыць «яўрэйскага пытання». Акрамя таго, бундаўцы і цукунфтаўцы абвінавачвалі сіяністаў у супрацоўніцтве з капіталістамі і буржуазнымі артадоксамі, бо гэта, на іх думку, было несумяшчальным з сацыялістычнымі прынцыпамі [75, с. 593].

«Цукунфт» аб'ядноўваў яўрэйскую пралетарскую і рамесніцкую моладзь гарадоў і мястэчак. Арганізацыйнай адзінкай была група, якая будавалася па прафесійнаму прынцыпу і ўзначальвалася «ратам» (саветам). Нізавыя арганізацыі падпарадкоўваліся гарадскім саветам, а тыя ў сваю чаргу — раённым. Цэнтральнае кіраўніцтва арганізацыі знаходзілася ў Варшаве [94, с. 230—231].

Як і іншыя арганізацыі, «Цукунфт» надаваў значную ўвагу развіццю фізічнай культуры, а таксама працы з дзецьмі. Так, пад яго кіраўніцтвам дзейнічала спартыўная арганізацыя «Моргенштэрн»(Morqnshtern), створаная ў 1926 г. У міжваенны перыяд гэтае аб'яднанне стала адной з буйнейшых спартыўных арганізацый 2-й РП. Мэтай «Моргенштэрна» было прыцягнуць на бок Бунда маладых яўрэйскіх рабочых. Ён спрабаваў укараніць у спартыўную сферу асноўныя прынцыпы бундаўскай ідэалогіі:

сацыялізм, класавую свядомасць рабочага класа, інтэрнацыяналізм і заахвочванне яўрэйскай культуры. Таксама адмаўляліся ўсе формы мілітарызму і нацыяналізму, таму «Моргенштэрн» разглядаў сіянізм як праяву буржуазнага шавінізму сярод яўрэяў і ўстрымліваўся ад любога супрацоўніцтва з сіяністамі.

Аб’яднанне займалася арганізацыяй спорту сярод мужчын і жанчын, каб «дапамагчы вызваліць іх цела і розум ад наступстваў цяжкай і манатоннай штодзённай фізічнай працы». Трэба адзначыць, што першапачаткова «Моргенштэрн» выступаў супраць канкурэнтных спартыўных спаборніцтваў. Напрыклад, у 1929 г. на кангрэсе Міжнароднага сацыялістычнага рабочага спорту ён прапанаваў забараніць бокс, а таксама прапанаваў новыя правілы для футбола, накіраваныя супраць гвалту і канкурэнцыі ў «буржуазным» футболе. Згодна з гэтай прапановай, у футбол трэба было гуляць па гуманістычных і сацыялістычных прынцыпах: перамога вызначалася не толькі па колькасці забітых галоў, але і на аснове «эстэтычнай і справядлівай гульні» і «спрытных камбінацый». На шчасце, гэтую прапанову не прынялі [140].

Таксама пад апекай «Цукунфта» існаваў дзіцячы сацыялістычны саюз «Скіф», які павінен быў выхоўваць дзяцей згодна з прынцыпамі «канструктыўнага сацыялізму і нацыянальнай рамантыкі» [94, с. 232].

У 1930-я гг., у адказ на антысемітызм, «Цукунфт» стварыў сваю ўласную міліцыю — «Цукунфт-Штурм» (Tsukunft-Shturm). Гэта была дысцыплінаваная ваенізаваная арганізацыя, якая мела сетку каманд і сваю ўніформу. Яна павінна была абараняць актывістаў Бунду ў час розных мерапрыемстваў, напрыклад першамайскіх дэманстрацый. Таксама арганізацыя выступала ў якасці самаабароны супраць пагромаў [141].

Як і іншыя маладзёжныя арганізацыі левай арыентацыі, у 1930-я гг. «Цукунфт» перажыў этап радыкалізацыі. Іншы раз гэта вяло да разрыву мясцовых ячэек з Бундам. Напрыклад, у 1934 г. так адбылося ў Бярозе-Картузскай, прычым частка цукунфтаўцаў далучылася да КСМЗБ [43, арк. 36]. Дарэчы, небходна адзначыць, што ў 1938 г., пасля рашэння Камінтэрна пра роспуск КПЗБ і КСМЗБ, назіраўся наплыў былых камуністаў і камсамольцаў у бундаўскія арганізацыі [321, с. 190]. Гэта лішні раз сведчыла пра ідэйную блізкасць абодвух аб’яднанняў.

Такім чынам, неабходна адзначыць, што на тэрыторыі Заходняй Беларусі «санацыйны» рэжым сутыкнуўся з даволі разгалінаванай сеткай арганізацый левай і дэмакратычнай арыентацыі. Сур'ёзную і цэнтралізаваную структуру тут стварыў КСМЗБ, які з'яўляўся найбольш радыкальным сапернікам «санацыі». Ён быў арганізацыяй беларускай сялянскай і яўрэйскай гарадской моладзі, якую прыцягвала праграма радыкальнай перабудовы грамадства.

Акрамя камсамола, у рэгіёне дзейнічаў шэраг легальных дэмакратычных маладзёжных аб'яднанняў. У той ці іншай меры ўсе яны мелі арганізацыйную ці ідэалагічную сувязь з легальнымі палітычнымі партыямі, апазіцыйнымі «санацыі». Гэтыя партыі разглядалі маладзёжныя арганізацыі ў якасці свайго рэзерву. Тым не менш у маладзёжных саюзах адбываўся працэс радыкалізацыі, што адлюстроўвалася ў выданні дастаткова рашучых праграм і дэкларацый. У далейшым гэта прывядзе да спробы стварэння адзінага фронту маладога пакалення.

## 4.2 Клерыкальныя маладзёжныя аб'яднанні

Рымска-каталіцкая царква таксама імкнулася распаўсюдзіць свой уплыў на маладое пакаленне. Яе адносіны да выхавання моладзі былі сфармуляваны ў энцыкліцы Папы Рымскага Пія XI «Дзівіні ілліус магістры» (1929 г.). Гэтая энцыкліка з'яўлялася першым афіцыйным выкладаннем каталіцкай выхаваўчай дактрыны. Папскае пасланне асуджала ўсе педагагічныя сістэмы, якія не прызнавалі першародны грэх і божую міласць. Прыхільнікі такіх сістэм, на думку Папы, займаюцца не пазітыўным фарміраваннем чалавека, а вызваленнем яго ад божых запаветаў. Энцыкліка вызначала, хто павінен займацца выхаваннем: царква, сям'я і дзяржава. Пры гэтым кіруючая роля адводзілася менавіта царкве, а сям'я і дзяржава павінны былі падпарадкоўвацца ёй у выхаваўчай сферы. Сцвярджалася, што хрысціянскае выхаванне мае ўніверсальны характар. Прынцыповай жа мэтай гэтага выхавання з'яўлялася фарміраванне «сапраўднага і дасканалага хрысціяніна» [143, с. 180].

Згодна з энцыклікай, галоўным абавязкам дзяржавы з'яўляецца падтрыманне любымі сродкамі выхавання моладзі, арганізаванага

царквой і сям'ёй. Пры гэтым Папа заяўляў: «Чым больш свецкая ўлада супрацоўнічае з духоўнай, дапамагае ёй і падтрымлівае, тым больш яна мае адносін да захавання дзяржавы» [143, с. 184]. Лічылася, што выхаванне добрага хрысціяніна азначае і выхаванне добрага грамадзяніна. У энцыкліцы адзначалася, што «каталік дзякуючы таму, што выхаваны згодна з хрысціянскімі прынцыпамі, з'яўляецца найлепшым грамадзянінам, які любіць сваю Айчыну і лаяльна ставіцца да дзяржаўнай улады, незалежна ад формы кіравання» [143, с. 186]. Дадзеная канцэпцыя разыходзілася з «санацыйнай» канцэпцыяй «дзяржаўнага выхавання». Таму прэтэнзіі касцёла выклікалі незадаволенасць шэрагу дзеячаў кіруючага рэжыму, але каталіцкая царква вяла актыўную выхаваўчую дзейнасць у маладзёжным асяроддзі, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Праца з маладым пакаленнем адбывалася ў межах Каталіцкай акцыі. Яна арганізацыйна аформілася пасля 1922 г. па ініцыятыве Папы Рымскага Пія XI, які вызначыў яе палітычныя мэты: садзейнічаць укараненню ў грамадстве асноўных ідэй каталіцкай сацыяльнай дактрыны і папскіх энцыклік, пашыраць грамадскую базу каталіцкай царквы, актыўна ўплываць на палітычнае акружэнне. У аснову сацыяльнай праграмы касцёла былі пакладзены папскія энцыклікі «Рэрум наварум» (1891 г.) і «Куадрагезіма анно» (1931 г.), у якіх асуджаліся класавая барацьба, сацыялізм і камунізм, рэкамендавалася ўстанавіць карпаратыўную сістэму класавага супрацоўніцтва працоўных з капіталам [62, с. 70].

У Заходняй Беларусі мерапрыемствы Каталіцкай акцыі пачалі ажыццяўляцца з сярэдзіны 1920-х гг. Канчаткова арганізацыйнае афармленне Каталіцкай акцыі адбылося ў пачатку 1930-х гг.: у лістападзе 1930 г. быў створаны Галоўны інстытут Каталіцкай акцыі ў Познані, у 1930—1932 гг. пачалі дзейнічаць інстытуты Каталіцкай акцыі ў дыяцэзіях, у тым ліку і ў Вільні. Асновай Каталіцкай акцыі ў 2-й РП сталі чатыры калоны (арганізацыі). Гэтыя саюзы аб'ядноўвалі адпаведна мужчын, жанчын, юнакоў і дзяўчат. Акрамя таго, з рухам супрацоўнічаў шэраг іншых клерыкальных аб'яднанняў [108, с. 231—232].

Найбольш буйной клерыкальнай маладзёжнай арганізацыяй 2-й РП было АМП. Яно ўзнікла яшчэ ў 1919 г. у Познані [232,

с. 77]. На тэрыторыі Заходняй Беларусі першыя гурткі АМП з’явіліся ў 1926 г. [30, арк. 476]. У 1934 г. у сувязі з уніфікацыяй калон Каталіцкай акцыі адбылася рэарганізацыя аб’яднання: былі створаны асобныя арганізацыі для юнакоў і дзяўчат — Каталіцкае аб’яднанне мужчынскай моладзі (Katalickie Stowarzyszenie Młodzieży Męskiej) (далей — КАММ) і Каталіцкае аб’яднанне жаночай моладзі (Katalickie Stowarzyszenie Młodzieży Żeńskiej) (далей — КАЖМ) [163, с. 1 112—1 113].

У гэтыя аб’яднанні прымалася «ўся хрысціянская моладзь з 14 да 25 гадоў». Зразумела, што пад хрысціянскай мелася на ўвазе моладзь каталіцкага веравызнання. Што да сацыяльнага складу, то ў Заходняй Беларусі каля 80% членаў клерыкальных аб’яднанняў складала вясковая моладзь [30, арк. 476].

Арганізацыйная структура аб’яднання абапіралася на царкоўную структуру. Пярвічныя ячэйкі ствараліся пры царкоўных прыходах, наступным узроўнем былі павятовыя саюзы, потым — акруговыя. На тэрыторыі Заходняй Беларусі існавалі акругі АМП з цэнтрамі ў Вільні (для Віленскай акругі), Сакулцы (для Беластоцкай акругі) і Лідзе (для Лідскай акругі). Усе тры акругі падпарадкоўваліся Вільні, як і ўся Каталіцкая акцыя Заходняй Беларусі. Кіраўніцтва арганізацыі на ўсіх узроўнях часткова выбіралася, а часткова прызначалася царкоўнымі ўладамі. На кожным узроўні існавала пасада касцёльнага асістэнта, які згодна са статутнымі дакументамі з’яўляўся прадстаўніком епіскапа, інфарміраваў яго аб стане і дзейнасці аб’яднання. Ён прысутнічаў на ўсіх сходах арганізацыі, меў «права вырашальнага голасу ў справах веры і маральнасці і права дарадчага голасу ў арганізацыйных справах» [281, с. 6].

Кіруючымі органамі мясцовай ячэйкі з’яўляліся праўленне (старшыня, сакратар, скарбнік), агульны сход, рэвізійная камісія, суд. Па меры неабходнасці маглі стварацца асобныя секцыі і калектывы [281, с. 9—11]. Для дапамогі арганізацыі і апекі над ёй у паветах і акругах з ліку духавенства, бацькоў і школьных настаўнікаў ствараліся патранаты [30, арк. 477].

У статутных дакументах арганізацыі заяўлялася, што яе асноўная мэта — выхаванне адукаваных і актыўных членаў каталіцкай царквы, падрыхтоўка іх да індывідуальнага і калектыўнага хрысціянскага апостальства, а таксама

распаўсюджванне каталіцкіх прынцыпаў ва ўсіх сферах жыцця і культуры [282, с. 3].

Ажыццяўляючы сваю асноўную мэту, каталіцкія аб’яднанні моладзі выконвалі наступныя задачы: укараненне маральных прынцыпаў і практыкі каталіцкай рэлігіі ў індывідуальнае і калектыўнае жыццё; укараненне каталіцкага грамадзянскага духу і разумення дзяржаўных спраў; распаўсюджванне хрысціянскай міласэрнасці; распаўсюджванне асветы, якая грунтуецца на каталіцкім светапоглядзе; распаўсюджванне каталіцкіх прынцыпаў гігіены і фізічнага выхавання, а таксама каталіцкага руху цвярозасці; тэарэтычнае і практычнае распаўсюджванне прынцыпаў грамадскага, гаспадарчага, тэхнічнага і прафесійнага жыцця; правядзенне дзяржаўнага выхавання, пазашкольнай асветы, фізічнага выхавання, ваеннай, прафесійнай, сельскагаспадарчай падрыхтоўкі [281, с. 3—4].

Як дапаўненне да вышэйназваных задач, каталіцкія жаночыя маладзёжныя аб’яднанні павінны былі «распаўсюджваць разуменне жаночых праблем і ідэалаў у адпаведнасці з каталіцкімі прынцыпамі» [282, с. 3].

Асноўнымі формамі працы арганізацыі былі ўдзел у рэлігійнай практыцы, сходы, з’езды, развіццё кааперацыі, сельскагаспадарчыя і прафесійныя курсы, спорт і г. д. [232, с. 77—78]. У АМП існавалі наступныя аддзелы: агульнаарганізацыйны, культурна-асветніцкі, сельскагаспадарчай падрыхтоўкі, аддзел фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі. Інструктарскія кадры для працы ў саюзе спецыяльна рыхтаваліся ў Каталіцкай грамадскай школе ў Познані і ў некалькіх народных каталіцкіх універсітэтах [263, с. 27].

Істотную ролю ў арганізацыі дзейнасці членаў Каталіцкай акцыі, у першую чаргу моладзі, адыгрывалі арганізацыйныя лозунгі і праграмы. Уся штогадовая праграма дзейнасці будавалася ў адпаведнасці з лозунгам, распрацаваным польскім епіскапатам. Звычайна яго абвяшчалі ў лістападзе. У 1930-х гг. дзейнасць Каталіцкай акцыі адбывалася пад наступнымі арганізацыйнымі лозунгамі: 1931/32 — «Царства Хрыстова ў сям’і»; 1932/33 — «Барацьба з бессаромнасцю і парнаграфіяй у друку і мастацтве»; 1933/34 — «Гадавіна венскай перамогі як сродак барацьбы з сучасным язычніцтвам»; 1934/35 — «Юбілей Збавення як заклік да ўнутранага жыцця і духоўнага адраджэння грамадства»; 1935/36 —

«Сям'я ў свеце прыроднага права і вучэння царквы»; 1936/37 — «Дух Хрыста ў школе і выхаванні — аснова адраджэння нацыі»; 1937/38 — «Каталіцкія прынцыпы — асновы сацыяльнай перабудовы свету»; 1938/39 — «Вывучэнне і выкананне рашэнняў I Пленарнага сінода — высакародная місія польскага каталіцызму».

Праца па ажыццяўленні лозунгаў адбывалася шляхам лекцый, дакладаў, гутарак, вечароў, вывучэння папскіх дакументаў, кніг і часопісаў [146, с. 35—36].

АМП, а потым КАММ і КАЖМ заяўлялі пра сваю апалітычнасць. Але гэта не заўсёды адпавядала рэчаіснасці. У канцы 1920-х гг. у аб'яднанні быў даволі моцным уплыў польскіх хрысціянскіх дэмакратаў і нацыяналістаў. Але ў Заходняй Беларусі гэтыя партыі не карысталіся значным аўтарытэтам і былі слаба прадстаўлены ў гуртках АМП Віленскай мітраполіі. Канчаткова свецкія партыі былі выціснуты ў пачатку 1930-х гг. Гэта было звязана з рашэннем Папы Пія XI ізаляваць Каталіцкую акцыю ад якога-небудзь палітычнага ўплыву. Таму царкоўныя ўлады правялі «чыстку» АМП [232, с. 79].

Дзейнасць клерыкальнага накірунку маладзёжнага руху не абмяжоўвалася толькі асяроддзем вясковай моладзі, ахопленай уплывам маладзёжных калон Каталіцкай акцыі. Пэўная праца вялася і сярод маладой інтэлігенцыі і віленскіх студэнтаў. Яшчэ ў 1928 г. спачатку ў Варшаве, а потым і ў іншых універсітэцкіх цэнтрах узнікла так званае акадэмічнае духавенства. Яно не абмяжоўвалася традыцыйнай рэлігійнай практыкай і займалася таксама каардынацыяй дзейнасці студэнцкіх арганізацый. Былі створаны спецыяльныя рэктарскія касцёлы, якія сталі цэнтрамі аб'яднання студэнтаў-католікаў і каталіцкіх студэнцкіх арганізацый [207, с. 426].

Што непасрэдна да УСБ, то тут у міжваенны перыяд дзейнічалі як агульнапольскія студэнцкія клерыкальныя арганізацыі, так і мясцовыя, уплыў якіх абмяжоўваўся адным універсітэтам. Да першай групы адносіліся такія саюзы і групы, як Аб'яднанне каталіцкай акадэмічнай моладзі «Адраджэнне» (Stowarzyszenie Katolickiej Młodzieży Akademickiej «Odrodzenie») (далей — АКАМ), «Ювентус Хрысціянія» («Juventus Christiania»), марыянскія брацтвы і некаторыя іншыя. Да другой групы можна

аднесці Студэнцкае грамадскае дзеянне (Akademicki Czyn Społeczny) (далей — СГД) і карпарацыю «Канрадыя», якія існавалі толькі ў УСБ.

У некаторых універсітэцкіх цэнтрах каталіцкія студэнцкія саюзы імкнуліся да аб’яднання і сумесных дзеянняў. Так адбылося і ў Вільні, дзе было створана Пагадненне студэнцкіх каталіцкіх аб’яднанняў (Porozumienie Akademickich Katolickich Stowarzyszen).

Найбольш уплывовым сярод гэтых арганізацый, нягледзячы на сваю адносную нешматлікасць, было АКАМ «Адраджэнне». Як адзначаюць сучасныя польскія даследчыкі, прынцыповай мэтай «Адраджэння» было выхаванне ў каталіцкім духу будучых грамадскіх і палітычных дзеячаў. Пры гэтым размова ішла не пра непасрэдную грамадска-палітычную дзейнасць, а хутчэй пра падрыхтоўку маладых людзей да актыўнага ўдзелу ў жыцці краіны. Гэтая пазіцыя выразна адрознівала аб’яднанне ад іншых каталіцкіх студэнцкіх арганізацый. Напрыклад, элітарная арганізацыя «Ювентус Хрысціянія» мела лекцыйна-тэалагічны характар і абмяжоўвалася самаадукацыяй, падтрымкай рэлігійнага жыцця, паглыбленнем ведаў аб касцёле і павышэннем асабістай культуры духоўнага жыцця. Марыянскія брацтвы сваёй прынцыповай задачай прызнавалі фарміраванне характару маладога чалавека з апорай на паглыбленае знаёмства з хрысціянскімі прынцыпамі і выхаванне каталіцкай інтэлектуальнай эліты. АКАМ «Адраджэнне» ў сваёй дзейнасці таксама закранала гэтыя аспекты каталіцкага выхавання, але на першы план вылучалася «адважнае ўваходжанне ў цяжкія праблемы сучаснага свету, ліквідацыя недаверу часткі інтэлігенцыі да рэлігіі» [185, с. 126].

Аб’яднанне, якое ўзнікла яшчэ да Першай сусветнай вайны, з 1919 г. пачало распаўсюджваць сваю дзейнасць ва ўсіх універсітэтах 2-й РП (у Вільні яно з’явілася ў чэрвені 1921 г.). Як і іншыя маладзёжныя каталіцкія саюзы, «Адраджэнне» было часткай Каталіцкай акцыі, аднак захоўвала адносную самастойнасць. Царкоўная іерархія лічыла аб’яднанне прадстаўніцтвам Каталіцкай акцыі на тэрыторыі ўніверсітэтаў і ў асяроддзі маладой інтэлігенцыі. Таксама неабходна адзначыць, што арганізацыя падтрымлівала сувязь з «Пакс Рамана» — міжнародным сакратарыятам нацыянальных федэрацый студэнтаў-католікаў [263, с. 90].

Першая ідэйная дэкларацыя АКАМ «Адраджэнне» выйшла ў 1923 г. Згодна з ёю, задачай арганізацыі было «абаперці жыццё ў Польшчы на Законе Божым», паколькі толькі ён «дае беспамылковы, заснаваны на аўтарытэце Творцы свету, крытэрый разумення істотнага дабра як асобы, так і калектыву». Адначасова дэкларавалася павага да каталіцкай царквы, «жывой захавальніцы Закона Божага». Афіцыйны лозунг аб'яднання — «Аддаць нацыю Хрысту». Першачарговай задачай «Адраджэння» было аб'яўлена фарміраванне інтэлекту, пачуццяў і волі [308, с. 398].

Аб'яднанне жадала «выхаваць пакаленне людзей дзеяння і тварыць польскае жыццё ва ўсіх яго сферах». Сваю назву АКАМ «Адраджэнне» тлумачыла тым, што яго члены павінны адрадзіцца ў Хрысце і нацыі, каб выконваць свае абавязкі. Члены арганізацыі аб'яўлялі сябе грамадскімі католікамі, якія стаяць на грунце натуральных і неабходных патрэб і законаў грамадскага жыцця. Асновай яго, на думку студэнтаў-католікаў, з'яўлялася сям'я. Таксама грунтам нармальнага сацыяльнага развіцця лічыліся права ўласнасці і праца. Пры гэтым прызнавалася, што «пастулат справядлівасці і хрысціянскай любві патрабуе несаступнай, а іншы раз і вельмі вострай барацьбы з капіталістычнай эксплуатацыяй, але ў любым выпадку не праз пашырэнне класавай варожасці, а шляхам рэформ — калі ўзнікне патрэба, радыкальных і няўмольных, — належыць вяртаць працы яе месца ў грамадскім жыцці» [308, с. 399].

У дэкларацыі абвяшчалася пра дэмакратызм арганізацыі: «Кожны паляк павінен мець права і магчымасць, дзякуючы сваім маральным і інтэлектуальным здольнасцям, а таксама асабістым заслугам, дасягнуць першых пасад у Рэчы Паспалітай, узяўшы належную частку адказнасці за яе будучыню» [308, с. 400].

Адначасова АКАМ «Адраджэнне» дэкларавала свой нацыяналізм. Згодна з дэкларацыяй 1923 г., Польшча павінна была быць нацыянальнай дзяржавай. Што да нацыянальных меншасцяў 2-й РП, то лічылася, што ў адносінах да іх нельга ўжываць сродкаў, якія супярэчаць хрысціянскай этыцы. Адначасова было сказана: «Нам дазволена і мы павінны, дзякуючы нашай культурнай вышыні, аказваць уплыў на нашых суграмадзян-непалякаў і шляхам праяўлення і выкарыстання ў польскім дзяржаўным жыцці духоўных каштоўнасцяў нашай цывілізацыі прыцягваць іх

да польскай нацыі» [308, с. 400]. Фактычна, гэта было прызнаннем права на асіміляцыю славянскіх меншасцяў, беларусаў і ўкраінцаў.

Зусім іншым было стаўленне да яўрэяў. Абвяшчалася барацьба з «яўрэйскімі інтрыгамі, якія разбіваюць духоўныя, матэрыяльныя і нацыянальна-дзяржаўныя дасягненні Польшчы». Разам з гэтым у дэкларацыі ішла размова пра неабходнасць пазітыўнай, упартай і арганізаванай акцыі ў накірунку ўзбагачэння хрысціянскай духоўнай спадчыны, нацыяналізацыі прамысловасці і гандлю, пашырэнні ў польскім грамадстве ўсведамлення ўласнай своеасаблівасці і адзінства [308, с. 401].

У заключэнні дэкларацыі было заяўлена, што «Адраджэнне» парывае з усялякай выключнасцю, у тым ліку і партыйнай. Фактычна абвяшчаўся прынцып апалітычнасці. Але, як адзначаюць польскія даследчыкі, на першым этапе свайго існавання арганізацыя ўсё ж падтрымлівала сувязі з палітычнымі партыямі, у першую чаргу з хрысціянскімі дэмакратамі. Найбольш моцнымі гэтыя сувязі былі ў Варшаве, а самымі слабымі — у Вільні. Але пасля 1928 г. у сувязі са стварэннем Каталіцкай акцыі хрысціянска-дэмакратычны ўплыў знік [185, с. 126—127].

У 1929 г. была выдадзена другая ідэйная дэкларацыя АКАМ «Адраджэнне». У цэлым яна працягвала тэндэнцыі і прынцыпы дэкларацыі 1923 г., але з’явіліся некаторыя новыя моманты, а папярэднія тэзісы былі ўдакладнены. Асобны пункт настойваў на тым, што польская дзяржава павінна быць дзяржавай каталіцкай, каталіцкая рэлігія — дзяржаўнай рэлігіяй, а каталіцкая моладзь павінна выхоўвацца ў каталіцкіх школах. Адмаўляўся лаіцызм у калектыўным жыцці, сям’і, выхаваўчых арганізацыях. Асабліва асуджалася масонства і яго тайныя свецкія і антырэлігійныя ўплывы. Разам з касмапалітызмам адвяргаўся і крайні нацыяналізм, «які прызнае нацыю апошняй крыніцай і мерай усіх каштоўнасцяў» [308, с. 405].

Згодна з дэкларацыяй 1929 г., польская дзяржава павінна забяспечыць народам і нацыям, якія пражываюць на яе тэрыторыі, свабоду развіцця. Але адначасова яна мае права патрабаваць ад іх лаяльнасці. Дэкларацыя захавала і папярэднія антысеміцкія тэндэнцыі, заклікаючы змагацца з разлагаючым уплывам яўрэйскай культуры. Яшчэ адным ворагам быў аб’яўлены камунізм, паколькі гістарычнай задачай Польшчы абвяшчалася замацаванне і абарона

хрысціянства, асабліва ад «разлагаючага і антырэлігійнага ўплыву бальшавізму» [308, с. 406].

Дзейнасць АКАМ «Адраджэнне» па рэалізацыі ідэй яго дэкларацый падзялялася на ўнутраную і знешнюю. Унутранае жыццё арганізацыі адбывалася ў чатырох секцыях: кандыдацкай, філасофска-рэлігійнай, грамадскай і нацыянальнай.

Кожны, хто жадаў стаць членам арганізацыі, павінен быў спачатку ўступіць у секцыю кандыдатаў. Там ён знаёміўся з ідэйнай дэкларацыяй «Адраджэння». Потым кандыдаты праходзілі «ідэйны курс», на якім абмяркоўваўся тэкст дэкларацыі. Таксама яны ўцягваліся ў практычную дзейнасць праз удзел ва ўнутраным жыцці арганізацыі (агульныя сходы, таварыскія сустрэчы, экскурсіі), а таксама ў знешняе жыццё аб'яднання (праца ў КАЖМ і КАММ, прафсаюзах, дабрачынных таварыствах). Пасля кандыдацкага перыяду кожны з членаў быў абавязаны актыўна ўдзельнічаць у працы адной з трох астатніх секцый [185, с. 127].

Філасофска-рэлігійная секцыя займалася распрацоўкай тэалагічных пытанняў і праблем рэлігійнага жыцця. У сваёй працы яна абапіралася на ідэі св. Фамы Аквінскага.

Галоўнай задачай грамадскай секцыі лічылася знаёмства з каталіцкай сацыяльнай дактрынай. Тут неабходна адзначыць, што ў «Адраджэнні» існавалі два падыходы да гэтага пытання: унітарны і плюралістычны. Прыхільнікі першага паходзілі з варшаўскага і люблінскага цэнтраў арганізацыі. Яны абвяшчалі, што ёсць адна мадэль хрысціянскай сям'і і адна мадэль прафесійнага саюза, адзін узор правільнай нацыянальнай і дзяржаўнай структуры. Таму задачай хрысціян з'яўляецца падтрымка гэтых адзіных структур і барацьба з іншымі, якія лічыліся нехрысціянскімі, не адпавядаючымі каталіцкай сацыяльнай дактрыне. Высновай з такіх поглядаў было тое, што галоўнай задачай усёй грамадскай дзейнасці з'яўляецца паляпшэнне структур грамадскага жыцця шляхам партыйна-палітычнай працы ў рамках хрысціянскай дэмакратыі. Такім чынам, АКАМ «Адраджэнне» павінна было стаць кадравым рэзервам для хадэцыі. Плюралістычную плынь прадстаўлялі віленскі і львоўскі цэнтры аб'яднання. Яе прыхільнікі сцвярджалі, што каталіцкая сацыяльная дактрына не навязвае адной структуры ўсяго грамадскага жыцця, прызнае і выкарыстоўвае плюралізм

структур. Хрысціяне могуць весці грамадскае жыццё ў межах тых структур, у якіх ім даводзіцца жыць. Евангелічнасць калектыўнага жыцця само выцесніць неадпаведныя і несправядлівыя структуры. Таму каталіцкае сацыяльнае вучэнне не можа кадыфікаваць партыйныя дактрыны і ідэалогіі. Тым больш што ў Вільні і Львове члены «Адраджэння» схіляліся да розных грамадска-палітычных дактрын: ліберальных, кансерватыўных, хрысціянска-дэмакратычных і нават сацыялістычных. У межах грамадскай секцыі таксама звярталася ўвага на літургічнае рэлігійнае жыццё. Лічылася, што літургія — гэта «грамадская малітва, малітва калектыўная» [185, с. 128—129].

У нацыянальнай секцыі «крышталізаваўся спосаб мыслення ў нацыянальнай сферы». Ідэолагі АКАМ «Адраджэння» звярталі ўвагу на тое, што іх нацыяналізм адрозніваецца ад нацыяналізму крайне правых польскіх партый і арганізацый, якія, на іх думку, скажалі іерархію каштоўнасцяў, падпарадкоўваючы рэлігію патрэбам нацыі. Адзін з віленскіх «адраджэнцаў» адзначаў, што калі для нацыяналістаў вышэйшай мэтай з’яўляецца дабро нацыі, то для АКАМ «Адраджэнне» крытэрыі этычнасці сродкаў дасягнення дабра нацыі падае катэхізіс [218, с. 71].

Знешняе жыццё аб’яднання канцэнтравалася ў двух накірунках: набыццё ўменняў паспяховых і адпаведных дзеянняў у адрозным ад «Адраджэння» асяроддзі і ўвядзенне хрысціянскага акцэнту ў ідэйна нейтральныя ці нават варожыя каталіцызму колы. Такім чынам члены арганізацыі набывалі сацыяльны вопыт, які выкарыстоўваўся спачатку ў студэнцкім, а ў перспектыве — ў афіцыйным грамадска-палітычным жыцці [185, с. 129].

Пад уплывам клерыкалаў знаходзілася таксама частка студэнцкіх карпарацый, якія ўваходзілі ў склад Аб’яднання польскіх акадэмічных хрысціянскіх карпарацый (Zjednoczenie Polskich Akademickich Korporacji Chrześcijańskich) (далей — АПАХК), створанага ў кастрычніку 1924 г.

У ідэйнай дэкларацыі АПАХК было напісана, што ідэйная і выхаваўчая праца ў карпарацыі павінна праводзіцца дакладна у духу хрысціянскай этыкі. Хрысціянскія карпарацыі рашуча не прызнавалі дуэль як форму вырашэння канфліктаў. Мэтай карпарацыі аб’яўлялася дабро нацыі, яна павінна была працаваць над фарміраваннем энэргічных, ахвярных і добрасумленных

грамадзян польскай рэспублікі. Рэальная нацыянальная праца хрысціянскай карпарацыі разумелася як праца, якая праводзіцца ва ўсіх дасягальных сферах польскага жыцця, асабліва ў грамадскай сферы, у тым ліку сярод рабочай і рамесніцкай моладзі. Як і ў выпадку з АКАМ «Адраджэнне», было заяўлена, што грамадская акцыя будзе грунтавацца на прынцыпах справядлівасці і хрысціянскай любві і імкнуцца да вяртання працы належнай годнасці і грамадскай значнасці. Хрысціянскія карпарацыі абвяшчаліся беспартыйнымі арганізацыямі, якія займаюцца рэлігійнымі, палітычнымі і навуковымі праблемамі.

Усяго на працягу 1924—1939 гг. у аб’яднанні актыўна дзейнічала каля 30 карпарацый, у тым ліку і 2 карпарацыі з Вільні — «Снядэцыя» і «Канрадыя» [323].

Такім чынам, каталіцкі маладзёжны рух Заходняй Беларусі развіваўся даволі інтэнсіўна. Маладзёжныя калоны Каталіцкай акцыі імкнуліся разгарнуць хрысціянскае выхаванне ў асяроддзі вясковай моладзі, а сярод студэнтаў у гэтым накірунку павінна было працаваць АКАМ «Адраджэнне». Але, як гэта будзе паказана ніжэй, у выпадку з апошнім падзеі ў Вільні разгарнуліся не зусім так, як гэта планавала царкоўнае кіраўніцтва.

## 4.3 Арганізацыі польскай нацыяналістычнай моладзі

Аднымі з самых сур’ёзных канкурэнтаў праўрадавых маладзёжных аб’яднанняў 2-й РП сталі маладыя польскія нацыяналісты. Зразумела, што на большай частцы тэрыторыі Заходняй Беларусі, у сувязі з этнічным складам яе насельніцтва, яны не маглі мець значнага ўплыву. Аднак у асяроддзі віленскага студэнцтва гэты накірунак быў, можна сказаць, дамінуючым. Таму ён таксама падрабуе пэўнай характарыстыкі, без якой цяжка будзе растлумачыць некаторыя асаблівасці развіцця мясцовага маладзёжнага руху і барацьбы за маладое пакаленне.

Найбольш уплывовым аб’яднаннем маладых польскіх нацыяналістаў у міжваеннай польскай дзяржаве была арганізацыя «Усяпольская моладзь» (Młodzież Wszechpolska) (далей — УМ), якая з’яўлялася самай вялікай студэнцкай арганізацыяй 2-й РП. Вытокі арганізацыі бяруць свой пачатак яшчэ ў час Першай

сусветнай вайны, калі на тэрыторыі варшаўскіх ВНУ узніклі паўлегальныя палітычныя гурткі, якія аб’ядноўвалі прыхільнікаў лідара польскіх нацыяналістаў Р. Дмоўскага. У 1918 г. на іх аснове была створана адзіная арганізацыя — Нацыянальнае аб’яднанне акадэмічнай моладзі (Narodowe Zjednoczenie Młodzieży Akademickiej) (далей — НААМ). Аднак яно не паспела разгарнуць шырокай дзейнасці ў сувязі з падзеямі польска-савецкай вайны. Нарэшце на кангрэсе НААМ у Варшаве, які адбыўся 5—6 сакавіка 1922 г., гэтая арганізацыя была распушчана і замест яе была створана УМ [206, с. 27].

Ганаровым прэзідэнтам УМ быў абраны Р. Дмоўскі, што яшчэ раз падкрэсліла цесную сувязь арганізацыі з польскімі нацыяналістамі. Трэба адзначыць, што пасля 1934 г. УМ фактычна з’яўлялася маладзёжнай секцыяй партыі «Нацыянальнае аб’яднанне» (Stronnictwo Narodowe), якая знаходзілася ў правай апазіцыі да «санацыі».

Ідэалогія УМ насіла яскрава нацыяналістычны характар. Яе «Ідэйная дэкларацыя» абвяшчала, што арганізацыя аб’ядноўвае і выхоўвае моладзь у адпаведнасці з прынцыпам: нацыя складае непадзельную гістарычную цэласнасць пакаленняў, якія памерлі, жывуць зараз і прыйдуць у будучыні. Быць палякам азначала быць жывой часткай нацыянальнага арганізма, адчуваць адказнасць за яго мінулы і будучы лёс, кіравацца ў сваім жыцці думкай аб велічы і моцы Польшчы. Сапраўдны паляк павінен быў супрацьстаяць усім памкненням асоб ці грамадскіх груп, якія пагражаюць інтарэсам Айчыны, і змагацца з імі. Таксама «Дэкларацыя» падкрэслівала, што духоўная творчасць павінна абапірацца на родныя элементы.

Істотным момантам было тое, што важнай крыніцай маральнай сілы грамадства і гарантыяй яго высокага этычнага ўзроўню аб’яўлялася рэлігія. Пры гэтым каталіцкі касцёл павінен быў адыгрываць вядучую ролю ў рэлігійным жыцці польскай нацыі. Яшчэ адной важнай умовай развіцця нацыянальнага арганізму «Дэкларацыя» УМ аб’яўляла сямейныя каштоўнасці.

Неад’емным элементам ідэалогіі УМ з’яўлялася вялікадзяржаўнасць. Дэкларавалася, што польская дзяржава павінна быць вялікай дзяржавай, каб забяспечыць нацыі поўнае развіццё. Яна (дзяржава) павінна была аб’яднаць у сваіх межах усе

польскія землі, «якія зараз знаходзяцца пад чужым панаваннем», і служыць гістарычным задачам польскай нацыі, забяспечваць росквіт яе духоўных і матэрыяльных сіл.

«Дэкларацыя» УМ закранала і пытанне пра шматнацыянальны характар польскай дзяржавы. Яна лічыла, што свабоднае культурнае развіццё «племяннной асаблівасці» павінна весці да аб'яднання «асобных груп польскага насельніцтва» і ўзбагачаць польскую нацыянальную цывілізацыю. Фактычна гаворка ішла пра паланізацыю славянскіх меншасцяў, якія пражывалі на тэрыторыі 2-й РП. Грамадзяне, якія не адчуваюць сувязі з нацыяй, павінны былі разам з іншымі падпарадкоўвацца і служыць польскім нацыянальным інтарэсам.

Важным элементам ідэалогіі маладых польскіх нацыяналістаў быў антысемітызм. Яўрэі аб'яўляліся «чужой расавай групай», якая ўносіць разлад у польскае нацыянальнае жыццё. Таму задачай польскай палітыкі ў адносінах да яўрэяў аб'яўлялася іх культурная, палітычная і гаспадарчая ізаляцыя і змяншэнне колькасці яўрэяў у польскай дзяржаве.

Закраналіся ў дэкларацыі і пытанні эканомікі. Умовай палітычнай незалежнасці прызнавалася яе гаспадарчая незалежнасць. Польская эканоміка павінна была дасягнуць самазабеспячэння. Таксама патрабавалася дасягнуць большай раўнавагі паміж асобнымі слаямі грамадства.

У заключэнні дэкларацыі заяўлялася, што УМ будзе развіваць і ажыццяўляць вышэйпрыведзеныя прынцыпы польскай нацыянальнай ідэі [126].

На чале УМ стаяў Вярхоўны савет, які складаўся з дваццаці членаў. У кожным з універсітэтаў існаваў гурток УМ, які з'яўляўся даволі самастойнай арганізацыйнай адзінкай, паколькі цэнтральныя ўлады саюза не ўмешваліся ў яго бягучую дзейнасць. Кандыдаты, што жадалі ўступіць у арганізацыю, павінны былі прайсці падрыхтоўчы курс, на якім вывучалася праграма і ідэалогія нацыяналістаў. Курс завяршаўся экзаменам [206, с. 27—28].

Неабходна адзначыць, што дзейнасцю УМ фактычна кіравалі дзве структуры — яўная і тайная. Лічыцца, што менавіта дзякуючы працы апошняй і забяспечваўся ўплыў арганізацыі сярод студэнцтва. У склад тайнага кіраўніцтва ўваходзілі агульнапольская Нацыянальная ліга (Liga Narodowa),

а таксама арганізацыя «Зэт» (Zet) і яе філіял «Белы арол» (Orzeł Biały). У кожным універсітэце, акрамя фармальнага кіраўніцтва гуртка УМ, існавалі «групы зэтовы». Арганізацыя «Зэт» была цэнтралізаванай і мела строгую дысцыпліну. Яна маскіравала сваю дзейнасць не толькі ад сваіх праціўнікаў, але і ад шырокага кола прыхільнікаў. Кожная з ячэек «Зэта» складалася з 5—10 членаў (звычайна гэта былі студэнты старэйшых курсаў). Менавіта яны распрацоўвалі планы агульнаўніверсітэцкіх акцый, разглядалі персанальныя справы, зацвярджалі спісы праўленняў асобных арганізацый. На чале групы стаяў камісар, якому таксама падпарадкоўваўся «Белы арол» — ніжэйшы арганізацыйны ўзровень, падзелены на секцыі. Галоўнай з гэтых секцый з'яўлялася палітычная. Мэтай яе было кіраўніцтва палітычнай дзейнасцю ў студэнцкім асяроддзі і вызначэнне тактыкі УМ. Акрамя таго, існавалі спецыяльныя секцыі для кіраўніцтва іншымі маладзёжнымі арганізацыямі і секцыя, якая адказвала за працу сярод студэнтак (секцыя каляжанак). Кіраўнік «групы зэтовай» не абіраўся, а прызначаўся зверху, прычым ім мог стаць толькі мужчына. Жанчыны наогул не маглі належаць да арганізацыі «Зэт», нават кіраўнікі секцыі каляжанак былі мужчынамі. Гэтая ўнутраная канспірацыя УМ захавалася да 1939 г. [206, с. 33; 300, с. 25—26].

УМ фактычна апанавала большасць агульнастудэнцкіх арганізацый. Кожны член аб'яднання быў абавязаны актыўна працаваць у іншай студэнцкай арганізацыі, куды яго накіроўвала кіраўніцтва УМ. Доўгі час маладыя польскія нацыяналісты не мелі канкурэнтаў у студэнцкім асяроддзі.

Напрыклад, пад уплывам УМ знаходзілася існаваўшая ў кожным універсітэце «Братняя дапамога» (Bratnia Pomoc) (далей — БД). Гэта была арганізацыя студэнцкай самадапамогі, якая ставіла перад сабой мэту аказання матэрыяльнай падтрымкі (непасрэднай і апасродкаванай) сваім бедным членам. Мэта аб'яднання ажыццяўлялася праз арганізацыю адпаведных мерапрыемстваў і ўстаноў, а таксама праз выдзяленне грашовых пазык. Таксама арганізацыя падтрымлівала студэнцкія звароты па грашовую дапамогу да ўніверсітэцкага кіраўніцтва. У выніку намаганняў маладых польскіх нацыяналістаў членамі арганізацыі не маглі быць яўрэі [50, арк. 9—10].

Арганізацыі асобных універсітэтаў стваралі агульнапольскі саюз БД з сядзібай у Варшаве. У 1929 г. па ўсёй краіне БД аб’ядноўвалі каля 27 тыс. чалавек (каля 60% усіх студэнтаў 2-й РП). Як адзначаюць сучасныя польскія даследчыкі, дзеячы УМ засядалі ў кіраўніцтве амаль усіх універсітэцкіх БД і ў іх цэнтральным праўленні ў Варшаве, выконваючы кіруючыя функцыі [206, с. 32].

Таксама польскія нацыяналісты дамінавалі ў навуковых гуртках, якія забяспечвалі студэнтам дапамогу ў навучанні, набыцці дарагіх падручнікаў, арганізоўвалі студэнцкую навуковую дзейнасць. Гэтыя гурткі аб’ядноўвалі да 46% навучэнцаў польскіх універсітэтаў. Лічыцца, што да 1927 г. гэтыя арганізацыі таксама былі ахоплены ўплывам УМ [206, с. 31].

Таксама прыхільнікамі польскай нацыяналістычнай ідэалогіі з’яўляліся большасць студэнцкіх карпарацый, якія аб’ядноўваліся ў створаным у 1921 г. Саюзе польскіх акадэмічных карпарацый (Związek Polskich Korporacji Akademickich) (далей — СПАК). Гэты саюз займаўся як арганізацыйнымі праблемамі карпарацыйнага жыцця, так і ўзмацненнем пазіцый карпарацый на тэрыторыі ўніверсітэтаў 2-й РП [204, с. 10].

Усяго ў 1921—1939 гг. у СПАК уваходзілі 108 карпарацый: 33 — у Варшаве, 25 — у Познані, 19 — у Львове, 15 — у Кракаве, 8 — у Вільні, 2 — у Любліне, 1 — у Цешыне. Таксама пяць членаў саюза існавалі за межамі 2-й РП: чатыры — у Гданьску і адзін — у Вене. Што непасрэдна да Вільні, то тут членамі СПАК у розны час былі карпарацыі «Палонія», «Баторыя», «Палесія», «Вільненсія», «Крэсовія», «Леаніданія», «Канкордзія Вільненсіс» і «Філамацыя Вільненсіс» [323].

Менавіта ў нетрах СПАК быў створаны «Арганічны статут польскай акадэмічнай карпарацыі», які быў асновай для статутаў асобных карпарацый. Згодна з ім, карпарацыя з’яўлялася ідэйна-выхаваўчым аб’яднаннем польскай студэнцкай моладзі. Карпарацыі мелі мэту праз супрацоўніцтва ў цесным коле калег-сяброў падрыхтаваць сваіх членаў да грамадзянскай працы для дабрабыту Айчыны. «Ідэйная дэкларацыя», якая змяшчалася ў статуце, аб’яўляла, што мэтай жыцця кожнага карпаранта з’яўляецца «праца для Польшчы, для яе велічы і моцы». Дабро нацыі і дзяржавы лічылася для яго «найвышэйшым законам, мерай маральных вартасцяў, прыкладам дзейнасці». Карпарант павінен

быў супрацьстаяць усім плыням і намаганням, якія ставяць асабістыя, партыйныя і класавыя інтарэсы вышэй за інтарэсы нацыі і дзяржавы. Ён павінен быў таксама разумець «небяспеку чужых элементаў». Адзначалася, што «ўсюды і заўсёды ён становіцца ў абарону польскасці, як у духоўнай, так і матэрыяльнай сферы». Карпарант не меў права ўзвышаць сябе над іншымі па прычыне свайго нараджэння, маёмаснага і сацыяльнага становішча. Заяўлялася, што «кожны паляк з'яўляецца для яго братам» [283]. Такім чынам, карпаранцкія ідэйныя пастулаты былі блізкімі да ідэяў УМ.

Карпарацыі, якія ўваходзілі ў СПАК, імкнуліся захаваць выключна польскі характар. Быў забаронены прыём асоб украінскай і нямецкай нацыянальнасці і іудзейскага веравызнання. Аднак не было перашкод для тых, хто меў «чужое» паходжанне, але лічыў сябе палякам і быў хрысціянінам. З другога боку, у карпарацыі быў закрыты ўваход прыхільнікам камуністычнай і сацыялістычнай ідэалогіі, а таксама масонам. Пры гэтым многія карпаранты з'яўляліся членамі УМ, а з 1923 г. карпарацыі на выбарах у органы студэнцкага самакіравання пастаянна ішлі ў выбарчых спісах польскіх нацыяналістаў. Нягледзячы на фармальную апалітычнасць, карпаранты неаднаразова выказваліся па актуальных пытаннях палітычнага і грамадскага жыцця. Напрыклад, у 1928 г. на VII Агульнакарпарацыйным з'ездзе была выкладзена новая рэдакцыя «Ідэйнай дэкларацыі». У ёй прапаноўваўся пастулат вяртання ў польскія межы заходніх зямель (мяжа на Одэры і Нісе) і былых «усходніх ускраін» Рэчы Паспалітай (украінскіх і беларускіх зямель), якія «дзякуючы Польшчы маюць сваё багацце і культуру». Таксама падкрэслівалася неабходнасць развіцця ўсходніх зямель 2-й РП і працы над нацыянальным (зразумела, польскім) усведамленнем насельніцтва гэтых тэрыторый. Заяўлялася, што Польшча павінна быць дзяржавай, у якой польская нацыя з'яўляецца адзіным і поўным гаспадаром [204, с. 11—14].

Абапіраючыся на падтрымку арганізацый БД, навуковых гурткоў і карпарацый, польскія нацыяналісты адыгрывалі кіруючую ролю на агульнаакадэмічных з'ездах (акадэмічных сеймах), якія адбываліся кожныя два гады і з'яўляліся вярхоўнымі прадстаўніцтвамі студэнтаў 2-й РП. Ужо на II з'ездзе ў Вільні

ў 1921 г. яны атрымалі палову месцаў у Выканаўчым камітэце, які меў манапольнае права рэпрэзентаваць студэнцкую моладзь унутры краіны і за яе межамі. Потым дзеячы УМ атрымалі перамогу на выбарах дэлегатаў на III з’езд (1923 г.). Паміж нацыяналістамі і левымі ўзнікла спрэчка вакол пытання аб прынцыпах выбараў дэлегатаў. Левыя арганізацыі выступалі за прапарцыянальную сістэму, польскія нацыяналісты — за мажарытарную. Апошняя пазіцыя перамагла. У выніку левыя байкатавалі з’езд, а члены УМ і клерыкальнага «Адраджэння» атрымалі магчымасць навязаць студэнцкаму руху свае ідэйна-праграмныя прынцыпы. Напрыклад, быў прыняты статут Нацыянальнага саюза польскай акадэмічнай моладзі (Związek Narodowy Polskiej Akademickiej Młodzieży) (далей — НСПАМ), які аб’ядноўваў усё студэнцтва 2-й РП. Гэты статут выключаў магчымасць членства ў арганізацыі яўрэяў і іншых нацыянальных меншасцяў [206, с. 32].

Праўда, неабходна адзначыць, што на IV з’езде ў Вільні ў 1925 г. у статут НСПАМ былі ўнесены некаторыя змены. Так, «кіруючыся пачуццём неабходнасці забяспячэння доступу да саюза і карыстання яго інстытутамі тым прадстаўнікам тэрытарыяльных меншасцей, якія шчыра і лаяльна стаяць на грунце польскай дзяржаўнасці», першы артыкул статута быў папоўнены заўвагай, што азначэнне «нацыянальны» ў назве саюза павінна разумецца як «дзяржаўны». Такім чынам, украінскія і беларускія студэнты атрымалі магчымасць уступаць у НСПАМ. Студэнтам-яўрэям уваход па-ранейшаму быў забаронены [313, с. 76].

Акрамя таго, з’езд, аб’явіўшы яўрэяў палітычна і эканамічна варожым элементам для польскай дзяржаўнасці, прапанаваў увесці ў адносінах да іх абмежаванне на паступленне ў ВНУ 2-й РП. Адначасова з’езд звярнуўся да ўлад з прапановай утварыць ва УСБ кафедру беларусазнаўства, а таксама заклікаў польскую студэнцкую моладзь да ўсталявання «жывога інтэлектуальнага і сяброўскага кантакту» з украінскімі і беларускімі студэнтамі [313, с. 76—77].

Пасля майскага перавароту 1926 г. УМ знаходзілася ў выразнай апазіцыі да «санацыі». Пры гэтым яе ўплыў у агульнастудэнцкіх арганізацыях толькі павялічыўся. У 1927 г. на выбарах на V агульнаакадэмічны з’езд нацыяналісты атрымалі 71 са 101 мандата.

Дзякуючы гэтаму, члены УМ мелі безумоўную большасць у кіраўніцтве агульнапольскіх студэнцкіх арганізацый [206, с. 33].

Паліцэйскія рапарты паведамлялі пра тое, што УМ «сканцэнтравала ў сваіх руках усе ніці нацыяналістычнай працы сярод моладзі, узгадняе акцыі ў асобных сферах працы і надае ім ідэйны накірунак». Яны ж адзначалі, што адной з найважнейшых задач УМ з'яўляецца імкненне да ахопу ўсяго студэнцкага жыцця ва ўсіх яго праявах. Улады прызнавалі, што дадзенае аб'яднанне з'яўляецца самай моцнай палітычнай арганізацыяй у студэнцкім асяроддзі і цалкам захапіла ўсе важнейшыя пляцоўкі ўніверсітэцкага жыцця [206, с. 34].

У 1929 г. на чарговым агульнаакадэмічным з'ездзе спіс нацыяналістаў атрымаў 11 844 галасы з 15 963. У пераліку на мандаты гэта дало УМ 80 месцаў са 104 [206, с. 35]. «Санацыйныя» ўлады імкнуліся аслабіць пазіцыі сваіх апанентаў у студэнцкім асяроддзі. Менавіта ў сувязі з гэтым і была праведзена рэформа вышэйшай школы, якая значна абмяжоўвала акадэмічную аўтаномію і дзейнасць студэнцкіх арганізацый. Згодна з новым заканадаўствам, былі ліквідаваны СПАК і НСПАМ, значна абмяжоўвалася самастойнасць БД. Аднак неабходна прызнаць, што сур'ёзна падарваць уплывы польскіх нацыяналістаў ва ўніверсітэцкім асяроддзі, за рэдкім выключэннем, не ўдалося. Так, напрыклад, СПАК працягваў дзейнічаць нелегальна. У чэрвені 1933 г. ён перажыў раскол, калі яго пакінулі 12 карпарацый, незадаволеных радыкальнымі нацыяналістычнымі настроямі ў СПАК. Сярод іх была і самая старэйшая з іх, віленская «Палонія». Але ў далейшым усе гэтыя карпарацыі паступова вярнуліся назад. Выключэннем засталася толькі «Палонія», якая да 1939 г. так і не вярнулася ў саюз [204, с. 24].

Акрамя таго, як ужо адзначалася вышэй, у другой палове 1930-х гг. «санацыйны» рэжым вымушаны быў пайсці на некаторыя саступкі ў кантролі за акадэмічнай аўтаноміяй. Пэўныя колы «санацыі» нават пайшлі на супрацоўніцтва з польскімі нацыяналістамі, што праявілася ў стварэнні СМП. Такім чынам, неабходна прызнаць, што УМ на працягу ўсяго міжваеннага перыяду захоўвала сваё дамінаванне ў студэнцкім асяроддзі.

## 4.4 Сіяніцкія маладзёжныя арганізацыі

Як ужо адзначалася вышэй, 2-я РП з’яўлялася шматнацыянальнай дзяржавай. Зразумела, што гэта аказвала самы непасрэдны ўплыў на развіццё маладзёжнага руху. На працягу ўсяго міжваеннага перыяду ў краіне, у тым ліку і на тэрыторыі Заходняй Беларусі, дзейнічаў шэраг груповак і арганізацый, якія імкнуліся распаўсюдзіць свой уплыў на прадстаўнікоў маладога пакалення розных нацыянальнасцяў — беларусаў, украінцаў, літоўцаў, яўрэяў.

Менавіта на гэты час прыпадаў пік грамадска-палітычнай актыўнасці яўрэйскага насельніцтва 2-й РП. Палітычная дыферэнцыяцыя сярод яўрэйскага насельніцтва была вельмі значнай. Калі не лічыць фракцый у межах палітычных партый і тых арганізацый, якія мелі яўрэйскія секцыі (як, напрыклад, КПЗБ), у яўрэйскім асяроддзі існавала 6—8 палітычных партый з супрацьлеглымі праграмамі: крайне левыя, рэфармісцкія, цэнтрысцкія, кансерватыўныя артадоксы і крайнія нацыяналісты [220, с. 350]. Пры іх мелася шырокая сетка прафсаюзных, рэлігійных, культурна-асветніцкіх і маладзёжных арганізацый. Дзякуючы гэтаму яўрэйская моладзь актыўна ўключалася ў палітычнае жыццё. Як адзначае амерыканскі гісторык Э. Мендэльсон, «для маладога польскага яўрэя, асабліва ў 30-я гады, удзел у маладзёжным палітычным руху ці партыі быў нормай, тым, чаго ад яго чакалі» [194, с. 77].

Вышэй ужо ішла размова пра бундаўскую маладзёжную арганізацыю «Цукунфт». Але паколькі Бунд (а разам з ім і «Цукунфт») лічыў сябе рэвалюцыйнай арганізацыяй і адмаўляў магчымасць пабудовы яўрэйскай дзяржавы ў Палесціне, гэта выклікала супрацьстаянне з іншымі яўрэйскімі арганізацыямі. Таму аўтар палічыў магчымым вылучыць «Цукунфт» з яўрэйскага маладзёжнага руху, які так ці інакш быў звязаны з ідэямі сіянізму і стварэння дзяржавы Ізраіль.

Адной з такіх арганізацый было аб’яднанне «Яўрэйская сацыялістычная моладзь “Фрайгайт”» (Frajgajt, ці «Свабода»), Гэты маладзёжны саюз быў цесна звязаны з партыяй Паалей Цыён (Poalej Tsion, ці «Рабочыя Сіёна») (далей — ПЦ), якая імкнулася

сумясціць у сваёй ідэалогіі прынцыпы палітычнага сіянізму Т. Герцля і навуковы сацыялізм К. Маркса [94, с. 235].

ПЦ прапагандавала стварэнне асобнай яўрэйскай эканомікі і будаўніцтва яўрэйскай сацыялістычнай дзяржавы ў Палесціне. Яшчэ ў 1920 г. партыя раскалолася на левую і правую ПЦ. Маладзёжным крылом ПЦ (правай) і быў «Фрайгайт». Што да маладзёжнага філіяла ПЦ (левай) — «Югенда» (Jugnt, ці «Маладосць»), то ён меў значна меншы ўплыў на тэрыторыі Заходняй Беларусі [94, с. 238].

«Фрайгайт» быў створаны ў 1925 г. Гэта была найменш радыкальная яўрэйская сацыялістычная маладзёжная арганізацыя. Яна ўваходзіла ў склад сусветнага Саюза яўрэйскай сацыялістычнай моладзі і праз яго належала да Сацыялістычнага інтэрнацыянала моладзі [263, с. 24].

Апорнымі пунктамі ПЦ, а значыць і «Фрайгайта», у Заходняй Беларусі былі Пінск, Брэст, Косава і Пружаны [29, арк. 101]. У архіўных матэрыялах таксама ўтрымліваюцца звесткі аб існаванні арганізацый «Фрайгайта» ў Навагрудку, Гродне, Беластоку і Вільні [29, арк. 3; 42, арк. 81; 44, арк. 143]. ЦК КСМЗБ паведамляў у 1933 г., што ў многіх месцах актывізавалася і ўмацавалася арганізацыя сіяністаў-сацыялістаў — «Фрайгайт» [40, арк. 245].

Ідэйна блізкім да «Фрайгайта» быў «Хехалуц» (Khekhaluz, ці «Піянер»). Гэтая міжнародная сіянісцкая маладзёжная арганізацыя была створана ў Расіі ў канцы Першай сусветнай вайны. У пачатку 1920-х гг. у сувязі з рэпрэсіямі з боку Савецкай улады цэнтр арганізацыі быў перанесены ў Берлін, а потым у Варшаву. У 1930-я гг. саюз стаў па-сапраўднаму масавым: к 1933 г. колькасць яго членаў дасягнула 83 тыс. чалавек. Рух ахапіў не толькі Усходнюю Еўропу, але нават Кубу, Ірак і Паўднёвую Афрыку. Пры гэтым каля чвэрці членаў «Хехалуца» прыпадала на 2-ю РП [75, с. 468—469]. Ячэйкі саюза ў 1930-я гады існавалі ў Брэсце [37, арк. 14], Ружанах [31, арк. 87], Навагрудку [32, арк. 95], Вільні [32, арк. 96], Пінску [39, арк. 24] і Беластоку [36, арк. 163].

У 1938 г. «Фрайгайт» аб’яднаўся з «Хехалуцам» [263, с. 24].

Яшчэ адной арганізацыяй, блізкай да «Фрайгайту», быў «Хашамер Хацаір» (Khashamer Khazair, ці «Юны страж»). Упершыню «Хашамер» з’явіўся ў 1913 г. у Галіцыі. У Польшчы ён

быў зарэгістраваны ў 1918 г. Да сярэдзіны 1920-х гг. гэтая арганізацыя зблізілася з ПЦ (правай) і прыняла сацыялістычную ідэалогію. З 1927 г. разам з ПЦ яна ўваходзіла ў склад Лігі працуючай Палесціны [263, с. 24].

Асноўнымі задачамі «Хашамера» былі аздараўленне яўрэйскага народа як фізічна, так і духоўна; пераадольванне яго (народа) ненармальнай структуры; аднаўленне яўрэйскага жыцця ў Ізраілі і далучэнне яўрэйскай моладзі да нацыянальных каштоўнасцей і фізічнай працы [67, с. 42].

«Хашамер» абапіраўся на скаўцкія ўзоры і меў дзве ўзроставыя групы: з 12 да 16 гадоў (цофім — вартавыя) і з 16 да 20 гадоў (шамеры — стражы). Вядома, што пярвічныя ячэйкі «Хашамера» — «гнёзды» — існавалі ў гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі. Найбольш буйныя былі ў Брэсце [37, арк. 14], Навагрудку [32, арк. 95], Вільні [32, арк. 96], Пінску [39, арк. 24] і Беластоку [36, арк. 163].

Асноўныя формы працы сіяністскіх арганізацый з моладдзю былі амаль аднолькавымі. Палітычнай дзейнасці надавалася мала ўвагі. Акрамя арганізацыі вольнага часу, вялася пэўная культурна-асветніцкая дзейнасць — ствараліся розныя гурткі, праводзіліся лекцыі, у асноўным па гісторыі сіяністскага руху і Ізраіля. Вялікае значэнне надавалася развіццю спорту сярод яўрэйскай моладзі. Фізічная падрыхтоўка з’яўлялася часткай сіяністскай кампаніі па нармалізацыі яўрэйскага жыцця [75, с. 689]. Для ажыццяўлення гэтай задачы пад уплывам сіяністскіх арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі дзейнічалі спартыўныя клубы «Хапаэль» (Khapoel) і «Макабі» (Makabi). Многія яўрэйскія юнакі і дзяўчаты прыходзілі ў сіяністскі рух менавіта праз спартыўныя секцыі гэтых клубаў.

Аднак галоўнай сваёй задачай «Фрайгайт», «Хехалуц» і «Хашамер Хацаір» лічылі «хахшару» — падрыхтоўку да эміграцыі і актыўнага жыцця ў Палесціне. У час гэтай падрыхтоўкі сіяністскія саюзы стваралі кібуцы — калектыўныя сельскагаспадарчыя паселішчы. Жыццёвыя ўмовы ў гэтых цэнтрах спецыяльна былі спартанскімі і прымітыўнымі. Існаваў цэлы культ самаахвярнасці. Усе намаганні былі накіраваны на стварэнне звычкі да цяжкай фізічнай працы. Вельмі часта ў цэнтрах падрыхтоўкі адсутнічалі нават прасцейшыя бытавыя выгоды.

Неабходна адзначыць, што многія лідары сіянізму, у тым ліку і Д. Бен-Гурыён, сумняваліся ў эфектыўнасці «хахшары» за межамі Палесціны, паколькі ўмовы ў Еўропе моцна адрозніваліся ад Палесціны [75, с. 469—470].

Тым не менш рух па стварэнню кібуцаў набыў шырокі размах у 2-й РП, у тым ліку і на тэрыторыі заходнебеларускіх ваяводстваў. Практычна ўсюды, дзе існаваў «Хехалуц» ці «Хашамер», рабіліся спробы арганізаваць калектыўныя паселішчы яўрэйскай моладзі.

Яшчэ адной масавай сіяніісцкай маладзёжнай арганізацыяй было Аб’яднанне яўрэйскай моладзі імя Трумпельдора ў Польшчы «Брыт-Трумпельдор» — «Бейтар» (Stowarzyszenie Młodzieży Żydowskiej imenia Trumpeldora w Polsce “Brit-Trumpeldor” — “Bejtar”). Гэты саюз знаходзіўся пад кантролем арганізацыі сіяністаў-рэвізіяністаў, ідэйным лідарам якіх з’яўляўся Уладзімір (Зееў) Жабацінскі. У адрозненне ад вышэйназваных арганізацый, рэвізіяністы і «Бейтар» дэкларавалі «неразбаўлены» сіянізм, адмаўляючы элементы сацыялістычнай ідэалогіі. Мэтаю рэвізіяністаў было «прыцягнуць максімальную колькасць яўрэяў у самы кароткі перыяд часу ў Палесціну» і неадкладнае стварэнне дзяржавы Ізраіль [65, с. 504]. Вялікае значэнне для гэтага, на думку У. Жабацінскага і яго прыхільнікаў, мела «мілітарызацыя яўрэйскай моладзі ў Эрэц-Ізраілі і ў дыяспары» [75, с. 504].

Менавіта для гэтага і ўзнік «Бейтар». Спачатку ён быў створаны ў Рызе, але хутка распаўсюдзіўся па ўсёй Усходняй Еўропе. Галоўныя сілы арганізацыі былі сканцэнтраваны ў 2-й РП, дзе яе лідарам стаў ураджэнец Брэста М. Бегін [65, с. 504]. На тэрыторыі Заходняй Беларусі найбольшы ўплыў рэвізіяністы мелі ў Вільні, Беластоку, Брэсце і Сувалках [29, арк. 92]. Існаваў «Бейтар» і ў іншых гарадах і мястэчках рэгіёна. Па падліках польскіх даследчыкаў, у 1936 г. «Бейтар» налічваў 52 тыс. членаў, з іх 75% — у Польшчы. Такім чынам, гэтая ваенізаваная арганізацыя мела тут кадравую базу большую, чым колькасны склад тагачасных армій невялікіх еўрапейскіх краін [222, с. 12].

У студзені 1929 г. «Бейтар» арганізаваў канферэнцыю ў Варшаве, у якой удзельнічалі лідары яго нацыянальных аддзяленняў. На ёй У. Жабацінскі быў прызначаны кіраўніком сусветнага «Бейтара». Гэта было ратыфікавана на І Міжнародным кангрэсе «Бейтара» ў Гданьску ў 1931 г., на якім прысутнічалі

прадстаўнікі ад 24 краін. Прынцыпы і мэты «Бейтара», прынятыя там, уключалі наступныя палажэнні:

1) націск на «маністычны» сіянізм, які азначаў адданасць ідэі чыстага сіянізму;

2) імкненне стварыць яўрэйскую дзяржаву на абодвух берагах ракі Іардан;

3) абавязковая ваенная падрыхтоўка і эміграцыя ў Палесціну;

4) выхаванне паняцця «хадар» (годнасць) у самым шырокім сэнсе гэтага слова;

5) абавязковае вывучэнне іўрыту;

6) безумоўнае (татальнае) падпарадкаванне вышэйшым установам «Бейтара» [193].

У асноўным у «Бейтар» ішлі вучні старэйшых класаў сярэдніх школ, студэнты, але прысутнічалі і маладыя рабочыя, якія бачылі ў эміграцыі ў Палесціну выхад з таго цяжкага становішча, у якім яны апынуліся ў выніку эканамічнага крызісу [29, арк. 92].

Мэтай сваёй дзейнасці «Бейтар» у Польшчы абвяшчаў «выхаванне моладзі ў накірунку фарміравання характараў, развіцця фізічных здольнасцяў, падтрымання нацыянальных пачуццяў, фарміравання розуму і уменняў грамадскага жыцця... а таксама падрыхтоўку да фізічнай і прафесійнай працы ў Палесціне». Трэба адзначыць, што асобнай мэтай статут арганізацыі называў «развіццё ў членаў аб'яднання грамадзянскага пачуцця і лаяльнасці ў адносінах да Польскай дзяржавы» [284, с. 1].

Згодна са статутам, для дасягнення сваіх мэтаў «Бейтар» арганізоўваў гімнастычныя заняткі, паходы, летнія лагеры і калоніі, курсы фізічнага выхавання, злёты, гутаркі, даклады, таварыскія сходы, бібліятэкі, выданне газет і часопісаў [284, с. 1—2].

Да кіруючых органаў аб'яднання адносіліся: агульны з'езд, Галоўнае праўленне, рэвізійная камісія і Вярхоўны суд [284, с. 3]. Штаб-кватэра «Бейтара» знаходзілася ў Варшаве. Па рашэнні цэнтральнага кіраўніцтва на пэўнай тэрыторыі 2-й РП маглі ствараცца аддзяленні аб'яднання, якія ў сваёй дзейнасці карысталіся ўнутранай аўтаноміяй [284, с. 5—6].

Такім чынам, як і іншыя сіяніцкія маладзёжныя саюзы, «Бейтар» у першую чаргу рыхтаваў сваіх членаў да жыцця ў Палесціне. Таксама ён меў і свае кібуцы. Пры гэтым характэрна, што на глебе канкурэнцыі і барацьбы за сферы ўплыву часта

адбываліся сутычкі паміж членамі кібуцаў сіяністаў-сацыялістаў і рэвізіяністаў.

Сярод іншых яўрэйскіх маладзёжных арганізацый «Бейтар» вылучаўся сваёй тэндэнцыяй да выкарыстання ваеннай атрыбутыкі. Характэрнымі асаблівасцямі аб’яднання былі ўніформа (члены арганізацыі насілі мундзіры карычневага колеру — колеру палесцінскай зямлі), парады, вайсковая арганізацыя і дысцыпліна, а таксама навучанне валоданню зброяй. Лідары рэвізіяністаў лічылі, што без сістэматычнага развіцця пэўных мужчынскіх якасцяў, якіх яўрэі доўгі час былі пазбаўлены, задача нацыянальнага адраджэння з’яўляецца недасягальнай. Ваенная падрыхтоўка, культ правадыра і непрыхаваная мілітарысцкая ідэалогія надавала гэтай арганізацыі пэўнае падабенства з праварадыкальнымі рухамі фашысцкага ўзору [75, с. 514—515]. Гэтае падабенства выяўлялася і ў тым, што рэвізіяністы, змагаючыся за пашырэнне свайго ўплыву, не выбіралі сродкаў і вельмі часта звярталіся да гвалтоўных метадаў барацьбы.

На працягу ўсяго міжваеннага перыяду даволі актыўным быў яўрэйскі студэнцкі рух. Як ужо адзначалася вышэй, з-за дзейнасці польскіх нацыяналістаў студэнты-яўрэі не маглі ўступаць у агульнастудэнцкія аб’яднанні 2-й РП. У выніку яны былі вымушаны ствараць свае паралельныя структуры як на тэрыторыі асобных універсітэтаў, так і на ўзроўні ўсёй краіны. Напрыклад, ва УСБ дзейнічалі навуковыя гурткі яўрэйскіх студэнтаў-прававедаў, біёлагаў, хімікаў, аграномаў, медыкаў, фармацэўтаў, гуманітарыяў. Акрамя таго, існавалі яўрэйскі студэнцкі спартыўны клуб і Аб’яднанне ўзаемнай дапамогі студэнтаў-яўрэяў (Stowarzyszenie Wzajemnej Pomocy Studentow Żydow, ці «Узаемная дапамога», аналаг «Братняй дапамогі») [235, с. 51—54]. Падобная сітуацыя існавала і ў іншых тагачасных універсітэтах.

У пачатку 1920-х гг. на нарадзе ў Вільні быў створаны часовы выканаўчы камітэт, які павінен быў прадстаўляць яўрэйскую студэнцкую моладзь усёй 2-й РП. У студзені 1923 г. па яго ініцыятыве ў Львове быў скліканы з’езд, які прыняў рашэнне аб стварэнні Саюза яўрэйскіх акадэмічных узаемадапаможных, культурных, спартыўных і прафесійных аб’яднанняў (Związek Żydowskich Akademickich Stowarzyszeń Samopomocowych, Kulturalnych, Sportowych i Zawodowych). Яго задачы: аказанне

дапамогі і арганізацыя яўрэйскай студэнцкай моладзі ў Польшчы, знешняе прадстаўніцтва яе прафесійных інтарэсаў, падтрыманне кантактаў з дзяржаўнымі і грамадскімі інстытутамі, арганізацыя акцый узаемадапамогі, каардынацыя дзейнасці арганізацый-членаў саюза, стварэнне новых аб’яднанняў. Членамі саюза маглі быць аб’яднанні ўзаемадапамогі студэнтаў-яўрэяў усіх ВНУ Польшчы [269, с. 6].

На першапачатковым этапе ў склад аб’яднання ўвайшлі яўрэйскія арганізацыі студэнцкай узаемадапамогі з Варшавы, Кракава, Львова і Вільні. Ад УСБ гэта было вышэйназванае Аб’яднанне ўзаемнай дапамогі студэнтаў-яўрэяў. Праз хуткі час да яго далучыліся віленскія Яўрэйскі акадэмічны спартыўны клуб, Каса хворых і яўрэйскі краязнаўчы гурток [269, с. 12].

У далейшым быў распарацаваны статут арганізацыі, які адпавядаў патрабаванням заканадаўства. Сама арганізацыя стала называцца Саюзам яўрэйскіх акадэмічных аб’яднанняў самадапамогі ў Польшчы (Związek Żydowskich Akademickich Stowarzyszeń Samopomocowych w Polsce). Галоўнымі мэтамі саюза па-ранейшаму заставаліся матэрыяльная дапамога студэнтам-яўрэям і знешняе прадстаўніцтва іх інтарэсаў. Адначасова арганізацыя займалася пашырэннем культурна-асветніцкай дзейнасці сярод яўрэйскага студэнцтва. Дасягненне сваіх мэтаў саюз дабіваўся праз выдзяленне сваім членам належнай матэрыяльнай дапамогі з дзяржаўных, універсітэцкіх, камунальных і грамадскіх фондаў, будаўніцтва студэнцкіх дамоў і цэнтраў, арганізацыю летніх калоній і будаўніцтва санаторыяў, заснаванне стыпендый для незаможнай студэнцкай моладзі, стварэнне студэнцкіх кааператываў, арганізацыю навуковых экскурсій, выдавецкую дзейнасць [275, с. 152].

Члены аб’яднання дзяліліся на звычайных і надзвычайных. Да першых адносіліся ўніверсітэцкія арганізацыі ўзаемадапамогі студэнтаў-яўрэяў польскіх універсітэтаў, да другіх — легальныя навуковыя, культурна-асветніцкія, спартыўныя аб’яднанні студэнтаў-яўрэяў [275, с. 152—153].

Вядучую ролю ў кіраўніцтве як цэнтральных органаў аб’яднання, так і ў яго мясцовых філіялах адыгрывалі сіяністы. Цэнтральны выканаўчы камітэт арганізацыі ў сваіх справаздачах заяўляў, што імкнецца да таго, каб «студэнт-яўрэй мужна і яўна

прызнаваў сваю нацыянальнасць і аб’яднаў сваю барацьбу за права на навуку і хлеб з барацьбой усёй яўрэйскай грамадскасці за лепшую будучыню» [275, с. 6—7].

У выніку ўвядзення новага заканадаўства аб вышэйшай школе міжуніверсітэцкі Саюз яўрэйскіх акадэмічных аб’яднанняў самадапамогі ў Польшчы быў вымушаны спыніць сваю дзейнасць. Але яго рэгіянальныя аддзяленні працягвалі існаваць, і яўрэйскі студэнцкі рух паспяхова развіваўся да самага 1939 г.

Адной з праяваў гэтай паспяховасці была і дзейнасць яўрэйскіх студэнцкіх карпарацый. Трэба адзначыць, што, у адрозненне ад іншых карпарацый, яны мелі свае сядзібы не толькі ва ўніверсітэцкіх цэнтрах, але таксама і ў тых гарадах, адкуль паходзілі значныя групы яўрэйскіх студэнтаў. Таму, напрыклад, на тэрыторыі Заходняй Беларусі яны дзейнічалі не толькі ў Вільні, але і ў Беластоку і Баранавічах.

Першыя яўрэйскія студэнцкія карпарацыі з’явіліся яшчэ перад Першай сусветнай вайной у Львове і Кракаве. У міжваенны перыяд дзейнічала каля 40 такіх арганізацый. Іх можна падзяліць на тры накірункі: сіяністцкія, рэвізіяністцкія і асіміляцыйныя. Апошняя група была самай нешматлікай, яна выступала за раўнапраўе яўрэяў, але з адначасовым адмаўленнем ад нацыянальнай самасвядомасці на карысць ператварэння ў «палякаў іўдзейскага веравызнання» [323].

Асаблівасцю сіяністцкіх карпарацый было тое, што яны, як і іншыя сіяністцкія маладзёжныя арганізацыі, праводзілі «хахшару» — — падрыхтоўку да фізічнай працы ў Палесціне. Адначасова члены карпарацый актыўна ўдзельнічалі ў працы іншых сіяністцкіх арганізацый [222, с. 6].

У студзені 1930 г. у Варшаве адбыўся з’езд сіяністцкіх карпарацый, на якім прысутнічалі і прадстаўнікі Вільні. На з’ездзе быў створаны Саюз акадэмічных аб’яднанняў сіяністцкіх карпарацый (Związek Akademickich Zrzeszeń Korporacji Sijonistycznych). У 1931 г. ён налічваў 18 членаў, у тым ліку 2 карпарацыі з Вільні — «Іарданія» і «Бетарыя». Лічылася, што сіяністцкія карпарацыі «стануць салдатамі сіяністцкай арганізацыі і будуць сцерагчы цэласнасць і чысціню ідэі». У лютым 1933 г. на з’ездзе савета сеньёраў карпарацый было заяўлена, што важнейшай задачай карпарацыйнага руху з’яўляецца падрыхтоўка студэнцкай

эміграцыі ў Палесціну. Таксама была адзначана неабходнасць барацьбы з уплывам крайніх левых арганізацый сярод студэнцкай моладзі [222, с. 7—9].

Пасля ўвядзення новага заканадаўства аб вышэйшай школе саюз вымушаны быў спыніць сваю дзейнасць. Адначасова адбыўся раскол на агульнасіяніісцкія і рэвізіяніісцкія карпарацыі. Адной з першых рэвізіяніісцкіх карпарацый была вышэйназваная віленская «Іарданія», створаная ў 1929 г. Пашырэнне ўплываў рэвізіяністаў адбілася на дзейнасці карпарацый: яны пачалі больш актыўна ўдзельнічаць ва ўніверсітэцкім жыцці і працы рэвізіяніісцкіх арганізацый. Як адзначаюць польскія даследчыкі, у невялікіх правінцыйных цэнтрах на карпаранцкіх кватэрах аб'ядноўвалася ўсё грамадска-палітычнае рэвізіяніісцкае жыццё. Так было і ва ўніверсітэцкіх гарадах [222, с. 11].

На тэрыторыі ВНУ рэвізіяністы актыўна супрацьстаялі левым. Адначасова ў рэвізіяніісцкіх карпарацыях квітнеў культ асобы Ю. Пілсудскага — першы тост у час сваіх сходаў яны звычайна падымалі за польскага дыктатара і У. Жабацінскага [222, с. 12].

Прынцыповай мэтай рэвізіяніісцкіх карпарацый было «ідэйнае аб'яднанне сваіх членаў братэрскай сувяззю і накіраванне іх, у імя праўды і гонару, як да працы па адраджэнню яўрэйскай нацыі, так і да сумленнага выканання грамадзянскіх абавязкаў у адносінах да польскай дзяржавы». Галоўнай задачай лічылася змена псіхікі яўрэя — з баязліўца ён павінен быў ператварыцца ў грамадзяніна-салдата, байца за палесцінскую справу [222, с. 12]. Як бачым, ідэі карпарацый пераклікаліся з афіцыйнай ідэалогіяй «Бейтара».

На канец 1930-х гг. у 2-й РП існавала 13 рэвізіяніісцкіх карпарацый. У асноўным яны дзейнічалі ва ўсходніх ваяводствах краіны. Звычайна ў адным горадзе існавала адна рэвізіяніісцкая карпарацыя. Выключэннем была Вільня, дзе рэвізіяністы стварылі цэлых дзве карпарацыі — «Іарданію» і «Хасманею». У адрозненне ад польскіх, карпарацыі рэвізіяністаў актыўна працавалі ў гімназіях, ствараючы там свае школьныя філіялы. Найбольш значнымі з гэтых школьных карпарацый не толькі на тэрыторыі Заходняй Беларусі, але і ва ўсёй тагачаснай польскай дзяржаве былі «Макс Нардаў» пры «Іарданіі» ў Вільні і «Квірэй Арнонія» пры «Арноніі» ў Беластоку [222, с. 14].

У канцы 1930-х гг. назіралася імкненне да аб’яднання рэвізіянісцкіх карпарацый. На тэрыторыі Заходняй Беларусі ініцыятыву інтэграцыі праявіла вучнёўская карпарацыя «Квірэй Арнонія», якая ў канцы 1938 г. склікала карпарацыйны з’езд паўночна-ўсходніх зямель. На ім «Квірэй Арнонія», «Макс Нардаў» і «Кармелія» (з Баранавіч) стварылі аб’яднанне пад назвай «Картэль паўночна-ўсходніх зямель» [222, с. 14].

Што да асіміляцыйных карпарацый, то яны не змаглі разгарнуць шырокай дзейнасці. Адной з іх з’яўлялася віленская «Унітанія», створаная ў 1926 г. Праграма асіміляцыйных карпарацый прадугледжвала аб’яднанне студэнтаў без розніцы веравызнання для працы над пашырэннем польскай думкі і духу. Вылучаліся лозунгі дэмакратыі і цярпімасці, калі яны не супярэчаць інтарэсам радзімы — Польшчы. Праца ў асіміляцыйных карпарацыях павінна была змяніць духоўнае і інтэлектуальнае жыццё яўрэйскай моладзі і падрыхтаваць яе да інтэграцыі з польскім грамадствам [222, с. 16].

Асіміляцыйныя карпарацыі імкнуліся знайсці падтрымку ў польскіх карпарантаў, але безвынікова. З другога боку, яны былі аб’ектамі сталых нападак сіяністаў. У выніку асіміляцыйныя арганізацыі апынуліся ў ізаляцыі, колькасць іх членаў скарачалася. У 1938 г. сенат УСБ па прычыне малой колькасці членаў распусціў «Унітанію», апошнюю на той час асіміляцыйную карпарацыю на тэрыторыі 2-й РП [222, с. 16].

Такім чынам, можна прызнаць, што сіяністы даволі паспяхова распаўсюджвалі свой уплыў сярод яўрэйскай моладзі, асабліва ў студэнцкім асяроддзі. Пры гэтым унутры самога сіянісцкага руху ўсё большае значэнне набываў яго найбольш радыкальны накірунак, які быў прадстаўлены крайне правым «Бейтарам».

## 4.5 Беларускі нацыянальны маладзёжны рух

Калі разглядаць беларускі нацыянальны маладзёжны рух на тэрыторыі міжваеннай польскай дзяржавы, то ён у значнай меры знаходзіўся пад уплывам Беларускай хрысціянскай дэмакратыі (з 1935 г. — Беларускага нацыянальнага аб’яднання) (далей — БХД-БНА. Гэтая арганізацыя выступала за незалежнасць беларускай нацыі на ўсіх яго этнаграфічных землях. БХД імкнулася

стварыць грамадскі лад, заснаваны на працы, грамадзянскай роўнасці, без эксплуатацыі, з гарантыяй культурных і эканамічных патрэб грамадзян. Беларускія хрысціянскія дэмакраты былі супраць усякай дыктатуры — капіталістычнай, фашысцкай, камуністычнай. Яны выступалі ў абарону прыватнай уласнасці, але, згодна з іх праграмай, яна «павінна быць так урэгулявана і ахоплена законам, каб не быць шкоднай для агульнага дабра» [301, с. 168—169].

Менавіта адмаўленне дыктатуры і адстойванне прынцыпу прыватнай уласнасці, а таксама сцвярджэнне пра бяскласавы характар беларускага грамадства выклікалі варожасць КПЗБ у адносінах да БХД—БНА. Акрамя таго, БХД—БНА жорстка крытыкавала падзеі ў тагачаснай БССР — калектывізацыю, згортванне беларусізацыі і рэпрэсіі супраць «нацдэмаў». Таму беларускія хрысціянскія дэмакраты доўгі час ацэньваліся як буржуазная партыя, а ў міжваенны перыяд яны трактаваліся камуністамі і наогул як нацыянал-фашысты. Што да польскіх улад, то яны лічылі БХД—БНА радыкальнай партыяй, блізкай да камуністаў і небяспечнай для грамадскага спакою [301, с. 170]. Ацэньваючы характар дадзенай партыі (а значыць, і маладзёжны рух, які знаходзіўся пад яе ўплывам), магчыма прызнаць, што хоць яна і не была рэвалюцыйнай, але ўсё ж знаходзілася на левым флангу палітычнага спектру. Што да яе, як гэта прынята лічыць, буржуазнага характару, то гэты тэзіс абвяргаецца як яе класавым складам (у асноўным сяляне і інтэлігенцыя), так і сталымі фінансавымі цяжкасцямі БХД—БНА, што было б немагчыма, калі б яна карысталася падтрымкай буржуазіі.

Згодна з праграмай БХД—БНА (1935 г.), партыя ішла да сваіх мэтаў «шляхам арганізацыі, павышэння свядомасці беларускага сялянства, рабочых і інтэлігенцыі» [74, с. 27]. У гэтым рэчышчы развівалася і праца беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў з маладым пакаленнем Заходняй Беларусі.

Трэба адзначыць, што якога-небудзь масавага адзінага беларускага маладзёжнага аб'яднання нацыянальна-дэмакратычнай арыентацыі не існавала. Аднак спробы стварэння такой арганізацыі ці аб'яднання намаганняў беларускіх нацыянал-дэмакратаў па дзейнасці у маладзёжным асяроддзі усё ж неаднаразова рабіліся. Напрыклад, вядома, што ў 1920-х гг. у беларускіх гімназіях у Вільні, Навагрудку, Радашковічах і Клецку актыўна працавалі

шматлікія вучнёўскія гурткі, якія праводзілі значную культурна-асветніцкую працу. У другой палове 1920-х гг. вучнёўская арганізацыя пры Віленскай беларускай гімназіі імкнулася кансалідаваць дзейнасць усіх гэтых вучнёўскіх суполак. Нават існаваў праект па стварэнні Цэнтральнага хаўрусу беларускай моладзі Заходняй Беларусі. Нейкі час існавала ідэя аб правядзенні ў Вільні агульнага ўстаноўчага з'езду прадстаўнікоў усіх вучнёўскіх гурткоў. Аднак, як адзначаюць сучасныя даследчыкі, далей за размовы справа не зрушылася [77, с. 304]. У далейшым, у сувязі з ліквідацыяй беларускага школьніцтва на тэрыторыі Заходняй Беларусі, гэтая ініцыятыва наогул страціла сэнс.

Калі ўсё ж справа даходзіла да нейкіх канкрэтных крокаў, то супраць арганізацыйнага афармлення аб'яднанняў беларускай моладзі катэгарычна выступалі польскія ўлады, нават калі гэтае аб'яднанне магло насіць выключна культурна-асветніцкі ці літаратурна-мастацкі характар. Напрыклад, у 1927 г. узнікла ініцыятыва стварэння згуртавання маладых беларускіх пісьменнікаў Заходняй Беларусі. Была пададзена заява на рэгістрацыю літаратурнага аб'яднання «Веснаход», куды ўвайшлі Н. Арсеннева, Я. Бартуль, Я. Бурак, Г. Вялецкі, М. Васілёк, Х. Ільяшэвіч, М. Машара, М. Танк, М. Тулейка, Я. Хвораст і шэраг іншых маладых літаратараў. Але ініцыятыва творчай моладзі была адкінута польскімі ўладамі [77, с. 343].

На мяжы 1920—1930-х гг. была зроблена спроба стварэння таварыства беларускай моладзі «Будучыня». Ініцыятарам выступіла рэдакцыйная калегія ідэйна блізкага да БХД часопіса «Шлях моладзі». Мэтай арганізацыі павінна была стаць культурная, нацыянальная, грамадская і прафесійная самаадукацыя, распаўсюджванне асветы сярод маладога пакалення; развіццё народнай культуры і творчасці; развіццё спорту і фізічнага выхавання; арганізацыя самадапамогі [95, с. 7].

Можна сказаць, што такая праграма была даволі падобнай да так званага польскага пазітывізму другой паловы XIX ст., характэрнымі рысамі якога было адмаўленне ад узброенай барацьбы за нацыянальную незалежнасць і засяроджанасць на эканамічных, сацыяльных і культурных праблемах.

Трэба адзначыць, што першапачаткова старэйшае пакаленне беларускіх нацыянал-дэмакратаў было супраць стварэння

«Будучыні». Напрыклад, ксёндз А. Станкевіч, адзін з лідэраў БХД, заяўляў, што дастаткова тых арганізацый, якія ўжо існуюць. Другі кіраўнік БХД, Я. Пазьняк, сцвярджаў, што стварэнне новай беларускай арганізацыі прывядзе да далейшага раздраблення беларускіх культурна-асветніцкіх сіл [203, с. 175].

Тым не менш маладыя дзеячы БХД падалі статут арганізацыі на зацвярджэнне віленскаму ваяводзе, які адмовіўся гэта зрабіць. Сваю адмову ён аргументаваў тым, што членамі таварыства могуць быць толькі асобы, якія дасягнулі 21 года, у той час як статут «Будучыні» прадугледжваў паўнапраўнае членства з 16 гадоў, а ў выключных выпадках — з 14 гадоў. Аднак вядома, што, напрыклад, у афіцыйныя ССМ «Сеў» і АПМ прымаліся падлеткі з 14 гадоў. Пасля таго як заснавальнікі таварыства беларускай моладзі «Будучыня» звярнулі на гэта ўвагу ўлад, тыя ў другі раз адхілілі іх прашэнне, растлумачыўшы гэта правамі ваяводы [95, с. 7].

Адмовілася зацвердзіць статут «Будучыні» і Міністэрства ўнутраных спраў. Начальнік аддзела бяспекі Віленскага ваяводства лістом ад 23 лютага 1932 г. паведаміў, што МУС пакінула «без разгляду» пратэст заснавальнікаў таварыства супраць пастановы ваяводы [101, с. 10]. Няўдачай скончылася і спроба стварэння беларускага спартыўнага таварыства «Гайсак» — ваяводскія ўлады таксама не далі дазволу на яго рэгістрацыю [90, с. 92].

Неабходна падкрэсліць, што няўдалая спроба стварэння таварыства «Будучыня» не пахіснула рашучасці рэдакцыі часопіса «Шлях моладзі», які стаў фактычным цэнтрам беларускага маладзёжнага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Сам часопіс быў створаны ў пачатку 1929 г. і выходзіў да канца міжваеннага перыяду. У склад яго рэдакцыйнай калегіі ўвайшлі Я. Найдзюк, І. Тумаш, А. Шутовіч. Рэдактарам быў М. Пецюкевіч (пазней яго змяніў Я. Найдзюк), выдаўцом — Я. Багдановіч [53, с. 95].

Мэтай сваёй працы рэдакцыя абвясціла «змаганне за незалежнасць Беларусі і паляпшэнне народнай беларускай долі шляхам буджэння моладзі да нацыянальнай свядомасці, пашырэнне асветы і культуры, узгадаванне моладзі ў самастойна-незалежніцкім духу, азнаямленне з гісторыяй і літаратурай беларускай, беларускім адраджэнцкім рухам, з падзеямі ў свеце». За аснову сваёй дзейнасці яна ўзяла «народную ідэалогію, заснаваную на хрысціянскай этыцы» [101, с. 8].

Акрамя культурна-асветніцкай працы, часопіс абвяшчаў барацьбу супраць рознага кшталту афіцыйных маладзёжных саюзаў. Пастаянна адзначалася, што гэтыя арганізацыі «пад плашчом культуры ці хрысціянства фактычна жадаюць спаланізаваць беларускую моладзь» [95, с. 8]. На думку рэдактара «Шляха моладзі», беларуская моладзь павінна «працаваць самастойна для беларускай справы, без ніякіх надзей на працвеaccording ражэнне чужога хворага нацыяналізму, як на захадзе, так і на ўсходзе. Беларусам ёсць толькі адзіны шлях — арганізацыя сваіх сіл у сваіх жа арганізацыях» [84, с. 8].

Але, што да «сваіх» арганізацый беларускай моладзі, то ў міжваенны перыяд адзінай пляцоўкай, дзе беларускія маладзёжныя нацыянальна-дэмакратычныя арганізацыі мелі магчымасць адносна свабоднага развіцця, быў Віленскі ўніверсітэт. Ва УСБ у розныя часы дзейнічалі ці спрабавалі дзейнічаць некалькі беларускіх студэнцкіх арганізацый: Беларускі студэнцкі саюз (далей — БСС), Таварыства прыяцеляў беларусазнаўства (далей — ТПБ), студэнцкая карпарацыя «Скарынія», Беларускае студэнцкае таварыства імя Ф. Скарыны (далей — БСТ), Беларускае студэнцкае краязнаўчае таварыства (далей — БСКТ), Саюз студэнтаў-народнікаў імя Ф. Багушэвіча (далей — ССН). Усе яны мелі выразна беларускі характар. Акрамя іх, існавалі правінцыйныя гурткі, якія аб’ядноўвалі студэнтаў па тэрытарыяльнай прыкмеце. Сярод іх былі зямляцтвы з Заходняй Беларусі, але большасць з іх, наадварот, вылучалася сваім польскім характарам [81, с. 6—7].

Самай значнай з гэтых арганізацый быў БСС. У снежні 1920 г. быў створаны гурток студэнтаў—беларусаў, на базе якога ў снежні 1921 г. афіцыйна быў арганізаваны БСС (спачатку ўжывалася назва «Саюз студэнтаў-беларусаў»), які пачаў сваю паўнавартасную дзейнасць у студзені 1922 г. [81, с. 7].

Згодна са статутам, галоўнай мэтай БСС было «аб’яднанне ўсіх студэнтаў і вольных слухачоў беларусаў УСБ у адну ідэйна-выхаваўчую і культурна-таварыскую арганізацыю для ўзаемнай дапамогі як духоўнай, так і матэрыяльнай, а таксама для культурна-асветніцкай працы». Для ажыццяўлення азначаных мэтаў саюз меў права арганізоўваць унутраныя секцыі; ствараць клубы, касы ўзаемадапамогі, бібліятэкі, чытальні, хоры, курсы, кааператывы, кухні, інтэрнаты; займацца выдавецкай дзейнасцю; усталёўваць

стасункі з іншымі студэнцкімі і грамадскімі арганізацыямі; дэлегаваць сваіх прадстаўнікоў як на ўніверсітэцкія, так і грамадскія канферэнцыі, з'езды і сходы. Асобны пункт статута БСС прадугледжваў, што яго праца з'яўляецца апалітычнай [49, арк. 37].

Па ўзору студэнцкіх карпарацый БСС меў сваю сімволіку ў бел-чырвона-белых колерах. Дэвізам аб'яднання былі словы «Бацькаўшчына і навука» [81, с. 8].

Структура БСС была замацавана ў статуце і адпавядала агульным патрабаванням тагачаснага заканадаўства аб студэнцкіх арганізацыях. Органамі кіраўніцтва з'яўляліся агульны сход, праўленне саюза і рэвізійная камісія. Вышэйшай уладай быў агульны сход. На ім большасцю галасоў абіраліся прадстаўнічыя органы — праўленне і рэвізійная камісія. Непасрэднае кіраўніцтва БСС ажыцяўляла праўленне, на пасяджэннях якога разглядаліся бягучыя справы. Рэвізійная камісія павінна была правяраць і кантраляваць дзейнасць арганізацыі. Таксама існаваў таварыскі суд, які вырашаў спрэчкі паміж членамі арганізацыі [81, с. 7].

Згодна з заканадаўствам, студэнцкія арганізацыі павінны былі мець куратара з ліку ўніверсітэцкіх выкладчыкаў. Куратарамі БСС ў розныя часы былі: прафесар С. Уладычка (з моманта заснавання і да лета 1932 г.), прафесар Э. Кашмідэр (чэрвень 1932 г. — пачатак лета 1939 г.) і дацэнт Е. Хопен (чэрвень 1939 г. — 1 верасня 1939 г.). Лічыцца, што гэта былі ліберальна настроеныя людзі, якія шчыра спачувалі грамадскім і нацыянальна-культурным памкненням беларускіх студэнтаў [77, с. 308—309].

З 1927 г. БСС з'яўляўся членам Аб'яднання беларускіх студэнцкіх арганізацый (далей — АБСА), якое каардынавала дзейнасць беларускіх студэнцкіх арганізацый ва ўніверсітэтах Еўропы і Амерыкі. У 1930 г. нават было прынята рашэнне перанесці тры аддзелы АБСА (спартыўны, эканамічны і аддзел прэсы) непасрэдна ў Вільню. Праз АБСА Беларускі студэнцкі саюз быў звязаны з Міжнароднай канфедэрацыяй студэнтаў (Confederation Internationale des Etudiants), якая аб'ядноўвала студэнцкія арганізацыі з усёй Еўропы [81, с. 13]. Аднак у поўнай меры разгарнуць міжнародную дзейнасць БСС не здолеў у сувязі з увядзеннем у Польшчы новага акадэмічнага заканадаўства, згодна з якім міністр асветы Польшчы загадаў забараніць

«неагульнанацыянальным» студэнцкім згуртаванням ўваходзіць у склад замежных і міжнародных студэнцкіх аб’яднанняў. У верасні 1933 г. кіраўніцтва БСС звярнулася з хадайніцтвам аб дазволе далейшага членства ў АБСА, але польскія ўлады катэгарычна адмовілі [77, с. 339].

Нягледзячы на афіцыйна абвешчаную апалітычнасць, БСС з самага пачатку свайго існавання так ці інакш удзельнічаў у тагачасным грамадска-палітычным жыцці. Адначасова за ўплыў над ім вялі барацьбу прадстаўнікі розных палітычных плыняў Заходняй Беларусі — камуністы, беларускія хрысціянскія дэмакраты, прыхільнікі актыўнага супрацоўніцтва з польскімі ўладамі. Гэта не магло не прывесці да абвастрэння адносін унутры арганізацыі і нават да яе расколу.

У студзені 1930 г. група членаў БСС, прыхільнікаў Цэнтрасаюза ці «белсанацыі» (групы, якая выступала за супрацоўніцтва з польскімі ўладамі), не выходзячы са складу БСС, паспрабавалі стварыць ССН імя Ф. Багушэвіча. Мэтамі новай арганізацыі павінны былі стаць падтрымка цесных сувязей з народніцкім рухам і культурна-асветніцкая праца на вёсцы, а таксама работа па паглыбленні і пашырэнні ідэалогіі народнікаў [98, с. 62]. Аднак сенат УСБ палічыў гэтыя мэты занадта палітызаванымі і адмовіў у рэгістрацыі ССН [77, с. 345].

Пасля таго як у БСС узмацнілася дамінаванне БХД, прыхільнікі «белсанацыі», якія выступалі за больш цеснае супрацоўніцтва з рэжымам Ю. Пілсудскага, утварылі ўласную арганізацыю — студэнцкую карпарацыю «Скарынія». Сенат УСБ зацвердзіў статут «Скарыніі» 12 чэрвеня 1931 г. [117, с. 32]. Беларуская карпарацыя была створана па арганізацыйнаму ўзору аналагічных польскіх аб’яднанняў. Што да канкрэтнай ідэалогіі і мэтаў «Скарыніі», то яны былі выкладзены ў яе друкаваным органе — «Новая варта». Было заяўлена, што задачай беларускага студэнцтва з’яўляецца атрыманне грамадскага выхавання, здольнасці да самастойных высноваў, пачуццё ўласнай годнасці. Менавіта шляхам грамадзянскага выхавання і збіралася дзейнічаць карпарацыя, каб «даць у будучыні беларускаму грамадству і дзяржаве годных асоб, якія ўсведамляюць свае правы і абавязкі» [105, с. 3—4]. Ідэолагі «Скарыніі» прапанавалі весці працу з пазіцый «беларускага пазітывізму». Прапанавалася адмовіцца ад максімалізму

патрабаванняў і галоўную ўвагу надаваць стварэнню і ўмацаванню «беларускай нацыянальнай і культурнай базы».

Аднак паланафільская карпарацыя праіснавала не доўгі час. Яна распалася ў выніку ўнутранага канфлікту паміж лідарамі «белсанацыі» — А. Луцкевічам і Р. Астроўскім. Пасля таго як прыхільнікі гэтых дзеячаў пачалі выключаць адзін аднаго з карпарацыі, сенат УСБ у пачатку 1934/35 навучальнага года быў вымушаны распусціць «Скарынію» [78, с. 11].

Замест «Скарыніі» група яе былых членаў утварыла БСТ імя Ф. Скарыны, якое аб'яднала прыхільнікаў супрацоўніцтва з «санацыяй». У статуце БСТ былі акрэслены задачы таварыства: выхаванне з кожнага члена арганізацыі сапраўднага грамадзяніна, адданага працы на карысць народу і Айчыне; узаемная інтэлектуальная дапамога праз чытанне рэфератаў і правядзенне навуковых сходаў; матэрыяльная дапамога. Дасягненне задач планавалася наступнымі сродкамі: праз узаемадзеянне і супрацоўніцтва членаў таварыства, абмен думкамі, выхаванне дысцыплінаванасці, а таксама праз навуковую, грамадскую і мастацкую дзейнасць [98, с. 59].

Аднак новае паланафільскае аб'яднанне амаль не праявіла сябе. У першую чаргу гэта было звязана са змяншэннем агульнай актыўнасці беларускіх паланафілаў на чале з А. Луцкевічам. У выніку 19 чэрвеня 1936 г. па рашэнню ўніверсітэцкіх улад БСТ было распушчана [77, с. 357].

Неабходна адзначыць, што дзейнасць БСС набыла большы размах, чым дзейнасць яго паланафільскіх канкурэнтаў. Таксама ён карыстаўся большай падтрымкай сярод беларускага грамадства і быў больш уплывовай арганізацыяй [98, с. 59].

У баку ад грамадска-палітычнага жыцця імкнуліся развіваць сваю дзейнасць БСКТ і Беларускае таварыства беларусазнаўства. Спроба стварэння БСКТ была зроблена групай членаў БСС ў чэрвені 1929 г. Паводле праекта статута, таварыства павінна было спрыяць паглыбленню ведаў па беларускай геаграфіі, этнаграфіі, літаратуры і гісторыі. У сувязі з гэтым планавалася ладзіць чытанні, дыскусійныя семінары па беларускай тэматыцы, краязнаўчыя экскурсіі, а таксама весці культурна-асветніцкую дзейнасць сярод мясцовага беларускага насельніцтва, выдаваць

адмысловы краязнаўчы часопіс, стварыць бібліятэку. Але ўніверсітэцкія ўлады не далі згоды на стварэнне БСКТ [77, с. 340].

З 1933 г. на базе УСБ пачало дзейнічаць ТПБ. У яго склад увайшлі члены БСС. Гэтыя дзве арганізацыі былі падобныя паміж сабою, але ТПБ абмяжоўвалася дзейнасцю ў сценах УСБ. Універсітэцкі сенат зацвердзіў статут таварыства ў лістападзе 1933 г. Па свайму характару ТПБ было навуковай арганізацыяй і ставіла перад сабой мэту пашырэння ведаў у галіне беларусазнаўства (мова, літаратура, гісторыя, этнаграфія і інш.), навуковай дапамогі членам арганізацыі ў навучанні, падтрымкі сувязей з беларускімі навуковымі дасягненнямі. Праца ТПБ вялася па некалькіх секцыях — філалагічнай, этнаграфічнай, літаратурнай, гістарычна-эканамічнай [98, с. 60].

Непасрэдная дзейнасць ТПБ заключалася ў арганізацыі навуковых сходаў, вывучэнні і аналізе вядомых беларускіх твораў, выданні ўласных распрацовак і матэрыялаў па гісторыі, мове, літаратуры і этнаграфіі, азнаямленні з матэрыяламі архіваў, музеяў, бібліятэк, вывучэнні беларускага тэатра і друку, арганізацыі бібліятэкі, падтрыманні сувязей з беларускімі гурткамі іншых универітэтаў Польшчы [81, с. 17].

Ацэньваючы беларускія студэнцкія арганізацыі і беларускі маладзёжны нацыянал-дэмакратычны рух у цэлым, трэба адзначыць, што на працягу ўсяго міжваеннага перыяду ён так і не набыў масавага характару. Зразумела, што студэнцкія арганізацыі не маглі стаць масавымі ў прынцыпе — колькасць студэнтаў-беларусаў у Віленскім універсітэце на працягу ўсяго яго існавання была мізэрнай. Акрамя таго, сталыя ўнутраныя канфлікты толькі аслаблялі гэтыя нешматлікія арганізацыі беларускіх студэнтаў. Як адзначаюць сучасныя даследчыкі, большая частка іх энергіі накіроўвалася на ўзаемную барацьбу [198, с. 91]. Таксама нельга не ўлічваць і матэрыяльна-фінансавы фактар. На працягу ўсяго свайго існавання беларускія студэнцкія арганізацыі перажывалі цяжкае матэрыяльнае становішча, як і ўвесь беларускі нацыянальна-дэмакратычны рух. Яны не маглі разлічваць ні на дапамогу ўлад, як праўрадавыя арганізацыі, ні на дапамогу нейкіх замежных «спонсараў», як той жа сіяніцкі рух.

Разам з тым частка студэнтаў беларускага паходжання была ўцягнута ў дзейнасць польскіх нацыянальных ці нацыяналістычных

студэнцкіх арганізацый. Так, напрыклад, найбольш радыкальнай нацыяналістычнай польскай карпарацыяй УСБ лічылася «Палесія», якая аб'ядноўвала ўраджэнцаў беларускага і ўкраінскага Палесся. Менавіта прадстаўнікі гэтай карпарацыі складалі аснову кіраўніцтва віленскай арганізацыі УМ і доўгі час дамінавалі ў кіруючых органах БД [322].

Што да сітуацыі за межамі Віленскага ўніверсітэта, то тут адмоўную ролю ў развіцці беларускага нацыянальнага маладзёжнага руху адыгралі не толькі забароны польскіх улад, якія мэтанакіравана перашкаджалі арганізацыйнаму афармленню якіх-небудзь беларускіх маладзёжных арганізацый, нават калі яны дэкларавалі свай апалітычны характар. Значная частка беларускай моладзі, асабліва каталіцкага веравызнання, была ўцягнута ў дзейнасць праўрадавых і клерыкальных маладзёжных саюзаў і аб'яднанняў.

З іншага боку, сярод маладых беларусаў больш папулярнымі былі камуністычныя лозунгі радыкальных сацыяльна-эканамічных пераўтварэнняў, а не памяркоўная праграма беларускіх нацыянал-дэмакратаў, якая прадугледжвала нацыянальна-культурную і асветніцкую працу. Часопіс «Шлях моладзі» вымушаны быў адзначыць, што «іменна камуністы... ідучы да рэалізацыі сваіх ідэалаў, кідаючы рэвалюцыйныя клічы, абяцаючы перамену на лепшае ў хуткім часе, здабываюць сабе прыхільнікаў, асабліва сярод моладзі. Бо моладзь, з арлінай душой, гарачая, гатовая на найвялікшыя нават ахвяры жыцця, каб толькі хутчэй ісці да мэты, да лепшага жыцця» [103, с. 1].

Менавіта беларуская вясковая моладзь складала аснову камсамольскіх арганізацый. Таксама яна актыўна ўдзельнічала ў працы легальных аб'яднанняў, якія знаходзіліся пад уплывам КПЗБ. Напрыклад, вядома, что асноўную масу членаў БСРГ складалі маладыя людзі ва ўзросце да 30 гадоў [77, с. 250]. Пасля яе разгрому маладое пакаленне беларусаў уцягвалася ў грамадска-палітычную дзейнасць пераемніцы — арганізацыі «Змаганне», якая таксама ў значнай меры складалася з беларускай моладзі [64, с. 6—9].

Такім чынам, беларускі нацыянальна-дэмакратычны маладзёжны рух у выніку шэрагу прычын не меў сур'ёзнага ўплыву на моладзь Заходняй Беларусі. Ён не стаў масавым і нават не быў арганізацыйна аформлены за межамі УСБ.

# Г Л А В А 5
# «САНАЦЫЯ» І ЯЕ ПРАЦІЎНІКІ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА МОЛАДЗЬ ЗАХОДНЯЙ БЕЛАРУСІ

## 5.1 Стварэнне праўрадавага маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі

Гаворачы пра стварэнне і развіццё «санацыйных» аб'яднанняў моладзі, нельга не закрануць той ролі, якую адыгрывалі ўлады ў гэтых працэсах. Праўрадавы маладзёжны рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі з самага пачатку свайго існавання карыстаўся значнай падтрымкай уладных структур. Мясцовыя ваяводскія і павятовыя ўлады прыкладалі значныя намаганні да яго развіцця.

Напрыклад, у лютым 1930 г. палескі ваявода накіраваў усім павятовым старастам спецыяльны ліст, які быў прысвечаны пытанню стварэння аддзяленняў Палескага ССМ. У ім адзначалася, што ў шэрагу задач, якія стаяць перад дзяржаўнай адміністрацыяй, асабліва на ўсходніх ускраінах, важнейшай з'яўляецца кантроль над тым, каб развіццё грамадскага жыцця вёскі ішло «па лініі развіцця польскага дзяржаўнага шляху». Ваявода падкрэсліваў, што «сённяшні ўрад звяртае значную ўвагу на тое, каб, перш за ўсё, падрастаючае пакаленне атрымала такіе ўмовы развіцця, якія б давалі гарантыю выхавання з сённяшняй моладзі грамадзян, на якіх магла б абаперціся дзяржава. Таму пан міністр унутраных спраў робіць націск на як мага больш паспяховае развіццё арганізацый сельскай моладзі» [3, арк. 17].

Ваявода, растлумачыўшы сутнасць і задачы ССМ, адзначаў, што праца саюза на месцах будзе праводзіцца ў цеснай згодзе з павятовымі старастамі: «Урад маральна і матэрыяльна падтрымлівае дзейнасць ССМ і чакае таго ж ад тэрытарыяльнага самакіравання, бо лічыць працу ССМ адной з важнейшых задач сённяшняга перыяду» [3, арк. 17].

Старастам даручалася асабіста цікавіцца працай саюза, аказваць матэрыяльную дапамогу «нават за кошт іншых пазіцый у справах асветы, падтрымкі культуры ці земляробчай асветы». Акрамя таго, старасты павінны былі падтрымліваць сталы кантакт з ваяводам

і кіраўніком ваяводскага ССМ, неадкладна паведамляць аб усіх адмоўных з'явах у развіцці арганізацыі ці дзейнасці асобных яе прадстаўнікоў. Ваявода заяўляў: «Асабіста я лічу развіццё працы ССМ адным з важнейшых фактараў у выкананні тых задач, якія ўскладзены на нас як прадстаўнікоў урада і адказных кіраўнікоў палітычнай адміністрацыі, і чакаю поўнага разумення важнасці апекі і супрацоўніцтва ў развіцці гэтых прац» [3, арк. 18].

Апека дзяржаўнай адміністрацыі і дзеячаў «санацыі» выяўлялася ў першую чаргу ў непасрэдным удзеле ў арганізацыі праўрадавых маладзёжных саюзаў. Напрыклад, у Вільні ганаровыя пасады ў «Стральцы» займалі такія лідары «санацыі», як Я. Пілсудскі (брат Ю. Пілсудскага) і былы віленскі ваявода С. Кіртыкліс [39, арк. 107]. Такая ж сітуацыя складвалася і на павятовым узроўні, дзе стралецкія атрады ўзначальвалі паліцэйскія і мясцовыя чыноўнікі [43, арк. 63]. Што да структур ССМ «Сеў», то на Палессі ўжо ў 1930 г. абсалютная большасць кіраўнікоў мясцовых ячэек арганізацыі былі членамі ці прыхільнікамі ББСУ [5, арк. 18].

Менш значныя праўрадавыя арганізацыі таксама карысталіся апекай высокіх прадстаўнікоў «санацыйнага» рэжыму. Напрыклад, у 1934 г. пры стварэнні навагрудскай акругі АПМ у склад яе праўлення ўвайшлі мясцовыя віцэ-ваявода, пасол Сейма, кіраўнікі школ. Адначасова арганізацыйны сход выказаў «сардэчную ўдзячнасць за аказаную АПМ дапамогу» навагрудскаму ваяводзе С. Свідэрскаму [215, с. 9]. Філіялы «санацыйных» студэнцкіх аб'яднанняў карысталіся падтрымкай на самым вышэйшым узроўні кіруючага рэжыму. Вядома, што вясной 1931 г. пляцоўка ЛМ пры УСБ была створана пры самым непасрэдным удзеле Я. Енджэе́віча, які ў той час выконваў абавязкі старшыні «санацыйнага» ББСУ [217, с. 128—129].

Аднак такая актыўнасць чыноўнікаў мела і свой адваротны бок. Архіўныя дакументы сведчаць, што ў польскіх улад вельмі часта не хапала чыноўнікаў, каб заняць усе кіруючыя пасады ў грамадскіх арганізацыях. Так, у 1930 г. павятовы камендант «Стральца» паведамляў з Драгічына пра такі недахоп «кіруючых людзей»: «Вялікая цяжкасць складаецца ў тым, што акрамя выканання прафесійных абавязкаў, амаль кожны чыноўнік з'яўляецца адначасова членам праўлення якога-небудзь грамадскага

таварыства ці секцыі, таму часта яны ходзяць з аднаго сходу на другі; а іншых абраць немагчыма, паколькі іх няма» [11, арк. 6—7]. Фактычна такое становішча магло пертварыць дзейнасць таго ж «Стральца» ў фармальнасць.

Неабходна адзначыць, што вялікую ролю ў развіцці праўрадавага маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі адыгралі асаднікі і памешчыкі. Так, у 1935 г. у маёнтках Нягневіцкага раёна памешчыкі стваралі з батракоў атрады конных стральцоў (кракусаў), а іх навучанне ажыццяўляў мясцовы асаднік [42, арк. 17]. Аднак у большасці выпадкаў інструктарамі ВП былі афіцэры Войска Польскага ці паліцыі.

Таксама трэба звярнуць увагу на тое, што для арганізацыйнага і колькаснага ўмацавання праўрадавых маладзёжных аб’яднанняў шмат рабілі настаўнікі дзяржаўных польскіх школ. У справаздачы Палескага ваяводскага ССМ падкрэслівалася, што «адносіны з настаўніцтвам заслугоўваюць пахвалы. Настаўніцтва стаіць каля ўсіх працоўных месцаў саюза. Яно прымае ўдзел у працы гурткоў, акруговых саюзаў, ваяводскага праўлення, праводзіць гутаркі і курсы, рэжысуе тэатральныя пастаноўкі, дае парады, апякае, сочыць, заахвочвае» [271, с. 21]. Польскія настаўнікі пачалі ствараць ячэйкі ССМ на тэрыторыі Палескага ваяводства яшчэ ў 1927 г. У наступныя гады менавіта яны вызначалі накірунак развіцця арганізацыі, займаючы ў яго лакальных структурах большасць кіруючых пасад. У многіх мясцовасцях толькі дзякуючы ўдзелу настаўнікаў ССМ меў магчымасць стварыць свае тэатральныя і харавыя калектывы ці аркестры [160, с. 120—121].

Цікавую статыстыку адносна ўдзелу настаўніцтва ў грамадскай працы на тэрыторыі Свянцянскага павету прыводзіў у 1935 г. «Кур’ер Віленскі». На тэрыторыі павету працавалі 268 настаўнікаў, 32 з якіх узначальвалі святліцы (клубы), 11 — вячэрнія курсы, 17 настаўнікаў узначальвалі ячэйкі стралецкага саюза, 6 — дружыны СПХ, 6 настаўнікаў працавалі ў жаночых арганізацыях, 24 — кіравалі маладзёжнымі арганізацыямі. 192 настаўнікі з’яўляліся членамі стралецкага саюза. Акрамя таго, на працягу вучэбнага года настаўнікі правялі 150 лекцый і арганізавалі 91 тэатральны паказ [150, с. 8].

Але, як адзначаюць архіўныя крыніцы, узаемаадносіны маладзёжных аб’яднанняў з мясцовымі ўладамі і настаўніцтвам

не заўсёды складваліся добра, і падтрымка не з'яўлялася абсалютнай. Напрыклад, камендант ВП Слонімскага павета паведамляў, што «ў м. Рудзе Яварскай настаўнік Гародка сярод членаў стралецкага саюза сказаў, што да "Стральца" неабходна належаць толькі для выгляду, а на самой справе нічога рабіць не трэба». У тым жа Слонімскім павеце ў в. Раготна мясцовы войт супраціўляўся пакупцы радыёпрёмніка для «Стральца» [19, арк. 19].

Развіццю праўрадавага маладзёжнага руху перашкаджалі даволі напружаныя адносіны паміж польскімі чыноўнікамі і мясцовым насельніцтвам. Адзін з членаў гуртка вясковай моладзі з Брэсцкага павета адзначаў у сваёй біяграфіі, якая была апублікавана ў даследаванні афіцыйнага дзяржаўнага Інстытута культуры вёскі, што «адной з галоўных балячак нашай вёскі (якая выклікае абурэнне і недавер у адносінах да ўрада) з'яўляюцца недапушчальныя паводзіны і адносіны чыноўнікаў, якія прадстаўляюць урад, да нашага селяніна. Гэтыя чыноўнікі — выканаўцы даручэнняў і загадаў урада, прапагандысты ўрадавых ідэй і думкаў. Гэта гмінныя, фінансавыя чыноўнікі, паліцыя і т. п. На кожным кроку адчуваецца нейкая непрыязная, фанабэрыстая атмасфера, адсутнасць сардэчнасці і даверу. За адно толькі выказанае слова супраць адразу ж будзеш названы хамам, падрыўным элементам, камуністам (апошнім абвінавачваннем празмерна злоўжываюць)... У гмінным ці фінансавым праўленні, у судзе ці паліцэйскім пастарунку, усюды да нашага селяніна адносяцца не як да грамадзяніна дзяржавы, а як да варожага дзяржаве чалавека, якога патрэбна стрыгчы, пакуль ён даецца, душыць, пакуль ён цёплы, і якому нельга давяраць ні ў якім выпадку» [115, с. 12—13].

Той жа аўтар, які стаяў на «дзяржаўніцкіх пазіцыях», працягваў: «Недахопам, які ў інтарэсах дзяржавы неабходна як мага хутчэй выправіць, з'яўляецца поўная незацікаўленасць дзяржавы лёсам вясковай моладзі і яе жыццём. Пазбаўленая ўсялякай апекі і дапамогі, вясковая моладзь блукае крутымі шляхамі, якія вядуць да бездані боек, п'янства, злачынстваў, ці, як мухі на мёд, ідзе за падрыўной палітычнай прапагандай варожых дзяржаве палітычных дзеячаў... Там, дзе, дзякуючы намаганням якога-небудзь ціхага сельскага дзеяча, узнікае якая-небудзь арганізацыя, чыноўнікі,

замест таго каб прыйсці на дапамогу да гэтай беднай слабай арганізацыі, імкнуцца (ці па расхлябанасці, ці па злой волі) толькі да таго, каб абцяжарыць яе чым-небудзь, затрымаць яе развіццё. Арганізацыяй ніхто не цікавіцца, ніхто яе не падтрымлівае. На яе і яе членаў глядзяць з недаверам, збіраючы з дапамогай паліцыі дадзеныя аб благанадзейнасці (магчыма, гэта толькі ў нас на крэсах так). Зразумела, гэты недавер, адсутнасць добразычлівага супрацоўніцтва, сардэчнасці, шпіянаж і г. д. выклікаюць у моладзі расчараванне і антыпатыю, а таксама адштурхоўваюць іншых ад уступлення ў арганізацыю» [115, с. 13]. Дадзенае сведчанне належыць да другой паловы 1930-х гг. — яно з'явілася ўжо пасля таго, як палескі ваявода заклікаў павятовых старастаў асабіста цікавіцца развіццём маладзёжнага руху. Такім чынам, роля мясцовага чыноўніцтва ў развіцці маладзёжных саюзаў была неадназначнай. Нават афіцыйныя крыніцы сведчылі як пра падтрымку, так і пра фармалізм і нават варожасць.

Важнай часткай падтрымкі ўладамі «санацыйнага» маладзёжнага руху была фінансавая і матэрыяльная дапамога. Гэта добра бачна на прыкладзе ССМ «Сеў». Згодна са статутам, асноўнымі крыніцамі фінансавання арганізацыі былі членскія і ўступныя ўзносы, прыбыткі ад правядзення мерапрыемстваў, дапамога ад грамадскіх і дзяржаўных інстытутаў і ахвяраванні прыватных асоб [114, с. 9]. На самай справе арганізацыя знаходзілася на дзяржаўным забяспячэнні. Пра гэта сведчыць, напрыклад, справаздача аб прыбытках Палескага ССМ «Сеў» за 1933 г. Так, членскія ўзносы склалі 487,60 злотых, прыбыткі ад выдавецкай дзейнасці — 349,35 злотых. У той жа час Цэнтральным камітэтам па справах вясковай моладзі для арганізацыі было выдаткавана 4 389,95 злотых, праўленнем Палескага ваяводства — 1 405, Палескай землячробчай ізбой — 1 000, мясцовым камітэтам Фонда працы — 300, праўленнем Брэсцкага павета — 960 злотых. Улічваючы станоўчае сальда за мінулы год (147,23 злотых) і іншыя прыбыткі (316,20 злотых), мы бачым, што з агульнай сумы ў 9 400,33 злотых дзяржаўныя датацыі складалі 8 099,95 злотых ці болей за 86% прыбыткаў [273, с. 16].

Яшчэ большыя «фінансавыя ўліванні» атрымліваў стралецкі саюз. Так, камендатура Брэсцкай акругі «Стральца» планавала прыбытковую частку свайго бюджэту ў аб'ёме 354 060 злотых. З іх

20 тыс. злотых павінны былі быць накіраваны ад Палескага, Люблінскага і Беластоцкага ваяводстваў, 80 тыс. — ад мясцовага самакіравання, 30 тыс. — ад ваенных улад, 120 тыс. — ад вярхоўнага кіраўніцтва «Стральца» [4, арк. 2]. У дадзеным выпадку дзяржаўныя датацыі склалі 310 тыс., ці больш за 87% прыбытковай часткі бюджэта.

Тым не менш у пытаннях фінансавання не ўсё складвалася добра. У першую чаргу гэта было звязана з цяжкім фінансавым станам мясцовага самакіравання. Напрыклад, Палескі ваяводскі камітэт ФВ і ВП адзначаў, што мясцовае самакіраванне, «кіруючыся добрымі намерамі», выдзяляе на развіццё дзейнасці па ваеннай падрыхтоўцы моладзі сумы, «якія не можа на працягу года знайсці» [9, арк. 15]. Таму асноўную фінансавую дапамогу аказвалі цэнтральныя органы ўлады.

Дзяржаўныя структуры, тое ж Дзяржаўнае ўпраўленне ФВ і ВП, лічылі, што фінансавую дапамогу неабходна даваць «толькі тым арганізацыям, якія не толькі лаяльна ставяцца да пачынанняў дзяржаўных улад, але і паказваюць вялікую арганізацыйную і колькасную сілу» [10, арк. 2]. Таму значная фінансавая падтрымка — гэта сведчанне значнасці і уплыву «Стральца» і ССМ у «санацыйным» маладзёжным руху Заходняй Беларусі.

Аднак неабходна адзначыць, што іншыя праўрадавыя арганізацыі таксама не заставаліся без матэрыяльнай падтрымкі з боку афіцыйных структур. Гэтай дапамогай, напрыклад, актыўна карыстаўся СПХ, асабліва пасля таго, як у ім сталі дамінаваць уплывы «санацыі». Напрыклад, у 1929 г. праўленне Віленскай харугвы СПХ атрымала ад віленскага ваяводы аднаразовую фінансавую дапамогу ў памеры 500 злотых, аддзелы грамадскай апекі Віленскага і Навагрудскага ваяводстваў выдзелілі на арганізацыю харцарскіх лагераў па 1 800 злотых, гарадскі камітэт ВП і ФВ — 1 500 злотых. Таксама ваяводскія ўлады Вільні і Навагрудка пералічылі па 600 злотых для арганізацыі інспекцый харцарскіх дружын. Такім чынам, агульная фінансавая дапамога дзяржаўных структур склала 6 800 злотых [278, с. 20].

СПХ атрымліваў дапамогу не толькі ў выглядзе грашовых датацый. Так, кіраўніцтва сістэмы адукацыі цесна супрацоўнічала з саюзам у справе арганізацыі ў час летніх канікулаў спецыяльных курсаў для настаўнікаў. Задачамі курсаў было пазнаёміць

настаўнікаў з псіхалагічнымі асновамі харцарства і яго педагагічнымі вартасцямі з улікам магчымасці выкарыстання харцарскіх метадаў у агульным школьным выхаванні; арганізацыяй лагераў, правядзеннем экскурсій і скаўцкіх трэніровак; арганізацыяй зухаўскіх грамад і харцарскіх дружын у школе [172, с. 202].

У 1934 г. два такія канікулярныя курсы (мужчынскі і жаночы) былі арганізаваны кіраўніцтвам Віленскай школьнай акругі на возеры Нарач [172, с. 202—203]. У 1936 г. харцарскія курсы для апякуноў школьных харцарскіх дружын дзейнічалі на Нарачы (жаночы) і ў Друскеніках (мужчынскі) [147, с. 143].

Акрамя органаў сістэмы адукацыі і дзяржаўнай адміністрацыі сваю падтрымку СПХ аказвалі і сілавыя структуры 2-й РП. На тэрыторыі Заходняй Беларусі асаблівую актыўнасць у гэтым накірунку праяўляў Корпус аховы памежжа (далей — КАП). Напрыклад, ён аказваў дапамогу пры арганізацыі летніх харцарскіх лагераў. Так, у 1933 г. брыгада КАП «Гродна» выказала згоду арганізаваць на сваёй тэрыторыі 14 харцарскіх лагераў, брыгада «Вільня» — 16, брыгада «Навагрудак» — 9 і брыгада «Палессе» — 5 лагераў. Пры гэтым КАП выдзяляў субсідыю — па 100 злотых на кожны лагер, а таксама забяспечваў пераезд харцараў да лагера [237, с. 8—9].

Улічваючы агульную структуру насельніцтва Заходняй Беларусі, зразумела, што найбольшы націск «санацыйныя» саюзы рабілі на працу з вясковай моладдзю. Менавіта там яны мелі і найбольшы ўплыў, адтуль паходзіла большая частка іх членаў. Напрыклад, галоўны камендант «Стральца» прызнаваў, што яго саюз ахоплівае тую частку моладзі, «якая паходзіць з ніжэйшых слаёў» [20, арк. 2].

Акрамя вясковай мясцовасці, буйныя атрады стралецкага саюза існавалі і ў заходнебеларускіх гарадах — Вільні, Беластоку, Брэсце, Гродне. Так, віленскі агульнагарадскі стралецкі атрад налічваў да 700 чалавек. Самастойныя ячэйкі «Стральца» былі і на шматлікіх віленскіх гарадскіх прадпрыемствах (гута, дзяржаўная тытунёвая фабрыка і інш.) [40, арк. 108]. Стралецкая арганізацыя існавала і ва ўніверсітэце. Яна з’яўлялася часткай створанага ў 1929 г. акадэмічнага аддзела «Стральца». Нягледзячы на шматлікасць стральцоў-студэнтаў, іх дзейнасць амаль не мела дачынення да ўнутранага жыцця УСБ [224, с. 61]. Акадэмічны аддзел стралецкага

саюза ставіў перад сабой мэту перш за ўсё падрыхтоўкі кіруючых кадраў для «Стральца», ён павінен быў стаць своеасаблівай «школай падхарунжых» для ўсяго саюза [232, с. 83]. Часцей за ўсё віленскія стральцы-студэнты ўзначальвалі культурна-грамадскую і асветніцкую працу сярод моладзі ў гарадскіх атрадах «Стральца». Менавіта яны станавіліся рэферэнтамі і кіраўнікамі грамадзянскага выхавання [223, с. 3].

Дзякуючы намаганням улад, колькасць членаў стралецкай арганізацыі пастаянна ўзрастала. Па ўсёй Польшчы ў 1934 г. яна налічвала 300 тыс. членаў, з іх у 3-й і 9-й акругах — каля 50 тыс. чалавек. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі таго часу, стралецкая арганізацыя Віленшчыны з’яўлялася найбольш моцнай у 2-й РП. Ужо ў 1931 г. яна налічвала 300 атрадаў і 7 тыс. членаў [40, арк. 112]. Менш паспяховым быў рост «Стральца» на Палессі. Па меркаванні польскіх улад, гэтаму перашкаджала невялікая колькасць польскага насельніцтва і «гіганцкая перавага нацыянальных меншасцей». Акрамя таго, адзначалася і слабая праца мясцовых праўленняў [20, арк. 52—53]. Да гэтага трэба дадаць і тыя складаныя ўзаемаадносіны паміж дзяржаўнай адміністрацыяй і насельніцтвам, якія ўжо былі вышэй ахарактарызаваны. Тым не менш, да 1939 г. агульная колькасць стралецкага саюза дасягнула 500 тыс. чалавек [99, с. 437].

Членамі «Стральца» на тэрыторыі Заходняй Беларусі былі ў першую чаргу дзеці чыноўнікаў і асаднікаў, але адначасова прысутнічалі і сяляне — палякі і беларусы-католікі. Гэта пацвярджаецца шматлікімі дакументальнымі сведчаннямі. Так, у справаздачы Гродзенскага акруговага камітэта КСМЗБ (канец 1932 г.) паведамлялася: «У “Стральцы” ў Скідзелі ў асноўным сынкі чыноўнікаў ці яны самі. Але яны імкнуцца стварыць свае гнёзды ў вёсках і там уцягваюць сялянскую моладзь, расказваючы пра герояў Айчыны і пра вайну» [34, арк. 16].

Сапраўды, для простай сялянскай і рабочай моладзі стралецкая арганізацыя была даволі прыцягальнай. У дакументах ЦК КСМЗБ пералічваліся асноўныя прычыны колькаснага росту стралецкага саюза на тэрыторыі Заходняй Беларусі: узмацненне шавіністычнай прапаганды сярод польскай і каталіцкай часткі беларускай моладзі, перабудова дзейнасці «Стральца» ў накірунку задавальнення патрэб моладзі, пашырэнне абсталявання святліц, выдзяленне

новых штатных кадраў, падрыхтоўка і перападрыхтоўка ў шырокім аб'ёме кіраўнікоў з ліку самой моладзі [34, арк. 13].

Як сведчыла тагачасная афіцыйная прэса, кіраўніцтва стралецкай арганізацыі надавала значную ўвагу правядзенню гэтай падрыхтоўкі ў выглядзе розных курсаў. Матэрыяльнае забяспячэнне гэтай дзейнасці ажыццяўлялі як мясцовая дзяржаўная адміністрацыя, так і сілавыя структуры 2-й РП. Так, у снежні 1933 г. у Баранавічах адбыўся курс грамадзянскага выхавання для 50 рэферэнтаў «Стральца» Баранавіцкага і Слонімскага паветаў. На яго адкрыцці прысутнічалі павятовы стараста, прадстаўнік 78-га пяхотнага палка, мясцовы школьны інспектар. Кватэры і харчаванне навучэнцы атрымлівалі ў гарадскіх казармах імя Р. Траўгута [179, с. 9].

У ліпені 1934 г. у Троках адбыўся курс перадавікоў стралецкага саюза Віленскай падакругі. На ім у час тэарэтычных і практычных заняткаў разглядаліся пытанні ідэалогіі «Стральца», яго ўдзелу ў грамадскім жыцці вёскі, ролі перадавікоў, клубнай працы, фізічнага выхавання і ваеннай падрыхтоўкі. Апеку над курсам ажыццяўляла кіраўніцтва батальёна КАП «Трокі» [178, с. 4].

Адначасова вялікую ролю ў прыцягненні моладзі ў стралецкі саюз адыгрывалі льготы, якія прадастаўляліся ўдзельнікам арганізацый ВП (скарачэнне тэрміну ваеннай службы, права на выбар роду войскаў і г. д.). Палескі ваяводскі камітэт ФВ і ВП у адной са сваіх справаздач прызнаваў, што «ў значнай колькасці атрадаў жаданне працаваць у ВП абапіраецца толькі на спадзяванні на тое, што члены арганізацыі атрымаюць за працу ў будучым пэўныя льготы на ваеннай службе» [22, арк. 53].

Важным было і тое, што ва ўмовах эканамічнага крызісу кіраўніцтва «Стральца» магло садзейнічаць атрыманню працоўнага месца сваім членам. Так, у Брэсце пад эгідай стралецкай арганізацыі існавала «пасрэдніцтва працы», якое займалася праблемай ліквідацыі маладзёжнага беспрацоўя [23, арк. 380]. Стральцы заўсёды маглі разлічваць на матэрыяльную падтрымку з боку ўлад. Напрыклад, на Віленшчыне ў час голаду 1934 г. гмінныя рады аказвалі дапамогу збожжам у першую чаргу тым сельскім гаспадарам, якія з'яўляліся членамі стралецкага саюза [56, с. 356]. Прадугледжваліся і іншыя «прэрагатывы» для членаў ваенізаваных аб'яднанняў. Вядома, што ў мэтах прапаганды

ваенізаваных саюзаў моладзі камандуючы акругай № 9 «Брэст» генерал М. Рысь-Траяноўскі дамогся ад гаспадароў кінатэатраў «пэўных саступак, ільгот і прэрагатываў членам арганізацый ваеннай падрыхтоўкі» [1, арк. 72].

Пагоня за рознымі льготамі, якія існавалі для членаў аб’яднання, не магла не адбіцца на якасці членства ў арганізацыі. Таму мае рацыю справаздача КСМЗБ з Белавежы за кастрычнік 1934 г., у якой адзначалася: «Стральцы — гэта надзьмуты пузыр, не болей. Туды панабіралі вясковых падлеткаў, якія ідуць дзеля таго, што пускаюць у кіно бясплатна. Вось іх ідэйнасць» [42, арк. 72]. Пра нізкую ідэйнасць мясцовых стральцоў паведамляў і камендант ваеннай падрыхтоўкі з Кобрына: «Ідэйнасць членаў, за невялікім выключэннем, мізэрная. Удзел у працы прымаюць па карыслівых матывах. З ідэйных перакананняў працуюць адзінкі, якія ў большасці знаходзяцца на кіруючых пасадах стралецкага саюза» [11, арк. 12].

Але было б памылкай ацэньваць усіх стральцоў як людзей, якія імкнуліся ў арганізацыю толькі за матэрыяльнымі льготамі. Моладзь далучалася ў саюз і праз умела арганізаваную патрыятычную прапаганду, магчымасць удзельнічаць у розных спаборніцтвах, паходах, забаўляльных мерапрыемствах. Так, кіраўніцтва Віленскай падакругі «Стральца» стварыла ў 1935 г. «Усеагульны тэатр стралецкага саюза». Яго мэтай было правядзенне прапагандысцкай і асветніцкай працы шляхам арганізацыі адпаведных спектакляў на тэрыторыі падакругі. За рэпертуар адказвала спецыяльная літаратурна-артыстычная камісія, аматарскі калектыў тэатра складаўся з 14 чалавек. Ужо за некалькі першых тыдняў існавання тэатра яго спектаклі наведалі 1 500 чалавек [152, с. 3].

Для моладзі, якая шукала прымянення сваім сілам і энэргіі, стралецкая арганізацыя прапаноўвала шмат магчымасцей для самарэалізацыі. Работнікі заходнебеларускага камсамола прызнавалі, што сярод членаў «Стральца» ёсць і «баявыя элементы, якія ірвуцца да якой-небудзь працы, і фашызм выкарыстоўвае іх актыўнасць у сваіх інтарэсах» [34, арк. 98].

Па магчымасці найбольшую колькасць моладзі імкнуўся ахапіць і ССМ «Сеў»—СМВ. Але доўгі час гэтаму перашкаджала арганізацыйная раздробленасць «санацыйных» аб’яднанняў

вясковай моладзі. Справа ў тым, што калі з канца 1920-х гг. на Палессі і Віленшчыне дзейнічалі ваяводскія філіялы ССМ «Сеў», то на тэрыторыі Навагрудскага ваяводства пасля расколу ЦССМ аформіўся аўтаномны Саюз сельскай моладзі Навагрудскай зямлі (Związek Młodzieży Wiejskiej Ziemii Nowogródzkiej). Калі ў 1930 г. перад гурткамі сельскай моладзі паўстала пытанне пра далучэнне да «Севу» ці «Віцы», быў праведзены спецыяльны з'езд. На ім аднагалосна было прынята рашэнне «захаваць дзеля дабра маладой ускраіннай вёскі і дзеля дабра дзяржаўнай справы поўную самастойнасць і незалежнасць ад цэнтралей у Варшаве, каб абараніць нашу тэрыторыю ад непажаданай і шкоднай арганізацыйнай барацьбы ў нездаровай атмасферы». «Віцы» і «Сеў» былі вымушаны згадзіцца з такім рашэннем [4, арк. 4]. Але трэба адзначыць, што абвешчаная аўтаномія была адноснай. Так, ССМ Навагрудскай зямлі накіроўваў сваіх дэлегатаў на ўсе з'езды, канферэнцыі і курсы, якія арганізоўваў ССМ «Сеў». Акрамя таго, навагрудчане выкарыстоўвалі і яго выдавецкія магчымасці, друкуючы на старонках «Сева» свае справаздачы [232, с. 65].

У пачатку 1930-х гг. на Навагрудчыну спрабаваў прасачыцца і скласці канкурэнцыю ССМ Навагрудскай зямлі СНМ. Гэта выклікала канфлікт арганізацыі з навагрудскім саюзам, які патрабаваў ад СНМ адмовіцца ад працы на тэрыторыі ваяводства, ліквідаваць свае гурткі ці перадаць іх пад кіраўніцтва ССМ Навагрудскай зямлі [4, арк. 4]. Тым не менш гурткі СНМ працягвалі дзейнічаць у Стаўбцоўскім, Баранавіцкім і Навагрудскім паветах. Дарэчы, падобная «барацьба за душы» разгарнулася паміж СНМ, з аднаго боку, і ССМ і «Стральцом» — з другога, на Беласточчыне [4, арк. 1—3].

Як ужо адзначалася вышэй, уладамі была праведзена ўніфікацыя праўрадавага маладзёжнага руху ў вёсцы. Першы крок да гэтай уніфікацыі быў зроблены на Беласточчыне. У кастрычніку 1931 г. у Беластоку па ініцыятыве мясцовага ваяводы М. Жындрам-Касцялкоўскага адбыўся з'езд дэлегатаў гурткоў ваяводскага ССМ «Сеў» і СНМ, на якім прысутнічалі каля 300 дэлегатаў з усяго ваяводства. У сваёй прамове на з'ездзе ваявода падкрэсліў, што з моманту заняцця сваёй пасады ён пастаянна імкнуўся да таго, каб ССМ і СНМ, якія «вызнаюць адну і тую ж ідэалогію, маюць адны і тыя ж мэты і задачы», аб'ядналіся ў адну арганізацыю. Паколькі

на ўзроўні цэнтральных органаў у Варшаве гэтага зрабіць не ўдалося, ваявода вырашыў правесці ўніфікацыю на падначаленай яму тэрыторыі. Дэлегаты прынялі рашэнне аб аб'яднанні сваіх арганізацый [173, с. 2].

Як адзначала афіцыйная прэса, «быў пакладзены канец таму ненармальнаму становішчу, калі дзве арганізацыі ідэнтычнай грамадска-палітычнай афарбоўкі змагаліся паміж сабой на тэрыторыі нашай вёскі за арганізацыйны ўплыў, таргуючыся паміж сабою і выклікаючы цалкам непатрэбнае браджэнне на найбольш чуллівай пляцоўцы, маладзёжнай» [334, с. 1]. Але неабходна адзначыць, што на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства канчатковая ўніфікацыя «санацыйных» аб'яднанняў вясковай моладзі не адбылася. У 1934—1935 гг., калі ствараўся СМВ, цэнтральнае кіраўніцтва СНМ выказалася супраць гэтага, у выніку чаго частка гурткоў арганізацыі працягвала існаваць самастойна ад СМВ [302, с. 17].

На іншых тэрыторыях Заходняй Беларусі ўніфікацыя праўрадавых арганізацый вясковай моладзі адбылася пазней, у ходзе стварэння СМВ. Напрыклад, вядома, што павятовыя з'езды ў Стоўбцах і Слоніме, на якіх абмяркоўвалася пытанне аб'яднання вясковых арганізацый моладзі, адбываліся ў маі 1935 г. [328, с. 9]. Да таго часу ўлады канчаткова прынялі рашэнне аб стварэнні адзінага СМВ.

Што да складу ССМ «Сеў», а потым СМВ, то гэтыя саюзы аб'ядноўвалі дзяцей працаўнікоў мясцовай польскай адміністрацыі, асаднікаў, палякаў і беларускіх сялян польскай арыентацыі [73, с. 297]. У якасці прыкладу можна прывесці дадзеныя аб нацыянальным складзе ССМ «Сеў» Ашмянскага павета, якія адносяцца да 1933 г. Тут з 622 членаў арганізацыі палякамі былі 563 чалавекі, беларусамі з'яўляліся 49 і літоўцамі — 10 [336, с. 6]. Усяго ж па Віленскім ваяводстве ў 1934 г. у 248 гуртках «Сева» было 3 610 членаў, з іх палякаў — 3 016, беларусаў — 395, літоўцаў — 140 чалавек. Тагачасная афіцыйная віленская прэса заяўляла, што «ўсе яны без якой-небудзь нацыяналістычнай нянавісці разам працуюць над узняццем сваіх вёсак з нізін цемры і галечы ...веліч гэтай задачы прымірае і гасіць усе антаганізмы, якія імкнецца прышчапіць ім нядобрасумленная палітычная агітацыя» [290, с. 8].

Пры гэтым неабходна адзначыць, што ўлады імкнуліся да таго, каб мясцовыя арганізацыі ўзначальвалі менавіта палякі. Так, у адным з дакументаў аддзела грамадскай бяспекі Палескага ваяводства адзначалася, што «стварэнне змешаных арганізацый з'яўляецца пажаданым пры ўмове, што кіраўніцтва такіх арганізацый павінна знаходзіцца ў польскіх руках і ў праўленнях павінен мець перавагу яўны польскі элемент». Той жа дакумент даручаў павятовым старастам даведацца, «ці не з'яўляецца наплыў няпольскай моладзі ў гурткі вясковай моладзі планавай працай антыдзяржаўных элементаў з мэтай разгрому польскіх арганізацый у вёсцы» [3, арк. 12].

Дарэчы, пры стварэнні праўрадавых арганізацый моладзі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ўлады звярталі павышаную ўвагу на настроі мясцовага насельніцтва. У «нядобранадзейных» раёнах яны надавалі перавагу стварэнню менавіта гурткоў ССМ «Сеў»—СМВ, а не «Стральца». Напрыклад, у справаздачы Пінскага АК КПЗБ за ліпень 1934 г. паведамлялася, што ў Высокаўскім раёне мясцовая адміністрацыя дабілася арганізацыі гуртка ССМ «Сеў», а не «Стральца», «матывуючы тым, што калі ім [мясцовай моладзі] даць зброю, то назаўтра яны пойдуць у лес» [38, арк. 35]. Падобная ж практыка існавала і на Навагрудчыне. Камендант Навагрудскай падакругі «Стральца» адзначаў у сваім рапарце: «Прымаючы пад увагу, што атрады "Стральца" праводзяць ВП, гэта значыць маюць зброю, яны арганізуюцца ў тых раёнах, дзе насельніцтва добразычліва ставіцца да польскай дзяржавы, адначасова там, дзе насельніцтва ставіцца варожа, стралецкі саюз не стварае сваіх атрадаў і вызваляе гэтую тэрыторыю для дзейнасці Саюза маладой вёскі» [18, арк. 6].

Агульны колькасны склад ССМ «Сеў»—СМВ вызначыць даволі складана. У першую чаргу гэтаму перашкаджае тое, што многія гурткі арганізацыі існавалі толькі фармальна. Як паведамляюць архіўныя матэрыялы, гурткі саюза «існуюць толькі на паперы... Яны ствараюцца часцей за ўсё пад уплывам войтаў і камендантаў пастарункаў для іх уласнай кар'еры» [43, арк. 63]. Вельмі частай з'явай была цякучасць кадраў, у выніку якой дзейнасць гурткоў спынялася, а потым зноў аднаўлялася. У матэрыялах ЦК КСМЗБ за 1933 г. адзначалася наступнае: «У адрозненне ад "Стральца" Саюз сельскай моладзі не ўяўляе сабою такой дысцыплінаванай

арганізацыі. Тут не толькі цякучасць у шэрагу гурткоў, але і заміранне, і паўторнае ажыўленне цэлых гурткоў, і нават гурткоў у цэлых мясцовасцях» [40, арк. 242].

Тым не менш на працягу ўсіх 1930-х гг. ССМ пашыраў сваю дзейнасць. Так, калі яго Палескае аддзяленне ў 1930 г. налічвала 132 гурткі [271, с. 5], то ў 1934 г. іх было ўжо 243 [273, с. 2]. Аўтаномныя навагрудская і беластоцкая арганізацыі вясковай моладзі ў 1934 г., на момант стварэння СМВ, аб’ядноўвалі 18 тыс. чалавек [232, с. 76]. Па падліках польскай гістарыяграфіі, агульная колькасць членаў СМВ на ўсёй тэрыторыі 2-й РП у 1938 г. дасягнула 170 тыс. чалавек [149, с. 165]. Пры гэтым лічыцца, што найбольшую актыўнасць арганізацыя праяўляла менавіта на тэрыторыі Заходняй Беларусі.

Дзейнасць іншых «санацыйных» маладзёжных арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі не набыла такога размаху, як у выпадку са стралецкім саюзам ці ССМ «Сеў»—СМВ. Так, напрыклад, СПХ ахопліваў у асноўным гарадскую школьную моладзь.

Гэта выразна выяўляецца на прыкладзе харцарства віленскіх харугваў. Так, на 1 студзеня 1929 г. Віленская жаночая харугва СПХ аб’ядноўвала 26 дружын, у якіх налічвалася 720 членаў. Акрамя непасрэдна віленскіх дружын, гэта былі харцарскія арганізацыі з Дзісны, Дукштаў, Глыбокага, Іўя, Немана, Ліды, Маладзечна, Свянцян, Смаргоні, Трокаў. Самай шматлікай была 1-я Віленская дружына імя Т. Касцюшкі, у якой было 44 харцаркі. Большасць з гэтых дружын узнікла ў 2-й палове 1920-х гг., найстарэйшымі з іх былі 1-я Віленская дружына імя Т. Касцюшкі (заснавана ў 1914 г.), 3-я Віленская дружына імя Э. Плятэр (1917 г.), 1-я Свянцянская дружына імя Ю. Пілсудскага (1919 г.) і 5-я Віленская дружына імя Ю. Сулкоўскага (1919 г.). Асноўная маса жаночых дружын дзейнічала на тэрыторыі ўсеагульных і прафесійных школ і гімназій. Тры дружыны (1-я Трокская імя Чарноўскай, 2-я Трокская імя Э. Шчанецкай і 1-я Віленская імя Т. Касцюшкі) аб’ядноўвалі вучаніц настаўніцкіх семінарый. І толькі адна жаночая дружына — Неманская імя каралевы Ядвігі — дзейнічала адначасова на тэрыторыі мясцовай фабрыкі і ўсеагульнай школы [145, с. 25—27].

Што да Віленскай мужчынскай харцарскай харугвы, то на 1 студзеня 1929 г. яна аб'ядноўвала 36 дружын, у якіх налічвалася 1 042 харцары. Акрамя Вільні, дружыны гэтай харугвы дзейнічалі ў Альберціне, Баранавічах, Глыбокім, Германовічах, Іўі, Лідзе, Немане, Нясвіжы, Навагрудку, Новай Вілейцы, Свянцянах, Ашмянах, Слоніме, Смаргоні, Шчучыне, Жыровічах. Самай шматлікай (51 харцар) была 13-я Віленская дружына імя Завішшы Чорнага, т. зв. Чорная Трынаццатка. У адрозненне ад жаночых дружын, большасць мужчынскіх харцарскіх арганізацый узнікла ў першай палове 1920-х гг. Самымі старэйшымі сярод іх былі 1-я Нясвіжская дружына імя Завішшы Чорнага (1917 г.), 1-я Навагрудская дружына імя Т. Касцюшкі (1919 г.) і 1-я Слонімская дружына імя Т. Касцюшкі (1921 г.). З 36 дружын 14 працавалі на тэрыторыі ўсеагульных школ, 14 — у гімназіях, 4 — у настаўніцкіх семінарыях, 1 — у гімназіі і настаўніцкай семінарыі адначасова, 2 — у прафесійных школах. Толькі адна дружына (2-я Неманская імя Завішшы Чорнага) з'яўлялася пазашкольнай і дзейнічала на мясцовай шкляной гуце [121, с. 33—34].

Калі ж параўноваць харцарскія харугвы, якія дзейнічалі на тэрыторыі ўсходніх ваяводстваў міжваеннай Польшчы, з харугвамі з іншых рэгіёнаў, то першыя былі самымі невялікімі. Так, па дадзеных сучасных польскіх даследчыкаў, у 1931 г. Віленская харцарская харугва налічвала 2 219 членаў, Палеская — 1 402, Беластоцкая — 2 681 чалавек. Для параўнання: Варшаўская харцарская харугва ў той жа час аб'ядноўвала 5 118 чалавек, Сілезская — 6 776, Вялікапольская — 9 931. Усяго ў СПХ на той час налічвалася 62 946 членаў [314, с. 936].

Пік дзейнасці АПМ, як гэта ўжо адзначалася вышэй, прыйшоўся на час эканамічнага крызісу. Пасля гэтага актыўнасць арганізацыі значна зменшылася. Так, на Беласточчыне першы «ачаг» АПМ быў створаны ў 1933 г. у Беластоку. На працягу наступнага года «ачагі» ўзніклі ў Лапах, Саколцы, Ваўкавыску і Друскеніках. Значную колькасць членаў арганізацыі складалі беспрацоўныя, асабліва гэта заўважалася ў Беластоку. Але ў 1935 г. была створана толькі адна ячэйка арганізацыі — у Сувалках. Далей адбываўся заняпад аб'яднання. Ужо ў 1937 г. пэўную дзейнасць вёў толькі «ачаг» у Беластоку. Такі стан рэчаў захаваўся да самага пачатку Другой сусветнай вайны [190, с. 55—56].

СПДМ і ЛМ дзейнічалі ў студэнцкім асяроддзі УСБ. Але ЛМ зрабіў пэўныя крокі па распаўсюджванні свайго ўплыву за ўніверсітэцкія межы. У цэлым гэтая спроба скончылася няўдала. Першапачаткова акцыя, дзякуючы падтрымцы ўлад, разгортвалася адносна паспяхова. Многія чыноўнікі і прадстаўнікі маладой інтэлігенцыі ўступалі ў ЛМ, спадзеючыся на хуткі кар’ерны рост. Віленскі кансерватыўны журналіст С. Мацкевіч адзначаў з іроніяй, што «гэтая моладзь аб’ядноўваецца з мэтай здабычы дзяржаўных пасад, якіх пачынае не хапаць, паколькі ўся польская інтэлігенцыя жадае стаць чыноўнікамі» [188, с. 239].

Першапачаткова антыкапіталістычная фразеалогія барацьбы «за справядлівую Польшчу, у якой дзеці будуць даведвацца пра беспрацоўе толькі ад настаўнікаў гісторыі, у якой сумеснае жыццё народаў не будзе патрабаваць пацыфікацыі і шыбеніц», рабіла ЛМ прывабным для часткі заходнебеларускай моладзі. Таксама яе прыцягваў антыклерыкалізм арганізацыі і негатыўнае стаўленне да яе касцёла. Так, у інфармацыі Беластоцкага АК КПЗБ паведамлялася, што ў Ваўкавыску група моладзі далучылася да ЛМ пасля таго, як мясцовы ксёндз абвясціў гэтую арганізацыю камуністычнай [41, арк. 114]. Асаблівую актыўнасць ЛМ выяўляў, як адзначалі крыніцы КПЗБ, там, дзе рабочая моладзь пакінула «санацыйныя» арганізацыі (у першую чаргу «Стралец»). Так, пасля забастоўкі тэкстыльшчыкаў на Беласточчыне ў 1933 г. і распаду там стралецкіх атрадаў на змену ім прыходзілі ячэйкі ЛМ [40, арк. 243].

Згодна з архіўнымі матэрыяламі, на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў складзе «младалегіянерскіх» атрадаў было звыш 1 тыс. чалавек, у асноўным палякаў, — рабочых і прадстаўнікоў дзяржаўнага апарату. Адначасова былі спробы стварэння ячэек ЛМ сярод вучняў старэйшых класаў школ. Найбольшую актыўнасць арганізацыя праяўляла на Беласточчыне [43, арк. 63].

Пасля таго як кіраўніцтва «санацыі» адмовілася ад апекі над саюзам, пачаўся яго крызіс. Аб гэтым, напрыклад, сведчыла справаздача грамадска-палітычнага аддзела Палескага ваяводскага праўлення. У ёй адзначалася, што ў сярэдзіне 1934 г. у Брэсце была арганізавана камендатура Палескай акругі ЛМ, якой падпарадкоўвалася 7 абводаў і 5 мясцовых гурткоў з больш чым 300 членамі. Але «асуджэнне метадаў працы ЛМ з боку кола

сеньёраў у 1935 г. стала паваротным пунктам у дзейнасці ЛМ на Палессі. Выдатныя асобы, якія актыўна ўдзельнічалі ў дзейнасці арганізацыі па ідэйных поглядах, у знак салідарнасці з колам сеньёраў, адмовіліся ад працы. Потым адпалі тыя, хто палічыў бессэнсоўным працягваць дзейнасць у аб'яднанні, якое афіцыйна асуджана дзяржаўнымі дзеячамі. У выніку ў Легіёне маладых засталіся толькі тыя, хто па прычыне сваіх амбіцый вырашыў утрымаць арганізацыю і не дапусціць яе самароспуску. Толькі дзякуючы іх намаганням у самым скарочаным стане утрымаліся камендатура акругі і 4 абводы (Брэст, Кобрын, Лунінец, Пінск), з якіх толькі адзін — Пінск — падае пэўныя прыкметы жыцця». Згодна са справаздачай, у красавіку 1936 г. ЛМ на Палессі налічваў каля 50 чалавек. Пры гэтым арганізацыя не мела ніякага ўплыву і не вяла ніякай дзейнасці [2, арк. 30].

Не вельмі паспяховай была і дзейнасць маладзёжнага крыла ЛНА. Найбольшую актыўнасць СМП і СМ ЛНА выявілі на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства. Як адзначаюць польскія даследчыкі, гарадскі сектар СМП «санацыі» тут давялося ствараць з самых асноў. У той жа час сельскі сектар СМП на Беласточчыне быў сфарміраваны за кошт той часткі СНМ, якая не далучылася да створанага раней СМВ. Фактычна менавіта на СНМ і абапіраўся маладзёжны рух ЛНА. Пры гэтым працэс стварэння гурткоў і інстанцый СМП расцягнуўся ў часе і быў перарваны пачаткам Другой сусветнай вайны. Тым не менш да сярэдзіны 1939 г. СМП дзейнічаў на ўсёй тэрыторыі Беластоцкага ваяводства, за выключэннем Ваўкавыскага павета. Усяго ён налічваў каля 130 аддзелаў і 2 500 членаў. Саюз не дасягнуў такога масавага характару, як іншыя «санацыйныя» арганізацыі моладзі. Так, напрыклад, СМВ на тэрыторыі Беластоцкага ваяводства ў той жа час налічваў каля 7 тыс. членаў [191, с. 86—87].

Філіялы СМП і СМ ствараліся і на іншых тэрыторыях Заходняй Беларусі. Вядома, напрыклад, што студэнцкае аддзяленне СМП было створана ў УСБ. Але на дадзены момант пра яго дзейнасць амаль нічога невядома.

Што да Палескага ваяводства, то афіцыйная справаздача аб дзейнасці ЛНА на Палессі ў 1938 г. паведамляла наступнае: «Служба маладых у справаздаўчы перыяд не змагла праявіць вялікай дзейнасці ў выніку ўзрушэнняў, выкліканых расколам

у Саюзе маладой Польшчы, які з’яўляецца асноўнай арганізацыяй Службы маладых ЛНА». Як прызнавалася ў справаздачы, уся праца СМ у рэгіёне зводзілася да нерэгулярна арганізаваных курсаў у Брэсце і Дубоі, дзе члены СМП і блізкіх да яго маладзёжных аб’яднанняў праходзілі арганізацыйную і прафесійную падрыхтоўку. На пачатаку 1939 г. СМП на Палессі знаходзіўся ў стадыі рэарганізацыі [253, с. 4].

Такім чынам, самымі масавымі і ўплывовымі маладзёжнымі арганізацыямі, створанымі «санацыяй» на тэрыторыі Заходняй Беларусі, сталі стралецкі саюз «Стралец» і ССМ «Сеў»—СМВ. Менавіта ў іх рамках і рэалізоўваліся асноўныя канцэпцыі ўрадавай маладзёжнай палітыкі.

## 5.2 Дзейнасць «санацыйных» маладзёжных арганізацый на тэрыторыі Заходняй Беларусі

Адным з галоўных накірункаў маладзёжнай палітыкі «санацыйнага» рэжыму стала ваенная падрыхтоўка маладога пакалення. Рэалізацыя гэтага накірунку была немагчымай без удзелу грамадскіх арганізацый. Школьныя атрады ВП не мелі магчымасці ахапіць ўсіх дапрызыўнікоў, паколькі ў 2-й РП сярэдняя школа была недасягальнай для большай часткі моладзі. Так, напрыклад, у 1935 г. з 574 тыс. юнакоў ва ўзросце 17—19 гадоў толькі 51 тыс. (каля 9%) наведвала сярэднюю школу [165, с. 85]. На тэрыторыі Заходняй Беларусі гэтыя лічбы былі яшчэ ніжэйшыя. Тым часам вайсковыя ўлады імкнуліся ахапіць ваенным навучаннем па магчымасці большую колькасць будучых салдат. У гэтым ім павінны былі дапамагчы праўрадавыя грамадскія аб’яднанні.

Сярод маладзёжных арганізацый найбольш актыўна і мэтанакіравана акцыю ВП праводзіў стралецкі саюз. Таксама ёю займаліся і іншыя саюзы. Напрыклад, сярод школьнай моладзі, акрамя створаных школьнымі ўладамі атрадаў ВП, гэтую працу вёў СПХ.

У 2-й РП існавала дакладна распрацаваная двухгадовая праграма навучання. Яна была падобнай як для школы, так і для грамадскіх арганізацый. ВП была падзелена на наступныя раздзелы: фізічнае выхаванне, стралковае навучанне, баявая падрыхтоўка, служба (муштра).

Раздзел фізічнай падрыхтоўкі прадугледжваў маршы, бег, кіданне гранаты, элементы фехтавання, спартыўныя гульні (футбол, баскетбол), лёгкую атлетыку, плаванне. Другая частка праграмы — стралковае навучанне — уключала вывучэнне зброі і навучанне стралковай справе [309, с. 7—9].

Баявая падрыхтоўка рыхтавала да паводзін у баі. Раздзел «Служба» ўключаў такія падраздзелы, як страявая падрыхтоўка, арганізацыя ўзброеных сіл, унутраная служба (вывучэнне армейскіх статутаў), салдацкія якасці, веды пра Польшчу, захоўванне ваеннай тайны [291, с. 2].

Як правіла, заняткі ВП праводзіліся рэгулярна, адзін-два разы на тыдзень. Усё навучанне дзялілася на дзве ступені: школа малодшых і школа старэйшых юнакоў. Навучанне завяршалі летнія лагеры. Згодна з інструкцыяй Дзяржаўнага ўпраўлення ФВ і ВП, на асобныя прадметы адводзілася пэўная колькасць часу (табл. 6 і 7).

Т а б л і ц а 6 — Размеркаванне часу ў школьных атрадах ВП [13, арк. 28]

| Прадмет | Школа | | Летнія лагеры (толькі для старэйшых юнакоў) |
|---|---|---|---|
| | малодшых юнакоў | старэйшых юнакоў | |
| Фізічнае выхаванне | 10 | 10 | 20 |
| Стралковае навучанне | 40 | 35 | 30 |
| Баявая падрыхтоўка | 40 | 45 | 50 |
| Служба | 20 | 20 | 5 |
| УСЯГО | 110 | 110 | 105 |

Т а б л і ц а 7 — Размеркаванне часу ў пазашкольных атрадах ВП [13, арк. 28]

| Прадмет | Школа | | Летнія лагеры (толькі для старэйшых юнакоў) |
|---|---|---|---|
| | малодшых юнакоў | старэйшых юнакоў | |
| Фізічнае выхаванне | 35 | 35 | 30 |
| Стралковае навучанне | 40 | 35 | 30 |
| Баявая падрыхтоўка | 35 | 40 | 40 |
| Служба | 20 | 20 | 5 |
| УСЯГО | 130 | 130 | 105 |

У летніх лагерах праводзіўся заключны экзамен, мэтай якога было вызначыць ступень падрыхтаванасці юнакоў. Пры гэтым рэкамендавалася экзаменаваць па прадметах, на якія часу для вывучэння адводзілася менш. Пасля паспяховай здачы экзаменаў адбывалася ўрачыстая выдача пасведчанняў аб заканчэнні другой ступені ВП. Умовы атрымання пасведчання прадугледжвалі завяршэнне першай ступені ВП, поўны год працы ў атрадзе старэйшых юнакоў, атрыманне «Польскай адзнакі спартовай», праходжанне прадугледжаных праграмай маршаў і стрэльбаў, заплыў (25 м вольным стылем), дастатковае авалоданне прадметамі навучання [13, арк. 28]. Пасведчанне аб другой ступені ВП давала правы на льготы пры праходжанні ваеннай службы.

Трэба адзначыць, што праграмма ВП на тэрыторыі Заходняй Беларусі мела некаторыя асаблівасці. Вядома, што ваенная дактрына Польшчы будавалася на планах абарончай вайны з СССР. У адпаведнасці з гэтым значная ўвага у час падрыхтоўкі стральцоў надавалася навучанню партызанскім дзеянням. Аб гэтым сведчаць, напрыклад, архіўныя дакументы ЦК КСМЗБ за 1932 г.: «У раёне Гродзенскай акругі праводзіліся ваенныя агляды асаднікаў. Там жа праводзіліся практычныя заняткі стральцоў. Гэтыя практыкаванні праводзіліся з разлікам падрыхтоўкі стральцоў да партызанскіх дзеянняў» [32, арк. 261]. Асаблівы націск рабіўся на развіццё стралецкай арганізацыі ў памежных з БССР паветах. Па няпоўных дадзеных, у 1933 г. там мелася 56 атрадаў «Стральца» агульнай колькасцю 1 695 чалавек. Яны былі «насаджаны» ўздоўж чыгункі і каля стратэгічных пунктаў. Напрыклад, уздоўж лініі Маладзечна—Вілейка дзейнічала 10 стралецкіх атрадаў, у якіх налічвалася 450 чалавек [40, арк. 114]. Няма сумнення, што ў польскіх ваенных існаваў разлік на выкарыстанне структуры «Стральца» для дыверсійнай і партызанскай дзейнасці на выпадак магчымага нападу з боку СССР.

Але ўсё ж такі яснай канцэпцыі выкарыстання «Стральца» на выпадак вайны не было, таму ў час вераснёўскай кампаніі 1939 г. гэтая арганізацыя не адыграла вялікай ролі. На тэрыторыі Заходняй Беларусі адмоўна адбілася не толькі адсутнасць канцэпцый, тут малая эфектыўнасць ВП была вынікам шэрагу іншых прычын. У першую чаргу гэта было негатыўнае ці ў лепшым выпадку абыякавае стаўленне значнай часткі мясцовага насельніцтва.

Акрамя таго, сваю ролю адыграла слабае развіццё камунікацый і цяжкае матэрыяльнае становішча мясцовых жыхароў.

Гэта можна прасачыць на прыкладзе справаздач мясцовых камітэтаў ФВ і ВП з 9-й ваеннай акругі. Так, у 1927 г. пра развіццё ВП на тэрыторыі Баранавіцкага, Навагрудскага і Нясвіжскага певетаў (раён 78-га пяхотнага палка) паведамлялася: «З арганізацыйнага пункту гледжання рэгіён развіты слаба. Вялікая плошча, слабыя шляхі зносін і малыя сродкі не дазваляюць лепшага развіцця. Да працы ў ВП больш імкнецца гарадскі элемент, вёска слаба разумее яе значнасць, выключэнне складаюць асаднікі, а з прызыўнікоў і рэзервістаў толькі тыя, хто з'яўляецца членамі аб'яднанняў». Згодна са справаздачай, у Слонімскім павеце (раён 79-га пяхотнага палка) «з гарадскога элементу больш за ўсё схільная да працы па ФВ і ВП школьная моладзь. З пазашкольнай моладзі толькі адзінкі ўцягнуты ў стралецкі саюз і харцарства. Сельская моладзь вельмі мала прысвячае сябе працы па ВП». У Косаўскім і Пружанскім паветах (раён 80-га пяхотнага палка) «умовы ВП неспрыяльныя па прычыне дрэнных камунікацый, неспрыяльнага размяшчэння ваенных частак і нядобразычлівых адносін да ВП пераважнай часткі нацыянальных меншасцей» [1, арк. 57].

Характэрным з'яўляецца параўнанне Брэсцкага і Влодаўскага паветаў (раён 82-га пяхотнага палка): «Значная неаднароднасць працы ВП. Дрэнныя сродкі камунікацый і перавага нацыянальных меншасцей на тэрыторыі Брэсцкага павета яшчэ больш перашкаджае правядзенню ВП... Больш спрыяльныя ўмовы вядзення працы ў Влодаўскім павеце, які ляжыць перад Бугам. Значны працэнт палякаў, пераважае сельскі элемент, які складае 95% у ВП» [1, арк. 58]. Як бачым, польская моладзь больш актыўна падтрымлівала ВП, чым яе беларускія аднагодкі.

Мясцовыя ўлады скардзіліся на тое, што насельніцтва проста не разумее неабходнасці ВП. Па іх меркаванні, у Пінскім, Лунінецкім і Столінскім паветах (раён 84-га пяхотнага палка) працы па ВП перашкаджае адсутнасць разумення ідэі ФВ і ВП. Акрамя таго, «інтэлігенцыя і духавенства наогул цалкам абыякава ставяцца да працы ВП... Сельская моладзь з'яўляецца беларускай і не мае ахвоты да ваенных заняткаў. Да працы ў ВП яе можна прыцягнуць толькі праз арганізацыю спорта, гульняў і забаў...» [8, арк. 59].

Адначасова тыя ж справаздачы адзначаюць станоўчыя адносіны да ВП у этнічна польскіх паветах. Аб гэтым сведчыць параўнанне колькасці насельніцтва, ахопленага дадзенай акцыяй. Так, калі ў раёнах 78-, 80- і 83-га пяхотных палкоў у дзейнасці арганізацый ВП у 1927 г. удзельнічалі 1 893 чалавекі, то ў раёне 35-га пяхотнага палка (Бяла-Падляскі павет) — 1 088, у раёне 34-га пяхотнага палка (Бельскі і Канстанцінаўскі паветы) — 1 044, у раёне 22-га пяхотнага палка (Седлецкі, Лукаўскі і Радзіньскі паветы) — 1 818 чалавек [1, арк. 55—56]. У шасці польскіх паветах акцыяй ВП было ахоплена ў два разы больш людзей, чым у сямі беларускіх. У сярэднім на адзін польскі павет прыпадала 658 членаў ВП, а на адзін беларускі — прыблізна 271.

У 1937/38 навучальным годзе на тэрыторыі 9-й ваеннай акругі ў 6 польскіх паветах (Седліцэ, Лукуў, Радзінь, Бяла-Падляска, Влодава, Бельск) налічвалася 312 атрадаў ВП агульнай колькасцю 5 749 чалавек. У той жа час у 9 беларускіх паветах (Баранавічы, Брэст, Драгічын, Кобрын, Косава, Навагрудак, Пінск, Пружаны, Слонім) існавала 316 атрадаў, якія ахоплівалі 6 343 чалавекі [15, арк. 1; 17, арк. 1]. Сярэднія суадносіны ўдзельнікаў ВП па польскіх і беларускіх паветах былі адпаведна 958 і 705.

Такім чынам, у дзейнасці структур ВП прадстаўнікоў беларускай моладзі было значна менш, чым польскай. Гэта было характэрным для 2-й РП, дзе нацыянальныя меншасці дастаткова варожа ставіліся да існаваўшай дзяржавы і яе структур, у тым ліку і да арміі. Аб гэтым, напрыклад, сведчаць справаздачы Міністэрства ваенных спраў аб летніх ваенных манеўрах 1934 г. Яны адзначаюць, што на польскіх тэрыторыях «адчуваецца праца адміністратыўных улад у накірунку тлумачэння грамадзянам таго, чым з'яўляецца армія і як належыць да яе ставіцца». У той жа час у мясцовасцях, заселеных славянскімі меншасцямі, здараліся «правакацыі камунізаванай беларускай моладзі, знявагі салдат і атрадаў, адмовы выдзеліць кватэры і падводы, і нават крадзяжы зброі» [183, с. 66].

Зразумела, што ў такіх умовах акцыя ВП, ініцыятарам і кіраўніком якой з'яўлялася армія, не сустракала дастатковай падтрымкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Сітуацыя з адносінамі мясцовай моладзі да польскай дзяржавы і яе палітыкі не магла задавальняць «санацыйны» рэжым. Змяніць становішча, па

меркаванні ўлад, павінна было адпаведнае грамадзянскае выхаванне падрастаючага пакалення. Акрамя ваеннай падрыхтоўкі, яно стала важнай часткай дзейнасці праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў. Асаблівую актыўнасць у гэтым накірунку выяўляў стралецкі саюз. Згодна з інструкцыяй, якая была падрыхтавана віленскім кіраўніцтвам «Стральца», мэтай гэтага выхавання было «даць усебаковае уяўленне аб Айчыне, аформіць дзяржаўны інстынкт, прывучыць да дысцыпліны і падпарадкавання ўладзе, развіваць пачуццё патрыятызму і адданасці традыцыям, сфарміраваць моцныя характары» [40, арк. 117].

Асаблівая ўвага грамадзянскаму выхаванню стала надавацца ў другой палове 1930-х гг. Пры гэтым адзначалася сувязь грамадзянскага выхавання і ўмацавання абароназдольнасці краіны: «Статуты ўсіх існуючых маладзёжных арганізацый сярод мэтаў і задач, акрамя іншага, маюць і выхаванне моладзі ў дзяржаўна-творчым духу. Гэтыя задачы трактуюцца разнастайна, і ў выніку ў моладзі не фарміруюцца тыя рысы, якія неабходны для ажыццяўлення грамадзянскіх задач, асабліва такога самага высокароднага абавязку, як служба ў арміі» [22, арк. 3].

У снежні 1936 г. у Брэсце адбылася нарада, арганізаваная акруговым кіраўніцтвам «Стральца» і прысвечаная актывізацыі грамадзянскага выхавання. На ёй было заяўлена, што «верай грамадзяніна-салдата павінна быць дзяржаўнасць Польшчы, службай — служба польскай дзяржаве». Ідэя службы аб'яўлялася зместам і сутнасцю грамадзянскага выхавання і павінна была прывівацца ў час розных адукацыйных ці выхаваўчых мерапрыемстваў, паколькі «без яе засваення выхаваўча-грамадзянская праца не выканае сваіх задач». На нарадзе выявілася ўзмацненне нацыяналістычных тэндэнцый у палітыцы «санацыі». Удзельнікі заяўлялі, што «польская дзяржава — гэта нацыянальная Польшча, да чужых народаў мы ставімся талерантна і прызнаём за імі роўнасць у правах, але ў барацьбе з ворагам не можам ім давяраць» [12, арк. 28]. Таксама на нарадзе прапаноўвалася ўзмацніць польскі ўплыў на крэсах, пры гэтым за ўзор браліся фашысцкая Італія і нацысцкая Германія: «Як італьянцы і немцы ідуць са сваёй культурай усюды, дзе могуць, так і мы павінны ісці з нашай культурай і прышчапляць яе на крэсах... Мы на гэтых землях з'яўляемся гаспадарамі, а не прышэльцамі» [12, арк. 31].

Практычным вынікам дадзенай нарады з’явілася спецыяльна распрацаваная «Праграма дзяржаўнага выхавання для ўзроставых выхаваўчых груп у аддзелах і пададдзелах стралецкага саюза», якая была выдадзена ў Брэсце ў 1937 г. Яна ўключала наступныя накірункі: арганізацыйнае выхаванне, дзяржаўнае выхаванне, прафесійная падрыхтоўка, чытанне, экскурсіі, культурна-мастацкае выхаванне [230, с. 5].

У ходзе рэалізацыі першай часткі праграмы стральцы вывучалі статут, гісторыю, традыцыі і звычаі сваёй арганізацыі. Дзяржаўнае выхаванне заклікана было рыхтаваць членаў саюза да «адпаведнага разумення сучаснага грамадска-палітычнага жыцця... актыўнага ўдзелу ў агульнай працы» [230, с. 6]. Кіруючыся гэтымі тэзісамі, члены арганізацыі абавязаны былі ведаць гісторыю Польшчы і яе дзяржаўны лад. Асаблівая ўвага надавалася гісторыі польскага нацыянальна-вызваленчага руху і польскіх узброеных сіл [230, с. 12]. Адначасова вывучаўся дзяржаўны і адміністрацыйны лад 2-й РП, майская Канстытуцыя 1935 г., гаспадарчае і грамадскае жыццё родных мясцін [230, с. 31].

Дух польскага ўра-патрыятызму з’яўляўся вядучай ідэяй стралецкага дзяржаўнага выхавання і рабіў яго састаўной часткай паланізацыі беларускай моладзі, знішчэння яе нацыянальнай самасвядомасці. Асабліва яскрава гэта выяўлялася на прыкладзе «стралецкай» інтэрпрэтацыі гісторыі. Напрыклад, польска-савецкая вайна, у выніку якой была захоплена Заходняя Беларусь, мела важнае «гістарычнае і выхаваўчае значэнне» і, на думку стралецкіх выхавацеляў, была «апошнім этапам умацавання межаў незалежнай Польшчы» [230, с. 23].

Прафесійная падрыхтоўка ў вёсцы ўключала розныя тэарытычныя і практычныя курсы ў рамках сельскагаспадарчай падрыхтоўкі (далей — СП) для «павышэння вытворчасці сельскай гаспадаркі і рацыяналізацыі спажывання і збыту сельскагаспадарчай прадукцыі». Гарадскія стральцы пад кантролем і пры падтрымцы стралецкага саюза авалодвалі якім-небудзь рамяством ці прафесіяй. Прынцыповай мэтай прафесійнай падрыхтоўкі кіраўніцтва арганізацыі лічыла забяспячэнне сваіх членаў працоўным месцам [230, с. 6].

Тры апошнія састаўныя часткі грамадзянскага выхавання павінны былі павышаць культурны ўзровень членаў «Стральца» і арганізаваць іх адпачынак.

Цэнтрамі грамадзянскага выхавання з'яўляліся святліцы (клубы). Лічылася, што яны даюць магчымасць «уздзейнічаць адначасова на розум, пачуцці і волю асобы, развіваць пэўныя яе асаблівасці і адначасова рыхтаваць яе да грамадскага жыцця і актыўнага ў ім удзелу» [229, с. 6]. У сувязі з гэтым, калі дазвалялі матэрыяльныя ўмовы, стралецкі саюз і іншыя праўрадавыя арганізацыі імкнуліся стварыць шырокую сетку сваіх святліц. Так, у 1935 г. у Вільні дзейнічалі 14 святліц «Стральца». Таксама ў горадзе існавала адна святліца праўрадавай АПМ [327, с. 259]. Зразумела, што ў правінцыі сітуацыя складвалася па-іншаму. Але і там праўрадавыя саюзы стваралі свае клубы. Калі для гэтага не было магчымасцей, ствараліся агульныя святліцы ці святліцы пры школах. У якасці прыкладу можна прывесці становішча ў палескім СМВ. У цяжкіх эканамічных умовах палескай вёскі саюз здолеў стварыць 45 толькі сваіх уласных святліц. Яшчэ 18 клубаў былі сумеснымі. Абсалютная ж іх большасць — 154 — дзейнічала пры школах [135, с. 120—121].

Само выхаванне праводзілася ў форме розных лекцый, чытанняў, канцэртаў, вечароў і г. д. Пры гэтым звярталася ўвага на неабходнасць развіцця самастойнасці і ініцыятывы ў радавых членаў арганізацыі. Моладзь павінна была самастойна авалодаць па магчымасці большым аб'ёмам прадугледжанага матэрыялу. Інструктары грамадзянскага выхавання і іншыя члены кіраўніцтва павінны былі прыходзіць на дапамогу і даваць парады толькі ў самых цяжкіх выпадках [230, с. 9].

Акрамя ваеннай падрыхтоўкі і грамадзянскага выхавання, як ужо адзначалася вышэй, важным накірункам урадавай маладзёжнай палітыкі стала прафесійная, у першую чаргу сельскагаспадарчая, падрыхтоўка маладога пакалення.

У адным з дакументаў Віленскай школьнай акругі заяўлялася: «Цяжкасці нашага эканамічнага і грамадскага жыцця маюць сваёй прычынай моцную адсталасць нашай вёскі. Сіла грамадства і яго ўнутраная згуртаванасць залежаць не ад высокага культурнага і інтэлектуальнага развіцця адзінак ці невялікіх груп, а ад высокай сярэдняй культуры ўсяго насельніцтва. Таму клопатам усіх, хто кіруецца грамадскімі катэгорыямі, павінна быць імкненне да найбольш хуткага павышэння культуры сельскага насельніцтва, самага шматлікага слоя ў дзяржаве» [214, с. 5].

Першапчаткова гэтую задачу на тэрыторыі Заходняй Беларусі, як і ва ўсёй 2-й РП, планавалася вырашыць з дапамогай народных сельскагаспадарчых школ. Менавіта таму той жа дакумент звяртаў увагу школьных настаўнікаў, якія працавалі ў сельскай мясцовасці, на неабходнасць тлумачэння значэння сельскагаспадарчых школ у час сходаў гурткоў ССМ, стралецкіх атрадаў і іншых маладзёжных арганізацый і заахвочвання моладзі да паступлення ў гэтыя школы [214, с. 5].

Як паказала практыка, народныя сельскагаспадарчыя школы не вырашылі пастаўленай перад імі задачы. Іх проста было недастаткова для таго, каб ахапіць значную частку сельскай моладзі. Гэта добра бачна на прыкладзе школ, якія дзейнічалі на тэрыторыі Віленскай школьнай акругі. У дадзеную акругу ўваходзілі Віленскае і Навагрудскае ваяводства (па 8 паветаў) і 4 паветы Беластоцкага ваяводства (Ваўкавыскі, Гродзенскі, Аўгустоўскі і Сувалкскі). Колькасць вясковага насельніцтва на гэтай тэрыторыі складала каля 2 356 тыс. чалавек. К сярэдзіне 1930-х гг. на 20 паветаў, якія ўваходзілі ў склад Віленскай школьнай акругі, прыпадала 13 народных сельскагаспадарчых школ (8 мужчынскіх і 5 жаночых). Штогод яны маглі выпусціць больш 500 чалавек. Пры гэтым вядома, што на тэрыторыі акругі штогод бацькоўскія гаспадаркі пераймалі каля 20 тыс. маладых сялян. Такім чынам, існаваўшыя народныя сельскагаспадарчыя школы маглі забяспечыць падрыхтоўку толькі 0,5% гэтых сіл [325, с. 2].

Сітуацыя на тэрыторыі Палескага ваяводства была не лепшай. Там у сярэдзіне 1930-х гг. на 10 паветаў прыпадала 6 народных сельскагаспадарчых школ [247, с. 10].

Курс навучання ў народных сельскагаспадарчых школах Віленскай акругі працягваўся 11 месяцаў (у мужчынскіх школах з 15 студзеня да 15 снежня, у жаночых — з 15 лістапада да 15 кастрычніка). У праграму ўваходзілі такія прадметы, як земляробства, жывёлагадоўля, агародніцтва, садаводства, пчалярства, арганізацыя асабістай гаспадаркі. Прафесійнае навучанне было цесна звязана з практычнымі заняткамі ў школьнай гаспадарцы. У жаночых школах праграма вывучэння земляробства была скарочанай на карысць вывучэння дамаводства. Акрамя набыцця прафесійных ведаў праграма прадугледжвала «гутаркі на этыка-рэлігійныя тэмы», вывучэнне справаводства, польскай мовы

і г. д. Само навучанне ў народных школах было бясплатным, вучні плацілі толькі за пражыванне ў інтэрнаце. Заняткі праходзілі штодня з 5 гадзін раніцы да 9 гадзін вечара [184, с. 540—541].

Нягледзячы на бясплатнае навучанне, афіцыйныя крыніцы адзначалі нізкую наведваемасць школ: часта кандыдатаў было менш, чым месцаў. Такое становішча тлумачылася «адсутнасцю сярод сельскагаспадарчага насельніцтва разумення неабходнасці навучання». Яшчэ адной прычынай нізкай наведваемасці называлася тое, што бацькі не жадалі адпускаць моладзь у школы, каб не страчваць на год бясплатнага работніка.

Адначасова адзначалася і тое, што вялікія цяжкасці сустракалі вучняў пасля заканчэння школы. Выкарыстаць на практыцы атрыманыя ў школе веды перашкаджаў недавер асяроддзя. Адмоўным момантам было і тое, што часта юнакі — выпускнікі школ прызываліся ў армію, не паспеўшы выкарыстаць веды ў сваёй гаспадарцы. Аўтары афіцыйнай справаздачы прызнавалі, што на першым этапе свайго існавання сельскагаспадарчыя школы не далі чаканага выніку [325, с. 3].

Патрэбу ў сельскагаспадарчым навучанні спрабавалі часткова задаволіць за кошт вандроўных сельскагаспадарчых курсаў. У Віленскай школьнай акрузе было пяць жаночых вандроўных сельскагаспадарчых школ. Яны праводзілі шэраг курсаў (працягласць 3—5 месяцаў), пераязджаючы з месца на месца 2-3 разы на год. Восенню 1936 г. падобныя вандроўныя курсы былі арганізаваны ў Ваўкавыскім павеце для мужчынскай моладзі. Згодна з афіцыйнымі дадзенымі, да канца 1935 г. мужчынскія сельскагаспадарчыя школы скончылі 1 855 вучняў, жаночыя школы — 982 вучаніцы і вандроўныя жаночыя курсы — 1 148 вучаніц. Разам — 3 985 чалавек [325, с. 6].

Гэтага было недастаткова для таго, каб рэальна павысіць культурны ўзровень сельскай моладзі. Таму, як і ў выпадку з ваеннай падрыхтоўкай, да дзейнасці па прафесійнаму навучанню моладзі разам з дзяржаўнымі органамі падключыліся шматлікія грамадскія структуры.

На тэрыторыі Заходняй Беларусі вялікую актыўнасць у дадзеным накірунку выяўляў Саюз асаднікаў. Згодна з уставам, адной з яго задач з’яўлялася «павышэнне гаспадарчага ўзроўню краіны, асабліва яе ўсходніх зямель». Для гэтага планавалася весці

шырокую культурна-асветніцкую і гаспадарчую дзейнасць як сярод членаў саюза, так і сярод мясцовага насельніцтва. Ствараліся школы, адукацыйныя і прафесійныя курсы [288, с. 375]. Вядома, што да 1939 г. пад апекай розных устаноў Саюза асаднікаў знаходзілася каля 1 500 чалавек моладзі [288, с. 250].

Адной з такіх устаноў быў Вясковы грамадскі ўніверсітэт у Прудзішчах пад Вільняй. Ён быў створаны ў 1935 г. на базе існаваўшых з 1928 г. грамадска-асветніцкіх курсаў. Мэтай гэтай установы была падрыхтоўка слухачоў да ўмелай арганізацыі працы ва ўласнай гаспадарцы, а таксама фарміраванне «адносін грамадзяніна да дзяржавы» [209, с. 161].

Дадзеная ўстанова была арыентавана на мясцовую сельскую моладзь: большасць навучэнцаў паходзіла з Віленскага ваяводства, астатнія — з іншых заходнебеларускіх ваяводстваў. Ад кандыдатаў на паступленне патрабавалася заканчэнне сельскагаспадарчай школы, а таксама працяглая выніковая грамадская праца ў маладзёжных арганізацыях [209, с. 162]. Пад маладзёжнымі арганізацыямі разумеліся праўрадавыя аб’яднанні. Згодна з меркаваннем польскіх даследчыкаў, большасць слухачоў з’яўляліся членамі СМВ [288, с. 250].

Сельскі грамадскі ўніверсітэт павінен быў дапоўніць дзяржаўную сістэму сельскагаспадарчага навучання і падрыхтаваць кадры будучых актывістаў для гэтай сістэмы.

Але асновай навучання сельскай моладзі сталі конкурсы, якія праходзілі ў рамках СП. На тэрыторыі Заходняй Беларусі гэтыя конкурсы пачаліся, як і па ўсёй 2-й РП, у канцы 1920-х гг. Актыўны ўдзел у іх прымалі члены «санацыйных» маладзёжных аб’яднанняў. Кіраўнікі ССМ «Сеў» заяўлялі, што «сельскагаспадарчыя конкурсы павінны стаць сельскагаспадарчым і грамадзянскім выхаваннем моладзі. Праз сельскагаспадарчыя конкурсы канкурсант павінен у першую чаргу выхоўваць сябе, фарміраваць сваю волю і прыроджаны розум, заахвочваць розум да хуткага дзелавога мыслення» [270, с. 33—34].

Акрамя ССМ «Сеў»—СМВ, да акцыі СП далучыліся стралецкі саюз, а таксама каталіцкія аб’яднанні моладзі, якія першапачаткова займалі лідарства ў колькасці конкурсных калектываў. Як сведчыла афіцыйная справаздача, прысвечаная развіццю акцыі СП на тэрыторыі Віленскага ваяводства, за дзесяцігоддзе (1929—1938 гг.)

«на першапачатковым этапе колькаснай перавагай валодалі каталіцкія аб’яднанні моладзі, у апошнія ж гады на першым месцы (колькасна і якасна) утрымліваецца Саюз маладой вёскі; стралецкі саюз доўгі час не меў умоў для развіцця працы, паколькі не меў спецыяльных інструктарскіх кадраў» [298, с. 493].

Больш падрабязна дынаміку ўдзелу маладзёжных арганізацый у конкурсах дазваляюць ўявіць прыведзеныя ў той жа самай справаздачы лічбы (табл. 8).

Трэба адзначыць, што Віленскае ваяводства з’ўлялася адным з лідараў па правядзенні акцыі СП у міжваеннай польскай дзяржаве. Так, напрыклад, у 1933 г. па колькасці конкурсных калектываў яго абагналі толькі Варшаўскае — 637 калектываў (4 195 удзельнікаў) і Кракаўскае ваяводства — 615 калектываў (4 444 удзельнікі). На тэрыторыі Беластоцкага ваяводства дзейнічала 285 калектываў (2 551 удзельнік), дзякуючы чаму Беласточчына знаходзілася на 8-м месцы. Адначасова Палескае ваяводства займала 12-е месца (219 калектываў і 1 351 удзельнік), Навагрудскае ваяводства знаходзілася на 14-м месцы (109 калектываў і 759 удзельнікаў). Усяго на той час акцыя СП адбывалася на тэрыторыі 16 ваяводстваў [210, с. 6].

Т а б л і ц а 8 — Конкурсы СП Віленскага ваяводства [297, с. 464]

| Год | Маладзёжныя арганізацыі | | | | | | Па-за арганізацыямі | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | СМВ | | каталіцкія аб’яднанні моладзі | | стралецкі саюз | | | | | |
| | калектывы | удзельнікі | калектывы | удзельнікі | калектывы | удзельнікі | калектывы | удзельнікі | калектывы | удзельнікі |
| 1929 | 56 | 306 | 97 | 538 | — | — | 27 | 163 | 180 | 1 007 |
| 1930 | 137 | 859 | 153 | 966 | 5 | 32 | 26 | 180 | 321 | 3 037 |
| 1931 | 103 | 779 | 154 | 1 048 | 22 | 164 | 28 | 201 | 307 | 2 192 |
| 1932 | 127 | 898 | 219 | 1 579 | 35 | 299 | 27 | 201 | 408 | 2 977 |
| 1933 | 142 | 979 | 269 | 1 944 | 90 | 648 | 68 | 437 | 569 | 4 008 |

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1934 | 235 | 1 569 | 218 | 1 351 | 89 | 639 | 18 | 112 | 560 | 3 671 |
| 1935 | 219 | 1 346 | 193 | 1 147 | 93 | 641 | 34 | 196 | 539 | 3 330 |
| 1936 | 229 | 1 416 | 143 | 851 | 63 | 414 | 53 | 374 | 488 | 3 055 |
| 1937 | 231 | 1 512 | 161 | 1 021 | 80 | 527 | 31 | 186 | 503 | 3 246 |
| 1938 | 263 | 1 670 | 209 | 1 447 | 68 | 438 | 38 | 258 | 578 | 3 813 |

У час правядзення СП кіраўніцтва «санацыйных» арганізацый сутыкнулася з шэрагам цяжкасцей. У першую чаргу яны былі звязаны з наступствамі эканамічнага крызісу. Як адзначалася ў справаздачы Палескага ваяводскага ССМ «Сеў» за 1930 г., «агульны крызіс у краіне адбіўся і на конкурснай працы сярод моладзі. Члены гурткоў неахвотна ставяцца да працы, тлумачаць сваё нежаданне тым, што павелічэнне ўраджаю і фінансавыя выдаткі немэтазгодны, паколькі нельга збыць выраблены зараз прадукты, а тым больш іх нельга будзе збыць, калі вытворчасць павялічыцца» [270, с. 16].

Нягледзячы на цяжкасці, акцыя СП развівалася як колькасна, так і якасна. Першапачаткова ў конкурснай працы пераважала прасцейшая тэматыка: вырошчванне буракоў, морквы, капусты. Паступова тэматыка ўскладнялася: агародніцтва, лён, жывёлагадоўля [296, с. 5]. Акрамя непасрэдна саміх конкурсаў, вялася вялікая праца па самаадукацыі. Кіраўніцтва праўрадавых маладзёжных саюзаў арганізоўвала курсы, якія займаліся не толькі сельскагаспадарчым навучаннем, але і выхаваннем ўдзельнікаў.

Зімой 1933 г. ваяводскае праўленне Палескага ССМ «Сеў» арганізавала 10-дзённыя вандроўныя грамадска-асветніцкія курсы. Згодна з праграмай, яны ўключалі наступныя раздзелы: навука аб сучаснай Польшчы (10 гадзін), методыка клубнай працы (8 гадзін), арганізацыйныя прынцыпы ССМ (6 гадзін), кааперацыя і сельскагаспадарчыя кааператыўныя арганізацыі (4 гадзіны), СП (30 гадзін), практычныя заняткі (30 гадзін). Курсы адбыліся на тэрыторыі 9 паветаў (Брэст, Кобрын, Драгічын, Пінск, Лунінец, Столін, Камень-Кашырскі, Пружаны, Косава). Імі былі ахоплены 177 гурткоў ССМ «Сеў», у асноўным члены праўленняў [3, арк. 110—111].

«Санацыйныя» маладзёжныя аб’яднанні прыцягваліся да вырашэння і іншых задач. Адной з іх была барацьба з маладзёжным беспрацоўем. Як ужо адзначалася вышэй, «санацыйны» рэжым спрабаваў вырашыць гэтую праблему шляхам арганізацыі «лагераў працы». У іх стварэнні і правядзенні, а таксама падрыхтоўцы кіруючых кадраў прымалі ўдзел і праўрадавыя саюзы. Так, напрыклад, асаблівую актыўнасць у гэтым накірунку выявіла навагрудскае аддзяленне АПМ. У пачатку 1930-х гг. яго членамі быў створаны працоўны лагер імя сенатара С. Свідэрскага ў Наваельні — прамыслова-аграрная гаспадарка на 8 га, якая заслужыла пахвалы на агульнапольскім з’ездзе АПМ [43, арк. 63]. У ходзе аказання дапамогі маладым беспрацоўным АПМ цесна супрацоўнічала з іншымі «санацыйнымі» аб’яднаннямі — ЛМ і ПВ [232, с. 98].

Значную ролю ў арганізацыі «лагераў працы» для беспрацоўнай моладзі адыграў стралецкі саюз. Разам з іншымі «санацыйнымі» арганізацыямі «Стралец» вербаваў туды маладых беспрацоўных. У 1933—1934 гг. такія лагеры існавалі ў Беластоку, Вільні, на Палессі і Гродзеншчыне [43, арк. 138]. Гэта павінна было забяспечыць беспрацоўную моладзь працай, навучыць яе якой-небудзь прафесіі і такім чынам не толькі «абараніць стральцоў ад бедстваў беспрацоўя і яго фатальнага маральнага ўплыву», але і стаць «адным з элементаў агульнай барацьбы з наступствамі беспрацоўя» [232, с. 84]. Аднак вынікі гэтай дзейнасці былі далёкімі ад пажаданых. Цяжкія ўмовы жыцця і працы ў лагерах спалучаліся з казарменнай дысцыплінай і ваеннай муштрой. Архіўныя матэрыялы паведамляюць пра шматлікія выпадкі незадаволенасці моладзі. Так, летам 1935 г. стральцы, якія працавалі ў Пачапаўскай гміне (Навагрудскае ваяводства) на будаўніцтве дарогі, «на глебе эксплуатацыі і дрэнных адносін кіраўнікоў збілі свайго начальніка» [46, арк. 27].

Як ужо адзначалася вышэй, у 1936 г. «лагеры працы» былі перададзены пад кантроль Міністэрству ваенных спраў, і на іх базе пачалося стварэнне юнацкіх атрадаў працы. У Брэсце была створана акруговая камендатура юнацкіх атрадаў працы, якой падпарадкоўвалася тэрыторыя ваенных акруг № 2 «Люблін», № 3 «Брэст» і № 9 «Гродна» [14, арк. 2]. Грамадскія арганізацыі былі адхілены ад непасрэднага ўдзелу ў правядзенні гэтай акцыі.

Але пры наборы кандыдатаў ў атрады ад іх патрабаваліся, акрамя ўсяго іншага, дакументы, якія пацвярджалі прыналежнасць да маладзёжных аб’яднанняў [16, арк. 2]. Зразумела, што меліся на ўвазе «санацыйныя» саюзы, такія, як «Стралец» ці АПМ. Як сведчаць архіўныя дакументы, выхаваўчая дзейнасць ў юнацкіх атрадах працы была падобнай на тое грамадзянскае выхаванне, якое праводзілася ў межах праўрадавых маладзёжных аб’яднанняў [16, арк. 26—31].

Адным з важнейшых накірункаў працы праўрадавых маладзёжных арганізацый стала дзейнасць у культурна-асветніцкай сферы і арганізацыі вольнага часу сваіх членаў. Для гэтага была створана даволі салідная база. Так, у распараджэнні Віленскага ваяводскага ССМ «Сеў» было 36 бібліятэк, 78 святліц (клубаў), 20 аркестраў, 21 радыёпрыёмнік [73, с. 297]. Гурткі Палескага аддзялення гэтай арганізацыі ў 1934 г. мелі 85 бібліятэк, 132 тэатральныя і 45 харавых калектываў [273, с. 4—5].

Падтрымка з боку ўлад дазваляла афіцыйным маладзёжным саюзам весці культурна-асветніцкую дзейнасць пры дапамозе самых сучасных на той час сродкаў. Так, вядома, што пры ССМ Навагрудскай зямлі існаваў аб’язны культурна-асветніцкі кінатэатр. Афіцыйная прэса паведамляла, што ў час з 7 снежня 1933 г. да 16 лютага 1934 г. адбыліся кінасеансы ў наступных мясцовасцях Навагрудскага, Нясвіжскага і Стаўбцоўскага паветаў: Кушалева, Ятра, Вялікія Лукі, Востраў, Белькаўцы, Гарадзішча, Ліпск, Крывошын, Шчарбінава, Волька, Шчасновічы, Зубялевічы, Салаўі, Гарбуноўшчызна, Лань, Орда, Зарутава, Падлессе, Дубава, Дарава, Калпеніца, Палонка, Карэлічы, Турэц, Дзераўная, Беліца, Несцяровічы, Шчорсы. Усяго кінасеансы наведалі больш за 1 500 чалавек [169, с. 7].

З мэтай прыцягнення беларускай моладзі тэатральныя гурткі праўрадавых арганізацый разам з польскімі п’есамі ставілі і творы беларускіх аўтараў. Але гэта было досыць рэдкай з’явай, з якой польскія ўлады вялі ўпартую барацьбу, як з праявамі нелаяльнасці. У справаздачы аддзела грамадскай бяспекі Палескага ваяводскага праўлення ў сувязі з дзейнасцю ССМ «Сеў» адзначалася: «У канцы 1928 г., калі асобныя гурткі яшчэ знаходзіліся ў стадыі арганізацыі, сярод моладзі, якая цягнулася к гэтым гурткам, можна было заўважыць тэндэнцыі да правядзення аматарскіх спектакляў

пераважна толькі на ўкраінскай і беларускай мовах, зараз гэты накірунак цалкам змяніўся, і ўся моладзь, якая належыць да гурткоў сельскай моладзі, на чале са сваім кіраўніцтвам з'яўляецца цалкам лаяльнай і дабра настроенай у адносінах да польскай дзяржавы» [5, арк. 2].

Кіруючыя органы ССМ «Сеў» звярталі вялікую ўвагу на тэатральны рэпертуар. Афіцыйна гэта тлумачылася клопатам пра маладое пакаленне, якое пад уплывам «палітычных уяўленняў кружыць вакол украінскіх ці расійскіх п'ес, якія не маюць з гэтай тэрыторыяй нічога агульнага» [270, с. 24]. «Чысціня» рэпертуара падтрымлівалася пры дапамозе адміністратыўных сродкаў. Калі ў верасні 1934 г. у адной з вёсак Браслаўскага павета група моладзі (члены «Стральца» і ССМ «Сеў») падрыхтавала спектакль па п'есе Я. Купалы «Паўлінка», ён быў забаронены па прычыне неадпаведнай абсталяванасці сцэны [79, с. 12].

У цэлым культурная дзейнасць праўрадавых маладзёжных саюзаў насіла яскравы паланізатарскі характар. У якасці культурнай працы ў паланізатарскім духу неабходна разглядаць і прыцягненне моладзі да арганізацыі і святкавання дзяржаўных свят 2-й РП, імянін маршала Ю. Пілсудскага, дажынак і іншых падобных мерапрыемстваў. Прычым гэта адбывалася не толькі на мясцовым узроўні. Традыцыйным стаў удзел сельскай моладзі крэсаў у Спальскіх дажынках пана Прэзідэнта РП, Свяце мора ў Гдыні і г. д. [273, с. 13—15].

Але трэба адзначыць, што нават афіцыйная прэса прызнавала, што культурна-асветніцкія мерапрыемствы, якія праводзілі «санацыйныя» арганізацыі, наведваліся мясцовым насельніцтвам у першую чаргу дзеля таго, каб паўдзельнічаць не ў афіцыйнай частцы, а ў розных забавах і танцах [160, с. 123].

У сувязі з гэтым вынік асветніцкай і выхаваўчай працы многіх гурткоў быў дастаткова нізкім. Нават самі члены гурткоў праўрадавых саюзаў паводзілі сябе не самым узорным чынам, аб чым сведчаць архіўныя крыніцы КПЗБ: «У вёсцы Варонічы Баранавіцкай акругі існуе Звензэк Млодзежы Вейскей, які налічвае 10—12 чалавек. Увесь час яны праводзяць у п'янках. Гэтая фашысцкая арганізацыя збівае да страты прытомнасці насельніцтва ўсёй вёскі» [28, арк. 361].

З іншага боку, дзякуючы выхаваўча-ідэалагічнай працы свайго кіраўніцтва, стралецкі саюз і ССМ «Сеў»—СМВ з'яўляліся апорай правядзення палітыкі польскіх улад на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Найбольш падрыхтаваныя стралецкія атрады прыцягваліся да ўдзелу ў пацыфікацыях і барацьбе з забастовачным рухам. На мяжы 1933—1934 гг. у час карнай экспедыцыі ў Кобрынскім павеце стралецкі атрад з Жабінкі ўдзельнічаў у разгроме ўкраінскіх кааператываў. У Чорнай Всі на Беласточчыне ў час забастоўкі лясных рабочых стральцы працавалі ў якасці штрэйкбрэхераў пад аховай паліцыі [24, арк. 95]. У Індурскім раёне стралецкія атрады, створаныя ў маёнтках, сачылі за парадкам напярэдадні рэвалюцыйных святаў, каб перашкодзіць рэвалюцыйнай агітацыі [28, арк. 361]. У раёне Гродна і Глыбокага створаныя па ініцыятыве мясцовых памешчыкаў атрады конных стральцоў (кракусаў) выкарыстоўваліся для аховы памешчыцкіх лясоў [58, с. 11]. У справаздачы Пінскага АК КСМЗБ за лістапад—снежань 1934 г. падкрэслівалася, што многія члены пінскага гарадскога атрада «Стральца» з'яўляюцца вучнямі школы, створанай польскай контрразведкай [38, арк. 14].

На Віленшчыне польскія ўлады прыцягвалі стральцоў да барацьбы з літоўскімі культурна-асветніцкімі арганізацыямі. Члены «Стральца» пры падтрымцы паліцыі ўдзельнічалі ў разгроме вечарынак, арганізаваных літоўцамі [56, с. 348].

Такая дзейнасць стралецкага саюза цалкам адпавядала задачам грамадзянскага выхавання, адной з мэтаў якога было «праяўленне рашымасці і ініцыятывы ў сферы падтрымання грамадскага парадку ў момант неабходнасці» [40, арк. 117].

Падобнай дзейнасцю на тэрыторыі Заходняй Беларусі займаліся і некаторыя гурткі ССМ «Сеў»—СМВ. Аб гэтым сведчыць, напрыклад, праца гуртка, створанага польскім настаўнікам у в. Пасінічы Слонімскага павета. Члены гуртка супрацоўнічалі з паліцыяй, нават атрымалі ад яе зброю. Яны ўдзельнічалі ў паліцэйскіх аблавах і разгроме камсамольскай ячэйкі, за што атрымалі прэмію ад слонімскага старасты [25, арк. 283—284].

Аднак неабходна адзначыць, што да барацьбы з рэвалюцыйным рухам у такіх маштабах, як «Стралец», ССМ «Сеў»—СМВ не прыцягваўся. Тым не менш яго гурткі выкарыстоўваліся польскімі ўладамі для ліквідацыі нацыянальна-асветніцкіх

арганізацый. Напрыклад, Беластоцкая акруговая ўправа ТБШ паведамляла, што ў маі 1932 г. у Гарадку павятовы стараста і прадстаўнік аддзела грамадскай бяспекі вымушалі членаў мясцовага гуртка ТБШ супрацоўнічаць са стральцамі і гуртком ССМ «Сеў». Драматычная секцыя гуртка ТБШ павінна была перайсці пад кіраўніцтва польскіх настаўнікаў. У выпадку адмовы ад супрацоўніцтва прадстаўнікі польскіх улад пагражалі ліквідаваць гурток ТБШ [57, с. 17].

У адной са справаздач аб жыцці нацыянальных меншасцей 2-й РП (канец 1929 г.), падрыхтаванай Міністэрствам унутраных спраў, адзначалася: «Заслугоўвае ўвагі тое, што насельніцтва ў Віленскім і Навагрудскім ваяводствах у большасці выпадкаў цалкам абыякава ставіцца да дзеячаў ТБШ і акцыі, якую яны праводзяць. Гэта знаходзіцца ў пэўнай сувязі з узрастаючым уплывам Саюза сельскай моладзі, асабліва на тэрыторыі Стаўбцоўскага і Нясвіжскага паветаў, дзе пацвярджаюцца выпадкі самастойнага роспуску гурткоў ТБШ пры адначасовым пераходзе іх членаў у Саюз сельскай моладзі» [276, с. 25].

Для больш эфектыўнай рэалізацыі асноўных накірункаў маладзёжнай палітыкі польскія ўлады імкнуліся наладзіць актыўнае ўзаемадзеянне паміж падначаленымі ім аб’яднаннямі, у першую чаргу паміж «Стральцом» і ССМ «Сеў»—СМВ. Напрыклад, у маі 1933 г. паміж Палескім ваяводскім ССМ «Сеў» і «Стральцом» было падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве, якое прадугледжвала сумеснае стварэнне і выкарыстанне святліц. Таксама планаваўся сумесны ўдзел у святкаванні дзяржаўных свят, у спартыўных і культурных мерапрыемствах. Группы ваеннай падрыхтоўкі, створаныя пры ССМ «Сеў», пераходзілі пад апеку павятовых камендантаў «Стральца», адначасова калектывы сельскагаспадарчай падрыхтоўкі стралецкага саюза карысталіся апекай інструктараў ССМ «Сеў». Таксама планавалася стварэнне аб’яднаных калектываў ваеннай ці земляробчай падрыхтоўкі ў выпадку, калі на месцах не было дастатковай колькасці членаў для самастойнай працы ў дадзеных сферах [272, с. 14].

15 кастрычніка 1937 г. было падпісана пагадненне аб узаемным супрацоўніцтве галоўных «санацыйных» арганізацый — стралецкага саюза «Стралец», СМВ, СПХ і АПМ [263, с. 59].

Апошняя спроба аб’яднаць намаганні праўрадавых арганізацый, якія працавалі сярод вясковай моладзі, адбылася непасрэдна напярэдадні Другой сусветнай вайны. У пачатку 1939 г. Міністэрства сельскай гаспадаркі 2-й РП вылучыла ідэю стварэння Земляробчай службы вясковай моладзі (Służba Rolnicza Młodzieży Wiejskiej). Гэтую ідэю падтрымала і кіраўніцтва Войска Польскага. Галоўнай мэтай арганізацыі была абвешчана падрыхтоўка непрызыўной вясковай моладзі да павышэння прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі і дапамогі суседзям. Сярод грамадскіх арганізацый, якія далучаліся да гэтай акцыі, былі не толькі праўрадавыя маладзёжныя аб’яднанні. Так, акрамя стралецкага саюза, СМВ і СМП, у склад Земляробчай службы вясковай моладзі ўключыліся каталіцкія маладзёжныя арганізацыі і ССМ «Віцы». Вясной 1939 г. пачалося стварэнне ваяводскіх і павятовых камісій Земляробчай службы. У ліпені 1939 г. яны распаўсюдзілі інструкцыі, згодна з якімі вясковая моладзь, акрамя павышэння прадукцыйнасці сельскай гаспадаркі, павінна была ўдзельнічаць у арганізацыі супрацьпаветранай і супрацьгазавай абароны, падтрымцы грамадскага парадку на вёсцы, рамонце дарог і мастоў [212, с. 122]. Зразумела, што ў сувязі з пачаткам ваенных дзеянняў належнага развіцця акцыя Земляробчай службы вясковай моладзі не атрымала.

Такім чынам, «санацыйныя» маладзёжныя арганізацыі адыгралі значную ролю ў рэалізацыі ўрадавай маладзёжнай палітыкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі. Найбольш актыўны ўдзел у гэтым прынялі стралецкі саюз і ССМ «Сеў»—СМВ, якія ахапілі сваім уплывам значныя масы моладзі, у першую чаргу на тэрыторыі сельскай мясцовасці.

«Стралец» дзейнічаў у сферы ваеннай падрыхтоўкі маладога пакалення і ўнёс значны ўклад у павышэнне абароназдольнасці польскай дзяржавы. Таксама ён праводзіў мэтанакіраваную працу ў сферы грамадзянскага выхавання, якое ва ўмовах Заходняй Беларусі насіла яскрава паланізатарскі характар. Згуртаваная ваеннай дысцыплінай стралецкая арганізацыя з’яўлялася апорай польскай улады, яскравым праяўленнем чаго было актыўнае прыцягненне стральцоў да пацыфікацый і барацьбы з забастовачным рухам.

ССМ «Сеў»—СМВ таксама актыўна падтрымліваў палітыку паланізацыі і правядзенне ваеннага навучання. Таксама ён вёў значную культурную і адукацыйную дзейнасць, якая, за рэдкім выключэннем, ішла ў праўрадавым рэчышчы і кіравалася прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі і сістэмы адукацыі Польшчы. Асноўнай сферай дзейнасці ССМ «Сеў»—СМВ стала рэалізацыя СП. Зразумела, што СП не магла вырашыць усіх праблем, якія існавалі ў заходнебеларускай вёсцы, аднак у некаторай меры яна садзейнічала павышэнню прадукцыйнасці мясцовай сельскай гаспадаркі.

## 5.3 Радыкалізацыя маладога пакалення і барацьба «санацыі» з яе праявамі ў маладзёжным руху

Адным з вынікаў сацыяльна-эканамічнага крызісу, які ахапіў Еўропу на мяжы 1920—1930-х гг., стала выразная радыкалізацыя моладзі. Гэтая з’ява знайшла сваё адлюстраванне і ў развіцці маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі. З аднаго боку, тут усё больш ўплыў сталі набываць левыя арганізацыі, у першую чаргу КСМЗБ, з другога — узмацнялася актыўнасць правых польскіх нацыяналістаў сярод віленскага студэнцтва.

Акрамя таго, як ужо адзначалася вышэй, радыкальныя настроі ўзмацняліся і ўнутры «санацыйных» студэнцкіх арганізацый, аб чым сведчыла ідэйная эвалюцыя іх дэкларацый. Таксама радыкалізацыя закранула і нізавыя структуры стралецкага саюза і ССМ «Сеў»—СМВ, што ніяк не ўваходзіла ў планы дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі. Яркім сведчаннем гэтага з’яўляюцца падзеі ў Супраслі ў ліпені 1933 г. Там у час сутыкненняў бастуючых тэстыльшчыкаў з паліцыяй стральцы выступілі на баку рабочых. Два стральцы былі забіты паліцэйскімі. Гэта прывяло да выхаду моладзі з супрасльскага атраду стралецкага саюза [58, с. 18—22]. Супрасльскія падзеі актыўна выкарыстоўваў у сваёй антыстралецкай агітацыі камсамол. Напрыклад, быў выдадзены адкрыты ліст супрасльскіх стральцоў з заклікам да моладзі выходзіць з членаў «Стральца» [43, арк. 109].

Але неабходна адзначыць, што былыя члены «Стральца» ў выпадку радыкалізацыі неабавязкова аўтаматычна станавіліся

членамі камсамола. Так, у Лапах на Беласточчыне 15 стральцоў перайшлі ў МА ТУР. Падставай жа да распаду атрада ў Лапах стала адмова кіраўніцтва стралецкай святліцы настроіць радыёпрыёмнік на перадачы з Масквы [36, арк. 283].

Не ўсё добра складвалася і ў гуртках СМВ. Згодна са справаздачай павятовай камендатуры ВП з Драгічына (1937 г.), «імкненнем гурткоў сельскай моладзі з'яўляецца пазбегнуць усялякага кантролю, яны неахвотна карыстаюцца апекай настаўнікаў, ствараючы праўленні з тых, меркаванне аб кім жадае быць лепшым: напрыклад, апошні старшыня СМВ з вёскі Упірава збег у Расію як камуніст» [18, арк. 14]. У вёсцы Дружылавічы таго ж Драгічынскага павету «праявы камуністычнай дзейнасці» былі ў тым, што старшынёй мясцовага гуртка СМВ быў аднагалосна абраны чалавек, які неаднаразова адбываў турэмнае зняволенне за камуністычную дзейнасць. Калі ўлады не зацвердзілі гэтага рашэння, члены арганізацыі «дэманстратыўна і сумесна пакінулі гурток» [19, арк. 9]. Не заўсёды знаходзіла падтрымку ў радавых членаў ССМ «Сеў»—СМВ і паланізатарская палітыка «санацыі». Напрыклад, мясцовая адміністрацыя з Пружанскага павета паведамляла (1937 г.): «Працу вясковай моладзі ў гэтай арганізацыі мы лічым вельмі непажаданай і шкоднай для дзяржавы. Яна культывіруе на мясцовай тэрыторыі замест польскасці беларусізм і русізм пад выглядам рэгіяналізму. У мясцовым клубе маладой вёскі, як і ў клубах на тэрыторыі павета, не чуваць іншых песень, акрамя беларускіх, украінскіх і рускіх. Старшыня гуртка маладой вёскі ў Пружанах Бобрык у свой час публічна заявіў, што Польшча з'яўляецца нічым іншым, як мачыхай для грамадзян. Такія адносіны да дзяржавы, і нават больш горшыя, можна пачуць сярод членаў названай арганізацыі ва ўсіх гуртках на тэрыторыі павета» [18, арк. 20].

Зразумела, што тут не абыходзілася і без дзейнасці мясцовых камсамольскіх актывістаў. Справа ў тым, што адным з галоўных накірункаў працы КСМЗБ было супрацьстаянне ўрадавай маладзёжнай палітыцы. Менавіта ў гэтым рэчышчы неабходна разглядаць узаемаадносіны камсамольцаў з іншымі маладзёжнымі саюзамі і аб'яднаннямі.

На працягу міжваеннага часу гэтыя ўзаемаадносіны развіваліся даволі складана. У першую чаргу гэта адносілася да праўрадавых

арганізацый. Так, «Стралец» разглядаўся камсамолам у якасці «вядучай маладзёжнай арганізацыі польскіх фашыстаў». У праграмных камсамольскіх дакументах адзначалася, што ў аснове ўсёй ідэалогіі «Стральца» ляжыць «незгасальнае жаданне Польшчы мець межы ад мора да мора, імкненне зруйнаваць дзяржаву рабочых і сялян». Небяспека стралецкага саюза для рэвалюцыйнага руху, на думку камсамола, была ў тым, што дадзены саюз ахопліваў значную частку рабочай і сялянскай моладзі. Перш за ўсё выклікала занепакоенасць правядзенне «Стральцом» грамадзянскага выхавання. Заяўлялася, што «“Стралец” павінен даць рабочаму такую школу “грамадзянскага выхавання”, каб ён стаў непахісны апорай парадку на фабрыцы, каб у спакойны час ён быў канфідэнтам, у час забастоўкі — штрэйкбрэхерам, у час акупацыі фабрыкі — тым, хто адчыняе вароты паліцыі, у час масавых рэвалюцыйных выступленняў — сілай, якая разбівае бастуючых са зброяй у руках, у час вайны — лепшым салдатам і ў першую чаргу пагрозай для бальшавізму» [7, арк. 14—15].

Калі адкінуць тэзіс аб фашысцкім характары стралецкай арганізацыі, дадзеная ацэнка мела рацыю. Сапраўды, як мы ўжо адзначалі вышэй, стральцы актыўна прыцягваліся польскімі ўладамі да барацьбы з камуністычным рухам. Таму ЦК КСМП, якому падпарадкоўваўся і заходнебеларускі камсамол, загадваў разгарнуць масавы рух супраць «Стральца», «акружыць яго кардонам нянавісці рабочых і сялян» і адначасова ўзмацніць працу ўнутры «Стральца». Пры гэтым асаблівую ўвагу належала звяртаць на «акупіраваныя тэрыторыі» (Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну), дзе стралецкі саюз «выяўляе асаблівую інтэнсіўнасць у сваёй працы і выступае як дапаможная сіла польскай акупацыі» [7, арк. 17].

Кіруючыся такімі дырэктывамі, лідары КСМЗБ імкнуліся аслабіць уплыў «фашысцкіх» арганізацый у маладзёжным асяроддзі праз агітацыю, байкот і нават тэрор. Уяўленне аб гэтай барацьбе даюць матэрыялы апытання, атрыманыя ЦК КСМЗБ са Слоніма ў чэрвені 1933 г.: «У вёсцы Салевічы з Кулкам вялася вельмі працяглая барацьба, прычым метады гэтай барацьбы былі няправільнымі: камсамол імкнуўся шляхам тэрору разбіць Кулка. Дайшло да таго, што група гэтых тыпаў спаймала двух

камсамольцаў і да таго збіла іх, што тыя два месяцы ляжалі ў бальніцы... Пасля гэтага арганізацыя выкарыстала іншы метад — індывідуальны падыход і агітацыю. Была спецыяльна выдадзена лятучка да гэтай арганізацыі ў вёсцы Салевічы і ў рэшце рэшт нам удалося дасягнуць поспеху» [40, арк. 19].

Але ў працы КСМЗБ з праўрадавымі арганізацыямі пераважалі менавіта метады фізічнага ўздзеяння. Таму і барацьба за ўплыў на маладое пакаленне была больш падобнай на звычайныя бойкі паміж вясковай моладдзю. Аб гэтым сведчаць шматлікія архіўныя матэрыялы. Так, у справаздачы Маладзечанскага АК КСМЗБ (снежань 1934 г. — красавік 1935 г.) паведамлялася, што «камсамольцы працаваць сярод стральцоў не ўмеюць; уся праца зводзіцца да боек» [45, арк. 14]. У раёне Крынак Гродзенскай акругі гурток ССМ «Сеў» з 40 чалавек распаўся пасля таго, як камсамольцы пачалі сістэматычна збіваць і запужваць яго членаў на вясковых вечарынках [33, арк. 140]. Аналагічныя факты адзначалі і афіцыйныя крыніцы. Так, адзін з выпускнікоў сельскагаспадарчай школы са Слонімскага павета паведамляў у сваім лісце, што «Стралец» не ўдалося стварыць, паколькі «моладзь прыцягнута неразумнымі камуністамі і застрашана, што яна будзе выгнана з забаў» [325, с. 100].

Аднак такі гвалтоўны падыход не апраўдваў сябе. Зразумела, што «разагітаваную» такім чынам моладзь было даволі складана прыцягнуць на бок КСМЗБ, што і выклікала крытыку камсамольцаў з боку кіраўніцтва КПЗБ за неўменне правільна працаваць з «варожымі» арганізацыямі.

Але былі і станоўчыя прыклады. Вышэй ўжо казалася аб тым, што беластоцкія камсамольцы прыцягнулі стральцоў да ўдзелу ў забастоўцы тэкстыльшчыкаў, і гэты выпадак не быў выключэннем. Так, у 1933 г. камсамольцы з Гродзенскага АК здолелі перацягнуць на свой бок каменданта буйнога стралецкага атраду (да 70 чалавек) у вёсцы Клімчаны (Сакольскі павет). Ён распусціў свой атрад і перадаў камсамольскаму падполлю 37 карабінаў са стралецкага арсеналу [34, арк. 98].

Камсамол ставіў перад сабой задачу ўцягвання радавых стральцоў у рэвалюцыйную барацьбу, разлажэнне «фашысцкай» дысцыпліны і ліквідацыі атрадаў. Але ЦК КСМЗБ у 1934 г.

прызнаваў, што «камсамол мае асобныя станоўчыя прыклады працы ў “Стральцы”, якія ў суме зусім не значныя» [43, арк. 15].

Неабходна адзначыць, што не менш упартым было супрацьстаянне і ўнутры самога левага маладзёжнага руху. У першую чаргу гэта было вынікам экстрэмізму і «левага сектанцтва» КСМП і КСМЗБ. Камсамол аб’яўляў МА ТУР і «Цукунфт» сацыял-фашысцкімі арганізацыямі, а ССМ РП «Віцы» — народніцка-фашысцкай. Радыкалізацыя ж гэтых арганізацый і іх імкненне змагацца за правы маладога пакалення абвяшчалася толькі «фразеалогіяй» і спробай «прыстасаваць метады сваёй агітацыі да рэвалюцыйных маладзёжных настрояў» [23, арк. 185]. Такая пазіцыя цалкам адпавядала канцэпцыі «сацыял-фашызму» як найбольшага ворага, якой кіраваўся ўвесь міжнародны камуністычны рух да сярэдзіны 1930-х гг. У адным з цыркуляраў ЦК КСМП было заяўлена: «Зараз як СЛ і ППС з’яўляюцца самымі небяспечнымі ворагамі ў сялянскім і рабочым асяроддзі, так і ССМ “Віцы” і ТУР — самыя небяспечныя ворагі сярод сялянскай і рабочай моладзі на шляху да рэвалюцыі і рабоча-сялянскай улады» [6, арк. 5].

Сацыял-дэмакраты ў адказ абвінавачвалі камуністаў у раскольніцтве і імкненні манапалізаваць рабочы рух. У адным з бундаўскіх заклікаў (1931 г.) адзначалася, што камуністы праводзяць «такую працу, якая замест рэвалюцыйнай справы вядзе да барацьбы рабочых з рабочымі. Яны жадаюць сілай прымусіць усіх рабочых ісці пад іх камандай» [27, арк. 96].

Яшчэ на мяжы 1920—1930-х гг. Камінтэрн, а значыць, і КСМЗБ пачалі ствараць «адзіны фронт». На практыцы гэта была толькі форма маскіроўкі ў барацьбе за ўплыў на масы, у тым ліку і на моладзь. Планавалася на аснове адзінафронтаўскай барацьбы «адрываць масы пралетарскай моладзі з-пад уплыву ППС, ТУРа, “Цукунфта” і рэфармісцкіх прафсаюзаў», ствараць у гэтых арганізацыях масавы апазіцыйны рух пад камуністычным кіраўніцтвам [23, арк. 217]. Такая практыка магла прывесці толькі да росту ўзаемнага недаверу і варожасці ўнутры дэмакратычнага лагера. Зразумела, што цэнтральнае кіраўніцтва МА ТУР і «Цукунфта» забараніла сваім пярвічным арганізацыям уступаць у кантакт з камсамолам. На месцах такія кантакты жорстка выкараняліся. Так, у канцы 1932 г., калі два камсамольцы

спрабавалі правесці масоўку ў віленскім аддзяленні «Цукунфта», іх адразу ж збілі і выкінулі з памяшкання [33, арк. 66].

Тым не менш камуністы здолелі пранікаць у яўрэйскія рабочыя арганізацыі, што тлумачылася аднолькавым нацыянальным складам гарадскіх ячэек КПЗБ і Бунда і, адпаведна, камсамола і «Цукунфта». Гэты працэс выклікаў заклапочанасць польскіх улад. У адной са сваіх справаздач аб становішчы нацыянальных меншасцей за 1931 г. яны адзначалі: «Рабочыя групоўкі падпадаюць пад працэс павольнага распаду ў выніку сістэматычнай і ўпартай дэструктыўнай працы з боку камуністаў. Пры дапамозе ўсялякіх ганебных і цынічных сродкаў камуністы прабіраюцца ў шэрагі рабочых груп, нават вельмі аддаленых ад якіх-небудзь максімалістычных лозунгаў, і туманяць асабліва маладыя розумы фантасмагорыямі будучага сацыялістычнага рая, згодна рэцэптам атаманаў дыктатуры, тэрора і правакацый. Расколваючы саюзы, дэзарганізуючы партыі, ламаючы партыйную дысцыпліну, ствараючы апазіцыю, каб потым адарваць яе і аб’яднаць з такой жа злачынна створанай імі апазіцыяй і арганізаваць новую партыю, як уласную замаскіраваную прыбудову» [277, с. 108].

Трэба адзначыць, што такіх поспехаў на тэрыторыі «санацыйных» арганізацый камсамол не дасягнуў. Спробы змяніць сітуацыю КСМЗБ рабіў з сярэдзіны 1930-х гг. У гэты час, згодна з рашэннямі VII Кангрэса Камінтэрна (чэрвень—ліпень 1935 г.), быў узяты курс на стварэнне сапраўды адзінага народнага антыфашыскага фронту ўсіх левых і дэмакратычных сіл. Задачы камсамола ў гэтых умовах удакладніў VI Кангрэс КІМ. Сярод 10 дэлегатаў Кангрэса ад КСМП знаходзіўся і М. Маслоўскі, першы сакратар ЦК КСМЗБ. У сваёй прамове ён падверг крытыцы сектанцтва камсамольцаў Заходняй Беларусі. Адначасова асаблівую ўвагу ён звярнуў на ССМ «Сеў» як найбольш масавую арганізацыю сялянскай моладзі ў рэгіёне, якую неабходна ператварыць у арганізацыю беларускай сялянскай моладзі. У цэлым М. Маслоўскі прызнаваў неабходнасць выпрацоўкі сумеснай платформы з усімі нефашысцкімі арганізацыямі «для барацьбы маладога пакалення за нацыянальную свабоду, за адукацыю на роднай мове, за зямлю, працу, мір» [306, с. 53].

Рашэнні VI Кангрэса КІМ, акрамя ўсяго іншага, прадугледжвалі пераход да легальнай і паўлегальнай дзейнасці ў межах легальных саюзаў, у тым ліку «фашысцкіх» [82, с. 160].

У сувязі з курсам на адзіны фронт змяніліся адносіны камсамольцаў да праўрадавых арганізайцый, у першую чаргу да іх радавых членаў. У гэты час КСМЗБ імкнуўся выкарыстоўваць ячэйкі праўрадавых маладзёжных саюзаў для легальнай масавай працы, арыентуючыся на супрацоўніцтва з імі, а не на ліквідацыю любым спосабам. Так, у пісьме ЦК КСМЗБ ад 9 верасня 1935 г. камсамольскім арганізацыям і іх лідарам рэкамендавалася супрацоўнічаць у барацьбе за школу на роднай мове з гурткамі ССМ «Сеў» і нізавымі структурамі «Стральца» [44, арк. 27].

Камсамолу Заходняй Беларусі сапраўды ўдалося наладзіць супрацоўніцтва з іншымі маладзёжнымі арганізацыямі. Згодна з дадзенымі сучаснай беларускай гістарыяграфіі, да канца 1936 г. розныя адзінафронтаўскія маладзёжныя аб'яднанні ахоплівалі каля 6 тыс. чалавек [69, с. 77]. Але ў большасці выпадкаў гэта былі члены левых арганізацый, а не праўрадавых саюзаў моладзі.

Аднак стварыць паўнавартасны адзіны фронт маладога пакалення не атрымалася. З аднаго боку, камсамол не здолеў цалкам пазбавіцца ад «левага» сектанцтва і імкнуўся заняць дамінуючае становішча ў адзіным фронце. З другога — кіраўніцтва Бунда і ППС асцерагалася паліцэйскіх рэпрэсій за супрацоўніцтва сваіх маладзёжных філіялаў з камуністычным рухам і не падтрымлівала адзінафронтаўскіх акцый. Але самым сур'ёзным ударам для левага маладзёжнага руху і адзінага антыфашысцкага фронту стаў роспуск КПП, а значыць, КПЗБ і КСМЗБ, калі ўвесь камуністычны рух быў абвінавачаны ў супрацоўніцтве з польскай контрразведкай.

Зразумела, што такія абвінавачванні не адпавядалі рэчаіснасці. Але неабходна прызнаць, што польскія спецслужбы сапраўды прыкладалі шмат намаганняў у барацьбе з левым радыкальным рухам, у тым ліку шырока выкарыстоўваючы метады правакацыі і інфільтрацыі сваіх агентаў у шэрагі камуністычнага і камсамольскага падполля.

Кантроль за грамадска-палітычнай сітуацыяй ажыццяўлялі розныя паліцэйскія структуры. З 1926 г. гэта былі аддзелы грамадскай бяспекі ваяводскіх праўленняў, ваяводскія

камендатуры паліцыі і следчыя камітэты. Яны таксама цесна супрацоўнічалі ў гэтым накірунку з 2-м аддзелам Генштаба Войска Польскага (контрразведка), ці сумнавядомай дэфензівай. Кантроль складаўся ў выяўленні межаў паміж легальнай дзейнасцю ў рамках закона і нелегальнымі акцыямі падрыўнога характару. У першым выпадку пад наглядам знаходзіліся ўсе грамадскія арганізацыі (у тым ліку і праўрадавыя маладзёжныя саюзы). Супраць арганізацый, якія вялі забароненую дзейнасць, ажыццяўляўся не толькі нагляд, але і рэпрэсіі, накіраваныя ў асноўным супраць камуністычнага руху [199, с. 281].

У барацьбе з антыдзяржаўнай дзейнасцю вялікі націск рабіўся на працы з інфарматарамі — канфідэнтамі. Задачай канфідэнта з'яўляўся збор інфармацыі, якая цікавіла паліцыю, і правядзенне «дэструктыўных дзеянняў у антыдзяржаўным асяроддзі (дэзінтэграцыя і правакацыя)». Асабліва высока ацэньваліся «ўнутраныя інфарматары», якія маглі выкарыстоўвацца ў камбінацыйных акцыях. Канфідэнты маглі быць сталымі ці выпадковымі, платнымі ці «ідэйнымі». Большасць канфідэнтаў кіравалася матэрыяльнымі матывамі. Аднак іх вербавалі не толькі за грошы. Часта выкарыстоўваўся шантаж, псіхалагічны і фізічны прымус. Кожнае паліцэйскае праўленне імкнулася стварыць шырокую сетку канфідэнтаў, каб мець поўную інфармацыю аб грамадска-палітычнай сітуацыі [199, с. 284—286]. Менавіта на аснове гэтай інфармацыі і праводзіліся рэпрэсіі.

Актыўнасць польскіх спецслужб стварыла надзвычай складаныя ўмовы для канспіратыўнай дзейнасці КСМЗБ. Яны здолелі шырока ўкараніць сваіх інфарматараў і правакатараў у камсамольскае асяроддзе. Так, у справаздачы Брэсцкага АК КСМЗБ (май—жнівень 1934 г.) паведамлялася: «Дэфензіва імкнецца пралезці ў арганізацыі і знутры раскладаць іх. У Пружанах і Бярозе-Картузскай яна здолела гэта зрабіць. Гэтыя два раёны зараз цалкам знаходзяцца ў руках дэфы». У той жа справаздачы адзначалася, што гэтыя арганізацыі па ініцыятыве сакратара райкама КСМЗБ адмовіліся супрацоўнічаць з акруговым камітэтам [37, арк. 159]. Пра камсамольскія ячэйкі, якія пагалоўна перайшлі на бок паліцыі, паведамлялася і ў справаздачы Пінскага АК КСМЗБ за ліпень 1934 г. Доказам шырокага пранікнення паліцэйскай агентуры з'яўляюцца і справаздачы паліцэйскіх улад.

Характэрна, што, напрыклад, у 1931 г. ЦК КПП, каб супрацьстаяць пранікненню канфідэнтаў, прапанаваў на пэўны час устрымацца ад прыёму новых членаў і правесці праверку старых. Таксама адначасова даручалася стварыць кіруючыя органы, тайныя нават для членаў партыі [186, с. 41].

Апошняя прапанова была звязана з тым, што агенты-правакатары ў кіруючых органах ўяўлялі асабліва вялікую небяспеку. На тэрыторыі Заходняй Беларусі найбольш вядомым з такіх агентаў стаў Я. Стральчук, які займаў пасаду інструктара ЦК КСМЗБ. У гэтай якасці ён працаваў у Беластоцкай, Слонімскай, Віленскай, Вілейскай і Навагрудскай акругах. У выніку дзейнасці правакатара было арыштавана каля 1 000 чалавек [56, с. 296]. Агентамі дэфензівы таксама былі сакратар Гродзенскага АК КСМЗБ Сералевіч [100, с. 261] і член Віленскага АК КСМЗБ Адамовіч [51, с. 146]. Буйным поспехам польскай контрразведкі была вярбоўка вясной 1938 г. першага сакратара ЦК КСМЗБ Трафімава [100, с. 337].

Камсамол вёў жорсткую барацьбу з паліцэйскімі правакатарамі, выкарыстоўваючы тэрарыстычныя метады. Вядома, што Сералевіч і Адамовіч былі забіты. Шырокі грамадскі рэзананс мелі падзеі 27 студзеня 1936 г., калі С. Прытыцкі ў Вільні ў час пасяджэння суда зрабіў спробу ліквідаваць Я. Стральчука.

Шкода, нанесеная камсамолу дэфензівай, была вялікай. Акрамя жорсткіх паліцэйскіх рэпрэсій і ліквідацыі падпольнай сеткі, цярпеў аўтарытэт камуністаў і камсамольцаў, узнікаў недавер як ўнутры арганізацыі, так і за яе межамі, сярод насельніцтва і іншых палітычных партый. У справаздачы Гродзенскага АК КПЗБ (лістапад 1932 г.) адзначалася, што існуе «моцны настрой недаверу да нашай партыі, пасеяны правакатарскімі элементамі, якія гавораць, што большая частка членаў нашай арганізацыі з’яўляецца правакатарамі» [34, арк. 31].

Тым не менш улады не здолелі канчаткова справіцца з пашырэннем радыкальных настрояў сярод маладога пакалення Заходняй Беларусі. Гэта яскрава выявілася ў асяроддзі студэнтаў УСБ. Прычым неабходна адзначыць, што тут «санацыі» давялося сутыкнуцца як з левым, так і з правым радыкальным накірункам маладзёжнага руху. У 1930-х гг. на старонках блізкай да ўладных структур віленскай прэсы падкрэслівалася, што ў асяроддзі

віленскага студэнцтва назіраецца працэс радыкалізацыі. Пры гэтым прызнавалася, што радыкалізацыя з’яўляецца масавым рухам, арыгінальным і вельмі глыбокім. Аўтары нават выдзялялі наступныя накірункі грамадскага радыкалізму сярод студэнцкай моладзі: «дзяржаўны» радыкалізм, камуністычны, нацыянальны, каталіцкі. Гэтыя чатыры накірункі ахоплівалі фактычна каля 90% віленскай студэнцкай моладзі і амаль усе студэнцкія арганізацыі. Пад першым разумелася радыкалізацыя праўрадавых маладзёжных арганізацый — ЛМ і СПДМ. Што да камуністычнага і каталіцкага радыкальных накірункаў, то яны былі прадстаўлены толькі ў Вільні. Пад нацыяналістычнымі радыкаламі разумелася УМ [289, с. 14—16].

Як ужо адзначалася вышэй, крайнія правыя польскія нацыяналісты з УМ традыцыйна мелі значны ўплыў на тэрыторыі польскіх універсітэтаў. У Вільні гэта знайшло адлюстраванне і ў развіцці агульнапалітычнага жыцця. Характэрна, што Вільня была адзіным месцам на тэрыторыі паўночна-ўсходніх крэсаў, дзе ў час выбараў у Сейм 1930 г. польскія нацыяналісты здолелі атрымаць дэпутацкі мандат. Ва ўсіх астатніх выбарчых акругах Заходняй Беларусі перамаглі прадстаўнікі ББСУ [111, с. 77]. Няма сумнення, што гэтая перамога была дасягнута ў тым ліку і за кошт дзейнасці актывістаў УМ сярод віленскіх студэнтаў.

Сам УСБ неаднаразова ператвараўся ў арэну антысеміцкіх выступленняў, арганізаваных польскімі нацыяналістамі. Падставай для гэтых выступленняў былі два галоўныя патрабаванні прыхільнікаў УМ: увядзенне прынцыпу «нумерус клаўсус», згодна з якім працэнт студэнтаў-яўрэяў у польскіх універсітэтах павінен быў быць прапарцыянальным агульнаму працэнту яўрэяў у адносінах да ўсяго насельніцтва Польшчы, і прадастаўленне яўрэйскім студэнтам-медыкам выключна яўрэйскіх трупаў [277, с. 94].

Менавіта вакол «пытання яўрэйскіх трупаў» узніклі ў канцы 1931 г хваляванні ў Вільні. 9 лістапада польскія нацыяналісты блакіравалі празектарскую і не дапусцілі туды студэнтаў-яўрэяў. На наступны дзень на тэрыторыі ўніверсітэта пачаліся бойкі, у час адной з якіх быў смяротна паранены студэнт-першакурснік Вацлаўскі, член УМ. Дарэчы, Вацлаўскі быў не медыкам, а юрыстам, а яго забойца, як паказала паліцэйскае следства, наогул не з’яўляўся студэнтам. Пасля гэтага сутыкненні набылі масавы

характар. У час бойкі каля будынку арганізацыі «Узаемная дапамога студэнтаў-яўрэяў» было паранена каля дзесяці яўрэйскіх студэнтаў. Універсітэцкія ўлады вымушаны былі прыпыніць заняткі. Потым хваляванні перакінуліся на сам горад. Да студэнтаў далучыліся гарадскія нізы. Пагромы і сутычкі працягваліся 5 дзён. У выніку іх было паранена некалькі дзясяткаў чалавек, яўрэйская абшчына зарэгістравала выпадкі пашкоджання маёмасці 286 чалавек на агульную суму больш 100 тыс. злотых. Падзеі ў Вільні таксама выклікалі антысеміцкія выступленні і ў іншых гарадах, у тым ліку і на тэрыторыі Беластоцкага і Навагрудскага ваяводстваў. Каб папярэдзіць магчымыя антысеміцкія дэманстрацыі школьнай моладзі, школьныя куратары нават выдалі забарону вучням сярэдніх школ з'яўляцца на вуліцы пасля 17 гадзін 30 хвілін [277, с. 95—97].

Антысеміцкія выступленні УМ ва УСБ працягваліся і ў наступныя гады. Восенню 1933 г. у Варшаве і Вільні нацыяналісты распачалі акцыю па ўвядзенні ва ўніверсітэтах «гета лаўковага». Яны патрабавалі, каб студэнты-яўрэі ў аўдыторыях сядзелі асобна ад студэнтаў-хрысціян. У 1935 г. гэтая кампанія дасягнула свайго найбольшага развіцця. Універсітэцкая адміністрацыя была вымушана пайсці на выдзяленне асобных месцаў для палякаў і яўрэяў, але трэба адзначыць, што па гэтай прычыне рэктар і прарэктар УСБ у пачатку 1937 г. падалі ў адстаўку.

З-за студэнцкіх хваляванняў улады вымушаны былі прыпыніць заняткі ў віленскім універсітэце ў лістападзе 1932 г., лістападзе 1933 г. і лістападзе 1936 г. У сакавіку 1938 г. на тэрыторыю УСБ упершыню была ўведзена паліцыя, што з'яўлялася выключным выпадкам парушэння акадэмічнай аўтаноміі. У рамках кампаніі за ўвядзенне «нумерус клаўсус» з 1937 г. у Вільні рэгулярна праводзіліся «дні без яўрэяў», якія з восені 1938 г. ператварыліся ў «тыдні без яўрэяў».

Вынікам усіх гэтых антысеміцкіх студэнцкіх хваляванняў пад кіраўніцтвам УМ было тое, што адзінай нацыянальнай групай польскай дзяржавы, колькасць прадстаўнікоў якой скарацілася ў ВНУ ў перадваеннае дзесяцігоддзе, былі яўрэі (з 8 982 у 1931 г. да 4 790 у 1937 г.) [224, с. 150 — 170].

Менавіта для барацьбы з польскімі нацыяналістамі «санацыя» і распачала правядзенне рэформы вышэйшай школы. Большасць студэнтаў выступіла супраць новага заканадаўства. Пры гэтым пад лозунгам абароны акадэмічнай аўтаноміі аб'ядналіся як правыя, так і левыя. Найбольшую актыўнасць выявілі нацыяналісты. УМ выступіла з ініцыятывай правядзення студэнцкай забастоўкі [224, с. 133].

У Вільні гэтая забастоўка пачалася 2 сакавіка 1933 г. Яна суправаджалася блакадай універсітэцкіх будынкаў і дэманстрацыямі. У адказ на забастоўку 4 сакавіка рэктар спыніў заняткі. Студэнцкую пратэстную маніфестацыю разагнала паліцыя.

Аднак віленскае студэнцтва не было адзіным. Новае акадэмічнае заканадаўства падтрымалі праўрадавыя арганізацыі — ЛМ, ДД і акадэмічны «Стралец». Яны стварылі ў Вільні антызабастовачны камітэт, які вёў адпаведную агітацыю, заяўляючы, што найбольшую шкоду забастоўка нясе малазабяспечаным студэнтам [224, с. 138]. 7 сакавіка да рэктара УСБ з просьбай аднавіць заняткі звярнулася дэлегацыя ДД і карпарацый «Вільненсія», «Крэсовія» і «Пілсудзія». Дэлегаты асудзілі забастоўку як узор камуністычнай і сацыялістычнай акцыі. 11 сакавіка заняткі аднавіліся [137, с. 50].

Акрамя новага заканадаўства, «санацыя» ў сваёй барацьбе з нацыяналістамі ўскладала пэўныя надзеі і на свае студэнцкія арганізацыі. Аднак тут яе спадзяванні не апраўдаліся. Найбольш яскрава гэта выявілася ў Вільні, дзе прадстаўнікі праўрадавых аб'яднанняў сталі актыўна супрацоўнічаць з пракамуністычным Саюзам студэнцкай лявіцы «Фронт» (Związek Lewicy Akademickiej «Front») (далей — ССЛ «Фронт»). Гэтая арганізацыя пачала складвацца ў 1931 г. у час барацьбы за кіраўніцтва ў БД. На чале «Фронту» стаяў Г. Дэмбіньскі, кіраўнік віленскага філіяла каталіцкага «Адраджэння». Адначасова сярод лідараў саюза былі камендант віленскага ЛМ С. Ендрыхоўскі і адзін з кіраўнікоў СПДМ М. Вінецкі [47, арк. 4—8].

Зімой 1932—1933 гг. на базе «групы Дэмбіньскага» была створана нелегальная арганізацыя «Фронт», унутры якой існавала і камсамольская ячэйка. Часам найбольшай актыўнасці ССЛ «Фронт» былі 1933—1935 гг. Саюз актыўна ўдзельнічаў у барацьбе за эканамічныя правы студэнтаў і супраць новага акадэмічнага заканадаўства. Вялікае значэнне мела таксама выдавецкая

дзейнасць арганізацыі. Самым папулярным яе друкаваным органам быў двухтыднёвік «Папросту», які выходзіў з жніўня 1935 г. па сакавік 1936 г. Часопіс меў шырокую папулярнасць не толькі сярод інтэлігенцыі, але і сярод іншых слаёў насельніцтва. Яго тыраж дасягаў 12 тыс. экзэмпляраў, што ва ўмовах міжваеннай Польшчы было даволі высокім паказчыкам [142, с. 58].

Дзейнасць дэмакратычнай студэнцкай моладзі выклікала занепакоенасць польскіх улад. Спачатку яны зрабілі спробы перацягнуць яе на свой бок, а Г. Дэмбіньскаму нават прапанавалі ўзначаліць ЛМ [137, с. 32]. Пасля таго як перамовы праваліліся, пачаліся паліцэйскія рэпрэсіі. Аднак улады, каб не выклікаць непажаданага грамадскага рэзанансу, не сталі падвяргаць студэнтаў-палякаў суроваму пакаранню. Пасля непрацяглага турэмнага зняволяння фактычна ўсё кіраўніцтва саюза апынулася на свабодзе. Пасля гэтага ССЛ «Фронт» працягваў сваё існаванне.

Такім чынам, радыкалізацыя маладога пакалення, якая закранула нават членаў праўрадавых арганізацый, стала сур’ёзнай перашкодай на шляху рэалізацыі афіцыйнай маладзёжнай палітыкі. Найбольш упартую барацьбу за маладое пакаленне з «санацыяй» вёў КСМЗБ, які на працягу ўсяго свайго існавання быў аб’ектам паліцэйскіх рэпрэсій і дзейнасці правакатараў польскіх спецслужб. Адначасова ўрадавыя структуры і «санацыйны» маладзёжны рух былі вымушаны змагацца з правымі радыкаламі, якія займалі пануючае становішча ў студэнцкім руху. Неабходна прызнаць, што, нягледзячы на ўсе свае намаганні, «санацыйны» рэжым не здолеў перамагчы сваіх радыкальных сапернікаў у маладзёжным асяроддзі Заходняй Беларусі.

## 5.4 Узаемаадносіны «санацыі» з клерыкальнымі маладзёжнымі саюзамі

Каталіцкі маладзёжны рух набыў значны размах на тэрыторыі Заходняй Беларусі. На пачатак 1930-х гг. АМП налічвала тут 11 500 членаў у 587 гуртках і 1 300 апякуноў у акруговых і павятовых патранатах [30, арк. 477]. Па дадзеных польскай гістарыяграфіі, каталіцкія маладзёжныя саюзы былі самымі шматлікімі маладзёжнымі арганізацыямі 2-й РП. Гэта тлумачыцца

тым, што, згодна са статутам Каталіцкай акцыі, маладзёжныя гурткі павінны былі існаваць у кожнай парафіі. Такім чынам, у 1937 г. у КАММ і КАЖМ па ўсёй краіне налічвалася 151 780 юнакоў і 180 039 дзяўчат [263, с. 27].

Пры гэтым неабходна адзначыць, што многія гурткі каталіцкай моладзі ствараліся з вялікімі цяжкасцямі, іншы раз яны існавалі толькі на паперы. Напрыклад, згодна з афіцыйнымі звесткамі, першая спроба стварэння гуртка КАЖМ у Баранавічах была зроблена ў 1927 г., але рэальную працу ён пачаў толькі ў 1931 г. Што да гуртка КАММ у Баранавічах, то першыя спробы яго стварэння адбыліся толькі ў 1931 г., а паўнавартасную дзейнасць ён пачаў у снежні 1936 г. [116, с. 108—109].

Адным з галоўных накірункаў працы АМП, а потым КАММ і КАЖМ была рэлігійная дзейнасць у маладзёжным асяроддзі, выхаванне моладзі ў духу каталіцкіх прынцыпаў. Члены арганізацый актыўна прыцягваліся да правядзення рэлігійных святаў у сваіх парафіях. Акрамя таго, штогадова ў лістападзе клерыкальныя маладзёжныя аб’яднанні адзначалі свята моладзі ў гонар свайго нябеснага апякуна св. Станіслава Косткі. Для мэтаў рэлігійнага выхавання выкарыстоўваліся касцёльныя харавыя калектывы, гурткі па вывучэнню Закона Божага.

Важнай часткай маральнага выхавання ў клерыкальных аб’яднаннях моладзі быў рух за цвярозасць. У рамках яго адбывалася стварэнне абстыненцкіх гурткоў, задачамі якіх было вывучэнне праблемы алкагалізму, устрыманне ад прыёму алкаголя сярод сваіх членаў, барацьба са злоўжываннем спіртнымі напоямі, пашырэнне ідэі абстыненцыі, падтрыманне агульнапольскага руху цвярозасці. Пры ўступленні ў гурток новы член быў абавязаны даваць спецыяльную прысягу аб устрыманні ад ужывання алкаголю [342, с. 20—21].

Як сведчыла афіцыйная статыстыка клерыкальных аб’яднанняў, назіраўся пастаянны рост гурткоў абстынентаў. Так на тэрыторыі Віленскай дыяцэзіі ў 1930 г. іх было 152 (1 808 членаў). У 1931 г. іх колькасць ужо дасягнула 249 (3 424 члены) [343, с. 17]. У 1932 г. гурткоў цвярозасці было 315. Яны аб’ядноўвалі 4 438 членаў (1 969 хлопцаў і 2 469 дзяўчат) [344, с. 23].

У астатнім праца клерыкальных аб’яднанняў на тэрыторыі Заходняй Беларусі шмат у чым супадала з асноўнымі накірункамі дзейнасці праўрадавых маладзёжных саюзаў.

Так, напрыклад, шмат увагі надавалася сельскагаспадарчай падрыхтоўцы маладога пакалення. На тэрыторыі Заходняй Беларусі каталіцкія саюзы, як гэта ўжо адзначалася вышэй, нейкі час нават займалі становішча лідара ў акцыі СП. У цэлым па Польшчы каталіцкія маладзёжныя аб’яднанні займалі вядучае становішча ў сферы СП да самага пачатку Другой сусветнай вайны, абганяючы як праўрадавыя саюзы, так і легальныя апазіцыйныя маладзёжныя арганізацыі. Кіраўніцтва клерыкальных маладзёжных аб’яднанняў лічыла, што пашырэнне акцыі СП паўплывае на «ўзмацненне грамадзянскага пачуцця, ад чаго залежыць абараназдольнасць дзяржавы і агульны рост дабрабыту шырокіх слаёў вясковага насельніцтва» [164, с. 123].

Таксама ў клерыкальных маладзёжных арганізацыях вялікая ўвага надавалася ваеннай падрыхтоўцы маладога пакалення. Гэта знашло адлюстраванне і ў рашэннях з’ездаў дэлегатаў АМП. Так, у красавіку 1932 г. на VII з’ездзе дэлегатаў АМП была нават прынята спецыяльная рэзалюцыя па пытанню ВП і ФВ. У ёй было заяўлена, што каталіцкія аб’яднанні моладзі павінны стаяць у першых шэрагах абаронцаў дзяржавы на яе ўсходніх межах. Таму было вырашана імкнуцца да распаўсюджвання ідэй ВП сярод самых шырокіх слаёў грамадства. Акрамя таго, прадугледжвалася стварэнне гурткоў ВП і ФВ пры кожным гуртку Аб’яднання польскай моладзі [340, с. 12].

Але пры правядзенні акцыі ВП клерыкальныя аб’яднанні сустракаліся з канкурэнцыяй з боку праўрадавых арганізацый. Вельмі часта інструктары па ваеннай падрыхтоўцы адамаўляліся весці заняткі з членамі АМП. Здараліся і выпадкі сваеасаблівага махлярства, калі членаў каталіцкіх маладзёжных саюзаў без іх ведама запісвалі, напрыклад, у «Стралец». У сувязі з гэтым касцёльнае кіраўніцтва нават выдала спецыяльную інструкцыю: «Калі ствараецца атрад ВП у АМП, кожны член атрада падпісвае дэкларацыю. Пры падпісанні дэкларацыі неабходна звярнуць асаблівую ўвагу на яе змест. Здараюцца выпадкі, калі нашым членам падсоўваюць на подпіс дэкларацыі стралецкага саюза і на іх падставе інструктары ВП і ФВ працуюць з нашымі гурткамі, як

з членамі стралецкага саюза. Справу падпісання дэкларацый неабходна абмеркаваць на сходзе атрада ВП у АМП». Пра кожны выпадак падсоўвання «няправільнай» дэкларацыі неабходна было паведамляць кіраўніцтву АМП у Вільні [341, с. 18].

Акрамя ваеннай падрыхтоўкі, АМП шмат рабіла для развіцця спорту сярод вясковай моладзі. Ствараліся гурткі фізічнага выхавання як для хлопцаў, так і для дзяўчат. Члены арганізацыі рэгулярна ўдзельнічалі ў спартыўных спаборніцтвах. Так у 1933 г. у АПМ Віленскай дыяцэзіі існавала 215 спартыўных гурткоў, у якіх працавала 2 558 членаў арганізацыі. Дзейнічалі 20 секцый лёгкай атлетыкі (210 чалавек), 20 лыжных секцый (128 чалавек), 100 секцый спартыўных гульняў (1 215 чалавек). Акрамя таго, тут працавала 45 гурткоў фізічнага выхавання (841 чалавек) [274, с. 35].

Як і іншыя маладзёжныя арганізацыі, АМП вяло вялікую культурна-асветніцкую дзейнасць сярод моладзі. Праводзіліся гутаркі і лекцыі на розныя тэмы, ствараліся аматарскія тэатральныя калектывы. Толькі ў 1930 г. было праведзена 495 лекцый і пастаўлена 1 867 аматарскіх спектакляў. АМП у Віленскай дыяцэзіі мела 186 бібліятэк, якія налічвалі 24 500 тамоў. Як і стралецкі саюз ці ССМ «Сеў»—СМВ, каталіцкія маладзёжныя саюзы стваралі свае клубы-святліцы. На пачатак 1930-х гг. на тэрыторыі Заходняй Беларусі іх налічвалася 270. Пры клубах дзейнічалі 129 харавых калектываў, 32 музычныя і 53 асветніцкія гурткі [30, арк. 477].

Уся гэтая культурна-асветніцкая дзейнасць насіла яскравы паланізатарскі характар. Арганізацыя адкрыта прызнавала, што яна вядзе грамадзянскае і дзяржаўнае выхаванне. У АМП яно «абапіраецца на трывалых, адвечных асновах святой рымска-каталіцкай веры і такое выхаванне дае гарантыю, што члены АМП будуць добрымі грамадзянамі і асвечанымі, актыўнымі членамі грамадства» [340, с. 12].

Паланізатарская пазіцыя АМП на тэрыторыі Заходняй Беларусі яскрава выявілася ў 1931 г. у час правядзення перапісу насельніцтва. Віленскае кіраўніцтва аб’яднання заклікала сваіх членаў прыняць актыўны ўдзел у ім. Пры гэтым асаблівы націск рэкамендавалася рабіць на «дакладнасць інфармацыі». Дакладнасць мела на ўвазе пытанне аб роднай мове. Адзначалася, што мясцовае насельніцтва ў якасці роднай мовы называе

«тутэйшую». Інструкцыя АМП падкрэслівала, што ніякай «тутэйшай» мовы няма: «Мова, якая ўжываецца на нашых землях, з’яўляецца адной з гаворак польскай мовы, як гуральская, мазурская, кашубская, такім чынам яна з’яўляецца польскай мовай» [339, с. 21—22]. Такім чынам, «тутэйшая» беларуская мова ператваралася ў польскую, а мясцовыя беларусы — у палякаў.

Характэрна, што афіцыйны орган ваеннага міністэрства «Армія рэзервова» наступным чынам пісаў пра каталіцкае аб’днанне моладзі і яго значэнне на тэрыторыі Заходняй Беларусі: «АМП усведамляе сваю ролю, якую выконвае на паўночна-усходніх межах па ўмацаванню польскай культуры... пад сцягам крыжа і арла» [30, арк. 476].

Нягледзячы на паланізатарскую і прадзяржаўную пазіцыю клерыкальных аб’яднанняў моладзі, іх адносіны з праўрадавымі саюзамі доўгі час складваліся даволі напружана. На тэрыторыі Заходняй Беларусі яны супрацьстаялі не толькі КСМЗБ, МА ТУР, ССМ РП «Віцы», але і «санацыйным» маладзёжным арганізацыям. Гэта было вынікам той пазіцыі, якую займала царкоўная іерархія ў адносінах да «санацыі». Вядома, што каталіцкая царква актыўна крытыкавала антыклерыкальнае крыло пілсудчыкаў. Атакі былі накіраваны супраць ЛМ, ССМ «Сеў»—СМВ, «Стральца» [171, с. 406—407]. Больш за ўсё крытыкаваўся ЛМ, асабліва ў той час, калі там адбываўся працэс радыкалізацыі. Так, кардынал А. Глонд, прымас Польшчы, у адным са сваіх пасланняў (люты 1934 г.) заявіў: «Аб’яднанне пад назвай Легіён маладых стала на камуністычныя пазіцыі. Нягледзячы на заявы аб адваротным, яно адмаўляе хрысціянства, змагаецца з царквой, узводзіць паклёп на св. Сталіцу і каталіцкія арганізацыі... Калі гэтая антыкаталіцкая і камуністычная арыентацыя будзе захоўвацца ў перыёдыцы і дакладах, трэба будзе лічыць Легіён маладых аб’яднаннем, якое асуджаецца царквой згодна з кананічным правам» [207, с. 581].

Падобныя ж прэтэнзіі прад’яўляла польская каталіцкая іерархія і ў адносінах да ССМ «Сеў»—СМВ, хоць той заўсёды падкрэсліваў свой хрысціянскі характар.

Але галоўнай прычынай канфліктаў трэба лічыць саперніцтва за ўплыў у маладзёжным асяроддзі. Фактычна ССМ «Сеў»—СМВ, з аднаго боку, і АМП (КАММ і КАЖМ) — з другога, былі

канкурэнтамі, таксама як канцэпцыя «дзяржаўнага выхавання» складала канкурэнцыю выхаваўчым ідэям Каталіцкай акцыі.

Як сведчаць архіўныя крыніцы, «санацыйныя» арганізацыі вельмі часта цярпелі паразу ў гэтай канкурэнцыі.Так, у 1933 г. слонімскі дэкан, ксёндз Свіркоўскі, наладзіў сувязь з грамадскімі арганізацыямі, у тым ліку і праўрадавымі, і, «выкарыстоўваючы іх рэлігійныя пачуцці, здолеў схіліць іх да ўдзелу ў фінансавай акцыі з мэтай рэстаўрацыі касцёлу і парафіяльных будынкаў». Але на самой справе значная частка фондаў пайшла на Каталіцкую акцыю, у тым ліку на забяспячэнне святліц каталіцкіх маладзёжных саюзаў. Кіраўніцтва «Стральца» спрабавала ўздзейнічаць на членаў праўрадавых арганізацый, але безвынікова [19, арк. 9].

Вельмі часта ксяндзы вялі адкрытую агітацыю супраць праўрадавых саюзаў прама з царкоўнага амбона. Так камендант ВП Слонімскага павета паведамляў (1937 г.), што ў вёсцы Раготна ксёндз Гой у час пропаведзі заявіў, што ў гмінных бюджэтах прадугледжаны грошы для стральцоў, а тыя іх прапіваюць [4, арк. 19]. Таксама вядома, што ў Беластоцкім павеце былі выпадкі байкоту каталіцкім духавенствам членаў стралецкага саюза і іх сямей [212, с. 64].

Становішча пачало змяняцца ў сярэдзіне 1930-х гг. У гэты перыяд «санацыя» спрабавала правесці мадыфікацыю сваёй выхаваўчай дактрыны ў накірунку прыняцця нацыяналістычных і каталіцкіх ідэй. Адначасова быў прыняты шэраг заканадаўчых актаў, якія аблягчалі існаванне КАММ і КАЖМ. Так, 28 студзеня 1934 г. была прынята пастанова Савета міністраў 2-й РП, якая рэгулявала пазіцыі рэлігійных аб’яднанняў. Дзякуючы гэтаму маладзёжныя калоны Каталіцкай акцыі занялі першае месца сярод іх. А згодна з дэкрэтам ад 14 лістапада 1935 г. філіялы гэтых саюзаў атрымалі шэраг ільгот, у тым ліку вызваленне ад выплаты падаткаў за памяшканні, якія яны займалі [80, с. 53—54].

Царкоўная іерархія наладзіла супрацоўніцтва і з арміяй. Яна пайшла на гэта нават коштам прызнання «Стральца». У 1936 г., калі Дзяржаўнае праўленне ФВ і ВП прыпыніла супрацоўніцтва з КАММ, генерал Т. Каспржыцкі, кіраўнік гэтай установы, па асабістай просьбе кардынала А. Глонда загадаў аднавіць яго. Пры гэтым ваеннае навучанне сваіх членаў КАММ магло весці толькі ў атрадах «Стральца» [212, с. 65]. Кіруючыя

колы польскай дзяржавы высока ацэньвалі пазіцыю касцёла ў павышэнні абароназдольнасці 2-й РП. У сакрэтнай запісцы Міністэрства замежных спраў на імя прэзідэнта І. Масьціцкага ад 18 мая 1937 г. адзначалася: «Станоўчыя адносіны Ватыкана да польскай арміі агульнавядомы. Любыя меры, накіраваныя на ўзмацненне абароназдольнасці Польшчы, з асаблівым задавальненнем сустракаюцца ў Ватыкане» [80, с. 53—54].

Але з другага боку ўлады вымушаны былі прызнаваць, што ўплыў каталіцкай царквы на моладзь змяншаецца. Маладзёжныя клерыкальныя саюзы страчвалі свае пазіцыі нават у мясцовасцях, дзе пераважала каталіцкае насельніцтва, а сярод праваслаўнай беларускай моладзі яны ніколі і не маглі карыстацца папулярнасцю. Так, у справаздачы за лістапад 1935 г. нясвіжскі стараста паведамляў: «Уплыў каталіцкага духавенства на маладзёжныя арганізацыі амаль цалкам адсутнічае. Саюзы каталіцкай моладзі не выяўляюць ніякай дзейнасці». Падобныя з’явы адбываліся, згодна з паведамленнямі навагрудскага ваяводы за сакавік 1937 г., і ў Шчучынскім павеце. У 1939 г. пасля правядзення спецыяльнага даследавання было выяўлена, што ў такіх населеных пунктах, як Клімавічы, Левановічы, Ягнішчыцы Слонімскага павета, Бабаевічы, Лукаўцы, Паначы Нясвіжскага павета, Таркачы, Заполле, Палунне Навагрудскага павета і ў шматлікіх іншых распаўсюджваецца «акцыя бязбожніцтва», а касцёлы наведваюць толькі старыя жанчыны [80, с. 81].

Пэўныя праблемы «санацыйны» рэжым і касцёльная іерархія мелі з клерыкальным студэнцтвам УСБ. У канцы 1920-х гг. кіраўніком віленскага філіяла «Адраджэння» стаў Г. Дэмбіньскі. Пад яго ўплывам у арганізацыі пачалося ідэйнае браджэнне. Сходы віленскага «Адраджэння» ператварыліся ў бурныя дыскусіі моладзі рознай палітычнай арыентацыі. Студэнты-каталікі ўступілі ў канфлікт з польскімі нацыяналістамі, пачалі барацьбу за абмежаванне іх уплыву ва ўніверсітэце. Адначасова адбылося збліжэнне з праўрадавымі саюзамі, перш за ўсё з радыкальна настроеным СПДМ [224, с. 34]. Гэта адрознівала віленскае аддзяленне «Адраджэння». У астатніх ВНУ студэнты-каталікі варожа ставіліся да свецкіх, антыклерыкальных і радыкальных арганізацый праўрадавай моладзі.

Супрацоўніцтва СКАМ «Адраджэнне» з іншымі студэнцкімі саюзамі ў Вільні прынесла поспех на выбарах у «Братнюю дапамогу» — на ўвесь 1931/32 навучальны год віленская арганізацыя студэнцкай узаемадапамогі выйшла з-пад кантролю польскіх нацыяналістаў [224, с. 30].

Але потым, на хвалі антысеміцкіх выступленняў у сувязі з забойствам студэнта Вацлаўскага, УМ здолела атрымаць рэванш і вярнуць сабе кіраўніцтва ў «Братняй дапамозе». Дарэчы, рашаючую ролю ў перамозе нацыяналістаў адыграла пазіцыя віленскага епіскапату: ён дазволіў прыняць удзел у выбарах студэнтам-тэолагам, якія і аддалі свае галасы за нацыяналістаў. Пры гэтым перавага была мінімальнай — трохі больш за трыццаць галасоў. Як адзначалі сучаснікі, «выбары выйграў арцыбіскуп Ялбжыхоўскі і клірыкі, якія не карысталіся падтрымкай “Братняй дапамогі”» [158, с. 75—76].

Адначасова ў асяроддзі віленскіх студэнтаў-католікаў адбыўся раскол. Царкоўныя ўлады не пажадалі падтрымліваць усё больш радыкальную «групу Дэмбіньскага». Справа ў тым, што ў пачатку 1932 г. гэтая група вылучыла праграму, якая выходзіла далёка за рамкі ўнутрыўніверсітэцкай барацьбы і клерыкальнай ідэалогіі. Прапаноўвалася ўвядзенне планавага кіравання эканомікай, дзяржаўнае кіраўніцтва нацыянальнай вытворчасцю, падзел прыбыткаў паміж працоўнымі, планавая індустрыялізацыя, грамадскія працы ў масштабе краіны, дзяржаўная манаполія на знешні гандаль. Неабходнай умовай дадзеных змен у грамадскім ладзе павінна была стаць «маральная рэвалюцыя» [137, с. 27—28].

Пасля таго, як агульнапольскае кіраўніцтва АКАМ «Адраджэнне» асудзіла прапанаваныя тэзісы, «група Дэмбіньскага» выйшла з арганізацыі. У далейшым яна стала асновай для Саюза студэнцкай лявіцы «Фронт», аб якім ужо гаварылася вышэй.

Тым не менш АКАМ «Адраджэнне» ў Вільні не прыпыніла свайго існавання. Арганізацыя зноў вярнулася на пазіцыі каталіцкай грамадскай дактрыны, нейтралітэту ў адносінах з польскімі нацыяналістамі і супрацоўніцтва з кіруючым лагерам. Віленскія студэнты-католікі значна знізілі сваю актыўнасць. Самай заўважнай яе праявай стала выданне з 1933 па 1938 г. штомесячніка «Пакс». Пастулаты выдання былі блізкімі да ідэалогіі АКАМ

«Адраджэнне». Яго радыкалізм не выходзіў за межы папскіх энцыклік [225, с. 117].

Такім чынам, каталіцкі маладзёжны рух на тэрыторыі Заходняй Беларусі атрымаў даволі інтэнсіўнае развіццё. Пад уплывам створанага пад эгідай Каталіцкай акцыі АМП, а потым КАММ і КАЖМ знаходзілася значная колькасць маладых сялян-католікаў. Клерыкальныя аб’яднанні праводзілі вялікую працу сярод мясцовага маладога пакалення. У асноўных сваіх накірунках яна супадала з дзейнасцю праўрадавых арганізацый моладзі, у тым ліку вялікая ўвага надавалася і паланізацыі маладых беларусаў. Разам з тым паміж каталіцкімі і «санацыйнымі» арганізацыямі існавала і пэўная канкурэнцыя, якая ў цэлым была пераадолена пад канец 1930-х гг. Неабходна адзначыць, што ўплыў клерыкалаў не стаў рашаючым, а ў асяроддзі праваслаўнай моладзі ён адсутнічаў наогул. Слабымі аказаліся пазіцыі клерыкалаў і сярод віленскіх студэнтаў. Віленскі філіял «Адраджэння» перажыў раскол. Найбольш радыкальна настроеныя яго члены ў далейшым нават перайшлі на пракамуністычныя пазіцыі.

## 5.5 «Санацыйны» рэжым і маладзёжныя арганізацыі нацыянальных меншасцей 2-й РП

Асобна неабходна закрануць і пытанне ўзаемаадносін польскіх улад з маладзёжнымі арганізацыямі нацыянальных меншасцей 2-й РП. Як ужо адзначалася вышэй, з-за пазіцыі польскіх улад масавага маладзёжнага беларускага аб’яднання нацыянальна-дэмакратычнай накіраванасці не было створана.

Пэўную працу па кансалідацыі беларускай моладзі імкнуўся весці часопіс «Шлях моладзі». Пасля правалу спробы стварэння ТБМ «Будучыня» рэдкалегія часопіса праводзіла актыўную агітацыю па ўцягненню беларускай моладзі ў Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры (далей — БІГіК), які быў створаны яшчэ ў чэрвені 1926 г. і знаходзіўся пад непасрэдным уплывам БХД. Яго мэтай была арганізацыя культурна-асветніцкай працы і гаспадарчай дзейнасці праз стварэнне бібліятэк, клубаў, сельскагаспадарчых кааператываў, забяспячэнне сялян тэхнікай і распаўсюджванне агранамічных ведаў. На думку рэдакцыі

«Шляха моладзі», арганізацыя гурткоў БІГіК магла б часткова кампенсаваць шкоду, якую прынесла забарона польскіх улад на стварэнне беларускай маладзёжнай арганізацыі. Акрамя таго, вялікую ролю адыгрывала і тое, што гэтая культурна-асветніцкая арганізацыя, згодна з рэдакцыйным артыкулам, «не дзержыцца ні саветафільскай, ні палёнафільскай палітычнай арыентацыі, а стаіць на моцным беларускім ідэйным грунце, апіраючыся на сілы толькі беларускага народу» [89, с. 3].

Супрацоўнікі «Шляха моладзі» актыўна ўдзельнічалі ў працы БІГіК. Так, Я. Найдзюк у сакавіку 1934 г. быў абраны ў праўленне віленскага аддзялення БІГіК, М. Пецюкевіч узначальваў секцыю этнаграфіі і археалогіі пры Цэнтральнай радзе БІГіК.

Найбольш значнай акцыяй БІГіК стала барацьба за беларускую школу сумесна з ТБШ, якое ў той час знаходзілася пад уплывам КПЗБ. У лютым 1936 г. паміж БІГіК і ТБШ была падпісана «Дэкларацыя ў справе барацьбы за школу на роднай мове». Арганізацыі стварылі сумесны Цэнтральны школьны сакратарыят і пачалі выдаваць газету «За беларускую школу». Было сабрана 4,5 тыс. дэкларацый з подпісамі ў падтрымку адкрыцця беларускіх школ, накіравана спецыяльная дэлегацыя ў Варшаву.

Улады былі вымушаны пайсці на некаторыя саступкі — былі ўведзены заняткі па беларускай мове ў школах, адкрыта некалькі двухмоўных школ. Адначасова на арганізатараў «школьнай акцыі» абрынуліся рэпрэсіі. Была забаронена дзейнасць Цэнтральнага школьнага сакратарыяту. Па загаду віленскага староства 2 снежня 1936 г. была забаронена дзейнасць ТБШ, а праз два дні ўлады забаранілі і БІГіК [74, с. 56—60].

Што да адносін польскай дзяржаўнай адміністрацыі да дзейнасці «Шляха моладзі», то вядома, што выдаўцы часопіса неаднаразова падвяргаліся штрафам, некаторыя нумары выдання былі канфіскаваны па меркаваннях цэнзуры. Мясцовая польская адміністрацыя імкнулася спыніць распаўсюджванне беларускай прэсы, паколькі лічылася, што прысутнасць яе «супярэчыць польскім дзяржаўным інтарэсам» [198, с. 104].

Так, кіраўнік адной з дзяржаўных школ у лісце да школьнага інспектара ў Пружанах выказваў занепакоенасць, што мясцовая моладзь, якая вучыцца ў Вільні, прывозіць на тэрыторыю павета беларускую «нацыяналістычна-камуністычную» прэсу, пераважна

часопіс «Шлях моладзі»: «Гэтая прэса пападае ў рукі старэйшай моладзі, што перашкаджае правядзенню выхаваўчай і навучальнай працы ў школе». Аўтар нават папярэджваў, што калі становішча не зменіцца, то існуе небяспека, што «мясцовая моладзь, якая ніколі не была беларускай, а мусіць і павінна стаць польскай», «збеларусізуецца» [198, с. 106].

Зразумела, што гэта было значным перабольшваннем, але распаўсюджванне «Шляха моладзі» сустракала значныя перашкоды — за адну толькі падпіску на часопіс паліцыя складала пратакол. Летам жа 1939 г. «Шлях моладзі» быў закрыты, а выдаўцы і члены рэдакцыйнай калегіі былі адпраўлены ў канцлагер у Бярозе-Картузскай [85, с. 401].

Адзінай арганізацыяй, якая праіснавала на працягу ўсяго міжваеннага перыяду, быў БСС. Яго дзейнасць насіла ў асноўным толькі культурна-асветніцкі характар і не аказвала значнага ўплыву на грамадска-палітычнае жыццё Заходняй Беларусі. Весці якую-небудзь іншую працу, акрамя культурна-асветніцкай, БСС не мог у выніку мочнага ціску з боку ўлад. Так, напрыклад, калі ў лютым 1933 г. сход аб'яднання пастанавіў выказаць пратэст супраць уціску беларускай школы і беларускіх асветніцкіх арганізацый, куратар БСС прафесар Э. Кашмідэр не даў на гэта дазвол па прычыне «непраўдападобнасці прыведзеных фактаў і завостранасці акцэнтаў» [27, арк. 104]. У далейшым БСС было забаронена арганізоўваць лекцыі ў правінцыі, а яго членам — насіць значкі сваёй арганізацыі [85, с. 193].

Такім чынам, пад канец 1930-х гадоў дзейнасць БСС абмяжоўвалася толькі тэрыторыяй Вільні і асяроддзем нешматлікага мясцовага беларускага студэнцтва. Неабходна адзначыць, што ўнутры УСБ саюз супрацоўнічаў толькі са студэнцкімі арганізацыямі літоўскіх і ўкраінскіх студэнтаў. У агульнаўніверсітэцкім жыцці ён фактычна не ўдзельнічаў. Нават у час барацьбы з польскімі эндэкамі за кіраўніцтва БД ён застаўся ўбаку.

Акрамя ўсяго іншага, БСС быў значна аслаблены шматлікімі ўнутранымі канфліктамі. Да некаторых з іх «прыклалі руку» і польскія ўлады. Асабліва гэта выявілася, калі ў пачатку 1930-х гг. кіраўніцтва над БСС паспрабавалі захапіць прадстаўнікі

«белсанацыі», якія выступалі за супрацоўніцтва з польскім «санацыйным» рэжымам.

Як вядома, гэта прывяло да расколу ў БСС і стварэння паланафільскай карпарацыі «Скарынія». З самага пачатку гэтая арганізацыя атрымлівала сур'ёзную дапамогу з боку ўлад, якія былі зацікаўлены ў падтрыманні канфліктаў унутры беларускага нацыянальна-дэмакратычнага руху. Нават у момант свайго стварэння «Скарынія» сутыкнулася з недахопам масавай падтрымкі, без якой яе нават не маглі зарэгістраваць. Справа ў тым, што для афіцыйнай рэгістрацыі аб'яднання ўніверсітэцкімі ўладамі неабходна было прадставіць не менш 50 подпісаў студэнтаў. Цікава, што ўніверсітэцкі сенат дазволіў «Скарыніі» збіраць подпісы сярод студэнтаў-палякаў, паколькі сярод студэнтаў-беларусаў іх сабраць было немагчыма [35, арк. 71].

Пасля сваёй рэгістрацыі карпарацыя «Скарынія» атрымлівала сур'ёзную фінансавую дапамогу. Першапачаткова яе штомесячны бюджэт складаў 1 500 злотых. Для параўнання — на Віленскую беларускую гімназію выдзялялася 2 500 злотых у месяц, а ўвесь месячны бюджэт «белсанацыі» складаў 8 тыс. злотых. За адну толькі арэнду памяшкання карпарацыя плаціла 200 злотых. Радавыя члены «Скарыніі» атрымлівалі 15—25 злотых, а кіраўніцтва — 160—200 злотых у месяц [35, арк. 18—19].

Члены карпарацыі лічылі неабходным больш актыўна ўдзельнічаць у агульнаўніверсітэцкім жыцці. Напрыклад, гаварылася, што беларускім студэнтам неабходна «здабыць належнае становішча ў "Брацкай дапамозе"» [337, с. 18]. Таксама «Скарынія» заклікала да супрацоўніцтва з польскімі арганізацыямі ў галіне спорту: «не трэба баяцца польскіх спартыўных арганізацый. Спартыўныя арганізацыі ў Вільні рэдка носяць нацыянальны, а тым больш нацыяналістычны характар. Яны нікога з нас не спаланізуюць, а калі ўрэшце і спольшчаць каго-небудзь слабейшага духам, страта невялікая...» [112, с. 22].

Рэдакцыя «Новай варты», друкаванага органа «Скарыніі», рашуча асудзіла антысеміцкія хваляванні на тэрыторыі УСБ. Было заяўлена, што падобныя спосабы барацьбы не адпавядаюць гонару, этыцы і маралі чалавека. Адначасова «Новая варта» асудзіла і тых студэнтаў-беларусаў, якія далучыліся да выступленняў польскіх нацыяналістаў [117, с. 31 — 32].

Члены «Скарыніі» актыўна ўдзельнічалі ў афіцыйных мерапрыемствах польскіх улад. Так, у час візіту Ю. Пілсудскага ў Вільню дэлегацыя ад карпарацыі прыняла ўдзел у яго святочнай сустрэчы [26, арк. 65].

Рэгулярным быў удзел карпарацыі ў святкаваннях і вечарах-акадэміях, прысвечаных абвяшчэнню незалежнасці Беларускай народнай рэспублікі. 18 лістапада 1933 г., дзякуючы намаганням карпарацыі, у віленскім Свята-Духавым манастыры быў праведзены малебен у памяць беларусаў, загінуўшых у час Слуцкага паўстання. На наступны дзень у памяшканні карпарацыі Г. Багдановіч прачытаў рэферат, прысвечаны Слуцкаму паўстанню [71, с. 16]. Дастаткова цесныя сувязі ўсталяваліся паміж «Скарыніяй» і Віленскай беларускай гімназіяй, дырэктарам якой быў ганаровы член карпарацыі Р. Астроўскі. Карпаранты арганізоўвалі дабрачынныя вечарыны для бедных вучняў, займаліся з імі рэпетытарствам. У 1934 г. па рашэнні кіраўніцтва карпарацыі яе члены сабралі 100 злотых для аплаты навучання бедных вучняў. Пэўныя крокі «Скарынія» зрабіла для дапамогі бяднейшым студэнтам. Была створана студэнцкая сталовая. Але яна праіснавала нядоўга — у 1932 г. яе закрылі з-за фінансавых цяжкасцей. Па той жа самай прычыне карпарацыя не здолела стварыць і бібліятэку падручнікаў [118, с. 16].

Але галоўным зместам дзейнасці карпарацыі «Скарынія» стаў канфлікт з БСС. Карпаранты абвінавачвалі прыхільнікаў БХД у тым, што іх дзейнасць вядзе да ліквідацыі саюза [337, с. 18].

Аднак вядома, што вельмі хутка была ліквідавана сама «Скарынія». Тым не менш можна лічыць, што польскія ўлады дасягнулі сваёй мэты — беларускі студэнцкі рух быў расколаты.

Зусім іншым было стаўленне польскіх улад да сіяніцкага маладзёжнага руху, а менавіта да таго яго крыла, якое было прадстаўлена сіяністамі-рэвізіяністамі.

«Бейтар» на тэрыторыі Заходняй Беларусі займаўся ваеннай падрыхтоўкай пры непасрэдным удзеле прадстаўнікоў Войска Польскага. Так, ваенным інструктарам маладых сіяністаў-рэвізіяністаў у Беластоку быў афіцэр мясцовага 42-га пяхотнага палка [36, арк. 163]. Цікава, што вельмі часта бейтараўскія атрады сумесна са стралецкімі фарміраваннямі ўдзельнічалі ў парадах

у дні дзяржаўных свят у гарадах і мястэчках Заходняй Беларусі [31, арк. 87].

Падтрымка ўладнымі структурамі маладых сіяністаў тлумачылася тым, што правячыя колы 2-й РП падтрымлівалі планы У. Жабацінскага, якія маглі б пазбавіць краіну ад «лішніх» яўрэяў. Польскі ўрад выкарыстоўваў любыя магчымасці, каб павялічыць эміграцыю. Як ужо адзначалася вышэй, прадстаўнікі ЛНА лічылі, што вырашэнне «яўрэйскага» пытання магчыма дасягнуць у першую чаргу праз значнае змяншэнне колькасці яўрэяў у польскай дзяржаве. Як варыянт урадавыя колы разглядалі эміграцыю яўрэяў у Афрыку, на востраў Мадагаскар ці ў Лацінскую Амерыку. Але, зразумела, прыярытэт надаваўся Палесціне. Польскі міністр замежных спраў Ю. Бек нават вясной 1939 г. вёў перамовы на тэму яўрэйскай эміграцыі ў Лондане [208, с. 214 — 215].

Кіруючы рэжым 2-й РП актыўна падтрымліваў і нелегальную эміграцыю пад выглядам турыстычных паездак. Чыноўнікі польскага МЗС прыхільна ставіліся да «турыстычнай» эміграцыі. Яны рэкамендавалі ваяводскім праўленням не чыніць ніякіх перашкод эмігрантам, а паліцэйскія органы не павінны былі «дробязным кантролем застрашваць жадаючых». Асаблівую актыўнасць ў гэтым накірунку выяўляў «Бейтар». Дзякуючы падтрымцы польскіх ўлад яны нават атрымлівалі пашпарты бясплатна [221, с. 76—77].

Вядома, што новая сіяніцкая арганізацыя У. Жабацінскага ўзмацняла свой уплыў пры тайнай падтрымцы дзяржаўнай адміністрацыі. Пасля таго як у 1936 г. У. Жабацінскі абвясціў план эміграцыі 750 тыс. яўрэяў на працягу 10 гадоў, кіраўнікі рэвізіяністаў сустракаліся з высокімі польскімі чыноўнікамі, атрымлівалі фінансавую і арганізацыйную дапамогу пры навучанні сваіх баявых атрадаў [208, с. 214]. Дарэчы, адзін з цэнтраў па падрыхтоўцы баявікоў-рэвізіяністаў быў створаны на базе вайсковых частак у Пінску. Там праходзілі падрыхтоўку не толькі мясцовыя бейтараўцы, але і сіяністы, якія прыязджалі з Палесціны. Яны знаёміліся з правіламі канспірацыі і партызанскай барацьбы. Замежным баявікам пастаўлялася зброя, якая потым перапраўлялася ў Палесціну [221, с. 75].

Характэрна, што амерыканскі гісторык Э. Мендэльсон, гаворачы пра адносіны польскіх улад да яўрэйскай эміграцыі ў Палесціну, іранізуе: «...і калі сіянізм азначае яўрэйскую эміграцыю ў гэтую краіну (Палесціну), ніхто не быў большым сіяністам, чым польскія кіраўнікі канца 30-х гадоў» [194, с. 108].

Такім чынам, польскія ўлады павінны былі ўлічваць факт існавання нацыянальных маладзёжных арганізацый пры правядзенні сваёй маладзёжнай палітыкі. «Санацыйны» рэжым імкнуўся не дапусціць развіцця арганізацый, якія маглі б уяўляць нават патэнцыяльную пагрозу тэрытарыяльнаму адзінству 2-й РП. У гэтых адносінах характэрнай з’яўляецца палітыка паслядоўнага падаўлення беларускага нацыянальна-дэмакратычнага маладзёжнага руху. Менавіта дзякуючы пазіцыі польскіх улад ён нават не быў арганізацыйна афармлены, а нешматлікі БСС быў расколаты ў выніку дзейнасці паланафілаў.

У адваротным выпадку, пры адсутнасці «антыдзяржаўных» тэндэнцый, улады займалі нейтральную ці нават добразычлівую пазіцыю. Гэта можна прасачыць на прыкладзе развіцця і дзейнасці сіянісцкіх арганізацый. Фактычна ўся дзейнасць сіяністаў-рэвізіяністаў стала магчымай толькі таму, што яны рыхтаваліся ствараць сваю незалежную дзяржаву ў Палесціне, а не на тэрыторыі Польшчы. Акрамя таго, «санацыя» аказвала ім дапамогу, паколькі жадала вырашыць «яўрэйскае» пытанне шляхам яўрэйскай эміграцыі.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Калі абагульняць увесь вышэйпрыведзены матэрыял, то магчыма зрабіць наступныя высновы.

Праблема барацьбы за палітычны ўплыў на маладое пакаленне і развіцця маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў міжваенны перыяд знайшла пэўнае адлюстраванне ў айчыннай і замежнай гістарыяграфіі. Аднак, калі разглядаць развіццё менавіта дзейнасці праўрадавых маладзёжных арганізацый і іх ролі ў ажыццяўленні афіцыйнай маладзёжнай палітыкі польскіх улад, то гэты аспект не мае належнага асвятлення. Тым не менш спасылкі на некаторыя дасягненні айчыннай і замежнай гістарыяграфіі, а таксама выкарыстанне шырокага кола дакументальных матэрыялаў дапамогуць скласці даволі аб'ектыўнае уяўленне аб маладзёжнай палітыцы польскіх улад і месцы ў ёй праўрадавых маладзёжных аб'яднанняў.

Моладзь з'яўлялася аб'ектам пільнай увагі з боку кіруючых колаў міжваеннай польскай дзяржавы, асабліва пачынаючы з сярэдзіны 1920-х гг. Можна прызнаць, што маладзёжная палітыка была неад'емнай часткай унутрыпалітычнай дзейнасці «санацыі». Неабходна адзначыць, што пры ажыццяўленні гэтай палітыкі кіруючым колам польскай дзяржавы і іх маладзёжным арганізацыям прыходзілася ўлічваць не толькі існаваўшыя сацыяльна-эканамічныя, дэмаграфічныя, нацыянальна-культурныя і канфесійныя адносіны, але і сур'ёзную канкурэнцыю з боку сваіх палітычных праціўнікаў.

Асновай маладзёжнай палітыкі «санацыі» стала канцэпцыя «дзяржаўнага выхавання». Яна мела шэраг станоўчых рыс, у першую чаргу сувязь з жыццём і практычную накіраванасць. Але пазітыўныя рысы «дзяржаўнага выхавання» былі падпарадкаваны прагматычным мэтам кіруючых колаў Польшчы, якія імкнуліся перацягнуць на свой бок маладое пакаленне дзяржавы. «Санацыя», якая атаясамлівала сябе з дзяржавай, фактычна навязвала грамадству свае выхаваўчыя ідэалы. Адмоўным бокам «санацыйнай» выхаваўчай канцэпцыі было і тое, што ў выніку свайго развіцця, асабліва з сярэдзіны 1930-х гг., яна фактычна пераняла метады і ідэі эндэцкага «нацыянальнага выхавання». У выніку гэтыя дзве канцэпцыі сталі адрозніваццa толькі тэрміналогіяй і традыцыямі, а не зместам. Яны сталі сродкам паланізацыі нацыянальных меншасцей. Фактычна ставілася мэта выхаваць не проста добрага грамадзяніна польскай дзяржавы, а грамадзяніна-паляка.

Што да канкрэтных накірункаў працы «санацыі» ў маладзёжным асяроддзі, то асноўнымі з іх з'яўляліся ваенная і сельскагаспадарчая падрыхтоўка маладога пакалення, грамадзянскае выхаванне, барацьба с маладзёжным беспрацоўем. Ва ўсіх гэтых сферах разам з дзяржаўнымі структурамі павінны былі дзейнічаць і афіцыйныя маладзёжныя саюзы.

Спецыфічным накірункам стала барацьба ўлад за абмежаванне акадэмічнай аўтаноміі, якая мела значны ўплыў на развіццё маладзёжнага руху, у першую чаргу, зразумела, студэнцкага. Аднак «санацыя» не дасягнула значных поспехаў у справе ўмацавання свайго уплыву ў студэнцкім асяроддзі. Спробы абмежавання акадэмічнай аўтаноміі мелі вельмі непапулярны характар, яны сустракалі супраціўленне з боку як студэнтаў, так і кіраўніцтва вышэйшых навучальных установаў. Можна прызнаць, што гэты накірунак «санацыйнай» маладзёжнай палітыкі быў самым безвыніковым і нават правальным.

У 2-й РП узнік цэлы шэраг «санацыйных» маладзёжных аб'яднанняў, якія дзейнічалі сярод вясковай, гарадской, школьнай і студэнцкай моладзі.

Адначасова ў сваёй барацьбе за ўплыў на маладое пакаленне «санацыйны» рэжым і падначаленыя яму маладзёжныя арганізацыі сутыкнуліся з канкурэнцыяй з боку шматлікіх маладзёжных аб'яднанняў і саюзаў, якія знаходзіліся пад уплывам розных апазіцыйных партый і груповак.

Што да развіцця праўрадавага маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі, то з самага пачатку свайго існавання ён карыстаўся значнай падтрымкай уладных структур. Цэнтральныя, а таксама мясцовыя ваяводскія і павятовыя ўлады прыкладалі значныя намаганні па яго развіцці.

Самымі масавымі і ўплывовымі маладзёжнымі арганізацыямі, створанымі «санацыяй» на тэрыторыі Заходняй Беларусі, сталі стралецкі саюз «Стралец» і ССМ «Сеў»—СМВ. Менавіта ў іх рамках і рэалізоўваліся асноўныя канцэпцыі маладзёжнай палітыкі «санацыйнага» рэжыму.

«Стралец» дзейнічаў у сферы ваеннай падрыхтоўкі маладога пакалення і ўнёс значны ўклад у павышэнне абароназдольнасці польскай дзяржавы. Таксама ён праводзіў мэтанакіраваную працу ў сферы грамадзянскага выхавання, якое ва ўмовах Заходняй Беларусі насіла яскравы паланізатарскі характар. Згуртаваная ваеннай дысцыплінай, стралецкая арганізацыя з'яўлялася апорай польскага акупацыйнага рэжыму, яскравым праяўленнем чаго было актыўнае прыцягненне стральцоў да пацыфікацый і барацьбы з забастовачным рухам.

ССМ «Сеў»—СМВ таксама актыўна падтрымліваў палітыку паланізацыі і правядзенне ваеннага навучання. Таксама ён вёў значную культурную і адукацыйную дзейнасць, якая за рэдкім выключэннем ішла ў праўрадавым рэчышчы і кіравалася прадстаўнікамі мясцовай адміністрацыі і сістэмы адукацыі Польшчы. Асноўнай сферай дзейнасці ССМ «Сеў»—СМВ стала рэалізацыя СП. Зразумела, што СП не магла вырашыць усіх праблем, якія існавалі ў заходнебеларускай вёсцы, аднак у некаторай меры яна садзейнічала павышэнню прадукцыйнасці мясцовай сельскай гаспадаркі.

Адным з вынікаў сацыяльна-эканамічнага крызісу, які ахапіў Еўропу на мяжы 1920—1930-х гг., стала выразная радыкалізацыя моладзі. Гэтая з'ява знайшла сваё адлюстраванне і ў развіцці маладзёжнага руху на тэрыторыі Заходняй Беларусі. З аднаго боку, тут усё большы ўплыў сталі набываць левыя арганізацыі, у першую чаргу КСМЗБ, з другога — узмацнялася актыўнасць правых польскіх нацыяналістаў сярод віленскага студэнцтва.

Акрамя таго, радыкальныя настроі ўзмацняліся і ўнутры «санацыйных» студэнцкіх арганізацый, аб чым сведчыла ідэйная эвалюцыя іх дэкларацый.

Таксама радыкалізацыя закранула і нізавыя структуры «Стральца» і ССМ «Сеў»— СМВ, што ніяк не ўваходзіла ў планы дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі.

Радыкалізацыя маладога пакалення, якая закранула нават членаў праўрадавых арганізацый, стала сур’ёзнай перашкодай на шляху рэалізацыі афіцыйнай маладзёжнай палітыкі. Найбольш упартую барацьбу з «санацыяй» за маладое пакаленне вёў КСМЗБ, які на працягу ўсяго свайго існавання быў аб’ектам паліцэйскіх рэпрэсій і дзейнасці правактараў польскіх спецслужб. Адначасова ўрадавыя структуры і «санацыйны» маладзёжны рух былі вымушаны змагацца з правымі радыкаламі, якія займалі пануючае становішча ў студэнцкім руху. Неабходна прызнаць, што, нягледзячы на ўсе свае намаганні, «санацыйны» рэжым не здолеў перамагчы сваіх радыкальных сапернікаў у маладзёжным асяроддзі.

Інтэнсіўнае развіццё на тэрыторыі Заходняй Беларусі атрымаў каталіцкі маладзёжны рух. Пад уплывам створанага пад эгідай Каталіцкай акцыі АМП, а потым КАММ і КАЖМ знаходзілася значная колькасць маладых сялян-католікаў. Клерыкальныя аб’яднанні праводзілі вялікую працу сярод мясцовага маладога пакалення. У асноўных сваіх накірунках яна супадала з дзейнасцю праўрадавых арганізацый моладзі, у тым ліку вялікая ўвага надавалася і паланізацыі маладых беларусаў. Разам з тым паміж каталіцкімі і «санацыйнымі» арганізацыямі існавала і пэўная канкурэнцыя, якая ў цэлым была пераадолена пад канец 1930-х гг. Неабходна адзначыць, што ўплыў клерыкалаў не стаў рашаючым, а ў асяроддзі праваслаўнай моладзі ён адсутнічаў наогул. Слабымі аказаліся пазіцыі клерыкалаў і сярод віленскіх студэнтаў: віленскі філіял АКАМ «Адраджэння» перажыў раскол, а найбольш радыкальна настроеныя яго члены ў далейшым нават перайшлі на пракамуністычныя пазіцыі.

Пры правядзенні сваёй маладзёжнай палітыкі польскія ўлады павінны былі ўлічваць факт існавання нацыянальных маладзёжных арганізацый. «Санацыйны» рэжым імкнуўся не дапусціць развіцця арганізацый, якія маглі б уяўляць нават патэнцыяльную пагрозу тэрытарыяльнаму адзінству 2-й РП. У гэтых адносінах характэрнай была палітыка паслядоўнага падаўлення беларускага нацыянальна-дэмакратычнага маладзёжнага руху. Менавіта дзякуючы пазіцыі польскіх улад ён нават не быў арганізацыйна аформлены, а нешматлікі БСС быў расколаты ў выніку дзейнасці паланафілаў.

У адваротным выпадку, пры адсутнасці «антыдзяржаўных» тэндэнцый, улады займалі нейтральную ці нават добразычлівую пазіцыю. Гэта можна прасачыць на прыкладзе развіцця і дзейнасці сіяніцкіх арганізацый. Фактычна ўся дзейнасць сіяністаў-рэвізіяністаў стала магчымай толькі таму, што яны рыхтаваліся ствараць сваю незалежную дзяржаву ў Палесціне, а не на тэрыторыі Польшчы.

## СПІС ВЫКАРЫСТАНЫХ КРЫНІЦ

1. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 2. — Спр. 2402.
2. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 9. — Спр. 347.
3. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 9. — Спр. 483.
4. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 9. — Спр. 516.
5. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 9. — Спр. 714.
6. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 9. — Спр. 2603.
7. Палескае ваяводскае ўпраўленне // ДАБВ. — Фонд 1. — Воп. 10. — Спр. 204.
8. Папячыцельства Брэсцкай школьнай акругі // ДАБВ. — Фонд 59 оц. — Воп. 2 оц. — Спр. 1052.
9. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 21.
10. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 35.
11. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 99.
12. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 193.
13. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 197.
14. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 697.
15. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 705.
16. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 970.
17. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1052.
18. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Ф. 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1059.

19. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1094.

20. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1667.

21. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1668.

22. Камандаванне акругі корпуса № 9 // ДАБВ. — Фонд 67 сч. — Воп. 2. — Спр. 1669.

23. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 114.

24. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 116.

25. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п.. — Воп. 1. — Спр. 218.

26. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 227.

27. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 229.

28. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 261.

29. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 299.

30. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 305.

31. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 307.

32. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 374.

33. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 429.

34. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 430.

35. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 435.

36. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 445.

37. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 446.

38. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 452.

39. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 455.

40. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 465.

41. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 470.

42. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 475.

43. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 483.

44. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 484.

45. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 502.

46. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 503.

47. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 509.

48. Прадстаўніцтва ЦК КПЗБ // НАРБ. — Фонд 242 п. — Воп. 1. — Спр. 572.

49. Праўленне беларускага студэнцкага саюза ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні // НАРБ. — Фонд 884. — Воп. 1. — Спр. 15.

50. Праўленне беларускага студэнцкага саюза ўніверсітэта імя Стэфана Баторыя ў Вільні // НАРБ. — Фонд 884. — Воп. 1. — Спр. 53.

51. *Анісаў, С.* Крутымі шляхамі. Запіскі камсамольскага работніка-падпольшчыка / С. Анісаў. — Мн. : [б. в.], 1960. — 186 с.

52. *Баранаўскі*. Дэмаралізацыя беларускай вёскі : (ад нашага баранавіцкага карэспандэнта) / Баранаўскі // Беларус. крыніца. — 1935. — № 6. — 3 лютага. — С. 1.

53. *Багдановіч, Я.* На жыццёвым шляху : Успаміны / Я. Багдановіч. — Мн. : [б. в.], 1992. — 144 с.

54. Беларусь: страницы истории / Нац. акад. наук Беларуси, Ин-т истории; ред. совет А. А. Коваленя [и др.]. — Минск : Белорус. наука, 2011. — 408 с.

55. *Вабішчэвіч, А. М.* Асвета ў Заходняй Беларусі : (1921—1939 гг.) / А. М. Вабішчэвіч. — Брэст : БрДУ, 2004. — 116 с.

56. Вильнюсское подполье. Воспоминания участников революционного движения в Вильнюсском крае (1920—1939 гг.) : сб. воспоминаний / под ред. И. Каросаса [и др.]. — Вильнюс : Vaga, 1966. — 397 с.

57. *Гарбацэвіч, П.* Полёнізацыя Заходняй Беларусі / П. Гарбацэвіч. — Менск : [б. в.], 1932. — 24 с.

58. *Герасімчык, М.* «Стралец» — вораг рабочай і сялянскай моладзі / М. Герасімчык. — Вільня : [б. в.], 1934. — 46 с.

59. Гісторыя Беларусі : вучэб. дапам. : у 2 ч. / пад рэд. Я. К. Новіка, Г. С. Марцуля. — Мн. : Універсітэцкае, 1998. — Ч. 2: Люты 1917 г. — 1997 г. — 464 с.

60. Гісторыя Беларусі ў кантэксце еўрапейскай цывілізацыі : дапам. / У. Р. Казлякоў [і інш.] ; пад рэд. Л. В. Лойкі. — Мн. : ЦІПР, 2003. — 348 с.

61. Гісторыя Беларусі : у 6 т. / А. Вабішчэвіч [і інш.] ; пад. рэд. М. Касцюка. — Мн. : Экаперспектыва, 2006. — Т. 5: Беларусь у 1917—1945 гг. — 613 с.

62. *Григулевич, И. Р.* Папство. Век XX / И. Р. Григулевич. — М. : Политиздат, 1981. — 532 с.

63. *Грыбоўскі, Ю.* Беларусы ў польскіх рэгулярных вайсковых фарміраваннях 1918—1945 гадоў / Ю. Грыбоўскі. — СПб. : Неўскі прасцяг, 2006. — 832 с.

64. *Даніловіч, В.* Моладзь арганізацыі «Змаганне» ў грамадска-палітычным жыцці Заходняй Беларусі / В. Даніловіч // Назаўсёды разам: гісторыя нацыянальна-дзяржаўнага станаўлення Беларусі : матэрыялы Рэсп. навук.-тэарэт. канф., Мінск, 28 верас. 2004 г. — Мн. : БДПУ, 2004. — С. 6—9.

65. *Джонсон, П.* Популярная история евреев / П. Джонсон. — М. : [б. и.], 2000. — 672 с.

66. *Добрынин, М. А.* История общеобразовательной школы и педагогической мысли Польши / М. А. Добрынин. — Брест : Альтернатива, 2008. — 340 с.

67. *Иоффе, Э.* Деятельность организации «Хашомер Хацаир» в Беларуси (1924—1926) и создание кибуца в Палестине / Э. Иоффе // Форум. — 1996. — № 4. — С. 41—45.

68. Камуністычная партыя Заходняй Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Мн. : [б. в.], 1997. — Т. 4. — С. 66—69.

69. Камуністычны саюз моладзі Заходняй Беларусі // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Мн. : [б. в.], 1997. — Т. 4. — С. 76—78.

70. *Клейн, Б. С.* За дело правое. Борьба КПЗБ с буржуазным террором : (1920—1938 гг.) / Б. С. Клейн. — Мн. : Беларусь, 1986. — 175 с.

71. Карпарацыя «Скарынія» памятуе аб слуцкіх паўстанцах // Шлях моладзі. — 1933. — № 12. — С. 16.

72. *Крывуць, В. І.* Удзел Войска Польскага ў рэалізацыі ўрадавай маладзёжнай палітыкі на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў 30-х гг. XX ст. / В. І. Крывуць // Весці БДПУ. Сер. 2. — 2004. — № 2. — С. 35—38.

73. Кулко млодзёжі вейскей // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі : у 6 т. — Мн. : [б. в.], 1997. — Т. 4. — С. 297.
74. *Ладысеў, У.* Насуперак волі народа. З гісторыі палітычнага банкруцтва беларускіх нацыяналістычных партый і арганізацый у Заходняй Беларусі (1934—1939) / У. Ладысеў. — Мн. : [б. в.], 1976. — 78 с.
75. *Лакер, В.* История сионизма / В. Лакер. — М. : [б. и.], 2000. — 846 с.
76. *Латышонак, А.* Гісторыя Беларусі ад сярэдзіны XVIII ст. да пачатку XXI ст. / А. Латышонак, Я. Мірановіч. — Беласток : Беларус. гіст. т-ва, 2010. — 368 с.
77. *Ляхоўскі, У.* Ад гоманаўцаў да гайсакаў. Чыннасць беларускіх маладзёвых арганізацый у 2-й палове XIX ст. — 1-й палове XX ст. (да 1939 г.) / У. Ляхоўскі. — Беласток : Беларус. гіст. т-ва, 2012. — 483 с.
78. *Малецкі, Я.* Праўда пераможа / Я. Малецкі // Шлях моладзі. — 1934. — №№ 7—8. — С. 10—11.
79. *Малецкі, Я.* Лісты / Я. Малецкі // Шлях моладзі. — 1934. — № 9. — С. 12.
80. *Мараш, Я. Н.* Политика Ватикана и католической церкви в Западной Белоруссии : (1918—1939) / Я. Н. Мараш. — Минск : Беларусь, 1983. — 96 с.
81. *Мастыка, А.* Беларускі студэнцкі саюз універсітэта Стэфана Баторыя : (1921—1939) / А. Мастыка // Biuletyn historii pogranicza. — 2009. — № 10. — С. 5—19.
82. Молодёжь в борьбе за единый фронт : материалы VI Всемир. конгресса Коммунист. Интернационала молодёжи. — М. : [б. и.], 1938. — 168 с.
83. *Мощук, А. В.* Деятельность Бунда на территории Западной Беларуси в 1921—1939 гг. : дис. ... канд. ист. наук : 07.00.02 / А. В. Мощук. — Брест : [б. и.], 2007. — 135 л.
84. *Найдзюк, Я.* Ці змянілася што? / Я. Найдзюк // Шлях моладзі. — 1935. — № 6. — С. 7—8.
85. *Найдзюк, Я.* Беларусь учора і сяньня / Я. Найдзюк, І. Касяк. — Мн. : Навука і тэхніка, 1993. — 414 с.
86. Нарыс гісторыі Польскай дзяржавы і народа / М. Семаковіч [і інш.] ; пад рэд. М. Семаковіча. — Варшава : Demart Sp. z o. o., 2006. — 312 с.
87. Нарысы гісторыі Беларусі : у 2 ч. / М. П. Касцюк [і інш.]. — Мн. : Беларусь, 1995. — Ч. 2. — 560 с.
88. *Паддубіч, А.* Беларуская інтэлігенцыя, уважай на вёску! / А. Паддубіч // Беларус. крыніца. — 1935. — № 11. — 3 сак. — С. 2.
89. Пасьля забароны — што рабіць? // Шлях моладзі. — 1932. — № 4. — С. 1—3.
90. *Пецюкевіч, М.* У пошуках зачараваных скарбаў / М. Пецюкевіч. — Вільня : [б. в.], 1998. — 182 с.
91. *Пінчук, А.* Сучаснае палажэньне беларускай вёскі. I. Зямельнае пытаньне / А. Пінчук // Беларус. крыніца. — 1935. — № 12. — 10 сак. — С. 1.
92. *Пінчук, А.* Сучаснае палажэньне беларускай вёскі. IV. Сямейныя нязгоды / А. Пінчук // Беларус. крыніца. — 1935. — № 15. — 7 крас. — С. 2.
93. *Пінчук, А.* Сучаснае палажэньне беларускай вёскі. VII. Беларуская моладзь і польскія арганізацыі / А. Пінчук // Беларус. крыніца. — 1935. — № 21. — 19 мая. — С. 3.

94. Политические партии в Польше, Западной Белоруссии и Западной Украине / С. Скульский [и др.] ; под ред. С. Скульского. — Минск : Изд-во АН БССР, 1935. — 335 с.
95. Пяць гадоў працы «Шляху моладзі» (16. II. 1929–16. II. 1934) // Шлях моладзі. — 1934. — № 2. — С. 4—9.
96. Революционный авангард трудящейся молодёжи Западной Белоруссии (1927–1939). Документы и материалы : сб. / сост. М. А. Бобер [и др.] ; под. ред. В. Н. Жигалова, Н. С. Арехво. — Минск : Изд-во БГУ, 1978. — 327 с.
97. Рижский мирный договор 1921 г. // Документы внешней политики СССР : в 24 т. ; под ред. Г. А. Белова [и др.]. — М. : Госполитиздат, 1959. — Т. 3 : 1 июля 1920 г. — 18 марта 1921 г. — С. 619—658.
98. *Серпухаў, У.* Беларускія студэнцкія арганізацыі Віленскага універсітэта (1919—1939) / У. Серпухаў // Białoruskie Zeszyty Historyczne. — 2007. — № 28. — S. 54—68.
99. Стшэлец // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі: у 6 т. — Мн. : [б. в.], 2001. — Т. 6, ч. 1. — С. 437.
100. У суровыя гады падполля: зб. успамінаў / склад. М. С. Арэхва, А. Т. Нятылькін, П. С. Пышкін ; пад рэд. М. М. Мяшкова. — Мн. : Дзяржвыдат БССР, 1958. — 361 с.
101. *Цыпрыяновіч, С.* Беларуская друкарня імя Францішка Скарыны ў Вільні (1926—1940) / С. Цыпрыяновіч. — Лондан : [б. в.], 1991. — 32 с.
102. *Шыбека, З.* Нарыс гісторыі Беларусі (1795 — 2002) / З. Шыбека. — Мн. : Энцыклапедыкс, 2003. — 490 с.
103. *Я. Н.* Сучасныя ідэолёгічныя кірункі сярод моладзі / Я. Н. // Шлях моладзі. — 1938. — № 11. — С. 1—2.
104. *Ярмусик, Э. С.* Католический Костёл в Белоруссии в годы Второй мировой войны (1939—1945) / Э. С. Ярмусик. — Гродно : ГрГУ, 2002. — 240 с.
105. Ad redakcyi // Novaja Varta. — 1931. — № 1. — S. 2—4.
106. *Adamczyk, T.* Nowe zarządzenie w sprawie organizacji przysposobienia młodzieży szkolnej do obrony kraju / T. Adamczyk // Oświata i wychowanie. — 1937. — №№ 9—10. — S. 796—805.
107. *Ajnenkiel, A.* Konctytucje Polski w rozwoju dziejowym. 1791—1997 / A. Ajnenkiel. — Warszawa : RYTM, 2001. — 416 s.
108. Akcja Katolicka // Encyklopedia katolicka. — Lublin : [s. n.], 1995. — T. 1. — S. 227—233.
109. *Araszkiewicz, F.* Szkoła średnia ogólno-kształcącą w Polsce 1918—1939 / F. Araszkiewicz. — Wrocław : Ossolineum, 1972. — 220 s.
110. *Bartnicka, K.* Wychowanie państwowe (do dyskusji nad problemami ideologii wychowawczej sanacji) / K. Bartnicka // Rozprawy z dziejów oświaty. — 1972. — T. XVI. — S. 61—131.
111. *Bergman, A.* Sprawy białoruskie w II Rzeczypospolitej / A. Bergman. — Warszawa : [s. n.], 1984. — 268 s.
112. *Bogdanovič, H.* Naš sport / H. Bogdanovič // Novaja Varta. — 1932. — № 2. — S. 19—22.

113. *Bornholtz, T.* Przygotowanie do obrony kraju w programach przedmietów humanistycznych szkoły ogólnokształcącej / T. Bornholtz // Oświata i wychowanie. — 1937. — №№ 9—10. — S. 806—813.
114. Budowa organizacyjna Poleskiego Wojewodskiego Związku Młodziezy Wiejskiej. — Brześć nad Bugiem : [s. n.], 1930. — 23 s.
115. *Chałasiński, J.* Młode pokolenie chłopów: u 3 t. / J. Chałasiński. — Warszawa : Panstwowy instytut kultury wsi, 1938. — T. 2. — 554 s.
116. Chrześcijański kalendarz-przewodnik Baranowicki na rok 1937. — Wilno : [s. n.], 1936. — 186 s.
117. Chronika // Novaja Varta. — 1931. — № 1. — S. 31—33.
118. Chronika // Novaja Varta. — 1934. — № 3. — S. 16—17.
119. *Cichoracki, P.* Legenda i polityka. Kształtowanie się wizerunku marszałka Józefa Piłsudskiego w świadomości zbiorowej społeczeństwa polskiego w latach 1918—1939 / P. Cichoracki. — Kraków : Księgarnia Akademicka, 2005. — 412 s.
120. Cimek, H. Komuniści, Polska, Stalin. 1918—1939 / H. Cimek. — Białystok : [s. n.], 1990. — 204 s.
121. *Czarny Gresiak, J.* Sprawozdanie Komendanta Chorągwi Wileńskiej Męskiej za 1928 r. / J. Czarny Gresiak // Straż nad Wilją. Jednodniówka Oddziału Wileńskiego Z.H.P.—Wilno : [s. n.], 1929. — S. 28—35.
122. *Czerwiński, S.* Przemówienie na posiedzeniu Sejmu w dn. 10 lutego 1931 r. / S. Czerwiński // O nowy ideał wychowawczy szkoły polskiej / S. Czerwiński. — Warszawa : [s. n.], 1934. — S. 73—85.
123. *Czerwiński, S.* Stworzenie polskiego systemu wychowania obywatelsko-państwowego to najważniejsze zagadnienie wychowawcze w dzisiejszej Polsce / S. Czerwiński // O nowy ideał wychowawczy szkoły polskiej / S. Czerwiński. — Warszawa : [s. n.], 1934. — S. 67—72.
124. *Czubiński, A.* Historia Polski XX wieku / A. Czubiński. — Poznań : [s. n.], 2003. — 502 s.
125. Deklaracja ideowa Legionu Młodych — Związku Pracy dla Państwa // Jednodniówka Legionu Młodych — Związku Pracy dla Państwa. Obwód Brześć nad Bugiem. — Brześć nad Bugiem : [s. n.], 1933. — S. 4—5.
126. Deklaracja idejowa Młodzieży Wszechpolskiej z roku 1925 [Electronic resource] // Wikisource. — 2010. — Mode of access: http://pl.wikisource.org/wiki/Deklaracja_ideowa_M%C5%82odzie%C5%BCy_Wszechpolskiej_z_roku_1925. — Date of access: 6.03.2010. — Screen heading.
127. Deklaracja ideowo-polityczna Obozu Zjednoczenia Narodowego. — Srodkowy Wschod : [s. n.], 1946. — 19 s.
128. Dekret o stowarzyszeniach [Electronic resource] // Internetowy System Aktów Prawnych. — 2010. — Mode of access: http://isap.sejm.gov.pl/DetailsServlet?id=WDU19190030088. — Date of access: 4.04.2010. — Screen heading.
129. Dekret Prezydenta Rzeczypospolitej z dnia 22 września 1936 r. o służbie pracy młodzieży // Dziennik Ustaw Rzeczypospolitej Polskiej. — 1936. — № 72. — S. 1 173—1 174.
130. Dla Polski. 1886–1936. Z. M. P., O. M. N., Z. P. M. D. Informator. — Kraków : [s. n.], 1936. — 32 s.

